


# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання XI


## У нумары




**7**

**ліпень**

**1963**

**Выдавецтва «ЗВЯЗДА».**
**МІНСК.**

**КРЫТЫКА**



**СПОРТ**



**ШАХМАТЫ**



**Пры гэтым нумары — бясплатны дадатак «А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

---

Вокладка **В. ШАРАНГОВІЧА**

**НА ДРУГОЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ** — наш сучаснік. Член КПСС аператар Мікалай Гарбачоў перайшоў з перадавой брыгады ў другую, якая адставала, але цяпер выйшла таксама ў перадавыя. Гэты здымак зроблен нашым карэспандэнтам А. Дзітлавым у цэху металургічнага завода імя Мяснікова (Магілёў), дзе асвоен паўняспынны спосаб адліўкі труб.

**НА ТРЭЦЯЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ** — у Магілёве сустрэнеш і такое: моладзь захапляецца падводным плаваннем. Перад III Спартакіядай народаў СССР шмат клопату ў спартсмена Сяргея Пятрова, інструктара Мікалая Макейкава і капітана зборнай Магілёўшчыны Пятра Сяліцкага.

Фота **А. ДЗІТЛАВА.**

---





*30 ліпеня г. г. — 60 год з дня адкрыцця Другога з'езда РСДРП, на якім фактычна ўзнікла партыя новага тыпу, рэвалюцыйная марксісцкая партыя, ленінская партыя бальшавікоў. Шэсцьдзесят гадоў назад наша партыя прыняла сваю Першую Праграму. З імем партыі Леніна, якая ўвасабляе розум, чэсць і сумленне нашай эпохі, передавое чалавецтва звязвае вялікія перамогі ў перабудове жыцця на зямлі, у барацьбе за мір і шчасце народаў.*

*Партыя і Ленін —*
*двайня братняя, —*
*Аднолькава іх*
*маці-гісторыя*
*ацэніць.*
*Мы гаворым—Ленін,*
*разумеем —*
*партыя,*
*Мы гаворым—*
*партыя,*
*разумеем—*
*Ленін.*

*У. Маякоўскі. З паэмы «Уладзімір Ільіч Ленін»*
*Пераклад П. Броўкі.*



Валеры Быкоўскі і Валянціна Церашкова на Краснай плошчы ў Маскве перад палётам.

*У слаўны летапіс гераічнага асваення космасу савецкі народ залатымі літарамі ўпісаў новыя імёны слаўных выхаванцаў ленінскага камсамола — Валерыя Быкоўскага і Валянціны Церашковай.*

*Выведзены на арбіту 14 чэрвеня 1963 года карабель-спадарожнік „Усход-5“, які пілатаваў Валеры Быкоўскі, за 119 гадзін абляцеў 81 раз вакол зямнога шара і прайшоў адлегласць больш чым 3 мільёны 300 тысяч кіламетраў.*

*16 чэрвеня на зорныя шляхі быў выведзен карабель-спадарожнік „Усход-6“, які пілатавала Валянціна Церашкова. За 71 гадзіну карабель абляцеў 48 разоў вакол нашай планеты і пакрыў адлегласць каля 2 мільёнаў кіламетраў.*

***Слава гераічным пакарыцелям космасу!***



**Мікола КУСЯНКОЎ**

# ЛЯ ПОМНІКА ЛЕНІНУ



юды, на плошчу, ад штодзённых нашых
Вялікіх спраў прыйшлі мы да таго,
Хто стаў спіной калісьці да палацаў княжых
І тварам — да Палесся ўсяго.
А перад ім — дубровы скрозь і хвойнікі,
Лугі і нівы, і, куды ні глянь,
Паселішчы — то Лельчыцы, то Хойнікі —
З калыскі дарагая нам зямля!
На ёй бацькі адважна партызанілі —
І прэч нашэсце бруднае сплыло;
Над ёю чорных «юнкерсаў» таранілі —
І нашай першай спадчынай
Было
Вось гэта неба, сонечнае, чыстае,
Прыйшлі мы пругкай хваляй у жыццё,
І сталі ўсе — пісьменныя, плячыстыя —
За плуг,
і за варштат,
і за чарцёж.

Тут, на зямлі бацькоў — жывых і паўшых —
Яшчэ вышэй мы ўзнімем сцяг таго,
Хто, як жывы, між нас, у сэрцах нашых, —
Сцяг Ільіча,
сцяг Партыі яго.

★

Мне краявід маёй Айчыны
Да болю ў сэрцы дарагі:
Лясы, балотныя лагчыны,
І ўзгоркі скрозь, і берагі.

Зямля! Я рады кожнай кроплі
Расы і дожджыкаў яе.
Як ласка маці, гэткі цёплы
Прытулак, што яна дае.

Тут босы бегаў я па лотаць
На балацянкі па вясне;
Тут рыбам — плаваць, птушкам — лётаць,
І дыхаць — гэтак лёгка — мне.

Кажу сябрам: сто год жывіце!
А ў бор сцяжынка прыбяжыць,
Нап'юся водару жывіцы —
Сам для Айчыны буду жыць.

★

Страшыў кулак: — Глядзі, суседзе,
Бог пакарае за калгас!
І ў кут — маўляў, не дрэмле ж недзе —
Паказваў пальцам на абраз.

Калі ж цямнела, воўчым крокам
Падкрадваўся да хаты, у бэз,
Кулацкі сын — і чорным вокам
Глядзеў тады ў акно
абрэз.

І стрэл грымеў.
Даўно было так.
Абрэзы кінуты ў балота.
Зямлі сваёй гаспадары,
Раззброілі мы свет стары,
Ды не зусім,
Заходжу ў хаты —
Хачу давесці без абраз:
Яны ж па сутнасці блізняты —
абрэз,
абраз.



★

Ціш над зямлёй. І толькі гул з зарэчча
Нясуць уздоўж гасцінцу правады...
Шмат пасталееш ты за гэты вечар,
Пакуль з паўстанка зноў ідзеш туды,
Дзе ўсё знаёма да апошняй рыскі:
Лясок на ўзгорку, сцежка ўздоўж ракі,
Дзе ты аднойчы вылез быў з калыскі
Без дапамогі матчынай рукі;
Дзе, ўспомніш ты, было такое лета —
За праўду веку ў бой
ад родных хат,
На памяць нам пакінуўшы партрэты,
Пайшлі бацькі — і не прыйшлі назад.
Дзе ў роднай хаце ўбачыш ты з парогу,
Што не з партрэтаў —
з вогненных гадоў —
Бацькі глядзяць на нас, каб за эпоху
З нас кожны так адказваць быў гатоў.

★

Дзе жывеш ты ў пушчы, неспатканая?
Дзе твае сцяжынкі і сляды?
Сунялося голле ўскалыханае,
Стала ціха — і пачула ты,

Што ў дарогу выйшаў я вялікую...
І, напэўна, недзе ў гэты час
Зверыну і птушак ты паклікала
І давала кожнаму наказ:

Паляці ты, ястраб, ды за сем крыніц,
Да старога дуба да пахілага;
Ты пад цёмным лесам распластайся ніц —
Адшукай у пушчы майго мілага.

Пратапчыце сцежку вы, ласі,
Каб не заміналі пні, карчы яму;
Ты ж, галубка, сум мой панясі —
Паваркуй ласкава на плячы яму.

...Але, мабыць, ты зусім зямная:
Пасланцоў тваіх няма й няма.
І цябе шукаю да цямна я.
Дзе ты? Адгукніся мне сама.





Уладзіслаў НЯДЗВЕДСКІ

# ХЛОПЦЫ З ДРУГОГА КОРПУСА

Аповесць

Мал. Г. Скамарохава.

## РАЗДЗЕЛ I

Заставацца ў шэрым драўляным доміку далей было немагчыма. Віця зразумеў гэта яшчэ пазаўчора, але спадзяваўся, што перазімуе ў цяперашніх гаспадароў, а там паглядзіць, як быць далей у гэтым даволі вялікім мястэчку, што прыляпілася да чыгункі. Але ўсё адбылося значна раней, чым ён меркаваў. Яму так проста і сказалі:

— Ідзі, куды хочаш, а даносчыкаў мы трымаць у сваім доме не будзем...

Сказала гэта гаспадыня, круглая жанчына з рыжаватымі валасамі, толькі што завітымі на відэльцы.

Віця збіраўся ў школу. Словы гаспадыні былі такія злосныя, што ён

разгубіўся. З-пад палы са стукам упаў на падлогу драўляны самаробны пенал. Падымаючы яго, хлопец з нейкай надзеяй зірнуў на гаспадара. Той галіўся перад невялічкім асколкам люстэрка, пастаўленым на абадраны падаконнік. Левая яго рука, якою ён адцягваў намыленую шчаку, злёгку дрыжала. Ён адняў брытву ад твару і счакаў, каб супакоіцца. Праз хвіліну брытва зноў зашоргала па шчацэ.

Яшчэ раз зірнуўшы на гаспадыню і яе мужа, Віця зразумеў, што ўсё скончана. Прасіцца ў гэтых людзей, каб яны пакінулі яго пажыць у сваім доме яшчэ на некаторы час, было бескарысна. Аднак, апамятаўшыся ад першай разгубленасці, на ўсякі выпадак спытаў:

— Чаму вы праганяеце мяне?

— Сам ведаеш,— спакойна адрэзала гаспадыня.

Рэзка павярнуўшыся ад пліты, яна прайшла да дзвярэй, што вялі ў калідор, і на парозе ледзь не піхнула Віцю плячом. Гаспадар скончыў галіцца, выцер брытву аб зашмальцаваныя штаны, пасля мыльны бруд, які застаўся на калашыне, размазаў далонню і выйшаў у другі пакой.

Пакуль гаспадыня рабіла нешта ў калідоры, а гаспадар асвяжаўся з пульверызатара, зробленага з нейкіх трубачак і спрынцоўкі, Віця склаў у разасланую на тапчане коўдру свае кніжкі, ручнік, пару старой бялізны, невялікую падушку, набітую сенам, і звязаў гэта ўсё ў вузел. З нейкім жалем зірнуў на тапчан, што служыў яму ложкам, на пліту, на абшарпаны падаконнік, ціха ўздыхнуў і рашуча адчыніў дзверы ў калідор. Гаспадыня, відаць, не думала, што гэты ваўкаваты хлопец так хутка выберацца, і ад нечаканасці нават нешта фыркнула. Ляпнуўшы дзвярыма так, што на іх заматлялася вялікая жалезная зашчапка, Віця ступіў на прагніўшы драўляны тратуар.

Надвор'е было асенняе: слата, дождж. Са сметніка ўзляцелі сарокі і абляпілі амаль голае вецце старой ігрушы. Птушкі непакоіліся, і ўвесь іх выгляд нібы гаварыў: ну ідзі, чаго рот разявіў. А хлопцу якраз і не было куды ісці.

Вуліца з паламанымі дашчанымі тратуарамі і такімі ж парканамі паабапал была пустая. Толькі ў тым канцы, дзе яна выходзіла на другую, больш шырокую мястэчковую вуліцу, снавалі нейкія постаці. Там віднеўся белы двухпавярховы будынак школы з чырвоным дахам, які ўзвышаўся над шэрымі трохкутнікамі мястэчковых хат. Справа ад школы відаць была высокая цагляная труба лесапільнага завода і тамсям тырчалі рэшткі яго жоўта-белых сцен. Над імі плыла хмара чорнага дыму. Але ён валіў не з цаглянай трубы, а з другой — жалезнай, зусім невысокай, тонкай і чорнай. Злева ад школы, недзе ўжо ў самым канцы мястэчка, высілася драўляная вежа вадакачкі. У тым жа баку неўзабаве выскачыў аднекуль, з-за ледзь бачных дахаў, грыбок белай пары, а праз некаторы час даляцеў свісток паравоза. Там была чыгуначная станцыя.

Падняўшы з зямлі клунак, Віця ўскінуў яго на плячо і падаўся ў той бок, адкуль данёсся сіплы паравозны сігнал.

* * *

У раннюю восень 1946 года Віця Ляўковіч апынуўся ў мястэчку Кірмашэвічы.

Тры гады таму назад, калі ў час блакады партызанскай зоны загінулі бацькі, ён застаўся жыць у дзеда, добрага, але суровага і строгага чалавека, у сваёй вёсцы Харамец, што была цяпер недзе там, вёрст за сорак ад Кірмашэвіч, за густымі лясамі і топкімі балотамі.

Праўда, самой вёскі цяпер там не было. На пясчаным узгорку, нібы



гарбы, тырчалі вярхі зямлянак. У сорак трэцім годзе пасля аблавы ад Харамца засталася толькі адна хата, што стаяла на ўскраі сяла, ды і тая без вокан. У гэтай хаце пасля самага скорага рамонту восенню таго года, калі выгналі немцаў, была ўжо адчынена школа. Быў і настаўнік— Іван Мікалаевіч Задораў. Былі і ўрокі, цікавыя, такія ж, як і да вайны, калі Віця вучыўся ў трэцім класе. Праўда, Іван Мікалаевіч, былы партызан, хадзіў пакуль што з карабінам, нават і на ўрокі. Здаралася, што яго тэрмінова некуды выклікалі. Тады ён даваў вучням дамашняе заданне, развітваўся з імі, браў карабін і выходзіў з класнага пакоя. Вечарам у такіх выпадках дзед Якім гаварыў:

— Зноў гэтая нечысць павылазіла... Недзе каля Загор'я ўчора старшыню сельсавета абстралялі...

І Віця разумеў, што ў навакольных лясах, дзе ў вайну былі партызаны, цяпер з'явіліся бандыты. Іх называлі бандэраўцамі. Настаўніка выклікалі разам з іншымі сельскімі актывістамі лавіць іх. І калі назаўтра Іван Мікалаевіч зноў быў у школе, у дзяцей святлела на душы.

Так Віця закончыў чацвёрты клас. Летам памагаў дзеду касіць, восенню сеяць і малаціць. А пасля зноў на вучобу, ужо ў наступны, пяты клас. У школе з'явіліся яшчэ два настаўнікі, прыбавілася і вучняў, заняткі ішлі ўжо ў дзве змены.

Год мінуў хутка. У канцы экзаменаў Іван Мікалаевіч, ён цяпер быў загадчыкам школы, раздаў вучням ведамасці, павіншаваў іх, а Віцю перад усім класам параіў:

— Вучыся, Ляўковіч, далей.

Аднак далей у сваёй вёсцы Віцю вучыцца не прыйшлося. Шосты клас не адкрылі — не было вучняў. Дзед усё часцей і часцей пачаў коса глядзець на ўнука. Часам бурчаў сабе пад нос:

— Кніжкі яму ў галаве, а ты кармі...

Часам пад злосць браўся за лейцы. Але тады заступалася бабка.

Ад настаўнікаў хлопец ведаў, што самая блізкая школа, дзе ёсць шосты клас, знаходзіцца ў Кірмашэвічах. Бацька, калі быў яшчэ жывы, часта расказваў, што, бываючы ў мястэчку, заўсёды начаваў у нейкіх сваіх далёкіх — сёмая вада на кісялі — родзічаў. Жывуць яны па Новай вуліцы. Як уедзеш у мястэчка, дык адразу першы дом направа. Апранічы іхняе прозвішча.

Пасля доўгіх і пакутлівых роздумаў Віця рашыў ехаць у Кірмашэвічы,— а там будзе відаць...

Дзед палагоднеў. На развітанне дастаў з-пад бэлькі вузялок, развязаў, пакруціў у руках некалькі чырвоных паперак па трыццаць рублёў. Дзве згарнуў і аддаў Віцю. Астатнія завязаў назад у анучку. Правёў хлопца да парога, нагнуўся, крануўся вусамі яго шчакі.

Бабка Парася правяла ўнука да лесу. Там, пакуль чакалі фурманак, што павінны былі везці нарыхтоўку ў Кірмашэвічы, нешта ціха гаварыла і гэтак жа ціха плакала. Саджаючы Віцю на задні воз, дзе фурманам быў кульгавы Клім — адзіны сталы мужчына на ўсю вёску,— перахрысціла ўнука і доўга выцірала вочы канцамі падвязанай пад бараду хусткі.

...Адшукаць бацькавых родзічаў у Кірмашэвічах Віцю памог кульгавы Клім. Прыпадаючы на пакалечаную яшчэ некалі ў маладосці нагу і размахваючы рукамі, нібы падбіты певень крыллямі, ён хутка датупаў у канец Новай вуліцы, дзе і сапраўды стаяў невялічкі драўляны домік Апранічаў з сенцамі проста на тратуар.

Гаспадары былі дома. Спачатку здзівіліся, убачыўшы на парозе

старога кульгавага чалавека і хлопца з клункам. Гаспадыня нават адкрыла рот, каб сказаць: «Ідзіце, ідзіце, у саміх нічога няма», але не паспела.

— А браточкі вы мае, ледзьве знайшлі, ай-ай-яй, нахадзіліся колькі,— паспешліва загаварыў Клім.— Гэта ж трэба, га? Столькі шукалі!..

Гаспадары разгублена пераглянуліся, а Клім, ужо седзячы на табурэтцы і з задавальненнем выцягваючы кульгавую нагу, сыпаў, як з мяшка:

— Гэта ж я пляменнічка вашага прывёз вам... Сіротка, як ёсць сіротка, Антося вашага сынок... З Харамца мы, з Харамца. Адзін застаўся, саколік...

Тут толькі гаспадыня зірнула на Віцю, які, трымаючы шапку ў руках, стаяў ля парога. Яна нешта прыпаміналa.

— Антосяў... Ага, памятаю, чаму ж не... Ён нам сваяком па маёй цётцы прыходзіўся,— сказала, каб толькі што-небудзь сказаць...

— Га, малы які, у грамацеі хоча падацца,— працягваў Клім, ківаючы на Віцю.— А тут у вас школа ёсць вышэй за нашу, дык я і прывёз... Ну, то бывайце, часу няма, нахадзіліся столькі.

Ён хутка падняўся, падаў Віцю невялікую, шурпатую далонь і знік за дзвярыма, шкрабануўшы па іх пугаўём.

Трапіўшы пасля трохгадовага жыцця ў лясных буданах і ў зямлянках у сапраўдную хату, з вокнамі, з дзвярыма, з печчу і пафарбаванай падлогай, Віця з вялікай цікавасцю глядзеў на ўсё гэта. Нават крок ступіць баяўся.

Аднак, адчуўшы некаторую прыхільнасць гаспадароў, худога і сагнутага, як вочап, Ігнася і ружавашчокай Зосі, разгаварыўся. Адказы яго, не па ўзросту дакладныя і разважлівыя, кранулі іхнія сэрцы.

— Ну што ж,— уздыхнула гаспадыня,— нічога не зробіш...

Віцю напаілі чаем з сахарынам, абагрэлі пасля дарогі і паклалі спаць на тапчан, што ўпіраўся ў пліту.

Назаўтра раніцай цётка Зося павяла яго па местачковай вуліцы. Віця з цікаўнасцю глядзеў па баках, аж пакуль яны не спыніліся перад вялікім драўляным домам з фанернай шыльдай «Райана».

Цётка Зося ўзяла яго за руку і рашуча адчыніла дзверы ў пакой, дзе за сталамі сядзела некалькі чалавек. Прывітаўшыся і запытаўшы, ці тут загадчык, далікатна пастукала ў невялічкія фанерныя дзверы, што вялі ў бакоўку.

Там за сталом сядзеў чалавек з прадаўгаватым чырвоным тварам і раз-пораз паўтараў у тэлефонную трубку:

— Пошта... пошта... пошта...

Нарэшце ён паклаў трубку на рычажкі.

— Кажаце, Антося Ляўковіча сын? З Харамца? — перапытаў, калі Зося пачала нешта гаварыць пра Віцю.— Дык я Антося добра ведаў,— ажывіўся загадчык.— Ён у нашым атрадзе сувязным быў... А ну, падыдзі сюды, малады чалавек... Ды смялей, смялей... Мы, брат, цябе так не пакінем,—гаварыў, устаўшы з-за стала і беручы Віцю за локаць...— Табе трэба вучыцца...

Віця не любіў плакаць, нават калі яму прыходзілася вельмі крута. А тут, ці то ад грубаватай ласкі гэтага чалавека, ці можа ад таго, што той цёплым словам успомніў ягонага бацьку, у хлопца набеглі на вочы слёзы, і ён баяўся, што вось-вось заплача. Адвярнуўшыся ў куток, хутка выцер вочы рукавом світкі...

— Вось пакуль усё, чым мы можам памагчы,— сказаў загадчык



райана, калі жанчына запоўніла і падпісала нейкую паперу.— Карткі на хлеб атрымаеце заўтра ў райвыканкоме, грошы, па пяцьдзесят рублёў у месяц, будзеце атрымліваць у нас, а муку — у магазіне. Толькі, калі ласка, не крыўдзіце хлопца, ён і так пакрыўджаны,—загадчык весела падмігнуў Віцю, і, калі той выходзіў, за спіной чулася зноў:— Пошта, пошта, дзе вас чорт падзяваў!

Віця застаўся жыць у Апранічаў. Цяпер яны іменаваліся нейкім дзіўным словам — «апекуны». «Цікава, як мяне будуць апякаць»,— часта думаў з усмешкай Віця і нават спрабаваў рыфмаваць: апякаць-запякаць-распякаць-уцякаць.

У школе таксама справы пайшлі добра. Дырэктар узяў ведамасць за пяты клас, загадаў напісаць заяву, прачытаў яе і паклаў гэта ўсё ў шуфляду стала. Але, відаць, жадаючы пераканацца ў пісьменнасці новага вучня, падсунуў кавалак шэрай паперы, чырвоны аловак і сказаў:

— Пішы: «Смерть немецко-фашистским захватчикам!» Напісаў? Цяпер пішы далей: «Наше дело правое — мы победили!»

Віця аддаў напісанае, дырэктар уважліва праверыў і сказаў:

— Усё правільна. Заўтра з раніцы прыходзь у школу. Шосты клас займаецца ў першую змену.

Як бы там ні было, часта думаў сабе Віця, кладучыся спаць, а жыць і вучыцца можна. Астатняе ўсё — дробязі!..

І сапраўды, жылося яму не кепска. Насекчы дроў, прынесці вады або наабіраць бульбы ці запаліць пліту было для яго справай прывычнай і няцяжкай. Гаспадары на яго не сварыліся, але і не лашчылі.

Так было да пазаўчарашняга вечара. А пасля ўсё рухнула. Прытым самым недарэчным чынам.

Дзед Якім, які ўсё-такі не забываў унука, прыслаў яму і яго «апекунам» пуд са два збожжа. Усе вельмі абрадаваліся гэтаму падарунку: навакол была бясхлебіца. Але тут узнікла праблема: дзе змалоць зерне? Везці ў млын не надта зручна, яшчэ хто-небудзь прычэпіцца: чыё ды адкуль? І тады Віцю прыйшла ў галаву амаль геніяльная ідэя: трэба зрабіць жорны! Самыя звычайныя жорны, якія рабілі ў ягонай вёсцы ў часы партызаншчыны. Падрабязна растлумачыў Ігнасю, як гэта робіцца:

— Ад тоўстага, як абняць рукамі, дубовага камля адрэзваюць два кругі. Пасля іх абцягваюць жалезнымі шынамі. У дрэва набіваюць кавалачкі разбітага чыгуну — яны, як промні, разыходзяцца ад цэнтра круга. У верхнім крузе робяць дзірку, каб сыпаць зерне. Папярок гэтай дзіркі кладуць кавалак жалеза, якое абапіраецца на шпень, убіты ў ніжні круг. Круці сабе на здароўе!

— А можна і такія жорны зрабіць,— працягваў Віця.— Бяруць дзве пліты, якімі выкладзены тратуары, абіваюць вуглы, насякаюць зубілам раўчукі на кожнай з пліт, гэтак жа прабіваюць у верхняй дзірку і гэтак жа прыладжваюць на жалезках... Праўда, з такіх жорнаў мука горшая і хлеб з пяском...

Гаспадару думка пра жорны спадабалася. Праўда, дуба тут нідзе не знойдзеш... А вось пліты... Ігнась задумаўся... Ён цяпер толькі здагадаўся, дзе гэта падзеліся тратуары, выкладзеныя паабапал цэнтральнай местачковай вуліцы яшчэ за «польскім часам», як любіў ён гаварыць. Аказваецца, іх па ўсім раёне на жорны парасцягвалі! «Чаго толькі не выдумаюць людзі»,— паківаў ён галавою. Ён успомніў, што тратуар з пліт застаўся ў Кірмашэвічах толькі ў адным месцы: там, дзе вуліца праходзіць міма будынка раённай міліцыі, ды і то з аднаго боку, каля самых вокнаў.

Дзядзька Ігнась з Віцем парашылі так: калі сцямнее, першы адправіцца за плітой Віця. Тады па другую ўжо сходзіць дзядзька Ігнась. Дачакаліся вечара. А ён выдаўся якраз, як для зладзеяў,— асенні, цёмны.

... Віця ўжо з гадзіну стаяў і чакаў, калі ў міліцэйскім будынку пагасне святло ў адзіным шырокім акне, пад якім якраз і ляжала тая самая пліта, якую ён аблюбаваў яшчэ ўдзень. Аднак святло не гасла, а ў пакоі хадзіў нейкі чалавек. Віця хутка падскочыў да пліты, падсунуў пад яе загадзя падрыхтаваны дручок, пераваліў паўмятровы бетонны квадрат на разасланую дзяружку, паспрабаваў закінуць паклажу на плячо, але не падняў... Тады яго адолеў страх. Усё цела затрэслася, як у ліхаманцы. Ён адбег і зноў прытаіўся за таполяй. Шэрая дзяружка, у якую была загорнута пліта, засталася ляжаць на тратуары. На яе падала святло з акна. «Не дай бог яе тут пакінуць — бяды не абярэшся». Пра чалавека, што быў у пакоі, Віця нібы забыў. А чалавек, відаць, заўважыў ці пачуў, што нехта шкрабецца на тратуары. Ён, прыгнуўшыся, падышоў да акна і ціхенька адхінуў ніжні край фіранкі.

Хлопец прысеў на адно калена і падсунуў плячо пад рагі звязанай дзяружкі.

— Т-т-так, я табе зараз памагу,— ціха засмяяўся чалавек у пакоі і падняў ужо кулак, каб грукнуць у раму, але тут прарэзліва зазвінеў тэлефон. Цень чалавека махнуўся ад акна да стала.

— Начальнік міліцыі Гразоўскі слухае,— прамовіў ён у прыкрытую далонню трубку.

Калі праз некалькі мінут ён зноў заняў ранейшае месца ля акна, на тратуары было пуста: ні хлопца, ні дзяружкі, толькі свежы чорны квадрат, дзе нядаўна была пліта...

— Ах, чорт, спёр-такі!..

Позна вечарам па другую пліту пайшоў гаспадар. Пайшоў і не вярнуўся. Яго затрымаў начальнік міліцыі.

Раніцай на пытанне жонкі, дзе швэндаў усю ноч, Ігнась тыцнуў пальцам у бок Віці, які збіраў свае падручнікі, і сказаў:

— Спытай вось у гэтага гадзяняці... Ён сказаў начальніку міліцыі, што я вучу яго красці...

Віця пачаў апраўдвацца, што не бачыў ніякага начальніка і нічога нікому не гаварыў, але гаспадары і слухаць не захацелі. Два дні яны з ім не размаўлялі і вось сёння выгналі з хаты.

... Са сваім клункам за плячыма, абыходзячы школу і цэнтральную мястэчковую вуліцу, Віця панура сунуўся на станцыю. Можна было б зайсці ў райана, расказаць пра ўсё загадчыку, пайсці і прызнацца ва ўсім дырэктару школы або самому начальніку міліцыі. Але ўсе яны могуць спытаць: навошта ж ты ішоў красці? Злодзеем ён ніколі не быў і не будзе, а ў тым, што здарылася, памагчы цяпер не зможа ніхто. Шкада, вельмі шкада пакідаць школу. Але і заставацца тут таксама нельга.

## РАЗДЗЕЛ II

На станцыі Кірмашэвічы не было дакладнага раскладу руху паяздоў. Таму, калі дыспетчар выйшаў з адгародкі, на якой было напісана «Уваход строгаваспрашчаецца», ён адразу ж трапіў у людскі натоўп.



Стоячы воддаль, Віця бачыў, як у цэнтры гэтага тлуму сюды-туды паварочваецца чырвоная дыспетчарская шапка. Дыспетчар нешта выкрыкваў, махаючы рукамі, людзі таксама крычалі на яго. Тады з дзвярэй станцыі выйшаў другі чалавек у такой жа чырвонай шапцы. Ён быў высокі і дужы. Прытрымліваючы ножны шаблі, ён падышоў да людзей і таксама загаварыў, махаючы вольнай рукой. Калі Віця прыгледзеўся лепш, дык убачыў, што гэта быў не хто іншы, як міліцыянер.

«Эге, тут трымай вуха востра»,—рашыў хлопец. Азіраючыся, ён падаўся за вугал станцыі. У вочы кінуўся драўляны хлявчук з праламаным дахам. Дзвярэй у ім не было: нехта зняў іх на больш важныя справы. У хлеўчуку пахла нечым даволі-такі непрыемным, але затое не дзьмуў вецер. Віця выбраў у кутку сухое месца, паклаў свой клунак і, прысеўшы на яго, пачаў праз шчыліну сачыць, што робіцца на станцыі. Там было спакойна: дыспетчар і міліцыянер пайшлі ў вакзал, а людзі з клункамі пачалі ўладкоўвацца ўздоўж цаглянай сцяны.

Куды падацца з гэтай станцыі, Віця яшчэ не вырашыў. Трэба было падумаць.

Прайшла можа гадзіна часу, калі Віця Ляўковіч убачыў, як да станцыі падкаціла зялёная міліцэйская паўтаратонка. З кабіны на перон выйшаў начальнік міліцыі, а з кузава саскочылі два міліцыянеры. Да іх тут жа далучыўся і міліцыянер у чырвонай шапцы, ужо без шаблі.

У Віці па спіне прабег халадок. Якраз такі, як тады, калі ён вечарам здзіраў пліту з тратуара. Хлопец адчуваў сябе, нібы мыш у пастцы. «Ну, зараз паглядзяць, што мяне няма на станцыі, і прыйдуць сюды. Усё прапала».

Поезд прыбыў на станцыю неяк зусім нечакана. Паравоз, ціха сапучы, сунуўся па рэйках, і Віця бачыў, як міма міліцыянераў адзін за адным каціліся вагоны, запавольваючы свой бег. І вось міліцыянеры раптам спрытна скочылі на падножкі аднаго вагона — два на пярэднюю, два на заднюю. Гэтак жа хутка, не чакаючы поўнага прыпынку цягніка, яны адзін за адным палезлі ўгару. Віцю ў сваім сховішчы прыйшлося прыгнуцца амаль да самай зямлі, каб убачыць, чаго гэта яны палезлі на вагон. Ён зірнуў, ды так і застыў ад здзіўлення...

На даху вагона сядзела восем абарваных хлапчукоў. Яны збіліся ў кучу і аж раты паразяўлялі, калі, нібы зваліўшыся з неба, вакол іх пасталі чатыры чалавекі ў сіняй міліцэйскай форме.

— Што ж, хлопцы, давайце спускацца ўніз,— сказаў начальнік міліцыі.— Тут і вецер халодны і дождж... А на зямлі крыху зацішней...— Ён прамовіў гэта без злосці, хутчэй нават з жартам і першы спусціўся ў тамбур вагона, а пасля саскочыў з падножкі на зямлю. Адзін за адным — паволі, нібы гэта была для іх надта складаная і невядомая справа — пачалі злазіць і беспрытульнікі...

— Папаліся, галубочкі,— весела пацірау рукі старшы з чыгуначнай аховы, які падбег у гэты час.

— Папаліся, ды не ў вашы рукі,— буркнуў праз зубы адзін з хлопцаў, большы. Ён абышоў гэтага чалавека і падаўся да машыны, ля якой ужо вазіўся з ручкай шафёр.

— Для нас, таварыш начальнік?

— Для вас, спецыяльна, ледзь паспелі падагнаць,— у тон яму адказаў хтосьці з міліцыянераў.

— Стараватая машына, але ўсё ж лепш, чым пешкі,— сказаў хлопец. Ён паправіў шапку, з-пад ілба зірнуў на сваіх спадарожнікаў. Позірк яго нібы прасіў прабачэння: «Самі ж таксама вінаваты, не маглі пагледзець, што на станцыі робіцца... Цяпер вось думай, як вас выручыць...»





— Пайшлі, пайшлі, часу і так не хапае, а тут яшчэ з вамі вазіся,— на гэты раз ужо строга сказаў начальнік міліцыі.

Віцю, які назіраў з хлеўчука за ўсёй гэтай сцэнай, пачалі прабіраць дрыжыкі... Не... Да вечара адсюль і носа не трэба высоўваць... Як міленькіх, да рук прыбралі... А яны ж, тыя хлопцы, відаць, бывалыя.

Беспрытульнік, які ішоў першы, памог залезці ў кузаў самаму меншаму хлапчуку. Потым паставіў нагу на задняе кола машыны і сам кульнуўся туды ж. Скрабучы насамі чаравікаў па зялёных дошках з вялікімі белымі нумарамі, пачалі ўзбірацца на машыну астатнія... Яны перашкаджалі адзін другому і ссоўваліся ўніз. Тады міліцыянеры і Гразоўскі пачалі браць іх пад пахі і падсаджваць. Вось усе яны паселі на дне кузава так, што Віця бачыў толькі іхнія галовы ў зашмальцаваных шапках. Аднак машына не рухалася з месца. Міліцыянеры і хлопцы ўсё нешта паглядалі на вагоны. Віця таксама зірнуў туды.

У тамбуры сярэдняга вагона прысеў на адно калена і нешта завязваў на правай назе кудлаты рыжы хлапчук. У яго паддзёўцы не хапала аднаго рукава, на нястрыжанай галаве тырчалі ў розныя бакі валасы. Каля хлапчука стаяў міліцыянер і са смехам нешта гаварыў яму, паказваючы на ягоныя ногі — адну ў чаравіку, а другую ў падранай анучы. Хлапчук не звяртаў увагі на міліцыянера. Пальцы яго то закручвалі, то раскручвалі шнурок на назе.

— Ну, хопіць, злазь, поезд жа затрымліваем. Скачы,— і міліцыянер расставіў рукі. Хлопец ступіў на верхнюю прыступку, пасля ніжэй, спусціў нагу, каб ступіць на зямлю... Але ў той момант, калі міліцыянер хацеў падхапіць яго, ён прысеў, крутнуўся, нібы ваўчок, і пусціўся ўздоўж вагонаў. Пакуль міліцыянер апамятаўся, хлопец быў ужо ў самым канцы цягніка. «Вось дык малайчына,— падумаў Віця.— А тыя пайшлі, як мокрыя кураняты,— проста ў кузаў!» Аднак глядзі ты! Уцякач раптам спыніўся, азірнуўся і, хвіліну пастаяўшы ў роздуме, пайшоў туды, дзе стаяла аўтамашына. Па зямлі цягнулася ануча. «Глядзі ты, сяброў не хоча пакідаць у бядзе! — з захапленнем падумаў Віця пра хлопца.— Вось гэта правільна!»

Машына зрушыла з месца і праз мінуту знікла за вуглом станцыйнага будынка.

Віця ўздыхнуў з палёгкай. На гэты раз пашанцавала. Міліцыя, відаць, прыязджала, каб пералавіць гэтых беспрытульнікаў. Яму было шкада хлопцаў. Яны, напэўна, таксама без бацькоў, без нікога на свеце. І ўсё ж ім лепш — яны гуртам...

Над станцыяй пачаў радзець густы асенні туман. Зрабілася неяк відней ў хлеўчуку, дзе сядзеў Віця. Хлопец паспакайнеў, мацней завязаў вузлы пярэстай зрэбнай пасцілкі і зручней усеўся на клунку. Што ж рабіць далей?

Стала халаднавата. Віця засунуў рукі пад пахі і павярнуўся плячыма да сцяны — так будзе цяплей. І ў гэты момант ён адчуў, што на яго нехта пазірае. Яшчэ не падняўшы галавы, неяк падсвядома здагадаўся, што вочы, якія глядзяць на яго,— нядобрыя. Як гэта бывае часам у сне, ледзь-ледзь падняў сваю неяк раптоўна ацяжэлую галаву і зірнуў на таго, хто стаяў на парозе хлеўчука. Яны пазналі адзін аднаго. «Канец,— нібы маланка, пранеслася думка.— Гэта канец!» Віця зашкроб рукамі па клунку, на якім сядзеў, па дошках за спіной, шукаючы апоры, каб падняцца на ногі... Чалавек у паношанай ватоўцы, у зашмальцаванай шапцы-вушанцы таксама адхіснуўся на хвіліну ад дзвярэй. Ён ліхаманкава зірнуў у бок станцыі і ступіў у хляўчук. Затым уся яго вялізная і страшная постаць раптоўна навалілася на Віцю...

...Віця не ведаў, колькі часу прабыў у непрытомнасці. Першае, што ён убачыў, калі апамятаўся,— была газоўка, што свяціла рэзкім жоўтым святлом. Ляжаў хлопец на драўлянай лаўцы ў пустым вакзале. Над ім стаяў міліцыянер у чырвонай шапцы. У левай руцэ ён трымаў бляшаны кубак, прывязаны ланцужком да такога ж бляшанага бачка, ліў з яго ваду ў згорнутую лодачкай далонь і пырскаў вадою на твар хлапчука. Ад гэтых халодных пырскаў, што пападалі не толькі на твар,

але і за каўнер, Віця і ачуняў. Павярнуў галаву, каб зірнуць на чалавека, які прыводзіў яго ў прытомнасць, і аж войкнуў ад рэзкага болю ў шыі.

— Ляжы, ляжы... Не бойся... Я думаў, што ты ўжо не ачухаешся... Але нічога, маладое, жывучае,— пачуўся аднекуль здалёк спачувальны голас. Міліцыянер паставіў кубак на бачок, ссунуў шапку на патыліцу, дастаў з кішэні галіфэ насоўку і выцер спацелы лоб. Пасля прысеў на кортачкі перад Віцем:— Так і пазабіваць адзін аднаго можаце. Многа тут вас, беспрытульнікаў... Добра, што я ў хляўчук на прыцемку зазірнуў ды выцягнуў цябе...

Галава ў Віці страшэнна балела, ён амаль не разумеў, пра што гаворыць гэты чалавек.

— Здорава табе дружкі настукалі...

Віця паспрабаваў падняцца. Локці, якімі ён абапёрся аб лаўку, засадзелі. Балелі плечы.

Міліцыянер памог яму сесці. Віця памацаў патыліцу, там быў вялікі гуз. Шыя таксама балела, нібы яе пераціснулі дзвярыма...

І газоўка, і міліцыянер, і лаўкі, і бачок — усё неяк дзіўна скакала перад вачыма. Зірнуў на акно. Яно было чорнае, нібы замазанае сажай. Значыць, праляжаў цэлы дзень...

Паволі стаў на ногі. Яны трымцелі. Падышоў да бачка, узяў кубак і паднёс да засмяглых губ. У горле закалола, калі піў ваду. Аднак стала крыху лягчэй.

— Я ні з кім не біўся... Мяне хацеў задушыць паліцэйскі... Хведар Гукун... Ён з нашай вёскі...

. . . . . . . . . . . . . . . .

— Вось што, Віктар, прыйдзецца табе яшчэ раз пра ўсё гэта расказаць начальніку міліцыі Івану Ягоравічу Газоўскаму,— сказаў міліцыянер, калі праз паўгадзіны яны падняліся і выйшлі з адгародкі.

## РАЗДЗЕЛ III

У міліцыі яго прынялі не надта ветліва, але і не так ужо дрэнна. Калі ён расказаў начальніку пра тое, як яго ўчора хацеў у хлеўчуку задушыць былы паліцэйскі з Харамца Хведар Гукун, Гразоўскі ніякіх пытанняў больш не задаваў. Аднак папрасіў нікому пра гэта пакуль што не гаварыць.

Калі Віцю сказалі, што можна пераначаваць у калідоры на лаве, ён згадзіўся.

Раніцай Гразоўскі зноў паклікаў яго да сябе:

— Калі хочаш вучыцца і па-чалавечы жыць, дык не вяртайся да сваіх апекуноў. Ідзі лепш у дзетдом. Я вось тут за цябе пару слоў закінуў.

Адчыніў шуфляду пашарпанага стала, дастаў сіні канверт:

— Вось бяры гэты пакет і проста туды, да Чыракова, дырэктара. Згодзен?

Віця хвіліну вагаўся. Хто яго ведае, гэты дзетдом... Але начальнік усміхаўся так ветліва, што Ляўковіч неяк ахвотна ўзяў канверт і развітаўся.

Назаўтра гадзін у дзевяць раніцы Віця Ляўковіч выйшаў з памяшкання раённай міліцыі. Ноч ён праспаў на лаве, што стаяла тут, у калідоры. Балела галава, ныла ўсё цела. Хацелася есці.

Як і ўчора, на плячы ў хлопца матляўся клунак. У руцэ быў сіні канверт з надпісам: «Дырэктару дзетдома тав. Чыракову». Цікава, што



ў гэтым канверце? Пакруціў у руках — заклееены. Сунуў за пазуху і ступіў на тратуар. У дзетдом, дык у дзетдом...

Праходзячы міма акна міліцыі, міжволі зірнуў на тратуар. Крайняя шэрая пліта, якую ён адсюль знёс, ляжала на месцы. Праўда, яна крыху ссунулася ўбок. З нейкай злосцю наступіў на пліту нагой. Хацеў нават плюнуць, але пасаромеўся: яшчэ ўбачаць з міліцыі.

Дзіцячы дом быў блізка ля станцыі. Таму Віці давялося прайсці амаль праз усё мястэчка.

У тым месцы, дзе вуліца паварочвала ўлева ад рыначнай плошчы, Віця зачапіўся за цвік у тратуары і ледзь не ўпаў. Калі ж падняў галаву, то ўбачыў, што проста на яго па тратуары ідзе група дзяцей. Іх было чалавек дваццаць. Размахваючы падручнікамі, смеючыся і размаўляючы паміж сабой, яны хутка абмінулі яго і пайшлі далей. Апрануты яны ўсе, і хлопчыкі і дзяўчынкі, былі ў аднолькавыя сінія суконныя паліто. На грудзях у некаторых чырванелі піянерскія гальштукі. Здзіўлена павярнуўся і пагледзеў ім услед. Адкуль яны такія?

— Ты, пацан, куды? Можа да нас, у дзетдом?— пацягнуў нехта яго за рукаў.

Павярнуўся. Перад ім стаяў хлопчык. Гадоў яму было шэсць або сем. Калі прыгледзеўся да яго бліжэй, дык міжволі засмяяўся. Надта ж цікава выглядаў хлопчык. Ростам ён амаль напалову ніжэйшы за Віцю. На галаве, нібы на коліку, вісела новая чорная шапка-вушанка. Круглыя вочы былі таксама чорныя. Сіняе суконнае паліто даставала амаль да пят. Прыгледзеўшыся, Ляўковіч заўважыў, што на паліто няма ніводнага гузіка. На нагах у хлопчыка былі новыя чаравікі з задранымі ўгару насамі.

Малы зноў зірнуў Віцю ў твар і спытаў:

— Ты, можа, да нас, у дзетдом?

— Але, да вас... А дзе ён, гэты дзетдом?

— Во тут, блізка,— ажывіўся хлопчык. Ён зноў злёгку пацягнуў Віцю за рукаў.— Пайшлі, я цябе завяду...

Ідучы ўперадзе і ўвесь час азіраючыся, нібы баючыся, што Віця можа перадумаць і не пайсці з ім у дзетдом, хлопчык расказваў:

— У нас во як кормяць!— падняў ён вялікі палец. Аднак адразу палічыў, што гэта, напэўна, не пераканае новага знаёмага, таму спыніўся, адкінуў крысо паліто і пляснуў далоняй па голаму жывату.

Віця аж пырснуў ад смеху.

— А скажы, у вас усе такія галапузыя?

Хлапчук зразумеў, што даў маху. Ён азірнуўся па баках і ўжо, нібы даўняму сябру, зашаптаў:

— Не, што ты... Гэта да нас учора новенькіх прывезлі... Дык адзін з іх выйграў у мяне ўсе гузікі з паліто, а кашулю сілай забраў... Кажа, ты малы, у школу не ходзіш, гавары, што згубіў, дадуць другую... А так у мяне ўсё ёсць. Во, паліто новае, шапка і чаравікі таксама.

Заўважыўшы, што Віця аб нечым задумаўся, малы працягваў:

— Усе ў школу ідуць, а я малы. Мне аднаму сумна...

— А як цябе завуць?

— Барыс Цыган. Мяне цыганы ў дзетдом ноччу прынеслі соннага ды на ганку паклалі... А тут думалі-думалі, якое даць мне прозвішча, ды так і запісалі — Цыган. А ты будзеш са мной дружыць? Я цябе танцаваць навучу па-нашаму, па-цыганску...

У словах маленькага Барыса было столькі шчырасці, што Віця гэтак жа шчыра адказаў:



**І. Рэй. Паляводы.** З Рэспубліканскай мастацкай выстаўкі.



**А. Таўкач** (Віцебск). **Горад жыве.** З Рэспубліканскай мастацкай выстаўкі.

**У выхадны дзень. Пятро Клімкоў і яго сябры памочнікі майстроў Генадзь Пілкоўскі, Павел Каралёў і Фелікс Зайкоўскі.**

Фота **А. Дзітлава.**

— Буду...— Паклаў малому руку на плячо і пайшоў з ім побач.

Праз мінуту яны спыніліся перад шэрым драўляным домам з белымі вокнамі і бляшаным дахам.

— Сюды, сюды... Ідзі за мной, — Барыс штурхануў плечуком невялічкую брамку і пацягнуў Віцю за сабою.

Ад брамкі да невялікай веранды вяла выкладзеная з кавалкаў цэглы дарожка. Справа, у самым далёкім кутку двара, стаяў яшчэ нейкі будынак. Да яго былі прыбудаваны сенцы са свежых жоўтых дошак. З жалезнага коміна над будынкам віўся белы дымок. Агледзеўшы двор больш уважліва, Віця заўважыў у тым жа кутку, што быў бліжэй да вуліцы, хлапчукоў у сініх паліто. Адны з іх былі з рыдлёўкамі, другія асцярожна трымалі ў руках па дрэўцу. Быў там і высокі мужчына ў шынялі. Ён узяў у аднаго з хлопчыкаў рыдлёўку і пачаў капаць. Другі хлопчык стаў памагаць мужчыне. Віця, які гадаваўся ў вёсцы і не раз меў справу з такімі прыладамі, як рыдлёўка, заўважыў, што чалавек у шынялі неяк нязграбна трымае яе ў руках. Ён працаваў амаль адной левай рукой. Правая нібы прыліпла да паясніцы і толькі ледзь-ледзь дакраналася да чаранка.

— Стой тут,— сказаў Віцю маленькі Барыс і патэпаў да мужчыны.

— Мікалай Пятровіч! — закрычаў ён.— Я новенькага прывёў... Новенькага!..

Чалавек у шынялі аддаў рыдлёўку аднаму з хлапчукоў і паволі пайшоў насустрач Барысу.

— Я выбег на вуліцу, а ён сядзіць на тратуары і плача... Я за яго ды сюды... Ён харошы,— данеслася да Віцевых вушэй...— Вы яго прымеце, Мікалай Пятровіч? Ён са мной дружыць будзе...

— Прыму, прыму,— сказаў Мікалай Пятровіч малому і адным вокам зірнуў на Барысава паліто. Хлопчык адразу заспяшаўся і бачком падаўся на веранду.

— Добры дзень,— сказаў Віця, падыходзячы да мужчыны.— Я да вас...— Запнуўся і не ведаў, што гаварыць далей. Але чалавек і так разумеў, у чым справа. Ён пазіраў на Віцю і ўсміхаўся.

— Бачу, што да нас... Змёрз, напэўна?..

Віця заспяшаўся.

— Ды што вы, у мяне світка...

— Світка-світка — суконная нітка...

На галаве ў мужчыны — новая камандзірская шапка-вушанка з цёмным пяцікутнічкам ад зоркі. «Шынель афіцэрскі»,— падумаў Віця. Ён усё яшчэ стаяў у нерашучасці... Мужчына заўважыў гэта, нахіліўся над Віцем і левай рукой узяў яго клунак. Правая неяк нерухома павісла ўздоўж тулава.

— Ідзём... Чаго тут стаяць...

І ўжо, нібы даўняму знаёмаму, зірнуў Ляўковічу ў твар:

— Чакай... Вось забыў... Як жа гэта цябе завуць? Ніяк не ўспомню...

Віця зразумеў, што чалавек жартуе. Яму самому зрабілася неяк весела. Нават дыхаць стала лягчэй.

— Віця. А прозвішча Ляўковіч.

— Правільна! Я так і думаў...

— А вы дырэктар дзетдома?

— Дырэктар. Такія вось, як ты, хлапцы-малайцы завуць мяне Мікалаем Пятровічам...

Ідучы да веранды, Віця ўспомніў, што за пазухай трымае канверт. Ён дастаў яго і працягнуў мужчыне...



— Тут пісьмо вам, Мікалай Пятровіч...— І дадаў зусім ціха:— Ад начальніка міліцыі...

— Давай пачытаем, што там пішуць,— правая рука чалавека крыху прыўзнялася і ўзяла пісьмо. Віця заўважыў доўгія пальцы. Яны, як здалося яму, былі танчэйшыя ад пальцаў на левай руцэ. Услед за Мікалаем Пятровічам Віця ўзышоў на веранду. Барыс, які, напэўна, назіраў увесь час за імі, весела падміргнуў Ляўковічу і хуценька адвярнуўся да акна, нібы там было штосьці надзвычай цікавае...

Дырэктар паклаў клунак у куток, дастаў з кішэні шыняля бліскучы ключ і адчыніў чырвоныя двухпалавінчатыя дзверы.

— Сядай вось тут,— кіўнуў ён на крэсла ля стала.

Віця сцягнуў з галавы шапку і прысеў. Пакуль Мікалай Пятровіч расшпільваў шынель і вешаў яго на драўляны кручок вешалкі ля дзвярэй, хлопец абвёў вачыма пакой. Ён быў невялікі. Стол, засланы сінім паркалем. У адным кутку — самаробная этажэрка з кнігамі. У другім, бліжэй да акна, такая ж і таксама з кніжкамі. Зверху на ёй невялічкі жоўты барабан. Побач бліскучы піянерскі горн. Ён так зіхацеў, што Віця ўбачыў у начышчанай, здавалася, гарачай медзі свой схудзелы твар з доўгім носам і калматымі валасамі.

Ля акна, на самым светлым месцы, стаяла самаробная фанерная падстаўка — піраміда, пафарбаваная ў чырвоны колер. Над пірамідай ярка-чырвоны сцяг. На супрацьлеглай ад акна сцяне — партрэт нейкага чалавека з круглым тварам, з вусамі і ў акулярах. Крыху ніжэй віднеліся малюнкі на звычайнай паперы са сшыткаў. Танкі, гарматы, самалёты. Віця сам умее маляваць усё гэта. А вось тых піянераў, што ідуць са сцягам, горнам і барабанам, на вялікім папяровым аркушы ён, відаць, не змог бы намаляваць. Цікава, хто гэта зрабіў?

Тым часам дырэктар распрануўся, прычасаў чорныя валасы і сеў за сталом насупраць Віці.

— Так, паглядзім, што нам пішуць...

У Віці ёкнула сэрца, калі хруснуў расклееньі канверт. «Мала што напішуць у міліцыі! Эх, не здагадаўся выкінуць па дарозе. І так бы прынялі...» Схіліўшы галаву і камечачы ў руках шапку, ён адным вокам сачыў за дырэктарам.

Мікалай Пятровіч хутка прабег вачыма па сіняму лістку паперы, згарнуў яго, паклаў у канверт.

— Добра... Зараз мы цябе запішам...— Ён дастаў з шуфляды кнігу велічынёю з класны журнал.

— Ты ў нас будзеш трыццаць другі... Расцём... Раніцай учора ў нас у дзетдоме было дваццаць тры чалавекі... А сёння ўжо трыццаць два... Такой сямейкай не прападзем! Як ты думаеш, Віктар?

Ляўковіч не ведаў, што гаварыць. Пасля халоднай вуліцы яму было цёпла і ўтульна ў гэтым чыстым пакоі з піянерскім сцягам, з кніжкамі, з малюнкамі, з гэтым цікавым чалавекам у зялёнай вайсковай гімнасцёрцы. Вусны ў хлопца злёгку дрыжалі, калі ён выціснуў з сябе толькі адно кароткае слова:

— Угу...

Цяпер, калі дырэктар быў без шыняля, Віця ўбачыў на яго шыі глыбокі карычневы шрам наўскасяк — ён хаваўся пад каўнярам гімнасцёркі, бліжэй да правага пляча...

— А ў школу ты хадзіў?

Пытанне было нечаканае. Віця хуценька адвёў вочы ад карычневага рубца над каўнярам гімнасцёркі, зірнуў у твар Мікалаю Пятровічу.

— Хадзіў, у шосты клас... Учора не быў... Прапусціў заняткі...

— Вось дык штука... Ты ў нас будзеш самы старэйшы вучань... Першы шасцікласнік... Вось што, Віктар, зараз ты пайдзі паснедай, а пасля мы з табой пагутарым больш падрабязна... Згода?— Мікалай Пятровіч зірнуў на дзверы, што ўвесь час нечага ціхенька парыпвалі, і паклікаў:

— Барыс, зайдзі сюды!..

Дзверы тут жа расчыніліся і паказалася стрыжаная Барысава галава.

— А чаго? — Барыс стаяў за парогам і неяк залішне шчыльна прыціскаў рукою да грудзей сваю шапку.

«Жывот голы і гузікаў няма, — успомніў Віця. — Відаць, пабойваецца...»

— У мяне чаравікі ў гразі, Мікалай Пятровіч,— схітрыў нарэшце хлопчык.— А так я зайшоў бы... Вы скажыце, што трэба, дык я на адной назе...

— Вось завядзеш новенькага ў сталоўку і скажаш Паўліне Антонаўне, каб яго накарміла.

— Добра, Мікалай Пятровіч... Я мігам...

Хлопчык нецярпліва падаваў Віцю нейкія знакі. Маўляў, ідзі ты хутчэй, бачыш жа, у якім я становішчы! Віця падняўся.

— У нас кормяць добра,— паўтарыў малы разоў пяць, пакуль ішлі па двары ў другі канец дома і падымаліся на ганак сталовай.— І суп, і каша — во! І чай і кампот даюць... Я дык заўсёды дабаўку прашу...

У даволі прасторным пакоі, адведзеным пад сталовую, стаялі два доўгія і шырокія сталы. Каля іх такія ж доўгія лаўкі. Дзве дзяўчынкі і хлопчык, што дзяжурылі па кухні, адразу ж зразумелі, у чым справа, калі ўслед за Барысам у сталоўку ўвайшоў новенькі. Дзяўчынкі перасталі мыць сталы і хутка пайшлі на кухню. Барыса, што пайшоў быў следам, яны туды не пусцілі. Праз некалькі мінут адна з іх прынесла талерку ячнай кашы, другая — хлеб і кубак гарачага чаю. Дзяўчынкі былі меншыя за Віцю. Аднак яны паводзілі сябе, як сапраўдныя гаспадыні.

— Памый рукі і садзіся есці,— строга сказала адна з іх, стаўляючы кашу перад Віцем.— Валя, збегай прынясі вады ў рукамыйнік.

Дзяўчынкі зноў пачалі мыць сталы. Калі Віця канчаў есці кашу, да яго падышоў хлопчык, што дзяжурыў у сталовай. Ягоны твар чырванеў, як памідор.

— Табе, пацан, з галадухі многа есці няможна,— працадзіў ён праз зубы.— Яшчэ заварот кішак будзе...

Пакуль Віця, разявіўшы рот, раздумваў, ці сапраўды ў яго можа быць заварот кішак, таўсцяк пацягнуў да сябе лусту намазанага шмальцам хлеба і кубак з чаем і пачаў есці.

— Вось так будзе спакайней,— сказаў ён, ставячы кубак на стол. Здзіўленага Барыса, які не паспеў уцяміць, што тут робіцца, ён пстрыкнуў па кончыку носа і пайшоў да дзяўчынак памагаць мыць сталы. Барыс глядзеў на Віцю з дакорам: «Такі вялікі і не мог даць гэтаму нахабніку па руках... Цяпер чакай абеду...»

— Ты гэтага абжору не бойся,— гаварыў Барыс, калі яны выйшлі са сталовай.— Ён усіх новенькіх так абдурвае. Гэта Адам Капа. Ён дарма што вялікі і тоўсты, але палахлівы. Адно толькі і ўмее, што на кухні дзяжурыць. Яму пацаны хацелі «цёмную» зрабіць, ды Мікалай Пятровіч нарваўся якраз, не паспелі.

Што за «цёмная» і як яе робяць, Віця не ведаў. Распытваць жа не было асаблівай ахвоты.



Праз паўгадзіны, трымаючы ў руцэ свой клунак, з якога дырэктар сказаў дастаць толькі кніжкі і пенал, Віця ішоў за Мікалаем Пятровічам у дальні куток двара, дзе віднелася лазня.

У сенцах было душна. Стараваты ўжо чалавек у ботах, галіфэ і ніжняй кашулі корпаўся ля вялізных жалезных дзверцаў печы. Калі ён нахіляўся, на ягонай лысай галаве бліскалі водбліскі полымя. Па твары ў чалавека цёк танюсенькімі нітачкамі пот і па кроплі капаў з кароткіх вусоў...

— Вы, Зінові Цімафеевіч,— звярнуўся дырэктар да мужчыны,— падстрыжыце гэтага малайца, памыйце, апраніце.

— Усё будзе зроблена як належыць,— запэўніў дырэктара Зінові Цімафеевіч.— У нас гэта мігам... Чык-чык і гатова... Ён замітусіўся, аднекуль выхапіў табурэтку, паставіў яе пасярэдзіне сенцаў, з кішэні штаноў дастаў машынку. Яна лоўка застрыкала ў ягоных руках.

Праз мінут пяць, астрыжаны і голы, Віця пераступіў парог лазні. Калі вочы звыкліся з прыцемкамі, ён убачыў на верхнім палку, пад самай столлю, голых хлапчукоў. Чырвоныя ад пары, аблепленыя лісцем з бярозавых венікаў, яны выглядалі, як нейкія дзівосныя здані.

— Эй, вы, скажыце, там не горача? — спытаў ён, задраўшы галаву...

Але ў тую ж секунду адтуль, зверху, шуснула нешта цяжкае і гарачае, і Віця адчуў, што ў яго поўны рот вады. Яна забіла нос, вушы, вочы, усё цела сціснулася ад нечаканага вадаспаду. Сэрца, здавалася, вось-вось выскачыць з грудзей ад перапалоху. Інстынктыўна адскочыў на сярэдзіну лазні і, працёршы вочы, глядзеў на сваіх крыўдзіцеляў.

Было непрыемна, што спалохаўся. І чаго? Вады! Трэба зрабіць выгляд, што нічога асаблівага не здарылася. Вялікая важнасць — вадой аблілі. Ды яшчэ цёплай...

Віця нагнуўся, узяў тазік, адкруціў кран і наліў вады.

Але на верхнім палку былі не тыя хлопцы, каб так хутка нацешыцца з чаго-небудзь смешнага. Калі Віця падышоў да ніжняй прыступкі, яна была ўжо занята. Хлапчукі рассяліся ў такім жа парадку, як мінуту назад сядзелі там, наверсе. Вочы іх паблісквалі задзірыста, нібы гаварылі: а вось мы праверым зараз, што ты за птушка.

Віця зразумеў гэта. Ён нават у нейкую хвіліну хацеў пакінуць усё і пайсці апранацца. Але такое азначала б, што ён прызнае сябе перамоджаным. Не, яшчэ паглядзім, чым усё скончыцца...

З тазікам у руках Віця рашуча падышоў да крайняга хлопчыка, кудлатага, з рыжаватымі вачыма.

— Пасунься, месца ж хапае.

Той абыякава адказаў:

— Цішэй, цішэй, дружа. Ты ж бачыш, Апанас Кныш дарожны пыл змывае. Гэта ён робіць не так часта. Вазьмі вось мне маю шаноўную спіну патры дзеля знаёмства.

— Не хочацца штосьці,— у тон яму буркнуў Віця.— Ды худая яна ў цябе, пальцы паздзіраць баюся.

Хлопцы хіхікнулі. Новенькі ім пачынаў крыху падабацца.

— Нічога, што худы, затое мускулісты,— на гэты раз больш запальчыва абазваўся Апанас.— У мяне во якія мускулы! Не верыш, дык памацай. — Ён сагнуў у локці правую руку так, што пад сінявата схудзелай скурай сапраўды абазначыліся мускулы і выступілі цёмныя жылы.— Во, бачыш?.. Не бойся, мацай смялей...

Віця ведаў, чым звычайна канчаецца такая «проба» мускулаў. Варта было дакрануцца да сагнутай рукі вышэй локця, як яна раптоўна разгіналася, і тады кулак біў цікаўнага ў плячо, а часам і па твары. Хлопчык гэтага, відаць, і чакаў. Аднак усё адбылося інакш. Віця зайшоў трошкі

збоку і моцна стукнуў рабром рукі па тым месцы, якое наіўныя навічкі звычайна павінны былі памацаць. Рука разагнулася, але неяк паціху. Хлопчык сцяў зубы, каб не войкнуць.

— Т-так, а ты, брат, можаш.— Ён неяк адразу абмяк і стаяў, нібы вінаваты. У вачах яго не было ранейшай задзірлівасці. Яны пазіралі не злосна, нават з нейкай тугой. «Дзе ж я гэтага хлопца бачыў?..— думаў Віця.— Дзе?»

— А як ты ў плячах?— падняўся хлопец, што сядзеў пасярэдзіне. Ён стаў тварам да Віці і чакаў адказу. Росту яны былі аднолькавага. Віця бачыў худыя грудзі хлапчука, сінявату скуру, з-пад якой выпіралі рэбры, нібы ў круглым лазовым кошыку. Злева, у тым месцы, дзе сэрца, скура на грудзях у хлапчука ўздрыгвала.

Віцю здалося, што ён нават бачыць, як там, пад скурай, падскоквае сэрца.

— У плячах як? Ды нічога... Можна праверыць,— адказаў спакойна Віця.

Забразгалі тазікі, па мокрай падлозе заляскалі босыя ногі, нібы хто хадзіў па лужыне. Усе хлопчыкі шчыльна абкружылі Віцю і яго праціўніка.

«І гэтага недзе бачыў»,— зноў мільгнула ў Віці ў галаве, калі ён клаў сваю правую руку на левае хлапчукова плячо.

Рука таго лягла на Віцеў плячук. Лёгкая і гарачая, яна злёгку трымцела, але Віця адчуваў, што гэта даволі моцная рука. Па камандзе праціўнікі павінны былі штурхнуць адзін другога далонню ў плячо. Той, хто не варухнецца, лічыўся мацнейшы.

У лазні запанавала цішыня. Чуваць было толькі, як дыхаюць хлапчукі, што цесна збіліся навокал. Кудлаты, які нядаўна даваў памацаць Віцю свае мускулы, цяпер стаяў на ніжняй прыступцы з паднятай рукой, каб даць каманду. Праціўнікі з пакладзенымі адзін аднаму на плечы рукамі стаялі, нібы даўнія сябры, што спаткаліся пасля доўгай разлукі.

«Дзе ж я яго сустракаў?..»

— Р-р-раз!..

Віця адчуў балючы штуршок у плячо і адляцеў амаль да самага акна. Ён ледзь устояў на нагах.

— Наша ўзяла,— аўтарытэтна заявіў самы меншы хлопчык, які ўвесь час не адводзіў вачэй ад Віцевага праціўніка.— Федзя на плечукі ў нас самы моцны. Ён і мяне навучыць. Чакай, а чаму ў цябе сінякі такія на шыі?— здзівіўся раптам малы, паказваючы пальцамі на Віцеву шыю.— Ты вешаўся можа?

Хлапчукі таксама ўтаропіліся на Віцю, нібы толькі што ўбачылі яго.

— А я... А мяне гэта ўчора на станцыі...— Віця ледзь не крыкнуў. Ён успомніў станцыйны хляўчук, міліцыянераў і машыну, якая павезла абадраных хлапчукоў.

— Чэрці, дык я ж вас бачыў!— закрычаў ён неяк радасна.— Вас учора з вагона здымалі. Я ў хлеўчуку сядзеў, усё бачыў. Вось ты ўцёк быў, а тады назад вярнуўся,— паказаў ён на свайго першага праціўніка.— А ты першы ў машыну палез,— узрушана гаварыў другому.— А я думаю, дзе гэта...

— Дык ты таксама тут уліп?— у сваю чаргу загаварылі хлапчукі.

— Не. Я ехаць хацеў... А тады вас у машыну, дык я вечара чакаў... А пасля мяне бандыт задушыць хацеў...

Яшчэ мінуту назад задзірыста і недаверліва глядзелі гэтыя хлопчыкі на свайго незнаёмага аднагодка. А цяпер неяк адразу стала весялей, цяплей на душы ў кожнага з іх. Ён хлопец свой.



Так сустрэліся героі нашага апавядання, тыя што не па сваёй волі злезлі з даху вагона на ціхай палескай станцыі, і той, хто не па сваёй волі не змог паехаць адсюль у пошуках лепшага лёсу.

Калі загадчык дзетдомаўскай гаспадаркі Зінові Цімафеевіч неўзабаве ўвайшоў у лазню, ён убачыў малюнак, ад якога ягоныя кароткія вусы крыху прыўзняліся, а круглы твар расплыўся ва ўсмешцы. Хлопцы мірна гутарылі і гэтак жа мірна мыліся.

Праз паўгадзіны яны выйшлі з сенцаў. Калі б у гэты момант іх убачыў староннi чалавек, ён стаяў бы і думаў: «Дзевяць братоў-блізнят? Не можа быць!»

## РАЗДЗЕЛ IV

Першыя дні ў дзіцячым доме Віця хадзіў нейкі разгублены. Надта ж адрознівалася жыццё ў гэтай неспакойнай і вялікай сям'і ад яго ранейшага побыту. Ноччу, ні з сяго, ні з таго, ён падскокваў на ложку і нема ўскрыкваў. Снілася вайна, аблавы, сніўся чалавек, які душыць за горла. Часам бачыў маці, родную хату. І пасля, як прачынаўся раніцой, было сумна да слёз...

Аднак як толькі даносіўся тупат, смех дзяцей, якія беглі па калідоры мыцца, усё, што снілася, забывалася неяк адразу.

Цяпер Віця спаў не на тапчане, а на самым сапраўдным жалезным ложку з драцяной сеткай, з цёплай суконнай коўдрай, белымі прасцінамі і падушкай. Побач стаяла яшчэ восем такіх жа невялікіх сініх ложкаў. Раніцай, калі дзетдомаўскі гарніст Астап Малевіч, разбуджаны дзяжурным выхавальнікам, прыкладваў да губ медны бліскучы горн і ўвесь дзіцячы дом аж звінеў ад бадзёрай, крыху аднастайнай мелодыі, першы ў пакоі падымаў галаву Апанас Кныш. Ён быў дзіўны, гэты Апанас. Падыме галаву, паглядзіць, што ўсе хлопцы ўстаюць і апранаюцца, пакажа язык і зноў пад коўдру. І так амаль кожны раз.

У калідоры ўсе станавіліся ў два рады і рабілі фіззарадку. Хлопцы з Віцевага пакоя праз Апанаса кожную раніцу выходзілі і на фіззарадку і мыцца апошнімі. Учора Мікалай Пятровіч зрабіў ім за гэта заўвагу. Ён, праўда, нічога асаблівага не сказаў. Адчыніў дзверы пакоя, прывітаўся, паглядзеў і заўважыў:

— У нас санлівых не любяць...

Дзверы зноў зачыніліся.

На хлопцаў гэта не зрабіла асаблівага ўражання. Адны з іх ціха хіхікнулі, другія пераглянуліся. Тады на сярэдзіну выйшаў Федзя Жаўнерык. Губы ў яго чамусьці дрыжалі. Ён моўчкі абвёў вачыма сваіх сяброў, з якімі разам ехаў на вагонным даху, разам трапіў у дзіцячы дом. Яго брат Пеця адчуў нешта нядобрае, бо паціху падышоў і стаў у Федзі за спіной.

— Ты выйдзі,— павярнуўся Федзя да Віці і паказаў яму на дзверы.

Выходзячы з пакоя, Ляўковіч заўважыў, што, прыціхлыя, уставіліся на Федзю ягоныя нядаўнія падначаленыя: Дзіма Гарох, Міша Лебедзь, Лёня Сокал, Максім Зялёнка, Жора Гулеў, Апанас Кныш.

— Вось што, пацаны... У мяне размова кароткая, — задыхаючыся, ціха загаварыў Федзя.— Вы ведаеце, куды я вас вёз і куды мы трапілі. Не адзін я вінаваты, што ўліплі ў гэты прытулак для слязлівых дзяўчынак... Аднак, пакуль мы тут, бузіць не дазволю...

— А што? Што ты мне зробіш? — усхапіўся Апанас.— Я зусім, як захачу, дык ні на фіззарадку, ні снедаць, ні ў школу не пайду...

Апанасавы словы падбадзёрылі астатніх.
— Не выслужвайся! Карміць баландай і так будуць!..
— Н-н-начальства знайшлося!.. Ха!..
Федзя адчуў, што яго ўлада пахіснулася. За гэтыя дні ён яшчэ цвёрда не вырашыў, што рабіць далей: застацца тут, у дзіцячым доме, ці паехаць куды-небудзь у іншае месца. Спрэчкі і патаемныя размовы з гэтага выпадку са сваімі падначаленымі яшчэ не былі закончаны. Але, так ці інакш, ён не мог пакуль што дазволіць каму-небудзь з гэтых хлапчукоў не падпарадкавацца ягонаму слову. Злосна і холадна зірнуў ён Апанасу ў вочы. Ціха, праз зубы, загадаў:
— Н-ну, падыдзі сюды...
І калі той з нахабнай усмешкай падышоў і стаў перад ім амаль носам у нос, Федзя прашаптаў:
— Паўтары, што ты сказаў!..
— Я сказаў: выслужыцца хочаш за лішнюю порцыю баланды...
— Ах, так! — з усёй сілы сунуў Жаўнерык Апанасу ў сківіцу кулаком. Той не чакаў удару. Ён яшчэ ўсміхаўся, калі адчуў страшэнны боль. Ад гэтага ягоны твар неяк скрывіўся, здавалася, што адна яго палова плача, а другая смяецца. Праз хвіліну Кныш апамятаўся. Ён скрыгатнуў зубамі і кінуўся на Федзю. Усё паляцела дагары нагамі. Федзя і Кныш тузаліся у вузкім праходзе паміж ложкамі.
Першы ўскочыў у пакой Мікалай Пятровіч. Твар яго быў сярдзіты, каля правага вока трымцела нейкая жылка, аднак голас быў спакойны:
— Зараз жа спыніць гэта ўсё!
Ды хлопцы не чулі. Нехта дубасіў Федзю падушкай, нехта ашчаперыў Апанаса ззаду і хацеў яго адцягнуць. У Кныша на ілбе ўвачавідкі надуваўся вялізны гуз, у Федзі з носа капала кроў.
Мікалай Пятровіч ступіў крок наперад, і з самай сярэдзіны клубка вяртлявых цел здаровай, левай рукой выцягнуў Федзю. Але Апанас нібы прыліп да Федзі, біў яго рукамі па спіне, па баках. Абараняючыся, Федзя знячэўку рвануў яго за кішэню штаноў. На падлогу пасыпаліся медзякі, пёры, гузікі.
Мікалай Пятровіч загарадзіў сабой Федзю.
— Стаяць! — коратка і строга загадаў ён. — Ні з месца!
Гэта падзейнічала. Выціраючы твары, цяжка дыхаючы, хлопцы пасталі, падцягваючы штаны.
У гэты час, адкуль ні вазьміся, у пакой услед за Віцем шмыгануў маленькі Барыс. Поўзаючы па падлозе, ён хуценька падбіраў вялікія чорныя гузікі, што высыпаліся з Апанасавай кішэні. Потым падбег да Апанасавага ложка і тузануў з-пад падушкі шэрую картовую кашулю, тую, што Апанас забраў у яго ў дадатак да прайграных гузікаў, і выскачыў са сваёй здабычай з пакоя.
Ля адчыненых дзвярэй пакоя сабралася цэлая чарада хлапчукоў. Яны аж на плечы лезлі адзін другому, каб убачыць, што тут робіцца.
— Пабіліся! Новенькія пабіліся! — панеслася па калідоры. — У аднаго гуз, як гарбуз, у другога юшка пацякла!
— Зачыніце дзверы, — павярнуўся Мікалай Пятровіч, — і марш мыцца.
Дзверы зачыніліся. У калідоры затупалі да ўмывальніка цікаўныя хлапчукі. Адтуль яшчэ нейкі час даносіўся гоман. Відаць, у дзетдоме не прывыклі да такіх здарэнняў.
У пакоі стаяла напружаная цішыня. Толькі надакучліва звінела ад ветру шыбіна ў акне ды саплі задыханыя ваякі.
— Хто першы пачаў? — уважліва паглядзеў на хлапчукоў Мікалай Пятровіч.



Тыя маўчалі, пераступаючы з нагі на нагу.
— Я пытаю, хто першы пачаў біцца? — яшчэ раз нягучна, але так, што ў кожнага з хлопцаў нешта ёкнула ў сярэдзіне, спытаў Мікалай Пятровіч.
Усе зірнулі на Федзю. Той стаяў, як глухі.
Прайшла можа цэлая мінута.
Апанас і Федзя па-ранейшаму стаялі моўчкі, толькі час ад часу злосна пазіралі адзін на аднаго. «Зараз вазьму і скажу,— падумаў Віця. Яму было непрыемна стаяць у гэтай мёртвай цішыні.—Скажу, што я першы пачаў біцца. А там, што будзе». Ён ужо і рот раскрыў, як раптам з-за Федзевай спіны ступіў уперад Максім Зялёнка. Цвёрда і спакойна ён сказаў:
— Я пачаў біцца першы... Я на фіззарадку не хацеў ісці, а ён,— Максім кіўнуў на Федзю,— пачаў мяне сілай цягнуць... Ну, я і стукнуў... А ён мяне... Апанас яго...
Хлопцы дружна ўздыхнулі, заварушыліся. Непрыкметна пачалі штурхаць адзін аднаго локцямі... «Вось табе і Макс... А такім палахліўцам прыкідваўся... Цяпер Федзя ў дурнях застаецца... Мы з яго пасмяемся яшчэ...»
— Гэта праўда так было? — перапытаў Мікалай Пятровіч.
— Усё было так, як ён кажа,— чамусьці першы азваўся Віця. Ён ад-



чуваў, што хлусіць. Ад гэтага было вельмі няёмка. «Але ж Максім таксама схлусіў, узяў віну на сябе. Ён жа не для сябе аднаго, а для ўсіх зрабіў. А то нямаведама колькі б яшчэ маўчалі. Дырэктар мог раззлавацца, і тады хто яго ведае, чым бы ўсё гэта скончылася...»

Мікалай Пятровіч з хвіліну маўчаў. Пасля адхінуў рукаў шыняля, зірнуў на гадзіннік і перавёў позірк на хлопцаў:

— Вось што я вам скажу... Цяпер няма часу. Засцяліце ложкі, памыйцеся... Фіззарадку вы так-сяк зрабілі,— ён усміхнуўся, паказваючы на параскіданыя падушкі.— Паснедайце — і ў школу. А вечарам разбярэмся. І яшчэ адно. Напэўна, прыйдзецца вас рассяліць. Я разумею, вы даўно здружыліся, і ўсё такое. Але ж самі бачыце: у нас, у дзіцячым доме, біцца нікому не дазволена. Вось так. Я падумаю да вечара.

Ён павярнуўся і выйшаў. Хлопцы чакалі ўсяго. Яны ведалі, што іх пакараюць: пакінуць без снедання, без абеду, прымусяць месці двор або рабіць што-небудзь іншае. А тут вунь як павярнулася... Калі іх расселяць па розных пакоях, ім будзе горш, бо ў хлопцаў ёсць свае планы, свае меркаванні. Першае і адзінае, аб чым яны цвёрда дамовіліся, калі трапілі ў дзіцячы дом, не разлучацца. А гэты чалавек у вайсковым шынялі, можа, сам таго не ведаючы, паабяцаў ім самае горшае пакаранне, якое можна было прыдумаць.

Цікава, сапраўды ён гэта хоча зрабіць ці проста палохае? Разгубленыя хлопцы моўчкі зірнулі адзін на аднаго і ўзяліся засцілаць ложкі.

Атрымалася так, што ў шосты клас, акрамя Віці, былі залічаны і Федзя Жаўнерык, і Дзіма Гарох, і Лёня Сокал, і Максім Зялёнка, і Апанас Кныш, і Жора Гулеў — амаль усе тыя хлопцы, якія трапілі ў дзетдом проста з вагоннага даху.

Мікалай Пятровіч сам адвёў новенькіх у школу. Доўга раіўся пра нешта з дырэктарам, з настаўнікамі. І хлопцаў залічылі ў шосты клас.

— Разам вам будзе весялей, ды і па ўзросту ў дзіцячым доме вы самыя старэйшыя,— сказаў ён хлопцам.

І сапраўды, не ўсё тое, што яны ведалі з пятага класа, выветрылася ў час бадзяння па рынках і чыгуначных станцыях.

У дзіцячым доме ўсе хлопцы былі залічаны ў самую старэйшую — першую групу. Акрамя іх, у гэтай групе былі і пяцікласнікі.

У гэты дзень Федзя і яго аднадумцы былі самыя прыкладныя. Выхавальніца Валянціна Зіноўеўна не зрабіла ім ніводнай заўвагі ні ў сталовай, ні ў час падрыхтоўкі ўрокаў у рабочым пакоі. Пад вечар хлопцы самі прыйшлі на кухню і спыталі ў кухара Паўліны Антонаўны, ці не трэба, часам, дроў насекчы. Дровы былі, але ж запас бяды не робіць. Яны так пастараліся, што Паўліна Антонаўна аж пахваліла іх:

— Вось малайцы!.. Цяпер на цэлы тыдзень хопіць.

Аднак нішто іх не радавала. На душы ў кожнага было нявесела. Як толькі яны заставаліся хоць на мінуту адны, усе заняткі адкладваліся ўбок, і восем галоў збіваліся ў цесную кучку. Хлопцы раіліся, што рабіць. Варожасці паміж Федзем і Апанасам цяпер не было і следу. Бойка была забыта, як рэч самая дробязная і непатрэбная. Віця заўважыў, што яна нібы зблізіла гэтых двух задзіракаў. Ды і сам Віця быў цяпер сярод усіх гэтых хлопцаў свой чалавек. У час кароткіх, але гарачых спрэчак прыслухоўваліся і да ягонага слова.

Самай сур'ёзнай была апошняя нарада, калі, накалоўшы дроў, хлопцы сабраліся за лазняй. Апанас Кныш выказаўся катэгарычна і ясна:

— Хопіць тут сядзець. Вопратку нам далі, жратвы на дарогу сёння ў час вячэры прыдбаем. А там — ф'юіць! — шукай ветру ў полі. Калі



ноччу сёння не абарвемся, дык заўтра будзе позна. Гэты Чырак прыбярэ да рук... І не яўкнеш, як па розных пакоях растасуе. Ды і наогул пляваў я на ўсё!.. Падумаеш, кормяць, у школу пасылаюць... Я вучаны, у мяне свая навука!

Хлопцы стаялі моўчкі. Па іх тварах цяжка было здагадацца, згодны яны з Апанасам ці не. З двара даносіліся дзіцячыя галасы. Там у нешта гулялі.

Віця адчуў, што сэрца яго забілася часцей. «Вось куды ўсё паварочваецца». Ён зірнуў на свае новыя чаравікі, на сіняе суконнае паліто. «Гэта ж усё грошы каштуе. Уцячы, значыць, украсці. А як зловяць?»

Усе моўчкі пазіралі на свайго важака. Той гэта заўважыў, але загаварыў не адразу. Ён знарок набіваў сабе цану: вось, бачыце, без мяне вы і кроку ступіць баіцёся. Так вам і трэба. Пастойце, пахвалюйцеся. Аднак залішне доўга маўчаць было нельга: яшчэ падумаюць, што Федзя і сам не ведае, што рабіць. Таму ён азірнуўся і загаварыў ціха, таямніча:

— Уцячы адсюль лёгка — станцыя побач, садзіся і каці... Але ж у гэтым адзенні далёка не ўцячэш. Адразу ўбачаць, што з дзетдома... Зловяць, дык сюды ўжо не павязуць, а куды-небудзь у іншае месца. Могуць і ў калонію. Так што трэба падумаць.

Ён змоўк. Яго карычневы ад загару і вятроў, прыпухлы ад частага галадання твар быў задумёны. «А чорт яго ведае, можа і не варта ўцякаць... Можа да вясны пабыць тут. Не так ужо і кепска ў гэтым дзетдоме. У школу хадзі, вучыся сабе. Бацька некалі гаварыў, што машыністы — людзі адукаваныя. Сам ён вунь колькі ўсяго ведаў... А я ж таксама, як вырасту, машыністам буду. Хто яго ведае. Можа не ўцякаць?..» Федзя і не заўважыў, што думае ён залішне доўга. Хлапчукі занепакоіліся.

— А што? Зімаваць тут? — зноў загарачыўся Апанас.— Ды гэтыя шмоткі я ў адзін міг сплаўлю. Рынак амаль пад бокам. Прамяняем паліто, яшчэ і грошай у прыдачу возьмем!

— Чакай, чакай... Як жа ты прамяняеш? Паліто не гузік. Убачаць адразу,— уставіў Лёня Сокал.— Уліпнеш, як муха.

— Я? Я не такія рэчы мяняў! — Апанас аж голас павысіў: — Хочаш, дык сёння ноччу на вакзале абмяняю не толькі тваё паліто, але і цябе самога. Праўда, ты кволы надта, хто цябе возьме,— закончыў ён, скептычна паглядаючы на Лёню.

Той не пакрыўдзіўся. Толькі махнуў рукой і адступіў крыху назад. Увесь яго выгляд нібы гаварыў: «Мне што, куды ўсе, туды і я».

Віця заўважыў, што такой думкі трымаюцца амаль усе хлопцы. Яны за ўвесь час не сказалі ні слова. Віцю пачынаў апаноўваць страх. «Вам што, селі і паехалі. А мне? Вунь дзед пісьмо прыслаў, просіць, каб вучыўся добра. Усё-такі тут родныя мясціны, а там? Заедзеш куды-небудзь з гэтым Кнышам. Ён красці навучыць, курыць. Ну, а далей?»

Віця за сённяшні дзень знелюбіў Апанаса. Можа, каб не ён, дык усё было б добра. А тут стой і калаціся.

Аднекуль з-за частаколу да лазні пачалі падкрадвацца прыцемкі. Заціхлі дзіцячыя галасы. Недзе далёка прасвістаў паравоз. І, нібы ў адказ яму, з дзетдомаўскага ганка рвануў паветра звонкі Астапаў горн:

— Бяры лыжку, бяры бак,
А не хочаш, ідзі так...

Хлопцы схамянуліся. Пара ісці вячэраць. Загаварылі адразу, перабіваючы адзін другога, спяшаючыся.

— Дык едзем?

— Ціха, вунь Цыганюк сюды бяжыць...
— Як жа будзе?..
— Пасля вячэры яшчэ збярэмся.
Віця ўздыхнуў з палёгкай, калі з-за вугла выскачыў маленькі Барыс.
— А я вас шукаю! Вашай групе вячэраць. Пахаваліся тут, а вас чакаюць,— Барыс павярнуўся і шмыгнуў за вугал гэтак жа раптоўна, як з'явіўся.
— Добра, размову закончым пасля вячэры. Толькі нішкні,— папярэдзіў хлапцоў Жаўнерык.— А то магіла.— Ён чамусьці зірнуў на Віцю і першы выйшаў з-за лазні.
Першая група, як самая старэйшая ў дзетдоме, вячэрала апошняя. Спачатку снедалі, абедалі і вячэралі заўсёды самыя меншыя.
Калі з шумам і смехам выбеглі са сталовай малышы, іх месцы занялі старэйшыя выхаванцы.
У самым канцы вячэры Адам Капа сабраў у хлопцаў белыя алюмініевыя талеркі і неўзабаве прынёс іх зноў, напоўненыя гарохавай кашай. І сказаў:
— Вы дровы секлі, дык гэта дабаўка...
Другі раз хлопцы з'елі б не толькі па лішняй порцыі, але, відаць, папрасілі б яшчэ па адной. А цяпер... Яны моўчкі пакорпаліся ў талерках, адсунулі іх ад сябе. Адам быў здзіўлены. Не хочуць есці кашы!.. Такой кашы!.. А ён так стараўся дзеля іх, так угаворваў Паўліну Антонаўну, каб выдала добраахвотным дрывасекам дабаўкі.
— Г-гэ-гэта вам, вы ж дроў столькі насеклі... — Ён глядзеў то на хлапчукоў, то на талеркі.
— Не хочацца нешта...
Пасля нарады за лазняй хлопцы не перакінуліся паміж сабой ніводным словам, але кожны адчуваў: сёння павінна ўсё рашыцца. Было цяжка, аж у грудзях нешта дрыжала. Віця бачыў, як Федзя абыякава качае па выскрабленым да жаўцізны стале хлебны шарык, як Максім Зялёнка складвае піраміду з двух лыжак, як Жора Гулеў ціхенька выстуквае нешта пальцамі па краі талеркі. Адзін толькі Апанас робіць выгляд, што нічога не ведае. Ён з'еў сваю кашу, пасля штурхнуў локцем Лёню Сокала і вачыма паказаў на ягоную дабаўку: калі ты не хочаш, дык я з'ем, чаго там. Той кіўнуў галавой. Апанас зноў уткнуўся ў талерку і забразгатаў лыжкай. Адам Капа, разгублены і пакрыўджаны, яшчэ з хвіліну пастаяў і пачаў збіраць талеркі.
— Што ж, хадзем,— нібы сам сабе сказаў Федзя і моўчкі вылез з-за стала. Астатнія таксама падняліся. Азірнуўшыся па баках, Апанас хуценька схаваў за пазуху дзве порцыі хлеба — сваю і яшчэ адну: відаць, у некага сцягнуў.
Са сталоўкі ён выходзіў апошні. Ужо з ганка Віця пачуў, як ззаду, у цёмным калідорчыку, нехта шапнуў:
— Вось бяры... Апошнюю, больш я табе нічога не вінен.
І ў адказ такі ж ціхі, але злосны Апанасаў голас:
— Брысь, цыганё! Яшчэ за кашулю трэба было б здзерці, але няхай... Не да цябе...
Ля дзвярэй сваёй спальні Віця заўважыў, як у памяшканне ўбег задыханы Барыс, а следам за ім увайшоў з адтапыранай на жываце кашуляй Апанас Кныш.
«Во прыліп, як слімак!.. Не дае жыцця малому». Ён спыніўся і чакаў, пакуль падыдзе Апанас. Хацелася пацягнуць яго за кашулю, каб адтуль выпаў хлеб, стукнуць па носе. Але тады паўторыцца ранішняя гісторыя. Віця моўчкі пацягнуў за клямку і ступіў у спальню.
Ад раніцы Віцю не давала спакою думка, як з імі ўвечары будзе размаўляць дырэктар. Уяўлялася, што, злосны і маўклівы, ён зойдзе ў спальню і скажа: «Мне ў дзетдоме хуліганаў не трэба. Вось ты,— пакажа пальцам на Апанаса,— і ты,— кіўне на Федзю,— можаце сёння ж выбірацца, куды хочаце. Хлусоў таксама трымаць не буду. Гэта ўжо ён скажа пра Віцю... А вас, гэта значыць усіх астатніх хлопцаў, рассялю па розных спальнях... Вось так. Зразумела?..» Непакоіла і думка пра вопратку, якую дадуць, калі выганяць будуць. «Нашу ж спалілі... Я сам бачыў... Тады, у лазні...»
Калі Віця, а следам за ім і Апанас пераступілі парог спальні, яны не маглі адразу зразумець, што тут робіцца.
Пасярэдзіне пакоя на спінках чатырох ссунутых ложкаў ляжала аконная рама. «Шыбы, напэўна, нехта выбіў. Цяпер яшчэ і за гэта адказваць прыйдзецца»,— падумалі хлопцы і нават крыху падаліся назад, у калідор. Але, зірнуўшы на вокны спальні, што двума цёмнасінімі прахонамі адгароджвалі вячэрнія прыцемкі ад святла, запаленага ў пакоі, здагадаліся, што яны цэлыя. Цікава! Што ж тут такое робіцца?
Ля аконнай рамы тоўпіліся хлапчукі. Мікалай Пятровіч з закасаным левым рукавом гімнасцёркі нешта ім тлумачыў, водзячы шырокім і бліскучым на канцы долатам па краі шыбіны. Ён стаяў ля самай сцяны. З гэтага боку аконнай рамы, спіной да дзвярэй, стаяў загадчык гаспадаркі Зіновi Цімафеевіч. Ён таксама нешта рабіў, таму што локці яго ўвесь час варушыліся. Хлопцы бачылі толькі яго круглую патыліцу з пасівелымі рэдзенькімі і кароткімі валасамі.
Калі Віця і Апанас паціху праціснуліся да рамы, яны ўбачылі, што загадчык гаспадаркі і амаль усе хлопцы разміналі ў далонях белавата-жоўтыя тлустыя галушкі аконнага кіту. «Вось яно што! Акно кітуюць! А як жа з размовай?»
Віця зірнуў на Апанаса. Той нібы зразумеў яго думкі і паціснуў плячыма. Маўляў, я ведаю столькі, колькі і ты.
— А-а-а, падмога прыйшла!— першы загаварыў дырэктар.— Давайце папрацуем. Сюды вось станавіцеся, сюды... А вы, Зіновi Цімафеевіч, можаце ісці... Час позні. Мы тут самі ўсё зробім — справа знаёмая.
Зіновi Цімафеевіч выпрастаўся і маленькім складаным ножыкам пачаў акуратна саскрабаць з тоўстых рубцаватых пальцаў кавалачкі кіту.
— Ну, хлопцы-малайцы, папрацуйце, папрацуйце... Павучыцеся, як ад холаду і ветру ратавацца трэба. Зіма сёння тэлеграму прыслала, яна недзе ўжо ля Смаленска... Падвойныя вокны якраз пара ўставіць...
Ён злёгку пастукаў хлопцаў далонямі па плечуках і падштурхнуў іх да акна.
Кітаваць акно было цікава. Федзя Жаўнерык, Лёня Сокал, Дзіма Гарох, Жора Гулеў, якія раней за Віцю і Апанаса прыйшлі пасля вячэры ў пакой, ужо ўмелі гэта рабіць. Яны адшчыквалі кавалкі кіту і разміналі яго ў пальцах, а потым клалі доўгія, нібы дажджавыя чарвякі, палоскі па краях шыбін і прыціскалі да рамы. Мікалай Пятровіч уважліва і асцярожна прымерваўся, а пасля лязом долата, паставіўшы яго ўпоперак палоскі і нахіліўшы крыху ўправа, да шыбіны, цягнуў паціхеньку да сябе. Па краях долата завіваліся танюсенькія ніткі-абрэзкі, а на шыбіне, там, дзе яна ўпіралася ў раму, заставалася роўнае і гладкае, нібы зробленае машынай, а не звычайным долатам, шво з кіту. Лёня Сокал ад цікаўнасці памацаў свежую палоску і сапсаваў яе. Мікалай Пятровіч працягнуў яму долата і сказаў:
— Вазьмі зараўняй...
Лёня прыклаў долата да шыбіны. Рукі ў яго трохі дрыжалі, галава

схілілася на бок, ён прыжмурыў левае вока, прыцэліўся. І калі ў хлопцаў, што сачылі за ім, здавалася, ужо не хопіць дыхання, Лёня схіліў галаву на бок і прыжмурыў правае вока. Долата скранулася з месца і ўрэзалася ў мякаць кіту. З-пад яго пабегла вузенькая палосачка — умяціна ад пальцаў знікла. Лёня адняў долата і з палёгкай уздыхнуў. Твар яго свяціўся радасцю, вочы бліשчалі, ён выціраў рукою лоб, і ўвесь яго выгляд нібы гаварыў: «Вось, самі бачылі... Я не горш, чым Мікалай Пятровіч, умею цяпер акно кітаваць».

Хлопцы ўздыхнулі, заварушыліся, загаварылі, наперабой працягнулі рукі, каб узяць долата ў Лёні. Але амаль усё акно было ўжо закітавана. Толькі там, дзе стаялі Віця і Апанас, кіт быў яшчэ не разгладжаны, не зараўняны.

Хлопцы стаялі і амаль малітоўна пазіралі на Мікалая Пятровіча. Няўжо ён не разумее, чаго яны хочуць? Няўжо яму шкада, каб яны самі зрабілі роўнай прылепленую да шыбіны жоўтую палоску?

І Мікалай Пятровіч зразумеў іх. Ён узяў у Лёні долата і падаў Віцю. Калі хлопец працягнуў долата па краі шыбіны і ўбачыў, што шво атрымалася роўнае, ён гатовы быў падскокваць ад радасці. Невялікі пакой з падвешанай над галавой жалезнаю лямпай-газоўкай, з вузкімі праходамі між ложкаў, з аконнай рамай, вакол якой цесным колам стаялі яго новыя сябры, зрабіўся большы і святлейшы. Тое, што вечарам тут павінна была адбыцца непрыемная размова з дырэктарам, чамусьці забылася. Нібы нічога і не было: ні бойкі, ні патаемнай нарады за лазняй... Надта ж хораша было працаваць з дырэктарам!.. Забыў пра хлеб, схаваны за пазухай, і Апанас. Гэта ледзь не наклікала на хлопцаў новую, магчыма, яшчэ большую бяду.

Апанас, беручы долата ў Віці, ці то ад хвалявання, ці то ад няўважлівасці, упусціў яго з рук. Ён тут жа хуценька нагнуўся, каб падняць інструмент, і ў хлопцаў аж у ваччу пацямнела: з-за пазухі ў Кныша вываліліся дзве порцыі хлеба. Віця спалохана зірнуў на Федзю. Той збялеў, як палатно, і, здавалася, скамянеў. Але гэта доўжылася можа нейкую дробязную долю секунды. У наступны момант Жаўнерык борздзенька згроб хлеб на ложак. Максім Зялёнка гэтак жа хутка запіхнуў лусты пад падушку.

Калі спалоханыя хлопцы паднялі вочы і зірнулі на дырэктара, той стаяў і, быццам нічога не здарылася, пазіраў на наручны гадзіннік. Твар яго быў маўклівы, вочы нібы пахаладзелі.

«Бачыў ці не? — прамільгнула ў галаве ў Віці.— Напэўна, не. Інакш бы не маўчаў».

У пакоі стала ціха і нядобра, як тады, раніцай. Віця адчуў, што чырванее, кончыкі вушэй у яго аж гарэлі.

«Бачыў ці не?» — толькі позіркамі вачэй пыталіся хлопцы адзін у другога.

Не. Напэўна, не бачыў.

Мікалай Пятровіч паглядзеў на хлопцаў і весела сказаў:

— Застаецца толькі ўставіць акно... Але гэта зробім заўтра. А цяпер — мыць рукі і спаць. Хутка адбой.

Ён памог паставіць акно ў куток, рассунуць ложкі і ўжо зняў з вешалкі ля дзвярэй шапку, калі Віця спытаў, што будзе ім за ранейшую бойку.

— Што будзе? — Мікалай Пятровіч папраўляў шапку на галаве. — Нічога... Вы ж, я бачу, паміраліся... Болей біцца не будзеце? Праўда?

— Што вы! Мікалай Пятровіч, гэта мы проста так... Выйшла так, што пабіліся,— загаварылі хлопцы.



— А так мы спакойныя. Мы не будзем...

— Ну і добра! Спакойнай ночы!

— Усяго добрага, Мікалай Пятровіч!

Ціха рыпнулі і шчоўкнулі замкам дзверы. А калі дырэктаравы крокі заціхлі ў канцы калідора, да Апанаса Кныша са сціснутымі кулакамі падышоў Федзя Жаўнерык. Апанас сагнуўся, забегаў вачыма па баках. Але падмогі не было. Моўчкі падышлі да яго астатнія хлопцы.

— Еж, сука! — коратка загадаў Максім Зялёнка, сунуўшы яму пад нос лусты хлеба.

— Еж,— коратка, нібы рэха, паўтарылі хлопцы.

— Еж, а то...— паглядзеў на дзверы Жаўнерык,— а то сілай у рот напхаем!

Калі над дзетдомаўскім ганкам ускінуў свой горн Астап Малевіч, хлопцы паменшылі ў лямпе агонь і пасталі ў круг. У сярэдзіне гэтага круга стаяў Апанас Кныш. Ён еў хлеб. Восем пар вачэй сачыла, каб ніводная крошка не ўпала на падлогу.

## РАЗДЗЕЛ V

Да мястэчка падкрадваліся першыя замаразкі. Раніцай на дахах дамоў і дашчатых тратуарах бялеў іней. Лужынкі на дзетдомаўскім двары за ноч пакрываліся лёдам. Дзеці наскамі чаравікаў спрабавалі, ці моцны ён, і са смехам абтрасалі ногі ад халоднай вады — лёд з ціхім трэскам ламаўся.

Зямля цвярдзела. Падціснутая першымі замаразкамі, сохла гразь на вуліцах, і там, дзе яшчэ ўчора ногі вязлі ў шэрым месіве, раніцай можна было чаравікам пастукаць па цвёрдых, нібы каменьчыкі, мерзляках. Дні стаялі ціхія — без ветроў, без сонца. Быў той час, калі восень, удоваль прамачыўшы зямлю дажджамі, пазрываўшы з дрэў лісце, нібы стамілася і чакала, пакуль прыйдзе зіма і пафарбуе ўсё пад адзін колер. Зіма не спяшалася. Затое спяшаліся людзі.

Кожную раніцу загадчык дзетдомаўскай гаспадаркі збіраўся ў лес па дровы. Ён выязджаў на вялізным вайсковым возе, з якога былі зняты драбіны. Воз цягнуў такі ж вялізны гняды конь — Фрыц. Ён быў нямецкі, трафейны. На лапатцы ў яго, нібы скручаная вужака, чарнеў выпалены жалезам нумар. Усе гаварылі, што гэты конь атручаны і скора здохне. Але Зінові Цімафеевіч не верыў гэтаму. Ён даглядаў каня і прывучыў да яго дзяцей. Фрыц быў рахманы, і, калі яму давалі хлеб, ён шырока выскаляў вялізныя, нібы далоты, жоўтыя зубы, з'ядаў ласунак і задаволена махаў галавою. Цягнуў Фрыц добра.

Тыдні за два з лесу, што віднеўся за мястэчкам, на дзетдомаўскі двор перавезлі кубаметраў сорак дроў, якія выдзеліла лясніцтва. У вольны час каля лазні звінелі навостраныя і разведзеныя Зіновіем Цімафеевічам дзве пілы. Дзеці рэзалі сухі алешнік і складвалі дровы ў штабель. Пад вечар, калі яны садзіліся рыхтаваць урокі, Зінові Цімафеевіч браў вялізны калун.

Але не адны толькі дровы патрэбны былі на зіму. Амаль кожны дзень са станцыі або аднекуль з вёскі міліцыянер ці так які добры чалавек прыводзіў у дзетдом замурзаных, галодных і абарваных дзяцей.

Зінові Цімафеевіч прыносіў са склада сінія жалезныя ложкі і ставіў у невялікіх пакоях, адведзеных пад спальні. З кожным днём у спальнях рабілася цясней.

Дырэктар і загадчык гаспадаркі часта паглядвалі на доўгі дом, што

стаяў насупраць, праз вуліцу. Да вайны тут была гасцініца. Цяпер гэты будынак пуставаў. Усё, што можна было з яго вынесці (вокны, дзверы, нават дзверцы і юшкі ад грубак), было вынесена і расцягнута запаслівымі жыхарамі мястэчка і навакольных вёсак. У цёмным калідоры былой гасцініцы шугаў вецер, а са сцен, калі хлапчукі гулялі тут у вайну, сыпалася тынкоўка.

Мікалай Пятровіч некалькі разоў хадзіў у райкамунгас, каб аддалі былую гасцініцу пад дзіцячы дом. Але там ніяк не маглі вырашыць, што з ёю рабіць — рамантаваць або заняць пад склад. Пад дзіцячы дом аддаваць не хацелі.

Аднойчы ў асенні дзень, калі «вайна» ў пустых абшарпаных пакоях гасцініцы была ў поўным разгары, туды прыйшлі людзі. Мікалай Пятровіч і выхавальнікі не дазвалялі гуляць у разбітым будынку. І цяпер, ледзь толькі хлопцы ўбачылі дырэктара і яшчэ нейкіх трох мужчын, яны адразу спынілі баявыя дзеянні і сыпанулі праз вокны хто куды.

Калі мінуты праз дзве Віця выткнуў з-за вугла стрыжаную галаву, каб зірнуць, хто гэта патрывожыў іхнюю гульню, дык убачыў Мікалая Пятровіча, двух незнаёмых мужчын і ззаду за імі чалавека ў сінім міліцэйскім шынялі. Двух ён адразу пазнаў: загадчык райана і Гразоўскі, начальнік міліцыі. Чаго яны сюды прыйшлі? Ага, ці не наскардзіўся ім Мікалай Пятровіч?

Віця подбегам пусціўся праз вуліцу на дзетдомаўскі двор. Грудзі ў яго разрываліся ад крыўды на Мікалая Пятровіча. «Мусіць, ён тады бачыў, як у Кныша з-за пазухіываліўся хлеб, і пра ўсё здагадаўся. Дык няхай бы аблаяў, пакараў, а то паціхеньку ў міліцыю падаўся. Ды і той, у сінім шынялі... Яшчэ запісачку пісаў, а сам... лавіць прыйшоў... Дудкі!»

А ля старой гасцініцы тым часам адбывалася такая размова:

— Не ўправіцеся, Мікалай Пятровіч, сваімі сіламі... Лепш пакуль што не прымаць нікога ў дзетдом, — гаварыў начальнік міліцыі Гразоўскі.

— А я раю зараз жа брацца,— запярэчыў загадчык райана.— Што ў нашых сілах — паможам.

— Дарэмная паспешнасць. У мяне тут усё падлічана, — падаў голас мужчына, якога Віця не пазнаў.— Лепш пачакайце, пакуль з вобласці памогуць, тады і пачнем.

Усе пазіралі на Мікалая Пятровіча. Ён быў усхваляваны.

— У вас сваё, а ў мяне сваё, — нарэшце сказаў ён. — Мне даручылі дзяцей выхоўваць, а не спрэчкамі займацца. Калі трэба, мы самі ўсё зробім. Я вось тут прыкідваў...

Ён дастаў з кішэні паперку і пераступіў парог пустога дома. За ім пайшлі астатнія.

Калі мінут праз сорак дырэктар і тыя, хто быў з ім, выйшлі з былой гасцініцы, абтрасаючы з вопраткі пыл і пясок, дзетдомаўскі двор апусцеў.

— Так і зробім. Я раіўся ў райкоме і ў аблана,— гаварыў Мікалай Пятровіч, развітваючыся з мужчынамі.— Будзем пачынаць сваімі сіламі...

Гэтыя словы дырэктара якраз і пачуў маленькі Барыс. Ён трапіў Мікалаю Пятровічу на вочы адразу, як той развітаўся з начальнікам міліцыі і загадчыкам райана.

— Мікалай Пятровіч, чаго гэтыя дзядзькі прыходзілі? — ідучы побач з дырэктарам, дапытваўся Барыс.

— Э-э, дарагі, тут справа сур'ёзная. Вечарам збярэм усіх на сход, тады і скажу. А цяпер сакрэт... Зразумеў?



«Ну і справы! Міліцыя... Сход... Тут нешта не так,— падумаў Барыс.— Трэба хлопцам расказаць!»

Праз паўгадзіны ў цеснай канцылярыі дзіцячага дома выхавальнікі сабраліся на педагагічны савет. За выключэннем кухара Паўліны Антонаўны, тут былі ўсе, хто працаваў у дзіцячым доме: тры выхавальніцы — Валянціна Зіноўеўна, Тацяна Кузьмінічна, Ларыса Змітраўна,— загадчык гаспадаркі, прыбіральшчыца цётка Зіна, краўчыха Наталля Яўхімаўна, бухгалтар Марыя Міронаўна, медсястра Лідзія Міхайлаўна. Пакуль чакалі завуча Анатоля Пятровіча, выхавальніцы коратка расказалі Мікалаю Пятровічу, як дзеці рыхтуюць урокі ў групах, медсястра, загадчык гаспадаркі і бухгалтар паспелі скласці меню на заўтрашні дзень.

Настрой ва ўсіх быў прыўзняты, бо ведалі, што пад дзіцячы дом аддадзена разбітая гасцініца. Гэта ж вунь колькі месца! Там і спальні можна размясціць, і рабочыя пакоі. Ведалі і тое, што грошай на рамонт памяшкання няма. Таму адначасова з радасцю закрадвалася і трывога: як жа зрабіць рамонт?

Высокая, худая бухгалтарка Марыя Міронаўна ціха перашэптвалася з выхавальніцай Валянцінай Зіноўеўнай. Пальцы яе па прывычцы перакідвалі костачкі на лічыльніках, а вочы здзіўлена пазіралі на субяседніцу.

— Грошай на рамонт ні капейкі. А ён,— ківала яна на дырэктара,— хоча да зімы ўправіцца з рамонтам. Не ведаю, як гэта ён зробіць. Дальбог не ведаю...

— Нешта ж трэба рабіць. Цесната ў нас. У маёй групе дзяўчынкі па двое спяць на ложках...— Валянціна Зіноўеўна папраўляла на грудзях канцы шэрага суконнага шаліка і задуменнымі вялікімі вачыма пазірала на Марыю Міронаўну.

Мікалай Пятровіч, абапёршыся локцем на стол, нешта пісаў чырвоным алоўкам на аркушы паперы, падводзіў рысу і падсоўваў усё гэта Зіновію Цімафеевічу. Той паважна сядзеў ля стала, не прапускаў ніводнага дырэктаравага слова і толькі пазногцем вялікага пальца падкрэсліваў штосьці на дырэктаравым аркушы.

— А мне здаецца, так будзе зручней.— Мікалай Пятровіч сціскаў рукою падбародак, на хвілінку задумваўся, часам закрэсліваў нешта, і ўдвух яны зноў схіляліся над паперай.

Мінут праз дваццаць прыйшоў завуч Анатоль Пятровіч.

— Прабачце, што затрымаўся...— паціраючы рукі, сказаў ён.— У школу хадзіў. Сёння двое з вашых,— ён холадна паглядзеў на Валянціну Зіноўеўну,— уцяклі з апошняга ўрока. Высвятліце і прыміце меры.

Валянціна Зіноўеўна пачырванела, прыўзнялася з месца і ціха сказала:

— Я ведаю. Гэта Апанас Кныш і Лёня Сокал. Я ўжо гаварыла з імі...

— Будзем пачынаць,— падняўся з-за стала Мікалай Пятровіч.— Лісток з вучнёўскага сшытка ледзь прыкметна трымцеў у яго руцэ.

— Сёння, нарэшце, пад дзіцячы дом аддалі былую гасцініцу. Ёсць пастанова райвыканкома.

Усе заварушыліся, загаварылі.

— Даўно пара! А то дзецца няма дзе. Цесната.

— Новенькія кожны дзень прыбываюць, спаць хоць на падлозе кладзі.

— А як з рамонтам? — спахапіўся завуч.— Зіма на носе. Агледзеліся, калі аддаваць,— незадаволена бурчаў ён.— Хай бы райкамгас адрамантаваў, тады і ўзялі б, а то паспяшылі, Мікалай Пятровіч.

— І пра рамонт скажу.— Дырэктар уважліва абвёў вачыма ўсіх і працягваў: — Рамонт будзем рабіць самі, сваімі сіламі. Я тут прыкідваў з Зіновіем Цімафеевічам. Матэрыялы нам абяцалі выдаваць, а рамантаваць будзем самі — выхавальнікі і старэйшыя выхаванцы. У шостым класе ў нас вунь якія хлопцы... Я думаю, гэтае пытанне сёння мы і абмяркуем. Хто хоча выказаць свае думкі — прашу.

Педагагічны савет цягнуўся нядоўга, але быў вельмі бурны. Калі б педагагічная навука дазваляла выхаванцам чуць хаця б дзесятую долю таго, што пра іх гавораць выхавальнікі, вынікі, відавочна, і ў дысцыпліне і ў паспяховасці былі б самыя выдатныя. Выхаванцы даведаліся б, што кожны з іх не проста хлопчык або дзяўчынка, пяцікласнік або шасцікласнік, але і «індывідуальнасць» з нахільнасцямі да чаго толькі хочаш, за выключэннем галоўнага — вучобы. Сёння ж нашы хлопцы пачулі б пра сябе і яшчэ шмат чаго цікавага. Асабліва з выступлення завуча Анатоля Пятровіча, якога дагэтуль яны проста, без ніякіх на тое падстаў, не любілі і пабойваліся.

На жаль, гэтай прамовы хлопцы не чулі.

Нічога пакуль што не ведалі яны і пра агульны сход выхаванцаў, прызначаны на вечар.

І якраз не ведалі тыя, каго гэта датычыла ў першую чаргу — хлопцы з Віцевага пакоя. А не ведалі па той простай прычыне, што іх ужо не было ў дзетдоме...

Прыбегшы ў дзетдом, бледны і спалоханы, Віця адвёў убок Федзю Жаўнерыка:

— Слухай, нас прыйшлі арыштоўваць. Я сам чуў... Начальнік міліцыі, загадчык райана, яшчэ нейкі — напэўна, пракурор. Жывот во які... З партфелем. Р-р-разумееш, лавіць прыйшлі...

Федзя спачатку не разумеў, у чым справа. Але паступова да яго пачаў даходзіць сэнс Віцевых слоў. Ён адразу нахмурыўся і пачаў азірацца па баках.

— Дай чэснае слова, што ты сам усё чуў,— сказаў ён.

— Чэснае слова.

— Пайшлі за лазню,— Федзя пацягнуў Віцю за рукаў.— Там разбярэмся.

За лазняй Федзя свіснуў у пальцы. Два разы ціха і коратка. Літаральна праз мінуту на свіст прыбеглі хлопцы.

— Скажы пацанам, што ты чуў,— коратка загадаў Федзя.

Віця паўтарыў усё, што перад гэтым гаварыў Федзю.

Хлопцы маўчалі. Самі на свае вочы яны бачылі і начальніка міліцыі і загадчыка райана...

Маўчанне цягнулася мінуты тры, хлопцам жа здалося, што прайшла цэлая гадзіна...

— Ну, чаго раскіслі? — здзекліва загаварыў Кныш.— Па-адумаеш, спалохаліся! Глупства! Няхай паспрабуюць злавіць! — Ён выпрастаўся, зашпіліў паліто, ляпнуў Федзю па плячуку.— Вядзі, начальнічак! Выходзіць, дарэмна ты выслужваўся...

Федзя не пакрыўдзіўся, хоць зразумеў, на што намякнуў Апанас. Ён дзвюма рукамі насунуў шапку амаль на самыя вушы, выпрастаўся і зноў абвёў позіркам сваіх былых аднадумцаў:

— Вось што, жмурыкі, часова прыйдзецца адвыкнуць ад беленькага хлеба. А можа хто не згодзен? Га? Калі ласка! Заставайцеся, толькі пасля не хныкайце. Цярпець не магу «кутузак»! Куды вальней на платформе або на вакзальчыку... Н-ну, махнём, пакуль не позна?



Вялікім пальцам правай рукі ён рэзка ткнуў некуды сабе цераз плячо, нібы сапраўды хацеў паказаць напрамак, куды трэба «махнуць».

Віця, прызнацца, не чакаў, што ўсё, пра што ён расказаў хлопцам, прывядзе да такой развязкі. Ён стаяў, як слуп, і, здавалася, нічога не бачыў і не чуў. У галаве шумела, было горача, хоць каўнер разарві. За гэтыя некалькі мінут ён успомніў усё, што адбылося з ім за апошнія тры тыдні. Успомніўся дырэктар, чамусьці не злосны, а такі, якога ён убачыў першы раз, калі прыйшоў у дзетдом; успомніўся маленькі Барыс... Здавалася, ён пазірае сваімі вачыма-гузікамі проста ў самую душу і пытаецца: «А ты будзеш са мной дружыць?..» І яшчэ аднекуль выбліснула лысіна бурклівага, але добрага Зіновія Цімафеевіча, выплыла акно, якое кітавалі ў той вечар у пакоі. Недзе ў партфелі ляжыць гатавальня, пазычаная ў Грышы Званкова. Ён — не дзетдомавец, а з мястэчковых. Яшчэ падумае, што знарок пазычыў, каб звезці... А ў школе заўтра не будзе адразу дзевяці чалавек. Зноў дзетдомаўцаў лаяць будуць. І тых, хто ні ў чым не вінаваты.

Віця закусіў губы, сціснуў да болю кулакі, з вачэй, здавалася, вось-вось пасыплюцца слёзы. «Чаму ўсё так атрымалася? Чаму?..» На момант успомніў загадчыка райана: «Сын Антося Ляўковіча... Мы цябе ў крыўду не дамо...»

Хлопцы пазіралі ў яго скамянелы твар і не разумелі, што гэта раптам з ім здарылася. Дзівак, ды і толькі! Чаго тут нюні разводзіць.

Федзя нахіліўся да Віці і пацягнуў за рукаў:

— Пайшлі!.. А то спахопяцца, шукаць будуць.

Віця здрыгануўся, адхінуўся назад і ціха сказаў:

— Я з вамі не паеду.

— Ш-ш-што?— пачуліся з усіх бакоў абураныя галасы.— Ты застанешся, каб нас прадаць, каб ратаваць сваю скуру? Ах ты, фіскал недабіты! — Хлопцы шчыльна абступілі Віцю, і яму здалося, нібы ён апынуўся ў цёмнай бочцы.

— Я... застануся... Няхай робяць, што хочуць. Я вас не выдам...

Віця адчуў на шчоках гарачае дыханне Федзі:

— Глядзі, сука, брахнеш, дык на ўсё жыццё запомніш!..

Адзін за адным хлопцы моўчкі падаліся з закутка.

Віця бачыў, як яны ў прыцемках куляліся, нібы мяшкі, за высокі частакол. Апошнім пакідаў дзетдомаўскі двор Жаўнерык. Ён падсадзіў малога Пецю і, калі той знік за плотам, сам крыху пастаяў, зірнуў туды, дзе ў цёмным закутку за лазняй стаяў Віця, і палез, трымаючыся за штакеціны, цераз агарожу. Віцю здалося, што, перш чым саскочыць з плота, Федзя махнуў яму рукой. Усю яго істоту раптоўна агарнула такая крыўда, што хлопец закрыў твар рукамі і плечы яго закалаціліся.

## РАЗДЗЕЛ VI

Маленькі Барыс не траціў дарэмна часу. Надта ж яго зацікавіла тое, што ў дзетдом прыходзіў начальнік міліцыі і што вечарам выхаванцы павінны сабрацца на сход. «Не, тут нешта не так...» Барыса мучылі здагадкі. Бачыў ён і тое, што ўсе выхавальнікі збіраюцца ў канцылярыю. Значыць, сапраўды здарылася штосьці выключна важнае.

Хлопчык увесь час стараўся пападацца на вочы каму-небудзь са старэйшых. Але на гэты раз ніхто з выхавальнікаў з ім не загаварыў, не пажартаваў. Усе яны былі нечым заклапочаны.

Тады ён хуценька скінуў чаравікі і, трымаючы іх у руках, на пальчыках падкраўся да дзвярэй канцылярыі. Там было горача ад напаленай грубкі, і дзверы былі крыху прыадчынены.

Стаіў Барыс дыханне і пачаў слухаць.

Праз дзесяць мінут ён ведаў усё. Паціхеньку адышоў ад дзвярэй, ужо на ганку абуў чаравікі і, падскокваючы, пусціўся шукаць дзяцей, каб паведаміць страшэнна цікавую навіну.

Але, як на злосць, на двары не было ніводнага хлапчука. Барыс кінуўся ў рабочы пакой, дзе ў гэты час выхаванцы рыхтавалі ўрокі. І вось няўдача — дзяўчынка, што дзяжурыла там, выпхнула яго яшчэ з парога.

— Ты ж бачыш, мы ўрокі рыхтуем. Не перашкаджай. Табе добра лётаць, ты ў школу не ходзіш!..

Барыс ужо хацеў сказаць ёй пра сваю таямніцу, але ўстрымаўся:

— Ат, хіба такая задавака што-небудзь зразумее!

На кухню, дзе ў гэты час дзяжурыла некалькі хлопчыкаў, Барыса таксама не пусцілі.

— Падлогу запэцкаеш, хіба не бачыш?! — Паўліна Антонаўна прыгразіла яму пальцам і зачыніла дзверы.

Барыс паволі пайшоў па двары.

Раптам яму здалося, што за лазняй нехта кашлянуў. Ён прыслухаўся. Зноў кашлянулі...

З усіх ног пусціўся ён у той бок.

За лазняй, у цемнаватым закутку, паставіўшы локці на калені і падпёршы далонямі твар, сядзеў хлопчык.

Барыс падняў шапку, зірнуў яму ў твар і ўзрадавана затараторыў:

— Віця, вось здорава! У нас будзе новы дом! Сёння з райана прыходзілі, з міліцыі... Гасцініцу пад дзетдом аддалі. Рамантаваць будзем. Сёння сход.

Віця здрыгануўся, нібы яго раптоўна разбудзілі сярод ночы. Шырока расплюшчанымі вачыма ўтаропіўся на Барыса.

— Які дом? Які начальнік міліцыі?

— Ды той вунь, разбіты, што праз вуліцу.

Віця ўмомант падхапіўся на ногі і ў прадчуванні чагосьці нечаканага схапіў малога за плячо:

— А з міліцыі чаго тут былі?

— Камісія. Яны глядзець прыходзілі.

— Камісія?..

Калі б у закутку не было цёмна, то Барыс убачыў бы, што Віцеў твар пакрыўся чырвонымі плямамі.

— Камісія... Сёння сход будзе. Самі рамантаваць пачнем.

— А ты не хлусіш? Дзе ты чуў пра гэта?

Барыс азірнуўся і загаварыў шэптам, аблізваючы сухія губы:

— Яны на педсавеце раіліся... Я чуў... Мікалай Пятровіч спрачаўся з завучам, кажа, хлопцы будуць працаваць. А Зінові Цімафеевіч казаў, што ён грубкі ўмее класці...

Толькі цяпер Віця зразумеў, што ён нарабіў:

— Ідзі... Я зараз... Аловак пашукаю, згубіў тут недзе...

І калі Барыс, нічога не разумеючы, пабег у дом, Віця перакуліўся праз плот і знік у прыцемках.

Да станцыі было недалёка — метраў пяцьсот. Уздоўж чыгуначнага палатна цямнелі даўжэзныя, высокія штабялі дроў. Паміж штабялямі было цёмна, і здавалася, што ў гэтай цемры стаіліся нейкія нядобрыя людзі.

Віця спяшаўся. Ад дзетдомаўскага двара ён хацеў дабегчы да станцыі напрасткі. Але з гарачкі заблытаўся між штабялёў. Кінуўся ў адзін бок, у другі — усюды шэрыя камлі бярэзніку. Тады, доўга не думаючы, палез проста праз штабялі. Толькі б паспець!.. Толькі б знайсці хлопцаў, пакуль прыйдзе цягнік...





Спатыкаючыся і слізгаючыся па мокрай траве, ён увесь час глядзеў на жоўты агеньчык, што мігцеў уперадзе. Там вакзал. Там недзе хлопцы. Ён жа іх падбухторыў... Яны нічога не ведаюць... Ён адзін ва ўсім вінаваты...

Стала горача. Ногі ў чаравіках зрабіліся цяжкія і непаслухмяныя. Яшчэ крыху, яшчэ метраў сто... Вось і ўтаптаная сцежка, што вядзе да вакзала. На мінуту суцішыў бег, каб супакоіцца. Грудзі распірала ад стомленасці, нібы ў лёгкіх замест паветра была вада. Каля станцыйнага будынка пайшоў, паволі выціраючы рукавом твар. Нідзе нікога. Ціха і цёмна. Адно адпаліраваныя вагоннымі коламі рэйкі ледзь-ледзь адсвечваюць вузенькімі палоскамі насупраць адзінага вакзальнага акна, з якога перабіваецца святло.

Віця азірнуўся і ціха паклікаў:

— Федзя-а-а!..

Прыслухаўся. Нідзе ні гуку... Толькі тэлефонныя правады, нібы верацёны, гудуць над галавой... Прыкусіў, каб не заплакаць, перасохлыя губы...

Станцыя, здавалася, вымерла. Ад гэтай незвычайнай пасля дзетдомаўскага тлуму цішыні зрабілася страшна. Віця падаўся да ўваходу. Намацаў клямку, паціху пацягнуў. Дзверы, нібы знарок, зарыпелі суха і прарэзліва. Дзве цёткі, што ў чаканні цягніка спалі, паклаўшы галовы на свае клункі, расплюшчылі вочы і абхапілі рукамі свой скарб. Больш у вакзале не было ні душы. Жанчыны здзіўлена пазіралі на стрыжанага, спалоханага і стомленага хлопчыка, што стаяў у парозе.

— В-в-вы тут хлопцаў ніякіх не бачылі? — выціснуў нарэшце Віця.
Цёткі пераглянуліся і, падсунуўшы бліжэй да сябе клункі, перапыталі:
— Якіх хлопцаў?
— Нашых, дзетдомаўскіх. Яны апрануты так, як і я.— Ён рукамі правёў па сваім паліто.
— Не, такіх не бачылі, галубок. Такіх не было тут.
Нібы не верачы цёткам, Віця абвёў вачыма адпаліраваныя сотнямі світак і клункаў драўляныя лаўкі ў цесным вакзальным пакойчыку, зазірнуў у акенца, што было ў фанернай адгародцы. Там, паклаўшы галаву на пастаўленыя адзін на адзін кулакі, драмаў дыспетчар.
«Няма!.. Тут іх няма!»
Віця выбег з вакзала і спыніўся, не ведаючы, што рабіць далей.
Ага... Вунь на запасных пуцях два ці тры таварныя вагоны. Кінуўся туды. Зноў ціха паклікаў, стукаючы ў зачыненыя дзверы таварнякоў:
— Федзя-а-а!
Адказу няма. Недзе па бляшаным вагонным даху пакаціўся кавалачак вугалю і ўпаў амаль ля самых ног. Радасна забілася сэрца. Можа там, наверсе? Адбег крокаў дзесяць ад вагонаў і стаў пільна глядзець угару. Не, там, на вагонных дахах, таксама нікога няма.
Тым часам сцямнела па-сапраўднаму. Штабялі дроў цяпер зрабіліся чорныя і зліліся з цемрай. Яны схаваліся ў ёй, нібы ў скаламучанай вадзе.
«Можа, хлопцы дзе-небудзь там, у дровах?» Хацеў пайсці пашукаць у тым баку, але перадумаў. Калі яны і там, то ўсё роўна не знойдзеш у гэткай цемры.
«Цяпер усё... У дзетдом лепш не паказвацца...»
Пануры Віця паволі пайшоў да жоўтага вакзальнага акна. «Вось так, браток, другі раз будзеш ведаць, як людзей спанталыку збіваць...»
Калі падыходзіў да вакзала, яму здалося, што злева, метраў за сорак, у цемнаце ўспыхнуў агеньчык. Успыхнуў коратка, на нейкую долю секунды. Віця да болю ў вачах пачаў узірацца ў цемру. Глядзеў так напружана, што аж слёзы зашчымелі, слухаў так уважліва, што чуваць было, як стукае сэрца.
І раптам да яго слыху зусім выразна данёсся Федзеў голас: «Дай запалку». Гэты ахрыплы, высокі голас Віця пазнаў бы нават праз сон. Мусіць, хлопцы закурваюць. А запалкі, Віця гэта ведаў, сёння былі толькі ў Апанаса. Значыць, яны разам.
Віця паціху пайшоў туды, адкуль пачуў голас. Прайшоў некалькі крокаў і зноў убачыў, як наперадзе мільгнуў агеньчык.
Віця кінуўся бегчы. Яны недзе тут, зусім блізка... Ён прабег крокаў дваццаць, пакуль не ўпёрся выцягнутымі перад сабой рукамі ў дашчатую сцяну. Дакрануўся да халодных дошак і, нібы ад агню, адхіснуўся назад. Гэта хляўчук!.. Той самы, дзе яго душыў некалі былы паліцэйскі.

У хлеўчуку, відаць, пачулі яго крокі. Нехта заварушыўся, нехта шыкнуў на астатніх. І зноў стала ціха. Віця баяўся гэтага хлеўчука. Усёй істотай ён адчуваў, што хлопцы іменна тут. І ўсё ж баяўся. Перад вачамі ўзнік азвярэлы твар Гукуна, яго растапыраныя пальцы...
У хлеўчуку нехта заварушыўся, і хрыплаваты Федзеў голас загадаў:
— Замры!
Больш Віця не мог чакаць. Вобмацкам уздоўж сцяны ён дабраўся да дзвярэй і дрыжачым голасам паклікаў:
— Федзь-а-а!.. А, Федзь-а-а!
Убачыў, як мільгнуў у цемры агеньчык папяросы, пачуў, як запахла



самасадам, змешаным з нейкім лісцем... У хлеўчуку стала ціха, нібы ў пустой яме.
— Федзь-а-а! Гэта я, Віця!.. Я вас шукаю!.. Я тут адзін!..
Пачуў, як з палёгкай уздыхнулі хлопцы і заварушыліся, пачалі ўставаць.
Аднекуль з цемры Федзева рука злёгку пацягнула яго праз парог.
— Заходзь... Напалохаў толькі...
Нехта паціху засмяяўся. Хлопцы акружылі Віцю. Хоць нікога з іх ён не бачыў, але па ўсхваляванаму дыханню адчуваў, што яны тут, побач. Загаварыў гэтак жа, як і яны, шэптам:
— Хлопцы, я памыліўся. Нас не збіраліся арыштоўваць...
І адчуў, што ўсе адхіснуліся ад яго, нібы раптоўна зніклі з хлеўчука. У цішыні ён загаварыў далей, нібы сам з сабою:
— Прыходзілі аглядаць гасцініцу. Яе аддалі дзетдому. Сёння будзе сход... Пойдзем назад. Чуеце?.. Ніхто нічога не ведае, ніводная душа!..
З цемры, недзе з кутка, разануў з'едлівы Апанасаў смяшок:
— Хлусіш, гад!.. Знарок падбіў нас. А цяпер цябе дырэктар прыслаў. Нябось там, у канцылярыі, сядзіць з міліцыяй і чакае? Га? Прызнавайся, фіскал!
Віця адчуў, што Апанас побач і вось-вось учэпіцца ў яго ці ўдарыць кулаком. Але страху не было. «Няхай што хочуць робяць, яны маюць права,— падумаў Віця.— Я ва ўсім вінаваты...»
— Хлопцы, я ведаю, што вы мне не верыце. Але тое, што я вам кажу,— праўда. Чэснае слова! Ніхто не ведае, што вы ўцяклі. Ні адзін чалавек...
— Га-га-га-га! «Чэснае слова!..» — перадражніў Федзя.— А каля лазні ты таксама чэснае слова даваў. Яно ў цябе адно, гэта чэснае, ці некалькі?..
Хлопцы задаволена хіхікнулі. Што ні кажы, а Федзя ўмее шпількі падпускаць. Нездарма ён «важак». З такім не прападзеш.
— Не верыш? — наўздагад Віця працягнуў руку і схапіў Федзю за рукаў.— Не верыш?
Хлопцы зноў заціхлі, чакаючы, што адкажа Федзя. Той адняў Віцеву руку і сказаў, нібы адрэзаў, коратка і халадна:
— Н-не веру...
Віця зноў захваляваўся. Ён гатовы быў на каленях стаць перад хлопцамі, абы толькі яны паверылі ў тое, што ён гаворыць.
— Чым вам даказаць, што я не хлушу?
Хлопцы заварушыліся.
— Г-м-м, чым даказаць? — усе яны, на іх думку, рызыкавалі надта многім. Калі Віця іх ашукае, то наўрад ці хутка яны збяруцца зноў усёй сваёй кампаніяй. Тут справа сур'ёзная.
— Няхай сто раз падскочыць на адной назе,— прапанаваў Максім Зялёнка. Ён не адчуваў да Віці ніякай злосці, а сказаў гэта проста так, каб хлопцы адчапіліся ад яго.
— На адной назе паскача? — усхапіўся Жора Гулеў.— Хітранькі ты: цёмначы ён табе наскача на адной...
— Тады няхай распранецца і пастаіць голы, пакуль я налічу да тысячы,— прапанаваў Лёня Сокал.
— Глупства... Будзе ён лічыць. Ты навучыся спачатку,— асадзіў яго Федзя. Ён хацеў прапанаваць нешта сваё, але тут загаварыў Апанас:
— Жартачкі строіце? Добранькія надта. У нас у «кодле» фіскалаў не так правяралі.
Хлопцы заціхлі.

— Я не хачу праз яго ў калонію трапіць. Я такіх ведаю,— злосна сказаў Апанас.
— А што? Чаго ты хочаш ад яго? — зашоргалі ў цемнаце хлопцы.
— Чаго я хачу? — Апанас памаўчаў і закончыў, нібы абліў кожнага з хлопцаў кіпятком:
— Няхай з'есць зямлі, тады паверу.
— Ты чуў?—звярнуўся Федзя да Віці, калі хлопцы заціхлі ад нечаканасці.
— Чуў...
— Ты згодзен гэта зрабіць, каб даказаць, што сам прыйшоў?
— Згодзен.
— Добра. Апанас, дай запалкі.
Ціха зашасталі ў карабку запалкі, і ўспыхнуў кволы агеньчык. Хлопцы чакалі. Віця нагнуўся, узяў у жменю сырой чорнай зямлі. Дрыжачай рукой паднёс яе да рота. Хтосьці шмыгнуў носам, хтосьці перастуліў з нагі на нагу і адвярнуўся.
У Федзевых пальцах дагарэла запалка. Ужо ў цемры ён ірвануў да сябе Віцеву руку, у якой была зямля, загадаў:
— Пайшлі...
Чапляючыся за дашчаны парог хлеўчука, па зямлі зашаргала дзевяць пар чаравікаў.

Сход быў цікавы. Ніколі ў жыцці Віця, ды і ўсе астатнія хлопцы, не слухалі Мікалая Пятровіча так уважліва, як гэты раз. Краем вока Віця бачыў, што за гэты час ніхто з выхаванцаў не зварухнуўся з месца; дзеці, нібы малыя шпакі, паразяўлялі раты ды так і застылі. І было ад чаго.
Як толькі ў сталоўцы зрабілася ціха, дырэктар сказаў:
— Хутка прыйдзе зіма. На сваім двары мы зальем каток. А каб было на чым катацца, купім канькі. Снягурачкі. Вы любіце катацца на каньках?
Дзеці засмяяліся, загаманілі і ўсе ў адзін голас адказалі:
— Любім!
— Вось і добра. Я таксама, як быў малы, дык любіў канькі.— Мікалай Пятровіч, хітравата ўсміхаючыся, паправіў рамень на зялёнай гімнасцёрцы, правёў рукою па чорных валасах.
— А на лыжах любіце хадзіць? — і зноў аж пад самаю столлю зазвінела ад гучнага адказу:
— Любім!
Калі дзеці сціхлі, Мікалай Пятровіч ужо зусім сур'ёзна загаварыў далей:
— А цяпер я вам раскажу, як мы купім сабе канькі і лыжы.
Гаварыў ён ціха і спакойна. Так, як гаворыць дарослы чалавек з такімі ж, як ён сам, дарослымі.
Тыя, хто быў у дзетдоме з першых дзён яго адкрыцця, ужо ведалі: калі дырэктар што-небудзь паабяцаў, словы яго заўсёды збываюцца. Пра лыжы і канькі ён яшчэ не гаварыў. І вось, нарэшце...
Дырэктар расказаў, што трэба зрабіць, каб зімою мець канькі і лыжы, а ўлетку, магчыма, і аўтамашыну. Трэба працаваць... Трэба сваімі сіламі ачысціць ад смецця і бруду «другі корпус» і распачаць яго рамонт. Ад гэтага будуць дзве выгады: хутчэй пазбавімся цеснаты і будзем з калькамі і лыжамі.
Федзя, які сядзеў побач з Віцем, штурхнуў яго локцем, паказаў вялікі палец і шапнуў: «Во!» Пераглянуліся паміж сабою і ўсе астатнія хлопцы. А калі, скончыўшы гаварыць, дырэктар звярнуўся да іх асабіста, як да самых большых у дзетдоме, спытаў:
— Вы згодны, хлопцы?
Яны, не згаворваючыся, у адзін голас адказалі:
— Згодны!..
Тут жа, на сходзе, дамовіліся, хто што будзе рабіць.
За апошні тыдзень хлопцы ні разу не спалі так соладка і спакойна, як у тую ноч.

## РАЗДЗЕЛ VII

Другі корпус пачалі рамантаваць не адразу. Праўда, хлопцы хацелі распачаць работу назаўтра ж пасля сходу. Яны ўпотай падумвалі: калі будзем цягаць смецце і шчэбень, ладзіць вокны, дзверы і сцены, а пасля тынкаваць іх, дык не трэба будзе хадзіць у школу. Не пойдзеш жа на ўрок запэцканы ў гліну ці ў вапну... Рамонт дык рамонт! Вучыцца будзем зімой. Яны так і сказалі Зіновію Цімафеевічу. Але той усміхнуўся ды павярушыў кароткім рыжым вусам:
— Кажаце, на ўрокі не трэба будзе хадзіць? Цікава. Цікава. Ну, бяжыце, снедайце. Сёння пачынаць не будзем, так што ў школу прыйдзецца ісці.
Зіновій Цімафеевіч быў чымсьці заклапочаны. Ён выцягнуў з кішэні шэрай суконнай бравэркі акуратна складзеныя лісткі паперы, выбраў адзін з іх, асцярожна ўзяў у кароткія, тоўстыя пракураныя пальцы і пайшоў у канцылярыю. Хлопцы пераглянуліся, пастаялі.
— То р-рамонт, то ў школу. Штосьці тут не так,— корпаючы наском чаравіка камяк гразі, заўважыў Федзя.— Не ўсё ясна.
Паволі пайшлі ў сталоўку.
Такія ж гутаркі адбываліся і на другі, і на трэці дзень, а Зіновій Цімафеевіч паўтараў сваё:
— Ідзіце ежце ды ў школу.
Хлопцы снедалі, забіралі свае цыратавыя партфелі і ішлі ў школу. Хадзілі яны на заняткі строем, па двое, але гэта хутчэй была доўгая жывая чарга, якая цягнулася па дашчатым тратуары. Тупатам ног яна нагадвала гурт авечак, а па гомане, што чуўся над ёю,—чараду гусей.
Віця першыя дні ніяк не мог прывыкнуць хадзіць строем. Ён, як навічок, разы са два тупаў у самым хвасце. Дзеці, куды меншыя за яго, з цікаўнасцю пазіралі на новенькага, паварочваючы галовы ў канец калоны... Цяпер ён ішоў у калоне першы. Побач з ім, ціха пасопваючы носам, тупаў Федзя, потым — Апанас, далей — Максім. За імі па росту ішлі астатнія хлопцы ўперамешку з дзяўчынкамі.
Ідучы ўперадзе, хлопцы часам залішне спяшаліся, асабліва, калі вярталіся са школы. Тады ззаду малыя крычалі, бегучы:

— Доўгія, доўгія
У школе пасядзелі,
Есці захацелі!..

Было і так, што пярэднія раптам спыняліся. Тады калона горбілася і сціскалася, як спружына. Пускаліся ў ход партфелі. Пападала па спінах тым, хто ішоў уперадзе. Шум, смех, вэрхал. Прахожыя азіраліся. Некаторыя весела ўсміхаліся, некаторыя спачувальна ківалі галовамі: «Сіроткі бедныя... Без догляду...» Чуць такое чамусьці было

непрыемна. Дзеці хутка станавіліся ў два рады і ішлі далей. У іх ёсць свой дом, яны адзеты, абуты, у школу ходзяць. А тут на іх: «беднень-кія»... Вунь хутка вялікі дом адрамантуем, во як зажывём!

Думкі пра новы дом не выходзілі з Віцевай галавы. Хацелася добра папрацаваць на рамонце былой гасцініцы, і тады... Заманліва перад вачмі паблісквалі срэбныя абрысы канькоў-снягурачак. Здавалася, чуваць, як яны звіняць, ціха рэжучы лёд. .У грудзі б'е сустрэчны вецер, а навокал роўны, як шкло, лёд. Ляці і ляці, забыўшыся на ўсё. Аж пакуль сэрца не пачне выскокваць з грудзей і не затрымцяць ногі...

А можа дырэктар пажартаваў? Захацеў чым-небудзь прынадзіць, затрымаць хлопцаў у дзіцячым доме і — наабяцаў?.. Віця пачынаў крыўдаваць на Мікалая Пятровіча. «Вось пачакаю яшчэ дні два ці тры і сам пайду да яго. Так вось і так, таварыш дырэктар. Я ўжо не маленькі. І хлопцы ўсе таксама. Дык навошта маніць?» Далей нічога складнага не выходзіла, і Віця пачынаў думаць пра дзеда, што застаўся недзе там, у Харамцы, пра зямлянку з вузенькім акенцам, складзеную з нашчапаных сасновых плашчакоў, пра цёмны бор, што неяк сумна шуміць увосень. Добра было б з'ездзіць у сваю вёску. У новым паліто, у чаравіках, у чорнай шапцы-вушанцы. У падарунак дзеду завезці кілаграм сапраўдных цвікоў. У вёсцы іх ні ў кога няма. А Віця тут, употай ад усіх, цвікоў са сцен у былой гасцініцы навыцягваў. Яны ў надзейным месцы прыхаваны. Употай падумваў Віця і пра тое, што не кепска было б раздабыць тут, у мястэчку, шкла на шыбы для будучай дзедавай хаты. Вунь у некаторых дамах ніхто яшчэ не жыве, а вокны цэлыя там ёсць. Трэба толькі хлопцаў падгаварыць, каб памаглі вынесць і прыхаваць дзе-небудзь на гарышчы. А то пасля позна будзе. Пра пліту для жорнаў Віця ўжо неяк забыў.

Чым больш думаў Віця пра свайго дзеда, тым хутчэй хацелася яму здзейсніць свае намеры. Але тут пачаліся такія падзеі, што і пра цвікі і пра шкло прыйшлося забыць. Прытым назаўсёды...

У той дзень, калі пачалі рамонт гасцініцы, на дзетдомаўскім двары хлопцаў сустрэў Барыс. Ён быў узрушаны так, што нават крыху заікаўся:

— Грубкі бу-будзем разбіваць! Гліну прывезлі! Р-рамонт будзе... Вунь, вунь, бачыце, што робіцца!

Хлопцы паспешліва скідалі ў кучу свае партфелі на ганку і ўслед за Барысам пабеглі цераз вуліцу да гасцініцы.

Нічога асаблівага яны там не ўбачылі. Насупраць старога будынка на зямлі бялелася вялізная квадратная скрыня, збітая з дошак. У скрыні была гліна, а побач — куча пяску. Дык ці ж з-за гэтага драць горла?..

Дзеці абступілі скрыню, хтосьці, самы шустры, ускочыў на груду пяску, хтосьці кінуўся памагаць ставіць бочку для вады. Астатнія сталі і пазіралі то на загадчыка гаспадаркі, то на незнаёмага муляра.

— Вось так, люба-міла,— паціраў рукі Зінові Цімафеевіч.— Раствор развядзем, сцены падладзім, грубкі замажам.— Стары гаварыў нібы сам з сабой, але цішком сачыў за тым, як дзеці ўспрымаюць яго словы. Хітры ўсё-такі ён, гэты Зінові Цімафеевіч: яшчэ раз пакратаў бочку, адступіў крокі два назад, агледзеў усю сваю гаспадарку, што вырасла тут за паўдня, і толькі тады загаварыў з хлопцамі.

— Сёння адразу ж пасля абеду прыйдзеце ўсе сюды. Будзем працаваць.

Узяў у рукі лейцы, узлез на воз і паехаў праз вялізны пралом у плоце на вуліцу.

Нічога асаблівага не сказаў выхаванцам і незнаёмы муляр. Ён толькі



падняў з зямлі вялікі перапэцканы фарбай і вапнай мяшок і пачаў даставаць з яго нейкія дзіўныя рэчы: малаток з двума вострымі канцамі, маленькую трохвугольную лапатку з крывым чаранком, скрутак тонкага дроту, доўгі шнурок з гіркай на канцы, нейкія дошчачкі з драўлянымі ручкамі збоку, адну — доўгую і вузкую, другую — кароткую і шырокую. Былі ў мяшку і іншыя прылады: тоўсты пэндзаль, нейкія гумавыя валікі з мудрагелістымі шурпатымі ўзорамі, выразанымі на іх. Але гэтых рэчаў муляр з мяшка не вымаў. Назад паклаў ён і скрутак дроту. Узяў толькі малаток і лапатку. Мяшок завязаў і паклаў ля скрыні.

— Не ўцячэ? Як вы думаеце, жэўжыкі, не ўцячэ мой струмант адсюль? — спытаў у хлопцаў, пазіраючы на іх з-пад запырсканых вапнаю броваў.

Хлопцы зразумелі, на што намякаў незнаёмы, але зрабілі выгляд, што не пакрыўдзіліся.

— Ды не, што вы, ён жа бегаць не ўмее,— адказаў за ўсіх Апанас і адразу чамусьці адвярнуўся. Пачалі разыходзіцца і ўсе астатнія. Муляр яшчэ раз паглядзеў на свой мяшок, крыху пастаяў, падумаў і таксама пайшоў. У другі бок — да парога былой гасцініцы.

Абедалі хлопцы, спяшаючыся. Не да яды, калі нават Адам Капа першы падняўся з-за стала. Яшчэ астатніх спрабаваў падагнаць:

— Гэй вы, торбы бяздонныя, вунь гліна ў карыце ўжо размокла!

— Паспеем! Паглядзім, як ты з мяшалкай ля скрыні завіхацца будзеш. Гэта табе не кацёл на кухні вышкрэбваць!

Адам уцяў галаву і першы ступіў праз парог.

Такога вэрхалу і крыку старая драўляная гасцініца яшчэ не ведала.

Узброіўшыся малатком, хадзіў з пакоя ў пакой запылены Зінові Цімафеевіч. Пыл густым пластам ляжаў на ягонай шапцы, на шэрай ватоўцы. Асабліва смешна выглядалі яго рудыя, кароткія вусы. Здавалася, Зінові Цімафеевіч недзе ўткнуўся імі ў бочку з рыжай мукой ды так і забыў выцерці.

Федзя і Віця, якія хадзілі ўслед за ім, ціха перамігваліся і смяяліся. А стары, нібы доктар, падыходзіў да сцяны і пачынаў выстукваць яе малатком. Стукае і слухае. Калі яму гук не падабаецца, ён паварочвае малаток вострым канцом і дзяўбе. Тады са сцяны пад ногі хлопцам сыплецца тынкоўка і непрыемна казыча ў носе пыл.

— Дрэнь, зусім дрэнь,— прыгаворвае стары, зграбаючы нагой кавалкі шэрай гліны ў кучу.— Давайце насілкі.

Пакуль хлопцы збіраюць на насілкі асыпаную тынкоўку, ён пераходзіць у другі пакой. І зноў чутны ягоны бурклівы голас:

— Дрэнь... Сыплецца, як порах...

Часам Зінові Цімафеевіч падыходзіў да муляра, які з Мікалаем Пятровічам гэтак жа ўважліва аглядаў і таксама выстукваў аблезлыя грубкі. Некаторыя з іх былі без юшак, некаторыя без комінаў. Хлопцы крадком вымазвалі пальцы ў чорную копаць і пэцкалі адзін другому насы і шчокі, а потым браліся за нагружаныя насілкі.

— Гэй, паехалі, вараныя! Староніся з праходу!

Хлопцам работа падабалася. Весела было вось так, гуртам, выносіць з памяшкання ўсё непатрэбнае. Соп, цягнучы на выпучаным жываце вядро са смеццем, рыжаваты Дзіма Гарох. На яго рабацініст твары блішчалі кроплі поту.

Малы Барыс і тут заставаўся без пэўнага занятку. Большыя не ха-

целі прымаць яго ні ў гульню, ні ў работу. Ён сам знаходзіў які кавалак дошкі ці яшчэ што і, як мурашка, цягнуў следам за хлопцамі на двор. Яго часам знячэўку штурхалі, часам абыходзілі, нацягваючы шапку на нос:

— З дарогі, смецце! Дабро едзе!

Барыс папраўляў шапку, браў кінутую ношу і ішоў далей.

За работай ні хлопцы, ні Мікалай Пятровіч, ні загадчык гаспадаркі не заўважылі, як хутка праляцеў час. Здавалася, зусім нядаўна абедалі, а тут ужо цямнець пачынае. Калі маўклівы муляр, агледзеўшы апошнюю грубку, прысеў на складзеную ў кутку цэглу і закурыў, а Мікалай Пятровіч выцер ад пылу рукі і выйшаў у суседні пакой, у калідор, недаверліва азіраючыся, ступіў завуч.

Анатоль Пятровіч быў інтэлігентны чалавек. Калі дырэктар заўсёды хадзіў у шынялі і гімнасцёрцы, у шэрай вайсковай шапцы, то завуч меў больш фарсісты выгляд. Карычневы пінжак, такія ж карычневыя штаны, скрыпучыя жоўтыя туфлі... У мокрыя дні Анатоль Пятровіч надзяваў галошы. І яшчэ тры дзіўныя рэчы былі ў яго — акуляры з бліскучымі абадкамі, гальштук з такою ж бліскучай шпількай і шэры, зусім стары, нават крыху паедзены моллю, капялюш.

Завуч ніколі не павышаў голасу, затое ніколі амаль і не ўсміхаўся. Дырэктар быў не такі. Ён і накрычыць, калі трэба, і нават нагой тупне. Але варта было таму ж Апанасу ці каму-небудзь іншаму трапіць яму на вочы праз некалькі мінут, як ён на ўсё забываў. Мог пажартаваць, мог расказаць цікавую гісторыю.

Дзеці заўважалі, што і выхавальнікі недалюбліваюць завуча. Гэта наводзіла хлопцаў на дрэнныя думкі пра Анатоля Пятровіча.

Так было і сёння. Скончыўшы работу, хлопцы, узбуджаныя і вясёлыя, стоўпіліся ля дырэктара ў прыцемках калідора. Падняўшы ўгару галовы, яны толькі сабраліся паслухаць штосьці цікавае, як Анатоль Пятровіч далікатна крануў дырэктара за плячо:

— Мікалай Пятровіч, вы так запрацаваліся, што і на рэжым забыліся. Калі ж выхаванцам рыхтаваць урокі? Ужо шэсць гадзін,— у далоні ў завуча цьмяна бліснуў гадзіннік з ланцужком...

Стала ціха. Мікалай Пятровіч схамянуўся, развёў рукамі і паглядзеў навокал.

— На самай справе, позна. Давайце, хлопцы, мыцца і за ўрокі.

Разам з завучам ён пайшоў да дзвярэй. Абганяючы іх, кінуліся да выхаду і хлопцы. Але не ўсе.

Маўклівы муляр таксама хацеў паслухаць, пра што будзе гаварыць з выхаванцамі дырэктар. Ён пакінуў у пакоі, дзе толькі што сядзеў і курыў, свой інструмент, выйшаў на калідор і стаў, прыхінуўшыся да сцяны. Тых некалькіх мінут, што ён прастаяў тут, было зусім дастаткова Апанасу Кнышу...

Спрытна і ціха, нікім не заўважаны, ён шмыгануў у пакой, дзе ляжала мулярава маёмасць. Кнышу не трэба былі ні гумавыя валікі з дзівоснымі ўзорамі, ні малаток, ні скрутак дроту. Мінута, паўтары... дзве... Так, парадачак!

Апанас кінуў вокам на дзверы і праз момант знік з пакоя. Не ў калідор, а праз пустое акно — проста на двор.

Калі б муляр быў больш назіральны, то, вярнуўшыся ў пакой і ўзяўшы ў рукі свой капшук з тытунём, заўважыў бы, што той амаль пусты...

Перад вячэрай Апанас запрасіў Федзю, Максіма і Жору выкурыць па самакрутцы. Гэта адбывалася так: седзячы над разгорнутым падручнікам і мармычучы незразумелыя і цяжкія нямецкія словы, Апанас штурхнуў у бок Федзю і, калі той падняў галаву, прыклаў два пальцы да выцягнутых трубой губ. Потым уздыхнуў, нібы на марозе:

— Х-х-х-ф-ф-ф-у!..

Федзя кіўнуў галавой. Гэта значыла: «Я згодзен».

Праз некаторы час гэтак жа таямніча Апанас пагаварыў з Максімам. Той таксама кіўнуў галавой.

Калі чарга дайшла да Жоры, той шырока разявіў рот і ціха вякнуў, нібы малое цялё. Гэта азначала, што ад тытунёвага дыму яго блажыць.

Апанас скрывіўся нездаволена і замармытаў сабе пад нос: «Дзі дурань, дэр дурань, дас дурань».

Каму гэта адрасавалася, хлопцы разумелі.

І ўсё ж здарылася так, што «дэр дурнем» у гэты вечар застаўся сам Апанас.

На яго і на Федзю з Максімам, калі яны курылі ў зацішку за лазняй, зусім выпадкова натрапіў Анатоль Пятровіч. Ён нейкі момант стаяў перад аслупянелымі хлопцамі і ад абурэння не мог вымавіць слова. Аж акуляры зняў, каб лепш пераканацца, што ў губах у Апанаса самакрутка, а не бенгальскі агонь. Апанас таксама аслупянеў і стаяў, як заяц, якога вось-вось праглыне воўк. Пакуль завуч адной рукой надзяваў акуляры, а другой паволі сціскаў плячо галоўнага курыльшчыка, Федзя і Максім далі драла: завуч іх не пазнаў упоцемках.

Гадзіну стаяў Апанас перад завучам у канцылярыі і маўчаў, як зацяты. Толькі сказаў, што тытунь быў у яго яшчэ той, «з поезда» і што за лазняй ён курыў адзін.

Калі хлопцы канчалі вячэру, ён пад канвоем завуча з рыдлёўкай і мятлой ішоў праз двор чысціць прыбіральню.

Вярнуўся ён тады, калі хлопцы ўжо спалі. Паціху падсунуў да грубкі тумбачку. Гэтак жа ціха паставіў на яе табурэтку. Узлез на гэтую піраміду і ціха паклаў на верх гарачай грубкі ёмістую пайку хлеба. «Хай сохне...» Злез на падлогу, паставіў усе рэчы на месца і пачаў распранацца. Дзетдомаўскі ложак паказаўся яму халодным і няўтульным. Нібы дах вагона.

## РАЗДЗЕЛ VIII

Два тыдні часу — гэта многа, калі ты, галодны, нямыты і стомлены, падарожнічаеш па рынках або швэндаешся па разбураных вакзалах, раздумваючы аб такой важнай рэчы, як кавалак хлеба. Два тыдні часу — гэта мала, калі ты з раніцы да вечара заняты самымі рознымі справамі. Устаеш у сем гадзін, робіш фіззарадку, засцілаеш свой ложак, мыешся, снедаеш, сядзіш у школе на ўроках, прагаладаўшыся, бяжыш дадому, дзе цябе чакае абед у сталоўцы, потым амаль да змяркання месіш гліну, носіш цэглу, беліш сцены, кітуеш вокны, фарбуеш падлогу, пасля рыхтуеш урокі на заўтрашні дзень, пасля разам з хлопцамі дурэеш або слухаеш расказы Мікалая Пятровіча пра вайну, пра жыццё ў дзетдоме, потым вячэраеш, потым залазіш пад цёплую коўдру...

Два тыдні часу хопіць, каб ты абжыўся ў сваім новым, нязвычным для цябе доме, каб падумаў над сваім учарашнім і заўтрашнім лёсам і каб рашыў, як быць далей.

За гэты, здавалася б, кароткі час хлопцы дасканала пазнаёміліся з тымі рэчамі, якія прынёс у сваім шэрым мяшку маўклівы муляр.

Аказалася, што гэта не зусім простыя рэчы. Узяцца за кожную з іх трэба было ўмець.

Трохвугольная лапатка з крывым драўляным чаранком на канцы ў руках маўклівага муляра, здавалася, сама робіць усё, што ёй трэба. То прыгладзіць шэрую гліну на сцяне, то рабром зрэжа лішак глінянага раствору, то вострым кончыкам падчэпіць і аддзярэ кавалак старой тынкоўкі. Толькі паспявай падносіць вядро з размешанай глінай. Віця доўга прыглядаўся да ўсяго, што рабіў муляр, а потым не сцярпеў:

— Дайце, паспрабую...

Зірнуў маўклівы чалавек на яго зверху, зачэрпнуў з вядра гліны і сказаў:

— Паспрабуй... Гэта, брат, не так цяжка.

Лёгкая на выгляд, у Віцевых руках кельма раптам стала цяжкай і ледзь не выслізнула з пальцаў. Прымерыўся Віця на дзірку ў сцяне, замахнуўся гэтак, як рабіў муляр, пляснуў глінай у сцяну:— Ш-ш-лёп! І палова раствору — на падлозе, палова — на сцяне, прытым не там, куды цэліў. А майстар збоку стаіць, прыкурвае, пазірае на яго. Віця ўзяў гліны, зноў размахнуўся:— Ш-ш-лёп! Крыху лепш выйшла. Пасмялеў і зноў да вядра нагнуўся.

— Стой, брат, не так трэба! Дай сюды.— Падхапіў, нібы аладку нажом, з падлогі камяк гліны.— Глядзі...

— Ш-ш-лёп! — была шчыліна ў сцяне — няма шчыліны.

— А цяпер разгладзім. Вунь бачыш тую дошчачку з білцам. Давай, шаруй.

І дошка цяжкая чамусьці. Прыціснуў Віця абедзвюма рукамі яе да сцяны і шаруе.

— Ж-ж-ж-ух, ж-жу-х!.. — Гладкай робіцца шэрая гліна, нібы хто адпрасаваў.



— Здорава! — радуецца Віця. — Пальцам ткнуў — ямачка ў сцяне. Зноў пашараваў — няма ямачкі...

Дзядзька не то ўсміхаецца, не то дым у вочы яму зайшоў. Руку на плячо Віцю паклаў:

— Малайчына, брат, можаш навучыцца, калі захочаш.

А ў суседнім пакоі Зінові Цімафеевіч тоўсты пэндзаль на драўляны кій прыладзіў. У вядры з пабелкай вымачыў:

— Адыдзіцеся, хлопцы, убок, а то запырскаю.— Пакруціў квач над вядром. З яго пабелка, нібы малако, цячэ.— Ну, паспрабуем... Пачнем зверху.

Цуд дый годзе: на сцяне паступова знікаюць плямы! Прыгажэе сцяна на вачах.



— Т-т-так, добра, добра,— мармыча стары.— Высахне — белая будзе.

Хлопцы локцямі адзін аднаго штурхаюць, да Зіновія Цімафеевіча падступаюцца:

— Дайце, мы бяліць будзем! Вас дырэктар кліча! — крычаць яны старому. А ён не спяшаецца. Над вядром стаіць, на хлопцаў пазірае. Прыкідвае штосьці сам сабе.

— Вопратку запэцкаеце, будзе тады дырэктар...

— Ды што вы, мы асцярожна. Мы ўсё як след зробім...

Федзя першы за пэндзаль бярэцца дрыготкімі рукамі. У вядро мачае. Цуркочуць кроплі пабелкі: кап-кап-кап... Падняў белы квач, па сцяне водзіць. Дробненькія белыя гарошынкі на падлогу, на Федзеву шапку, на шчокі сыплюцца. Нічога! Вытру пасля...

Максім да пэндзаля цягнецца:

— Хопіць, давай мне.

— Ч-чакай! Не лезь,— адмахваецца Федзя.

— Ш-шах, ш-ш-ах!..— ходзіць квач па сцяне.

А ля акна Зінові Цімафеевіч другі пэндзаль на доўгі кій насаджвае. На яго хлопцы пазіраюць, у кожнага з іх далоні свярбяць. Загадчык гаспадаркі бачыць іхнюю нецярплівасць, усміхаецца ціхенька, прыкідвае: каму б уручыць...

— Мне дазвольце! Мне! — крычыць Жора Гулеў.— Я ўмею, я калісьці хату бяліў.

У суседнім пакоі таксама праца кіпіць. Сталяр, што з лесазавода прыйшоў, падлогу закончыў ладзіць. За вокны ўзяўся —шыбы ўстаўляе. Ножык у сталяра дзіўны — шкло рэжа, нібы паперу. Пакладзе сталяр ліст шкла, лінейкай адмерае шырыню і даўжыню. А потым уздоўж лінейкі сваім ножыкам правядзе. Ножык рэжа амаль нячутна — ч-ч-ч-жах...

— Гэта алмаз,— гаворыць сталяр.

«Дз-зынь!» і ў руках у сталяра — шыба, роўная, прамавугольная. Ён яе ў раму ўстаўляе. Дзіма з Мішам малюсенькімі цвічкамі шыбу замацоўваюць. Пасля кіт у шнуркі далонямі качаюць,— так, як некалі Мікалай Пятровіч іх вучыў, калі ў спальні вечарам акно кітавалі. Разагрэліся хлопцы, на ўсё забылі — сабе робяць, не каму-небудзь іншаму.

Хутка ляціць час. Сталяр аберуч бярэ зашклёную і закітаваную раму і нясе яе на двор. Хлопцы следам малаток і цвікі падносяць.

У калідоры меншыя дзеці стружкі да дзверцаў грубкі зграбаюць, дровы да грубак носяць. Дзетдомаўскі вартаўнік дзядзька Елісей грубкі распальвае. Іх восем — па адной на два пакоі. Некаторыя дымяць яшчэ — сырыя. А ў тых, якія «аддыміліся», полымя аж гудзе.

Прайшло яшчэ два тыдні.

Надыходзіў снежань. Раніцай, калі хлопцы ішлі ў школу, пад нагамі пахруструваў першы лядок. Аднак зіма ўсё яшчэ не ўсчыналася. Невядома, як местачкоўцам, а дзетдомаўцам гэта было самы раз. Яны спяшаліся да маразоў перасяліцца ў другі корпус, які канчалі рамантаваць. І хоць ужо ва ўсіх шаснаццаці пакоях былі зашклёны вокны, пабелены сцены і адрамантаваны грубкі, работы заставалася шмат. Але яна была не такая ўжо цяжкая і — самае галоўнае — вельмі цікавая. Дайшла, нарэшце, чарга да тых валікаў, што ў першы дзень рамонту прынёс у сваім мяшку маўклівы муляр. Выявілася, што гэта не зусім простыя валікі. У гэтым хлопцы пераканаліся, калі муляр пачаў наводзіць узоры на белыя сцены, як ён гаварыў, рабіць накат. Валікі былі проста дзівосныя!



Хоць хлапчукоў цяпер у пакоі і не пускалі,— каб не запэцкалі чыста вымытую падлогу,— яны ўсё ж паглядзелі, што можна зрабіць пры дапамозе звычайнага гумавага валіка з выразанымі на ім адмысловымі ўзорамі-завіточкамі. Па адным, парамі хлопцы ціха адчынялі дзверы ў пакой і застывалі за спіной у муляра. А той рабіў цуды.

Круціўся валік, побач з валікам круцілася круглая шчотка, змочаная ў фарбу, а на сцяне аставаліся блакітныя сляды-кветкі. Папрасілі хлопцы муляра, каб ім даў з валікам папрацаваць — даваў жа ён кельму. Але замахаў рукамі запырсканы фарбай дзядзька, нават з пакоя выгнаў:

— Ідзіце, а то сапсуеце мне ўсю справу!..

Нехаця пайшлі хлопцы. Пакрыўдзіліся. Асабліва Макс. Але выгляду не падалі. Пайшлі па калідоры, у кожны пакой заглянулі праз адчыненыя дзверы. Пакоі нічога сабе — па пяць ложкаў у кожным можна будзе паставіць. Адзін, дык зусім вялікі — ложкаў на дзесяць. Пакуль аглядалі пакоі, муляр кудысьці выйшаў. Хлопцы, убачыўшы ягоныя валікі, што стаялі ў кутку, рашылі паспрабаваць самі накат на сценах рабіць.

Максім з Лёнем шчоткі ў фарбу намачылі, а Жора на ганак выйшаў — муляра пільнаваць.

Спачатку за белую грубку ўзяліся — так яе накаталі, што аж пярэстай зрабілася. Што б яшчэ зрабіць? Зірнулі сюды-туды — няма нічога такога, хацелі ў суседні пакой перабрацца і там грубку расквеціць, ды знячэўку Лёня на стол зірнуў — белая.

— Давай хутчэй! — ён левай рукой за рукаў Максіма пацягнуў, а правай ўгару паказаў. Пайшла справа — аж дух займае ў хлопцаў.

Не паспелі апамятацца, як счырванелы ад злосці муляр пацягнуў іх у канцылярыю.

У канцылярыі, схіліўшыся над сталом, сядзеў завуч. Ён ціхенька напяваў нейкую песню і нешта пісаў на вялікім аркушы паперы.

— Стол сапсавалі — перабельваць прыйдзецца, грубку запэцкалі — зноў бялі нанава,— далажыў муляр.

Завуч зірнуў на няўдачлівых маляроў, адклаў убок аловак, паправіў акуляры і далонямі ўзяўся за край стала.

— Хто першы пачаў?—спытаў ён у хлопцаў.

Маўчаць хлопцы — усе вінаватыя, дык ці варта тут першага шукаць.

— Маўчыцё? Нічога, я доўга з вамі цацкацца не буду.— Завуч устаў і з шафы выняў нейкія папкі. На кожнай з іх напісана: «Характарыстыка».

— Вы можаце ісці,— кіўнуў з-за стала муляру.— А вам я зараз ваш учынак кожнаму ў характарыстыку запішу.— Ён схіліўся над сталом і пачаў нешта пісаць у папках. Хлопцы пераступалі з нагі на нагу, баючыся нават дыхнуць.

Нарэшце Анатоль Пятровіч скончыў пісаць, паклаў папкі ў шафу і сказаў:

— Запамятайце: усялякае парушэнне дысцыпліны будзе запісана ў характарыстыку, якую я завёў на кожнага з вас. У каго збярэцца дзесяць такіх парушэнняў — у працоўна-выхаваўчую калонію будзем адсылаць. Усё. Можаце ісці!

Моўчкі мыліся хлопцы, моўчкі здзіралі прыліплую да рук сінюю фарбу і чысцілі вопратку. Гаварыць не хацелася, смяяцца ці плакаць таксама. Адным словам, дапрацаваліся...

Назаўтра сапсаваную стол перабяліў Зінові Цімафеевіч. А яшчэ праз тры дні ў другім корпусе пафарбавалі падлогу.

Чакалі наваселля, але яно адкладвалася. Высветлілася, што перасяліцца са старога памяшкання ў адрамантаваную гасцініцу не так проста.

Спачатку прыйшлося чакаць, пакуль памяшканне высахне. Пасля, калі фарба на падлозе, на дзвярах і вокнах прасохла, прыйшла камісія з камунгаса. Тоўсты дзядзька ў чорным паліто разам з трыма сваімі маладзейшымі памочнікамі быў на дзіва прыдзірлівы. Два дні вымяралі яны доўгім метрам-рулеткай плошчу пакояў і калідора, шырыню і вышыню дзвярэй, вокан, падлічвалі кубатуру памяшкання. Напісалі нейкую даўжэзную паперу і пайшлі.

Пасля першай камісіі з'явілася другая. Усе яе члены былі ў белых халатах. Гэта завітала санінспекцыя з раённай бальніцы. Жанчыны ў белых халатах вельмі прыглядаліся да ўсяго. Загадалі ў вокнах выняць па маленькай шыбіне, а дзіркі зацягнуць марляй — для вентыляцыі. У дзвярах загадалі зрабіць адтуліны, каб пакоі прадзімаў лёгкі скразнячок.

Назаўтра прыйшла трэцяя камісія. Яна спачатку накіравалася не ў другі корпус, а ў рабочы пакой, дзе старэйшая група рыхтавала ўрокі.

Хлопцы, тыя самыя дзетдомаўскія хлопцы, што прывыклі да ўсялякіх нечаканасцей, на гэты раз так разгубіліся, што ледзь здагадаліся сказаць: «Добры дзень». Яны так бы і стаялі, каб чалавек, які ўвайшоў першы, не ўсміхнуўся знаёмай усмешкай і не сказаў ім сесці. Гэта быў начальнік міліцыі Гразоўскі. Побач з ім стаяў таксама без шапкі загадчык раймана.

— Як жывём? — спытаў Гразоўскі аднаго з хлопцаў.

— Урокі вучыць не хочацца,— шчыра прызнаўся той.

Пакой аж скалануўся ад рогату. Смяяліся ўсе: і Гразоўскі, і загадчык раймана, і дырэктар. Асабліва ж рассмяшыў хлопчык трэцяга члена камісіі — маладога, у армейскім бушлаце: ён аж прысеў ад смеху. Гледзячы на яго, не ўтрымаліся і дзеці. Праз мінуту ў пакоі стала весела і нібы пацяплела.

Мікалай Пятровіч счакаў, пакуль стане ціха, і загаварыў першы:

— Сёння да нас прыйшлі госці,— ён паказаў рукой на двух мужчын і рыжавалосага хлопца. Вы іх, мабыць, ведаеце крыху?

— Ведаем! Ведаем! — пачулася ў адказ.

— Вось і добра,— гаварыў дырэктар.— А гэта,— ён павярнуўся да хлопца ў бушлаце,— сакратар райкома камсамола Іван Зернавы. Ён да вайны сам выхоўваўся ў дзіцячым доме, таму хоча з вамі пазнаёміцца, пагутарыць.

Праз паўгадзіны ў пакоі амаль нельга было паварушыцца — сабраліся ўсе выхаванцы, што былі ў дзіцячым доме. Іван Зернавы гаварыў ціхім, крыху прастуджаным голасам, але яго слухалі з увагай.

А Федзя крадком прыглядаўся да начальніка міліцыі. Без форменнай шапкі Гразоўскі выглядаў зусім іншым чалавекам. Лысаваты, бровы чорныя, ля вачэй маршчынкі, рукі складзены на стале, пазірае на дзяцей уважліва, а ў вачах нібы стомленасць, нібы неспакой ці нейкі смутак. Асабліва ж зацікавілі Федзю тры рады ордэнскіх стужак на сінім кіцелі начальніка.

«Глядзі ты, ваяваў, інакш за што далі б?»— падумаў сам сабе.

Начальнік таксама прыглядаўся да дзяцей. Пазнаўшы Пецю Жаўнерыка, ён, відаць, успомніў, як падсаджваў яго ў кузаў аўтамашыны на станцыі, таму што ледзь прыкметна падміргнуў малому. Пазнаў ён, напэўна, і астатніх хлопцаў, бо сядзеў і час ад часу ўсміхаўся.

Віця, не адрываючыся, пазіраў на загадчыка раймана. Мроілася думка: «А што, калі пра бацьку спытаць?» Але ён тут жа адганяў яе. «Не варта. Магчыма, забыў ужо. Ды і месяца не падыходзячае...» А да сэрца падступала цёплая хваля ўдзячнасці гэтаму чалавеку, які падтрымаў, не пакінуў у цяжкую пару жыцця. З задуменнасці Віцю вывеў голас Зернавога:

— А зараз пойдзем паглядзім ваш другі корпус.

З пакоя Зернавы выходзіў апошні.

Віця заўважыў, як ля парога сакратар затрымаўся на мінуту і нешта спытаў у выхавальніцы Валянціны Зіноўеўны. Твар у яго быў нейкі вінаваты, а рукі ні з таго ні з сяго пачалі перабіраць гузікі на бушлаце. Круглы бялявы твар выхавальніцы таксама паружавеў, а прыпухлыя губы сказалі толькі два словы: «На апошні сеанс». Віця хуценька адвярнуўся і надзвычай уважліва пачаў складваць падручнікі. Сцяў губы, каб не засмяяцца, а ў галаве крутнулася думка: «Ён у дзетдом прыйдзе яшчэ не раз...» Было смешна і радасна.

Пярэбары прызначылі на нядзелю: так зручней — усе выхаванцы дома. Ноччу выпаў першы сняжок, але калі на нейкую паўгадзіну выглянула па-зімоваму нізкае сонца, са стрэх пасыпаліся кроплі. На частакол садзіліся вераб'і і, здзіўленыя нечаканым прыходам зімы, наперабой чырыкалі штосьці сваё, птушынае. Непадалёку на станцыі рэзка ўскрыкнуў паравоз. Ад яго голасу затрымцела паветра, і з галінак таполяў мякка зляцелі снежныя камякі. На двары было цёпла. Гэта падымала і без таго добры настрой дзетдомаўскай дзетвары.

Першыя свае ложкі ў другі корпус перанеслі хлопцы са старэйшай групы.

Пакуль хапала вольнага месца, паставілі ў кожным пакоі па чатыры, а не па пяць, як меркавалася, ложкаў.

Затым дружнай талакой, з крыкам і смехам, а часам і з плачам перасялялі меншых. Маленькі Барыс, якога хлопцы любілі за вясёлы і бесклапотны нораў, паставіў свой ложак у самым вялікім пакоі на дзесяць чалавек, дзе пасяліліся Віця, Федзя і Лёня. Ложак пераносіў не ён — перанеслі Віця і Федзя. Барыс толькі пад агульны рогат нёс на галаве сваю падушку. Пакой папаўся добры, хоць вуглавы, але з вокнамі на вуліцу, да сонца.

Хлопцы акуратна заслалі ложкі, паставілі ў кут адзіную тумбачку, акуратна прыкалолі на сцяну плакат, што заклікаў падпісвацца на дзяржаўную ўнутраную пазыку,— трэба ж было нечым упрыгожыць сваё жыллё,— і ўжо надзявалі шапкі, каб пабегчы на двор і «зрэзацца» ў снежкі, як у пакой ускочыў збялелы Пецц Жаўнерык. Схапіўшыся за прачыненую палавінку дзвярэй, ён, нібы не сказаў, а стрэліў адным кароткім словам: «Немцы!..» Праз паўмінуты хлопцы былі на тратуары, дзе тоўпіўся ўжо амаль увесь дзетдомаўскі народ.

Па вуліцы спакойным крокам ступалі канваіры ў шэрых шынялях, з вінтоўкамі наперавес. Немцаў было чалавек шэсцьдзесят, канваіраў дзесяць. Калона ішла павольна, палонныя штосьці гергеталі, канваіры маўчалі. Палонныя былі з чырвонымі, адкормленымі тварамі, канваіры былі бледныя і скуластыя. Немцы ішлі не ў нагу, таму здавалася, што па вуліцы цягнецца вялізны натоўп п'яных.

Віця Ляўковіч стаяў на тратуары, сярод такіх жа, як ён, асірацелых хлапчукоў і дзяўчынак і пазіраў на шэра-зялёную калону. Ён не адчуваў, што ў яго да болю сціснуты сківіцы. Вочы, здавалася, не бачаць калоны, што калыхаецца пасярэдзіне вуліцы. Вочы бачылі іншае. Такі ж самы белы снег... Вясковую вуліцу... На ёй натоўп людзей — іх карнікі злавілі ў лесе... Гналі сялом на расправу... Недзе ў сярэдзіне калоны, трымаючыся за бацькаву руку, ішоў ён, Віця Ляўковіч... Па баках ішлі

карнікі з аўтаматамі... Ішлі праз сяло... Ішлі полем да пясчанага ўзгорка... А тады... Тады адбылося страшнае — прыгнаўшы людзей да крутога ўзгорка, фашысты пачалі расправу... Апошняе, што памятае Віця, гэта, як бацька прыхінуў яго да сябе, і яны разам асунуліся ў снег... Бацька больш не падняўся... Віця два дні блукаў у лесе, пакуль натрапіў на людзей...

І вось цяпер па местачковай вуліцы ідуць яны, забойцы ягонага бацькі, тысяч бацькоў і маці, тысяч малых дзяцей. Ідуць, смяюцца — іх чакае Германія, іх павязуць дамоў... Аб гэтым гаварылі па радыё. Віця нібы праз сон убачыў дзяцей, што стаялі на тратуары... Было ціха, нібы ўсе здранцвелі. А па вуліцы ўсё бліжэй і бліжэй чужы, нязвыклы смех, чужая гаворка, цяжкія крокі, няўклюдныя постаці ў расхлістаных брудных шынялях...

Дзеці зацiхлі, нібы сталіся. А шэра-зялёная маса ўсё бліжэла і бліжэла... Віця здалёку ўбачыў постаць цыбатага белавалосага немца ў пілотцы, ссунутай на бок. Ён быў самы высокі, яго галава тырчала над калонай, нібы пень. Віця не зводзіў вачэй з гэтай галавы аж пакуль калона не падышла да таго месца, дзе стаялі дзеці.

Канвойны, пажылы вусаты салдат у пацёртай шапцы-вушанцы, яшчэ за некалькі крокаў знакам рукі папрасіў, каб дзеці пастараніліся. Саступаючы з тратуара, Віця спатыкнуўся аб кавалак цагліны. Кавалак быў ёмкі, як узяць у далонь. Віця бачыў яго толькі краем вока. Імгненне, і неяк неўсвядомлена схапіў ён з зямлі чырвоную халодную цагліну, крутнуўся тварам да калоны. На вочы яму трапіў зноў той высокі ў ссунутай пілотцы. Віця замахнуўся. Яго хтосьці схапіў за руку. Калона збілася ў кучу і суцішыла крок. Канвойныя крутнуліся да немцаў. Пасярэдзіне калоны, прыгнуўшы галаву, стаяў высокі немец. Між пальцаў рукі, якой ён трымаўся за галаву, чырванела кроў. Падняўся крык. Палонныя махалі сціснутымі кулакамі і штосьці крычалі. Тады ў калону паляцелі кавалкі цэглы адтуль, з другога боку вуліцы.

Вусаты салдат-канваір кляцнуў затворам і крыкнуў штосьці пярэдняму палоннаму. Той паскорыў крок. Калона выраўнялася і рушыла крыху хутчэй.

Задні канвойны, малады бязвусы салдат, закінуў за плечы вінтоўку і, растапырыўшы рукі, пачаў пхаць дзяцей у вузкую брамку дзетдомаўскага двара.

— Не трэба, не трэба так... — шаптаў ён дрыжачымі губамі, а ў самога на вачах былі слёзы.

Аднекуль прыбегла выхавальніца. Пакуль яна распытвала, што здарылася, калона адышла далёка.

Віця дайшоў да свайго новага пакоя і ўпаў на ложак тварам у падушку. Яго худыя плечы ўздрыгвалі. Побач стаялі сябры і не ведалі, чым яму памагчы. А ў акно шырокага пакоя заглядвала скупое зімовае сонца.

## РАЗДЗЕЛ IX

У поўдзень на станцыю прыбыў таварны эшалон. Ён быў доўгі, запылены і закураны. Уперамешку з крытымі вагонамі стаялі нізкія карычневыя платформы з абадранымі, спісанымі крэйдай бартамі. Эшалон ішоў на Пінск. Ён стаяў нядоўга — мінут пятнаццаць. Пакуль станцыйны міліцыянер сачыў, як садзілася ў два пярэднія вагоны калона немцаў, як залазілі ў тамбуры вагонаў цёткі з мяшкамі і як з тоўстай і крывой трубы вадакачкі ў тэндар паравоза шугала вада, на



трэцюю ад канца платформу кульнуўся проста праз борт хлопец у сінім паліто і чорнай шапцы-вушанцы. Трымаючы ў руках невялікі клуначак, ён ніцма ўпаў на дно платформы ў самым яе кутку і заціх, але вочы яго пільна сачылі праз шчылінку за ўсім, што рабілася на станцыі. Сэрца ў хлопца тухкала, нібы малаток, стылі рукі, і ўсё цела дробна дрыжала. Хлопец прыцiснуў да сябе свой невялікі клунак і чакаў.

Калі, нарэшце, ляснуўшы буферамі, вагоны застагналі і зрушылі з месца, ён паспакайнеў. А калі станцыя засталася ззаду, сеў на падлозе платформы, усміхнуўся, склаў вялікі кукіш і ткнуў ім у бок мястэчка: «Ну, што? Выкусілі?»

Паравоз набіраў хуткасць, і ў спіну хлопцу пачаў дзьмуць халодны вецер. Тады ён перайшоў да пярэдняга краю платформы, прысеў, схаваў счырванелыя, патрэсканыя рукі ў рукавы паліто і заспяваў:

Позабыт, позаброшен
С молодых юных лет,
Я остался сиротою,
Счастья, доли мне нет...

Часам паравозны свісток заглушаў ягоны голас, часам у вочы лез едкі дым, але хлопец спяваў сваю невясёлую песню. Ён ведаў — да наступнай станцыі далёка.

Што знік Апанас Кныш, у дзетдоме спахапіліся толькі ў абед. Кінуліся ў спальню — няма. Ложак стаіць засланы, ручнік на білцы вісіць, а Кныша няма. Пабеглі ў пакой, дзе ўрокі рыхтуюць. Падручнікі акуратна складзеныя ляжаць, дзённік зверху, а хлопца няма. Федзя Жаўнерык крадком за лазню зірнуў, дзе Апанас курыць хаваўся, — і там пуста. Аблазілі ўсе закуткі — Апанас нібы ў ваду кануў.

Усхваляваная Валянціна Зіноўеўна пабегла да Мікалая Пятровіча. Ён жыў побач, у суседнім доме займаў два невялікія пакойчыкі. Моўчкі і спакойна апрануў ён шынель, надзеў шапку і следам за выхавальніцай заспяшаўся ў дзетдом.

Калі па сваёй звычцы маленькі Барыс прачыніў дзверы, каб паслухаць, што робіцца ў канцылярыі, Мікалай Пятровіч загадаў яму:

— Зайдзі на мінуту, Барыс.

Малы хуценька зняў шапку і пераступіў парог, не зводзячы вачэй з дырэктара.

Мікалай Пятровіч чамусьці адчыняў шуфляду свайго стала.

— Вось што, Барыс, пакліч, калі ласка, да мяне Федзю Жаўнерыка, Віцю Ляўковіча і Максіма Зялёнку. Ды хутчэй.

— Я на аднойназе,— Барыс выкаціўся за парог.

Калі задыханыя хлопцы пастукалі ў дзверы і ўвайшлі ў канцылярыю, Мікалай Пятровіч званіў па тэлефоне:

— Так, як толькі ўбачыце, паведаміце, справа сур'ёзная...— павесіў трубку на рычаг і зірнуў на хлопцаў.

— Сядайце. У лес думаў сёння з вамі пайсці, прыгожа ў лесе... Сняжок...

У хлопцаў адлягло ў грудзях. Яны хуценька селі на табурэткі ля акна.

— Як вы думаеце, куды мог паехаць Апанас — на Гомель ці Пінск?— Спытаў і па чарзе зірнуў кожнаму ў вочы.

Хлопцы церабілі шапкі. Пра тое, што Кныш мог паехаць, яны падумвалі і самі, але неяк не хацелі верыць. Можа так дзе схаваўся, а тут дырэктар зусім сур'ёзна пытае, значыць, ён штосьці ведае. Хлопцы маўчалі. Мікалай Пятровіч дастаў са стала папяросу, чыркануў запалкай. Праз блакітнае воблака дыму зірнуў на Федзю.

— Ты, Жаўнерык, не крыўдуй. Я хачу ведаць, куды вы ехалі тады, як вас на станцыі з вагонаў знялі?..

Федзя з хвіліну памаўчаў, праглынуў сліну:

— Мы ехалі ў Пінск. Але ж гэта я хацеў туды... А куды паехаў Апанас, я не ведаю,— Федзя прыкусіў губы і адвярнуўся да акна. Віця заўважыў, што на шчацэ ў яго праступілі ружовыя плямы.

Дырэктар падняўся з-за стала, падышоў да Федзі, крануў за плячо:

— Вось бачыш, я толькі спытаў, а ты адразу і крыўдзішся. Я не хачу, каб Апанас дрэнным чалавекам стаў. Яго трэба вярнуць у дзетдом. Пайшлі на станцыю, паглядзім, можа ён там.

Хлопцы падняліся.

На станцыі пахадзілі між штабялёў, заглянулі ў хляўчук, што пуставаў па-ранейшаму, пабылі ў зале для пасажыраў. Апанаса нідзе не было. Калі ўслед за Мікалаем Пятровічам хлопцы выходзілі з вакзала, насустрач ім трапіўся станцыйны міліцыянер. Ён спачатку прыклаў руку да лакіраванага казырка, а пасля працягнуў яе Мікалаю Пятровічу:

— Едзем куды, таварыш дырэктар?

— Ды не, праводзілі,— усміхнуўся Мікалай Пятровіч.— Вы тут, таварыш Жукаў, выпадкова не бачылі, можа ў тамбур вось такі маладзец садзіўся, як гэтыя?— дырэктар кіўнуў у бок хлопцаў.— Білета не купіў, ссадзяць яшчэ...

Міліцыянеру, відаць, спадабалася, што яго назвалі «таварышам Жукавым», таму што ён падцягнуўся, нават шпорамі дзынкнуў і шаблю рукой прыціснуў да бядра:

— Ніяк не, таварыш дырэктар. Такога не наблюдалась. Пагрузілі ў эшалон палонных немцаў, а такога, звініце, не наблюдалась...

— Шкада,— сказаў дырэктар,— шкада, без білета, зайцам паехаў...

— Жалаю здраствavаць!— міліцыянер зноў шчоўкнуў шпорамі і перахапіў шаблю.

Хлопцы засмяяліся. Аднак ім было няёмка перад Мікалаем Пятровічам за Апанаса, за тое, што ён уцёк. Цяпер дырэктару, відаць, непрыемнасці будуць. Дарма, што ён спакойны і жартуе.

Вечарам дырэктар прыйшоў да хлопцаў у пакой. Ён дастаў з кішэні пацёртую тоўстую кніжку і пачаў чытаць пра харошага хлопца Паўку Карчагіна. Усплываў перад вачыма злосны поп, які выкінуў Паўку са школы. Сэрцы сціскаліся ў хлопцаў ад крыўды, і хацелася верыць, што Паўка пераможа, хацелася памагчы яму, забраць сюды, у дзетдом, і хацелася слухаць, слухаць роўны і гучны голас чалавека са шрамам на шыі.

Кожны пацiху ўздыхаў, нібы не пятнаццаць год было ў яго за спіной, а па меншай меры — чатыры дзесяткі...

Спаць клаліся моўчкі. Неспакойны быў першы вечар у новым, сваімі рукамі абладжаным пакоі, які яшчэ дыхаў пабелкай і фарбай. Кожны думаў пра сваё. Уціснуўшы шчакой падушку, ляжаў з адкрытымі вачамі Віця. Ён думаў пра палонных немцаў і таго высокага, што закрыў рукамі акрываўлены твар. Віцю ніхто не пакараў за яго ўчынак, але ў душы ён адчуваў, што зрабіў штосьці зусім не геройскае. І ад гэтага было яшчэ горш на сэрцы.

Варочаўся на сваім ложку Федзя. «Куды вы ехалі... Куды ехалі? Ну, ехалі, каб з голаду не памерці. У Пінск ехалі. На рынак у вялікі горад ехалі, там пракарміцца лягчэй. Падвёў ты мяне, Апанас... І хлопцаў падвёў. Цяпер ці будуць верыць нам у дзетдоме. А тут нядрэнна. Не паеду я адсюль. Можа толькі выганяць, дык тады».

Сагнуўшыся абаранкам, упёр кулакі ў падбародак Максім. Ён пра сваё думае: недзе ў шафе ў завуча папкі кардонныя ляжаць. У адной з іх характарыстыка на яго, Максіма. А што ён зрабіў кепскае?

А ў кутку Жора з Лёнем шэпчуцца, іх ложкі спінкамі сутыкаюцца, хлопцы адзін да аднаго галовамі ляжаць.

— Лёня, ведаеш, я чуў, што недзе ў гэтым доме золата схавана, скарб.

— Ну і што, няхай схавана...

— Дзівак! Знайсці б яго, во было б.

Уздыхае Лёня.

— Сціхні ты са сваім золатам. Я назаўтра задачку па алгебры не рашыў, а ён мне... золата...

Адварочваецца да сцяны Жора, вочы заплюшчвае, заснуць хоча. І Лёня змаўкае, з галавой пад коўдру лезе. Спаць трэба. А ля дзвярэй маленькі Барыс носам песні спявае. Чыстае ў чалавека сумленне: набегаўся за дзень, натаміўся, павячэраў і вось сабе спіць. Добра малому.

Ляжаць, думаюць хлопцы. На станцыі недзе паравоз закрычаў, дробненька-дробненька вагонныя колы стукаюць. Усё цішэй, цішэй, аж пакуль зусім не заціхаюць. Дзядзька Елісей асцярожна па калідоры ходзіць. Падышоў да пакоя, пацiху дзверы прачыніў, пастаяў хвілінку, зноў зачыніў. «Э-э-х-х, хлопчыкі мае. Спіце на здароўе...» Паволі на ганак па калідоры патупаў — паглядзець, ці ўсё спакойна.

Хлопцы засынаюць.

З першымі ж маразамі ў дзетдоме пачало прыбываць навічкоў. Цяпер іх рэдка прыводзіла міліцыя. Яны прыходзілі самі, а часцей за ўсё іх падбіралі на станцыі.

У вокны дзетдомаўскай канцылярыі з раніцы шкрабалася першая снежаньская мяцеліца. Яна то гладзіла шыбы пушыстай снежнай мяцёлкай, нібы ў надзеі, што гэтак яе хутчэй пусцяць у памяшканне, то сярдзіта секла па шклу сотнямі драбнюсенькіх сняжынак-ільдзінак.

Хлапчук, што сядзеў на табурэтцы спіной да акна, расхінуў шэрую ватоўку і неяк вяла, нібы сонны, апусціў рукі. Стомлены і згаладалы, ён пазіраў перад сабой і адказваў на пытанні завуча.

— Парэчкін... Алёша... Аляксей... Смаленскай вобласці... Дакументаў няма... Вось тут сумка... Паглядзіце...

Непаслухмянымі пальцамі ён хацеў расшпіліць палявую кірзавую сумку, але раптам усёй сваёй шчуплай постаццю пачаў асоўвацца на падлогу.

Завуч, заняты паперамі, не бачыў гэтага. Ён спахапіўся толькі тады, калі новенькі глуха грукнуўся аб падлогу сагнутымі локцямі.

—Што? Што з табой?—Анатоль Пятровіч хуценька наліў шклянку вады і схіліўся над хлопцам.

Жоўты васковы Алёшаў твар выглядаў нібы мёртвы. Анатоль Пятровіч адной рукой падняў хлопца за плечы, другой паднёс яму вады. Той штосьці мармытаў і круціў галавой. Тады Анатоль Пятровіч прыхінуў яго плячамі да сцяны і кінуўся да дзвярэй.

— Медсястру, медсястру паклічце ў канцылярыю!— крыкнуў ён.

Алёша Парэчкін ачуньваў марудна. Аслабелы ад голаду, ён, відаць, памёр бы ў той жа дзень, калі б яго не прывялі ў дзетдом.

Тры дні медсястра не спускала з яго вока. Алёшу памылі, пастрыглі, апранулі, але не давалі многа есці, каб не захварэў. Алёша гатовы быў кінуцца на дзяжурнага, калі той разносіў абед, гатовы быў біцца з дзецьмі за кавалак хлеба. Яго ўпрошвалі, нават гразілі, а ён і ноччу

скрыгатаў зубамі, мармытаў: «Есці, мама, хачу есці...» Так цягнулася з тыдзень, а потым Алёша перамяніўся.

Хлопцы з Віцевага пакоя ды і сам Віця падружыліся з новенькім з першых жа дзён. Ён, гэты Парэчкін, быў вясёлы і жыццярадасны хлопец. У першую ж нядзелю прапанаваў:

— Пацаны! Пайшлі на рынак...

Хлопцы пераглянуліся. Мікалай Пятровіч забараніў ім туды хадзіць — мала што можа здарыцца. Ды і старое каму-кольвечы трэба было забываць.

— На рынак? Семак захацелася?— перапытаў Федзя.— Прыйдзецца пацярпець — у нас наконт рынка строга...

— Ды кінь ты... Мне ў разведку туды трэба схадзіць! На рынку бываюць рэчы, куды цікавейшыя за твае семкі.

Хлопцы тапталіся на месцы.

— Не, не варта... іншым разам...

— Ну і сядзіце дома... А я пайшоў, мне трэба...

Рынак быў недалёка ад дзетдома. Хлопцам карцела паназіраць, што там будзе рабіць Алёша і што гэта ён хоча разведаць. Таму, счакаўшы трохі, яны пайшлі следам за ім.

Алёша хадзіў сярод шумлівага натоўпу людзей, як чалавек бывалы.

— Мядок прадаем? — весела спытаў ён цётку ў вялізнай шэрай хустцы.— Пачым жа шклянка? А ён не з патакай?

Цётка спалохана абхапіла збанок рукамі, але, убачыўшы шырокую Алёшаву ўсмешку, пасмялела.— Што ты, дзетачкі мае, ліпавы, што ні ёсць ліпавы...

Алёша пашамацеў у кішэні паперкай, нібы там была жменя грошай, і сказаў:

— Паспытаць трэба... Так не вазьму.

— Калі ласка...

Нажом з драўляным чаранком цётка адрэзала скібку хлеба, памазала мёдам. Алёша, як запраўскі знаўца, нехаця з'еў ласунак.

— З воскам... Мне чысты трэба.

Не чакаючы, пакуль цётка зразумее, у чым справа, ён бокам нырнуў у натоўп і праз мінуту, ужо ля другога стала, каштаваў масла. З філасофскай абыякавасцю Парэчкін за паўгадзіны паспытаў і сыру, і смятаны, з'еў яблык, вывудзіў з паўжмені гарбузікаў, у аднаго дзядзькі ўзяў са стала і панюхаў тытуню. Хлопцы ўжо збіраліся падысці і пасароміць яго, калі ўбачылі, што ён неяк раптам ажывіўся. Ён убачыў тое, што шукаў, па што прыйшоў на рынак: у самым кутку, ля агарожы, стаяў мястэчковы хлопец і трымаў у руках невялікую драўляную клетку з двума шэрымі галубамі.

Алёша падыходзіў да хлопца, не спяшаючыся. Ён шлёпаў чаравікамі па гразі і не спускаў вачэй з клеткі.

— Свае ці суседскія збываеш? — коратка спытаў ён.

— Свае...

— Колькі?..

— Два...

— Бачу, што два... Колькі тугрыкаў разам з клеткай будзе?

Алёшавы вочы — гэта сама нявіннасць. Усмешка — проста яснае сонейка. Хлопец не разумеў нічога ў «тугрыках». Ён падаўся крыху назад і зноў паўтарыў:

— Два... Гэта не «тугрыкі»... Гэта турканы...

— Ай-ай, дзеравеншчына,— паківаў галавою Алёша.— Я пытаю, колькі хочаш за свой тавар?



— А, колькі хачу? — хлопец шморгнуў носам, штосьці відаць, прыкідваючы.— Сотню... Сто рублёў...

Алёша зарагатаў. Пакуль уладальнік галубоў пазіраў у ягоны разяўлены рот, Алёша ліхаманкава прыдумваў, як бы забраць галубоў. Грошай у яго не было ні капейкі. А галубы — важныя, гэта ён адразу заўважыў.

— Сто рублёў, кажаш? Дарага... Сто рублёў гэта многа... Ты бачыў калі-небудзь сто рублёў? — насеў ён на хлопца.

— Не, не бачыў. Але хачу столькі...

— Ах, ты хочаш столькі... А ў мяне столькі няма...

— А колькі ў цябе ёсць?— ажывіўся хлопец.

Алёша памаўчаў. Ён адчуў, што хлопец клюнуў на прынаду.

— Ну, скажам, крыху менш...

— Ну, колькі?

— Колькі ёсць — усе мае... Дай на хвілінку птушак тваіх глянуць.

Хлопец недаверліва працягнуў клетку. Алёша спрытна прачыніў дзверцы, выняў аднаго голуба.

— Т-так... — Ён з выглядам доктара пачаў аглядаць шэрага птаха: паглядзеў пад крылы, расчапіў чырвоную дзюбку і доўга глядзеў у рот. Хлопец стаяў, не ведаючы, што рабіць. Ён прадчуваў штосьці кепскае.

— Твае галубы хворыя,— нарэшце сказаў Алёша аўтарытэтным тонам.— Бачыш, нават вочы заплюшчылі. Яны апендыцытам хварэюць... Праз дзень, так сказаць, паляцяць у рай.. На ўласных крылцах...

У хлопца пабялелі шчокі. Ён хутка забраў голуба з Алёшавых рук і сунуў у клетку. Алёша абыякава казаў:

— Вось так, брат. Нясі дадому, няхай мамка іх засмажыць, пакуль не позна.— Ён сунуў рукі ў кішэні і адвярнуўся ад хлопца.

— А-а-а лячыць гэту хваробу можна? — нясмела спытаў хлопец.

— На гэта трэба спецыяльнае лякарства. У мяне дзядзька ветэрынар. Я мог бы дастаць.— Алёша абыякава пазіраў кудысьці міма хлопца.

— А ты не хлусіш? — нясмела спытаў той.

Алёша нават разззлаваўся. Ён зрабіў выгляд, што глыбока пакрыўджаны.

— Я не такі дурань, каб хлусіць... Давай шпар дадому, няхай мамка суп зварыць...

— А-а-а колькі ты за іх, за хворых, дасі?

— Г-м-м, колькі... — Алёша думаў уголас: — Парашкі для лячэння каштуюць дваццаць дзевяць рублёў і трыццаць капеек. Прывіўкі — па пяць кожнаму — трыццаць рублёў і семдзесят капеек... Дэзінфенкцыя — дзесяць рублёў. Усяго выходзіць, каб яны засталіся жыць, мне трэба аддаць семдзесят рублёў. Адымі ад ста, колькі будзе?

— Т-трыццаць...

— Правільна. А за тое, што я цябе выручаю, ты павінен скідку зрабіць. Як ты думаеш? Скажам, рублёў дзесяць?

Хлопец маўчаў.

— Павінен,— сказаў ён нарэшце.

— Вось і добра... Я бачу, што ты хлопец кемлівы. А раз так, дык слухай. Грошы я табе даў бы, але што яны — дваццаць рублёў. Згубіш або марожанае купіш на палачцы.— Алёша па-змоўніцку нахіліўся да хлопца і зашаптаў на вуха: — Я табе лепш рэч дам... Моцная рэч,— азірнуўшыся па баках, ён дастаў з кішэні бліскучую запальнічку і пстрыкнуў ёю перад самым носам хлопца. Успыхнуў жоўценькі, ледзь прыкметны агеньчык. Алёша дзьмухнуў на яго і сціснуў у далоні медны

цыліндрык звычайнага патрона з прыпаяным збоку колцам. Такія запальнічкі прадавалі на кожным вакзале.

— Ну?

Хлопец з хвіліну вагаўся.

— Бярэш? Мне дадому пара...

— Бяру-у-у... — Хлопец нехаця перадаў Алёшу клетку з галубамі, узяў запальнічку, пстрыкнуў ёю. Адзін раз, другі. Патушыў агеньчык і, стоячы на месцы, пазіраў услед Парэчкіну, які ўрачыста ў выцягнутай перад сабою руцэ нёс галубіную пару.

Хлопцы, што зводдаль назіралі за гандлем, толькі пераглянуліся між сабой. Ім не заставалася нічога іншага, як следам за Алёшам падацца дадому. Пакуль яны прыйшлі, на дзетдомаўскім ганку сабраўся цэлы мітынг. Пасярэдзіне дзіцячага натоўпу стаяў Алёша. Узняўшы ў руках клетку з галубамі, узрушаны і расчырванелы, ён распараджаўся:

— Максім, бяжы на кухню і папрасі круп... Пшонных няхай дасць кухар... Вады ў чарапку прынясі... Ды хутчэй. Ты, Жора, ты, Пеця, ты Лёня і ты, як цябе там, рыжы,— ён паказаў на Алеся Глушака,—бяжыце і прынясіце лесвіцу. Яна там, каля лазні...

Калі галубы паклявалі круп і папілі з разбітай талеркі вады, Алёша з клеткай у руках падняўся па лесвіцы на гарышча другога корпуса. Лезці каму-небудзь следам за сабой ён забараніў. На гарышчы быў нядоўга. Прыладзіўшы клетку ля невялікага акенца, злез далоў і сказаў:

— Пацаны! Сёння на рынку ў аднаго местачковага лапуха я выменяў на сваю ўласную рэч двух галубоў. Яны будуць пакуль што жыць у клетцы на гарышчы нашага дома. Пасля іх можна будзе выпускаць палётаць на вуліцу. Я папярэджваю ўсіх, што гэта не мае ўласныя галубы. Гэта нашы галубы. Але кожны, хто пасмее іх крыўдзіць, будзе мець справу са мной.

Алёша сарступіў з прыступкаў ганка і, нібы пасля доўгай і цяжкай работы, выцер рукавом спацелы твар. Ён адчуваў сябе ў гэтую мінуту сапраўдным героем. Яго абступілі, засыпалі пытаннямі. Алёша паволі ішоў у гурце дзяцей у сталоўку і зрэдку пстрыкаў сабе пад ногі шалупіннем з гарбузікаў.

— Ён што? Лапух... Аддаў галубоў ні за што. А галубы важныя. Вясной яны маленькіх выведуць.

Здавалася, нічога асаблівага не адбылося. Прынёс Алёша клетку з галубамі. Дзве звычайныя шэрыя птушкі. А колькі пра іх размоў у дзетдоме! Нават дырэктар і той на гарышча злазіў, сам шэрых птахаў паглядзеў. Злез, усміхаецца.

— А нічога сабе. Няхай будуць — з імі весялей. Толькі вы іх не абкарміце...

Занятыя галубамі, дзеці не заўважылі, як мінуў дзень. А назаўтра новая падзея ўскалыхнула дзетдом.

Сакратар райкома камсамола спачатку пазваніў Мікалаю Пятровічу, а праз паўгадзіны прывёў у дзетдом новенькіх — хлопца і дзяўчынку. Ім было гадоў па чатырнаццаць. У дзяўчынкі з-пад старой хусткі выбіваліся пасмы коратка падстрыжаных чорных валасоў. Яна палахліва азіралася, трымаючы ў руках невялічкі клунак. Хлопец не быў падобны да тых новенькіх, якія дагэтуль прыбывалі ў дзетдом.

Віця ўбачыў яго, калі забег у канцылярыю пакласці на стол пошту, якую на вуліцы аддаў яму паштальён. Зірнуў на смуглы, зацяты і маўклівы твар і нават скалануўся: «Што з ім? Чаму ён такі, нібы скамянелы? Можа сляпы?» Не. Хлопец не быў сляпы. Ён зірнуў на Віцю, не паварочваючы галавы, і адвёў вочы. Віцю не было чаго рабіць у канцылярыі, але ўсё ж ён затрымаўся, каб больш уважліва прыгледзецца да новенькіх, асабліва да хлопца.



— Добра, Арсень, з сённяшняга дня ты і твая сястра залічаны ў дзетдом,— сказаў дырэктар.— Праўда, вучыцца табе будзе цяжкавата, але нічога, у нас дзеці дружныя... Галоўнае, не падаць духам...

Хлопец неяк залішне хутка падняўся з месца, заміргаў вачамі, ступіў крок наперад:

— Я буду старацца... Я ўсё ўмею рабіць сам...

Толькі цяпер Віця ўбачыў, што ў новенькага кароткія, крыху ніжэй локцяў рукавы і што ў яго ў гэтых рукавах не рукі, а дзве рубчастыя чырванаватыя куксы. Адной з іх ён прыціскаў да боку сваю шапку, другой правёў па вялікіх чорных гузіках на ватоўцы. «Ён бязрукі! Без абедзвюх рук?!..» Віцю стала няёмка за сваю залішнюю цікаўнасць. Счырванелы і разгублены, ён падаўся быў да парога, але яго паклікаў Мікалай Пятровіч:

— Ляўковіч, ты ўрокі падрыхтаваў?

— Падрыхтаваў...

— Добра. Пойдзеш з Арсенем і яго сястрой у сталоўку. Скажаш, каб іх накармілі. Пасля знойдзеш Зіновія Цімафеевіча і скажаш, каб ён уладкаваў іх, як належыць... І яшчэ. Як ты думаеш, што, калі Арсеня мы паселім у ваш пакой? Барыса можна перавесці да малых у другую спальню...

Віця маўчаў. Ад разгубленасці ён не ведаў, што гаварыць.

— Думаю, што Барыс згодзіцца,— прамовіў нарэшце.

— Вось і добра. Ты пагавары з ім... А Валерыю,— ён паглядзеў на дзяўчынку,— возьмуць да сябе дзяўчаты. Вось так. Можаце ісці.

Неяк само сабой здарылася так, што Віця з першых дзён нібы ўзяў Арсеня пад сваю апеку. Ён угаварыў Барыса, і той, праўда, з неахвотай перасяліўся ў пакой да першакласнікаў. Арсень спаў цяпер на Барысавым ложку. Віця памог яму падпісаць сшыткі, падабраць падручнікі.

Часта вечарамі хлопцы разам сядзелі над падручнікамі, рашалі задачы, вучылі ўрокі. І за ўвесь гэты час Віця ні разу не асмеліўся спытаць у свайго новага сябра, дзе ён страціў рукі. Няёмка было, ды і не хацелася так, ні з сяго, ні з таго, лезці ў чужую душу. Арсень быў удзячны яму за гэта. І можа ў знак гэтай удзячнасці аднойчы, калі яны кла́ліся спаць, сам расказаў Ляўковічу пра тое, што з ім здарылася.

— Разумееш, глупства выйшла. У сорак чацвёртым пайшлі мы з хлопцамі ў лес. Гэта там, у нашай вёсцы, на Гомельшчыне. Скрынку жалезную знайшлі. У ёй алоўкі металічныя. Узяў адзін, круціць пачаў. Ірванула так, што нічога не памятаю. Паўгода ў шпіталі праляжаў. Аказваецца, гэта быў мінны запал. Вось так... Пакуль я вісеў на валаску ад смерці, маці памёрла: сэрца... Бацька з вайны не прыйшоў. З сястрой у цёткі жылі... Голад... Паехаў, куды вочы глядзяць, сястру забраў з сабой... — ён уздыхнуў і змоўк.

Аднойчы, калі хлопцы вярталіся са школы, да іх пачаў чапляцца вядомы ў мястэчку задзіра, сямікласнік Гвідон Басаў. З ім былі яшчэ два местачкоўцы.

— Гэй ты, бязрукі,— лез Гвідон да Арсеня,— а хто табе штаны зашпільвае? Га-а?

Арсень збялеў і стаў, як укапаны. Гвідон зайшоў наперад і нахабна пазіраў яму ў твар. Далей усё адбылося раптоўна. Віця бачыў толькі,

што Арсень крутнуў плечуком... Удар локцем прыйшоўся Гвідону ў сківіцу, ён, як стаяў, так і брыкнуўся на тратуар. Яго сябры хацелі кінуцца на Арсеня, але тут выступілі дзетдомаўскія хлопцы. Іх было больш.

— Ну, хто яшчэ? — злосна прашаптаў Арсень, робячы крок уперад. Перад ім расступіліся. Ён спакойна пайшоў па тратуары.

Такі быў Арсень Зайцаў.

Не паспелі дзеці як след прывыкнуць да яго, як у дзетдоме з'явіўся яшчэ адзін новы выхаванец — Ілік Рыбкін, чарнагаловы, вяртлявы, нібы ваўчок, хлапчук з белым тварам і вялікімі, крыху адтапыранымі вушамі.

Ілік Рыбкін быў з Гомеля. У графе пасведчання, дзе значыцца прозвішча бацькі, нічога запісана не было. Мікалай Пятровіч паклаў гэты адзіны дакумент у шуфляду, у самую ніжнюю папку. У кнізе, куды запісвалі выхаванцаў, размашыстым почыркам накрэсліў: Рыбкін Ілья... Падумаў і дапісаў: «Іванавіч»...

Праз дзень Ілья Іванавіч адчуваў сябе ў дзетдоме так, нібы тут і радзіўся. Перш-наперш ён пазнаёміўся з маленькім Барысам. Сустрэўшыся на пустым двары, калі ўсе дзеці былі ў школе, хлапчукі пахадзілі адзін вакол другога і счапіліся загрудкі. Яны доўга качаліся па снезе, аднак паддацца не хацеў ніводзін. Знямогшыся зусім, прыселі і, не зводзячы адзін з другога вачэй, адпачывалі. Затым Ілья Іванавіч паказаў Барысу Іванавічу язык, і ўсё пачалося спачатку. Так іх і падняў са снегу за каўняры Зіновій Цімафеевіч.

Стары не быў педагогам, аднак у псіхалогіі такіх вось падшыванцаў кеміў добра. Каб адвучыць іх біцца, ён натапырыў рыжыя вусы і злосна загудзеў:

— Мірыцеся зараз жа!..

Хлопцы з-пад ілба пазіралі адзін на аднаго, цяжка дыхалі, выціралі насы і маўчалі. Барыс непрыкметна падсоўваў нагой да сябе сваю шапку, поўную снегу. Ілікава нейкім цудам засталася на галаве.

— Ну, што я вам сказаў?! — закрычаў стары.— Мірыцеся!

Дзе там... Ілья Іванавіч зноў паказаў язык. Барыс Іванавіч так тузануўся, што каўнер ледзь не выслізнуў у старога з рукі.

— Ах, так! Я ж вас навучу... Пайшлі, галубочкі!.. Там памірыцеся.

Барыс ведаў Зіновія Цімафеевіча і думаў, што той жартуе. Але калі стары падвёў іх да дзвярэй лазні і забрынчаў у кішэні ключамі, малы здрэйфіў. Ён яшчэ раз крадком зірнуў на старога, і ў яго аж каленкі задрыжалі: такім злосным загадчык гаспадаркі яшчэ не быў ні разу. «Замкне ў лазні...» — прамільгнула ў Барыса думка. Тут было не да жартаў. Ён нявіннымі вачыма паглядзеў на старога, пасля на Іліка і сказаў:

— А я што? Я гатовы мірыцца!

Ілік таксама перапалохаўся вусатага дзядзькі. Ён стаяў, апусціўшы галаву.

— Рукі, рукі адзін другому пацісніце. Хіба так мірацца?

Хлопцы паціснулі рукі.

— А цяпер бяжыце гуляйце,— загадаў ім стары.

Хлопцы памірыліся. Прытым самым найлепшым чынам. У дзетдоме не было больш ніводнага ложка, і Барыс, не раздумваючы, прапанаваў Іліку спаць разам з ім. Так амаль цэлы тыдзень яны і спалі «валетам» — толькі галовы тырчалі з-пад коўдры з абодвух краёў.

Ілік, як і Барыс, у школу не хадзіў. Першыя дні яны з раніцы да вечара то гулялі на двары, то залазілі куды-небудзь у зацішны куток і расказвалі адзін другому свае няхітрыя гісторыі. А потым іх пацягнула





на мястэчка. Разы са два, калі выхавальнікі былі занятыя, хлопцы ўцякалі ў кіно. Тады Мікалай Пятровіч сказаў загадчыку гаспадаркі:

— Вазьміце іх пад свой нагляд, а то раздурэюць малыя...

Жыць пад наглядам Зіновія Цімафеевіча хлопцам стала надзвычай цікава. Ён заўсёды што-небудзь рабіў, а яны памагалі. Раніцай, скажам, запрагае стары гнядога Фрыца, а хлопцы і лейцы, і дугу паднясуць, і хлеў зачыняць. Часам удвух вядро вады прыцягнуць — каня паіць. Фрыц п'е, а яны стаяць і за грыву яго тузаюць, балазе, конь стары, рахманы. Асабліва падабалася хлопцам ездзіць з Зіновіем Цімафеевічам па справах у мястэчка. Стары саджаў іх на воз, паважна браў у рукі лейцы і, нібы ў госці, выязджаў з двара. Спраў было шмат — атрымаць на пякарні хлеб, забраць з базы прадукты, прывезці бульбу са склада. Хлопцы памагалі насіць усё гэта на воз, пільнавалі, каб хто-небудзь не сцягнуў буханку хлеба ці банку кансерваў. Дома браліся за выгрузку. Адным словам, стараліся. Нават залішне.

Аднойчы, калі прывезлі з базы і перанеслі ў дзетдомаўскі склад кансервы, Зіновій Цімафеевіч пачаў іх лічыць. Раз палічыў — пяць штук лішніх аказалася. Другі раз пералічыў — тое самае. Стары накладную дастаў з кішэні, каб праверыць. Не сходзіцца, і ўсё... Стары патыліцу пачухаў, на хлопцаў пазірае. А тыя — проста анёлы, яны не ведаюць нічога. Адклаў стары лішнія банкі, хлопцаў паклікаў:

— Вы хочаце, каб мяне ў турму пасадзілі?

Хлопцы вачамі лыпаюць.

— Што вы, Зіновій Цімафеевіч, за што?

— За пакражу...

— Ды мы іх і не бралі... Мы памыліліся, мусіць...

Неслі хлопцы ўслед за старым тыя кансервы на базу і ад сораму гарэлі, у вочы нікому не глядзелі. А калі назад ішлі, перад самым дзіцячым домам Барыс за рукаў Зіновія Цімафеевіча крануў:

— Вы не кажыце нікому... Я не буду больш так рабіць...

Ілік таксама вочы падняў:

— Чэснае слова, не буду...

(Заканчэнне будзе)



**Еўдакія ЛОСЬ**

★

Як маці беражлівая дзіця,
Так я нашу сваёй істоты годнасць...
Калі растрачу з чысцінёю роднасць —
Не будзе мне спакойнага жыцця.

Мая работа, мной здабыты хлеб
І кветак цвет на помніку вячыстым, —
Усё маё хачу я бачыць чыстым
І годным для вялікасных патрэб.

Як маці беражлівая дзіця,
Так партбілет нашу я каля сэрца.
Яго на глум нягоднай паняверцы
Я не аддам ажно да забыцця.

★

У родным Мінску, добрым, пасталелым,
Я з ганаровай думкаю жыву,
Што некалі, дзяўчынаю нясмелай,
Я мела домам зорную Маскву.



Яна маёй настаўніцаю ранняй
Была, на шчасце, строгаю заўжды,
Суддзёю нешчаслівага кахання,
Якое нараджалася тады...

Масква сябе за вежы не хавала,
Не замыкала ў вну дзвярэй.
Я там жыла, там Пушкіна чытала,
У Ленінскі хадзіла Маўзалей...

Мне той навукі, што дала сталіца,
За працаю штодзённай не забыць.
Я маю веру, каб не памыліцца,
І сэрца, што навучана любіць.

Не расстаюся я з маскоўскай звычкай
Чытаць усюды, ўсюды паспяваць,
Хоць не магу законнаю масквічкай
Сябе, на зайздрасць блізкім, называць.

## СТАРЭЙШЫМ

Славутае старэйшых пакаленне —
Працаўнікоў савецкіх пяцігодак,
Барацьбітоў за вечную свабоду, —
Паклон ад маладзейшага прымі.

Прымі падзяку за твае натхненне,
З якім нашчадкаў песціла картавых,
За плугам смягла ў стэпах кучаравых,
З якім умела ў бойках паміраць!

Спакойна з вамі, добрыя сівыя,
Гадамі умудроныя сакраты,
Нягоды перажыўшыя і страты,
Якія вучаць днямі даражыць...

І нават маладзейшыя, чым тыя,
Што пабялелі, як пад снегападам, —
Хлопцы, што раслі пад Валгаградам, —
Як лёгка з вамі поплеч у жыцці!

Ідзеш да вас са ўсякаю нягодай,
Нясеш да вас і працу, і задуму,
Упэўнены, што не пачуеш глуму
Над пошукам і спробаю сырой.

І першай за старанне ўзнагародай
Не шум сяброў неўтаймаваных будзе,
А тое, што табе заўважаць людзі,
Якіх з налёту цяжка спакусіць.

Яны за працай грамадзянскай самі,
Яны умеюць бачыць не прыкрасы,
А прыгажосць сапраўднейшую часу,
Што набліжае камунізма дзень...

Старэйшыя, мы з вамі і за вамі.
Падзяка вам за родны лад савецкі,
За гай і стэп і космас запаветны, —
За ўсё, што ёсць і будзе у вяках.

## ТРАСЦЯНЕЦ


арога на Трасцянец —
Завея з канца ў канец...
Сонца над абеліскам —
Снег разгараецца прыскам.
Над прыскам тым негарачым
Мяцеліца плача, плача...

★


а дошцы — спіс турысцкіх падарожжаў:
Нарвегія, Балгарыя, Алжыр...
Каго-каго той спіс не заварожыць,
Каго не клікне зманлівая шыр!

І я стаю, мяне пытаць не трэба,
Ці згодная, ці вабіць доўгі шлях...
Сан-Паула, Стамбул, Адыс-Абеба,
Сны акіяна, пальмы на палях...

Я на дарогу ўжо сабрала грошы,
Мая анкета гладкая, як дол...
І толькі ты, мой будучы харошы,
Трымаеш мамку дома за падол...

Ты мой намер гарачы строга судзіш.
Няхай, адно дамовімся як след:
Каб адпусціў тады, калі ўжо будзеш
Глядзець сваімі вочкамі на свет!

Тады, магчыма, з кожнай паралелі,
З мерыдыяна кожнага сынку
Па рыбцы прывязу, жывой макрэлі,
Па яшчарцы, штоззяе на пяску.





Па калыханцы кожнае краіны
Спяю з душой, як родную сваю...
Ля дошкі, дзе малюнак пуцявіны,
Шчаслівa заварожанай стаю.

★


одзе над сшыткам сутуліцца!
Сонца кліча на вуліцу.
Промні яго пякучыя,
Нібыта зелле, гаючыя.
Доктар высокі, лагодны,
Самы чулы і родны.
Глядзіць на свету палаты:
А як яго дзіцяняты?
Як непаседы бяссонныя
І дамаседы палонныя?
Хто прытаміўся госцячы,
Хто паблядне ў зайздросцячы...
Каму з ачышчальнай аптэкі
Найпершаму трэба лекі!
Гэткія ці такія —
Няхай дае хоць якія!
Істоце заўсёды трэба
Лекаў з высокага неба!

## ШАФЁР ТАКСІ


афёр таксі не браўся выязджаць:
За горад дваццаць вёрст? Няма запаскі!
Старая шына ў полі можа здаць,
Калдобіннай не хочацца патраскі...
Сяк-так угаварыла юнака.
Паехалі. Маўчыць. Бяда такая!
Ля дома, што стаіць сярод ляска,
Спынілася машына гарадская.
Шафёр таксі зважае на куток,
Зірнуў на дом, — і, падзіўнелы, ўголас
Перачытаў, як быццам незнарок:
«Тут жыў і працаваў... Якуб Колас».
Аж паблядне ў узрушаны хлапчына.

Без руху пальцы на рулі ляжаць...
Стаіць ля ганку снежнага машына.
Шафёр таксі не хоча ад'язджаць...

★

**С. А. Голант**

Сутак для спраў не стае,
Справы жанчыну ўходалі.
Мне доктар мянушку дае:
«Perpetuum mobile».

За накіды, за чыставік,
З рэдакцый — на дыспут спрэчны...
Кручуся, як той рухавік,
Хочацца думаць — вечны.

Доктар гаворыць: цішэй,
Вы ж хутка — паважная мама...
Прапускаю міма вушэй
І спяшу, і гару таксама!..

Калі б гэта гарэнне маё
І нашчадка душу аздобіла,
Хіба пакрыўдзіўся б ён
На мянушку: «perpetuum mobile»!

★

Таварыш мой — горка і смешна —
Хлапчына з чужога сяла,
Знарок ажаніўся паспешна
Затое, што я не ішла...
А я сапраўды жартавала,
Хоць бачыла — слаўны юнак.
Я пісьмаў яму не пісала.
Страчала яго абы-як.
Атрымліваў хлопец вымовы
За тое, што кепска спяваў,
За нейкія хібы у мове,
Што часам студэнт забываў
Пра дзень нараджэння, пра свята
Жаночае ў сакавіку...
Давалася ў знакі багата
Каханне майму дружбаку!
Цяпер мы страчаемся рэдка.
Ён ведае: я — не адна.
Хавае сарваную кветку...
Хаваецца ў вейках вясна...
У госці яго запрашаю —
Таварыш стары не ідзе,
Я жартам яго спацяшаю,
Жадаю не гнуцца ў бядзе.
А дома знаходжу, на дзіва,
Ягоных канвертаў грудок...
У дзень нараджэння імкліва
Ляціць тэлеграмны лісток...
Усе мае святы запомніў,
Нічога, як ёсць, не забыў...
Парой маладосці і промняў
Няўдала — але ж любіў.

★

Кроплі па даху бразджалі,
Бегла дарогі рака.
Жанчыны ў доме чакалі
Восьмага сакавіка.
Апраналіся дбайна,
Чынна
Выходзілі за парог...
У доме былі мужчыны...
Кожны заўважыць мог
Тую ўрачыстасць на тварах,
Тое чаканне ў вачах...
Ёсць дзераза на імшарах,
Ёсць лапак смалісты пах.
Ёсць тоненькія букеты
З чарнічніку і лазы...
Мужчыны прайшлі, як планеты,
Міма такой драбязы!
І жанчыны, што свята чакалі,
Пабудзённелі, як журба...
Кроплі спагадна шапталі,
Сумна глядзела вярба...

## СУСЕДЗЬКА

Мой суседзька — кірпаносы,
З вачанятамі, як мушкі,
Таўстунок звонкагалосы,
Пацягушкі-падрастушкі!

Як завуць яго — не знаю,
Ці гаворыць што — таксама.
Толькі чую — пазяхае,
Чую — з ім гамоніць мама.
Галасіста есці просіць,
Голасна вітае тату,
Калі з цэху той прыносіць
Смех шчаслівы свой у хату.
Мой суседзька невялічкі
І мяне разбудзіць часам,
Калі ў небе зоры-знічкі
Толькі зоймуцца папасам.
Не сярдую з-за гамонкі,
І прэтэнзіі не маю
Я да сценкі, дужа тонкай,
Што ўсе гукі прапускае.
Хай таўстун крычыць няўмольна,
Патрабуе соску, кашы!
Хай расце суседзька вольна,
Як і ўсе малыя нашы!



Іван **НАВУМЕНКА**

# ЗДАРЭННЕ НА ПАЎСТАНКУ ВЯЛІКІЯ ІВАНЫ

**Апавяданне**

Мал. Э Гусейнава.

Здаляка, з вышыні парослага сасной узгорка, тры белыя домікі паўстанка здаюцца цацачнымі. Паўстанак называецца Вялікія Іваны, і гэта можа выклікаць толькі здзіўленне, бо ніякай вёскі ці паселішча з такой назвай у бліжнім наваколлі няма. Ёсць дом адпачынку, размешчаны на сасновых узгорках, ён носіць паэтычную назву «Арлінае гняздо». Па той бок чыгункі віднеюцца баракі торфапрадпрыемства, заснавальнікі якога не прыдумалі нічога лепшага, як назваць барачны пасёлак «Тарфяны ўчастак № 7». Кажуць, што некалі ў лагчыне, дзе цяпер штучнае возера, стаяў хутарок, які так і называўся — Вялікія Іваны. Хутарок спалілі немцы, потым, пасля вайны ўжо, рачулка, якая цякла па лагчыне, была перагароджана пясчанай дамбай — так утварылася штучнае возера, у якім купаюцца тыя, хто адпачывае ў «Арлiным гняздзе». На возера аднекуль прылятаюць нават сапраўдныя, марскія чайкі. Вялікія Іваны засталіся толькі назвай паўстанка, незразумелай і крыху смешнай.

Стаіць харошы беларускі верасень, напоўнены цеплынёй няяркага сонца, празрыстасцю паветра, аздоблены мяккасцю фарбаў і тонаў. Сасновы бор на працілеглым беразе возера ахутан сіняватай павалокай смугі, лашчаць вока вясёлыя бярозавыя гайкі на гэтым беразе, дыша прахаладай і спакоем люстраная, як матавае срэбра, роўнядзь возера.

Уладальнікі прафсаюзных пуцёвак, якія даюць права на гэты двухтыднёвы рай, займаюцца тым, чым займаюцца ўсе, хто трапіў у дом адпачынку. Снедаюць, абедаюць, нават спяць днём, купаюцца ў возеры, вандруюць па алейках, пасыпаных жоўтым пяском, гойдаюцца ў гамаках, гуляюць у валейбол. Трапляюцца і досыць зухаватыя кавалеры, да якіх належаць людзі самага рознага ўзросту. Гэтыя, старанна адпрасаваўшы белыя штаны і безрукаўкі, заводзяць знаёмствы з дзяўчатамі і жанчынамі, катаюць іх на лодках па возеры, водзяць па лесе, паказваючы найбольш прыгожыя і адметныя мясціны.

Вечарам у доме адпачынку кіно, пасля — сон. Нягледзячы на строгі рэжым і распарадак, правілы якога вывешаны ў калідоры кожнага корпуса, знаходзяцца такія, што, не клапоцячыся аб здароўі, значна ўкарачаюць час, адведзены для сну. У дальніх бясецках нават пасля той пары, калі ў небе павісае зеленаватая зорка Венера, можна ўбачыць парачку-другую, што ніяк не могуць нашаптацца. Дальнія бясецкі жартам называюць востравам расчаравання і слёз.

У нас свая кампанія, досыць выпадковая, але трывалая. Я хаджу з Васілём Голубам, высокім, саракагадовым інжынерам з прыдняпроўскага гарадка. Мы з ім і жывём у адным пакоі. З Васілём добра — ён маўклівы, не даймае роспытамі, днём, вынесшы раскладушку ў сасоннік, праглытвае кнігу за кнігай, а ноччу спіць. Да нас далучаецца Валя, прыгожая, досыць маладая жанчына з вялікімі сінімі вачамі і бялявымі завіткамі перманенту. Валін муж працуе на тым самым заводзе, што і Васіль Голуб. Жанчына далучаецца да нас часцей за ўсё ў перадвячэрнюю пару, калі мы збіраемся на паўстанак. У гэты час прыходзіць пасажырскі цягнік, прывозіць новых уладальнікаў пуцёвак у «Арлінае гняздо» і свежыя газеты, якія можна купіць у паштовым аддзяленні на паўстанку.

Валя ходзіць разам з намі па лісты ад мужа. Лісты прыносяць у дом адпачынку вечарамі, а Валя, відаць, не хоча чакаць. Тут ёсць і свая жаночая палітыка. Ходзячы з намі, Валя як бы засведчвае сваю добранадзейнасць у вачах Васіля Голуба. Тым болей, што з усіх жанчын яна ў доме адпачынку, бадай, самая прыгожая, на яе заглядаюцца. Ёсць у яе і сталы кавалер, Алёша, памочнік рэжысёра з кінахронікі, малады, стройны халасцяк з кучаравай, чорнай шавялюрай і прыемным, мужным тварам.

Алёша, калі мы ідзём на паўстанак, заўсёды далучаецца да нашай кампаніі, але, вядома, не з-за нас, а з-за Валі. Яму не адмовіш у розуме, дасціпнасці ды і наогул з усіх кавалераў сасновага царства ён найбольш фацэтны. З той жа мужчынскай праніклівасцю мы адчуваем, што Валя глядзіць на памочніка рэжысёра як на вясёлую забаўку і прымае яго заляцанні да пэўнай, строгай мяжы. Гэта падабаецца нам, не зусім маладым мужчынам, у якіх дома жонкі і дзеці. Падабаецца ўсё болей з кожным новым днём па адной вельмі немалаважнай прычыне, аб якой ведаю я, бо жыву з Голубам, і, відаць, не ведае Алёша. Валін муж пакалечаны вайной, у яго няма правай рукі і знявечаны асколкамі твар. Ён п'е, раўнуе жонку і работнік не вельмі добры — яго ўжо два разы звальнялі з завода. Ліста ад яго Валя не атрымала пакуль што ніводнага.

З Валяй мы як бы ў маўклівым згаворы. Алёша гэтага не разумее, злуецца, шукаючы прычыны відавочнай марнасці сваіх заляцанняў. Прычыну ён, відаць, бачыць у тым, што Валя не абыякавая да Голуба, і ўвесь двухкіламетравы шлях да паўстанка як можа падколвае майго суседа. Трэба сказаць, што Алёшу гэта ўдаецца. Нават Валя, звычайна строгая ў прысутнасці Голуба, іншы раз не вытрымлівае і заліваецца бесклапотным смехам. Я не магу яе зразумець: знешне яна нічым не адрозніваецца ад тых апранутых па апошняй модзе дзяўчат і жанчын, некаторыя з якіх ужо на другі дзень свайго знаходжання ў «Арлінын гняздзе» катаюцца на лодках, ахвотна прымаюць ад мужчын розныя паслугі і нават трапляюць на «востраў расчаравання і слёз».

Гэта здарылася на дзесяты дзень нашага жыцця ў сасновым раі. Відаць, у доме адпачынку быў нехта яшчэ з прыдняпроўскага гарадка, і, зрэшты, Алёша ўведаў сапраўдную прычыну правалу сваіх кавалерскіх намераў. У той ціхі надвячорак, калі мы ішлі на паўстанак, ён, як ніколі, быў насмешлівы і калючы.

— Ветэраны вайны...— кідаў ён з'едлівыя кепікі.— Маладая Яраслаўна, якая аплаквае паланёнага мужа ў Пуціўлі, на гарадской сцяне. Глупства ўсё... Жыццё ёсць жыццё. Хіба не смешна гаварыць у атамную эпоху пра вернасць?..

Голуб. не зважаючы на прысутнасць Валі, брыдка вылаяўся. Я ніколі не бачыў яго такім злосным. Валя ішла з пабялелым тварам.

На паўстанак мы прыйшлі маўклівыя, незадаволеныя адзін другім. Купілі газеты. Валя, нарэшце, атрымала першы ліст ад мужа і, прачытаўшы, схавала яго ў рыдыкульчык, які нагадваў мініятурную дубовую бочачку. На пероне, на пафарбаванай у зялёны колер лаўцы, сядзеў сярэдніх год мужчына з хваравітым, жаўтлявым тварам і побач з ім хлопчык. Калі мы вярталіся назад, мужчына раптам захрыпеў, на губах у яго паказалася пена, а твар зрабіўся чорна-сіні, як толькі што вывернутая скібіна падзолу. Ён упаў з лаўкі і пачаў біцца галавой аб жарству.

— Доктара!.. Доктара!..— закрычаў нехта з тых, што вылезлі з пасажырскага цягніка.— Чалавек паміpae...

Хлопчык між тым паводзіў сябе спакойна. Ён дастаў з кошыка белае прасціpадла і накрыў ім чалавека, цела якога зводзілі сутаргі. Потым прысеў на кукішкі і абедуч, пад прасціpадлам, узяў чалавека за галаву.

Сабраўся натоўп. Падышоў дзяжурны паўстанка ў вогненна-чырвонай шапцы.

— Гэта мой бацька,— спакойна растлумачыў яму хлопчык.— Ён хутка ўстане, не трэба доктара. Такая хвароба ў яго з вайны. Яго расстрэльвалі немцы і прабілі галаву. Я таму заўсёды з ім разам хаджу. Мамка прасціpадла дае. Не трэба, каб людзі твар бачылі...

Чалавека трэсла, падкідвала, а малы сын яго цярпліва, з выразам спакою на поўным тварыку сядзеў над ім, не даючы бацьку пабіць галаву. Натоўп пачаў разыходзіцца. Алёшы каля нас ужо не было. Мы вярталіся ў дом адпачынку ўтраіх.

Валя ішла маркотная, але як бы з нейкай лагоднай прасветленасцю на твары. Я, здаецца, пачынаў яе разумець...





**Іван КАЛЕСНІК**

## СЛОВЫ ІЛЬЧА



словах Ільічовых —
крылы,
Магутнасць хуткая ракет,
Што першымі сусвет адкрылі,
Здзівіўшы цэлы
Белы свет.

У словах Ільічовых —
колер,
Барвовасць шоўкавых сцягоў.
Яны вядуць людзей з няволі,
Ратуюць іх ад ланцугоў.

У словах Ільічовых —
сэрца,
Што б'ецца кожны дзень мацней...
За партыяй ідзі ў бяссмерце
Пад сонцам ленінскіх ідэй!







сць на свеце станцыя такая,
Што мяне з усіх дарог гукае.
Песняй — кліча напрадвесні,
Як дзяўчына, кліча і чакае.

Ёсць на свеце станцыя такая,
Што мяне, як госця, сустракае
Летам — тапаліным цветам,
Белым пухам сцежкі пасыпае!

Ёсць на свеце станцыя такая,
Што, як маці родная, чакае.
Восень — аб спатканні просіць,
У грыбных лясах мяне гукае.
Фаніпаль — яна.

## РАБОЧЫ ПАСЁЛАК



пеў заводскі,
Вясёлы
Сэрцам прагна лаўлю.
Свой рабочы пасёлак
За пабудку люблю.

Бачу, ранішнім скверам
Ён у цэхі ідзе.
Той, хто ў працу паверыў,
Век не будзе ў бядзе.

Мы тут цішы не знаем,
Бо на кожным двары,
Нібы вырай лунае
Звонкі смех дзетвары.

Прыйдуць хлопцы з работы —
Чуцен стук даміно.
А ў суботу
Турботы
Праганяе кіно.

Кожны дом весяліцца,
Добра сэрцам людскім...
Хто не рад пасяліцца
У пасёлку такім!..



**Вечаслаў АДАМЧЫК**

# ДВА АПАВЯДАННІ

Мал. В. Шрамякова.

## Прыгаршчы жывое вады

...domowo rzeko moja!
gdzie są wody...
*Адам Міцкевіч*

Ятранка... Яна плыве праз маё сэрца: плыткая — вераб'ю па калена — улетку, шырокая, як мора, на згоне зімы. Помню вечар, жоўтае рэдкаватае святло месяца, шум вады за вёскаю на балоце і трэск алешніку — ідуць крыгі. Вільготны пах адталае зямлі, пах густога змякчэлага ветру з поўдня.

На трэці дзень вада спадае — на балоце доўгія косы мокрага пяску, у кожнай лагчынцы азярцо — срэбны і трапяткі бляск вады. На голым і шэрым, як сум, алешніку пачынаюць чырванець раны — там, дзе



крыгі пазбівалі маладую крохкую кару. Нехта ходзіць балотам па коўзкай і ліпкай гразі з сеткаю на плячах.

Помню нясмелую зелень рэдкае травы, першы плач кнігаўкі, узмах з-пад нізу белага крыла, першую кветку ясна-жоўтую на сыпкім пяску ля рэчкі і дробналістую вярбу над кладкаю. І халодную крамяную чысціню вады, светлае дно, парламутравы водсвет ракавіны, што сядзіць напалавіну ў пяску пры беразе.

Помню, быў май. Над берагам гусцеў, распускаўся і горка пах алешнік. У рэчцы цэлымі клубкамі віліся верацёніцы і прыліпалі мяккімі ратамі да слізкіх каменняў.

Потым на зэдліках перылі палотны — нізка над рэчкаю плыў ляскат. Стаялі жанчыны па калені ў вадзе, падаткнуўшы за пояс краі падолаў.

Улетку мылі авечак. Выбегшы на бераг, авечкі бляялі. З іх цурком лілася вада. Яны трэслі мокраю шэрсцю — над імі ў густых кроплях зіхацела вясёлка.

Перад нядзеляю ў суботу, вярнуўшыся з поля, з жніва, дзяўчаты і маладзіцы ішлі купацца: дзе-небудзь у зацішнае месца — крый бог, каб не ведалі хлопцы. А хлопцы, бывала, ужо даўно ляжаць у алешніку на другі бок рэчкі, і адтуль відаць усё... Не, спачатку нават нічога: дзяўчаты спачатку ў кашулях, спачатку саромеючыся, спачатку пабойваючыся празрыстага холаду вады, пакуль каторая баявейшая не асмеліцца першаю... Гэта ж так добра і хораша, а вада цёплая, як луг! І тады ўжо... над рэчкаю баязлівы, раптоўны піск, звонкі пляск вады і мільганне стройных белых постацяў.

А тут, у кустах,— цяжкія ўздыхі, нячутны стук сэрцаў і шалёная гарачыня. Потым у кустах моцны кашаль — знарок і нечакана. І тады ўжо колькі страху — хаця б дабегчы да адзежы.

Толькі тая, што і падвучвала, не вельмі ўжо спяшаецца, стройна несучы на моцных нагах усю сябе, раздабрэлую, але яшчэ тугую ў стане. «Няхай глядзіць, няхай яму павылазяць,— хіба ж я зблажэю!?»

Адной рэчцы даверялася нейкая чалавечая таемнасць і шчырасць.

У жару, у лета, калі скрозь на падворках у нашай вёсцы жаўцела і перасыхала трава, калі на вуліцы быў гарачы, як прысак, жоўты пясок, калі вяла і скручвалася ў трубку лісце на бэзе, а на полі гінула і чэзла ўсё, у нашай хаце збіраліся кабеты і ішлі на рэчку сыпаць мак, каб быў дождж.

Па рэчцы ўгадвалі і надвор'е: зменшала вада падвечар — заўтра з раніцы будзе дождж, нізка ластаўкі лётаюць над вадою — таксама на дождж, паглыбшала рэчка — гэта ўжо знак, што будзе пагода.

Без рэчкі не абыходзіліся кабеты, клянучы чужых дзяцей, што ноччу латашылі сады, выбіралі гуркі і цягалі з градаў моркву: «Чаму ж ты не хадзіў у свой, каб ты пайшоў у вір галавою!»

Вада ў нашай вёсцы дамешвалася да ўсяго.

На вербніцу мая маці брала дубец, што распускаўся ў бутэлечцы на акне, свянціла ў касцёле і, вярнуўшыся дадому, сцёбала мяне па нагах і прыгаворвала:

Не я б'ю — вярба б'е:
За тыдзень вялікдзень.
Будзь здаровы, як вада,
І багаты, як зямля.

Мяняліся людзі ў нашай вёсцы, мяняліся прыгаворы, а за вёскаю ўсё плыла і плыла Ятранка.

Восенню з алешніку, з вербаў сыпалася лісце на быструю ваду, кру-

жылася на вірах і плыло далей. На другую восень сыпалася зноў. І так заўсёды.

У зялёных і густых аерах шумеў вецер. У зацішку пры беразе ўсё скакалі супраць вады і ўсё стаялі на адным месцы вадзяныя камары. І трапяткая страказа шуршэла сухімі крылцамі, усё даганяючы свой цень. Недзе з алешыны, з камля, падала на ваду і бездапаможна царабілася чорная малюсенькая мурашка, а над ёю ў жаўтаватых пасмах праменняў роем кружыліся, бліскаючы срэбнымі бакамі, драбнарыбіцы.

Над берагам па алешніку вілася і цвіла вялікімі, як грамафонавы трубы, белымі кветкамі бярозка.

А Ятранка плыла, падмываючы на павароце стромы бераг: цёмнасіняватыя глыбы, асунуўшыся, бухалі ў ваду — з глыбокіх норак-гнёздаў імкліва выляталі беражанкі, палахліва цвіркалі і, датыкнуўшыся вострым крылом да ракі, уздымаліся ўгору.

Па калені ў вадзе стаяла непраходная лаза і ўсё млела ад гарачыні — на лістах выступала і шумела белая сліна.



Цякла Ятранка. На беразе старэў алешнік. Да Пятра ў алешніку кукавала зязюля. Нам, малым, старыя казалі, што клікала яна ўсё свайго мужа: «Якуб! Якуб!»

Пад восень у алешніку стракацелі шпакі і плылі чорнаю касою хмараю на скошанае балота.

Цякла Ятранка. І нехта прыводзіў сюды паіць каня. Цяпер і некалі. Конь біў капытом. Ляцелі пырскі, адганяючы мух і аваднёў.

Цякла Ятранка і мяняла сваё рэчышча. Кажуць, тут, дзе цяпер стаіць завоінка, кожнае лета мялеючы і зарастаючы аерам, дзе позняю вясною, калі росіць дробны дождж, цёплым сырым вечарам крэкчуць і, здаецца, лопаюцца ад натугі жабы,— некалі была рэчка. Некалі тут, пад вярбою,— цяпер яна старая, у яе тоўсты камель глыбока паўрастаў калючы дрот — майго дзеда Івана Шайбака да смерці напалохала Віктукова Марыся, што, кажуць, у нашу вёску прыйшла ўдавою, а калі Віктук памёр, чацвёрты раз выйшла замуж — ужо з нашае вёскі.

Кажуць, у Віктука — і цяпер стаіць гэтая хата: гумно, хлеў пад адзін шнур — сядзелі кудзельніцы. Чуюць — нехта вуліцаю вядзе да рэчкі каня. А што бабам рабіць — давай, кажуць, настрашым. Выцягнула Віктушыха касу з-пад застрэшка і ў адной кашулі — хіба ж не смерць — пераняла Івана над рэчкаю, высунуўшыся з кустоў.

Прыбег мой дзед дадому без мовы і памяці. А потым цэлы год хварэў, і над яго галавою ў міску лілі расплаўленае волава — і з волава ў вадзе выліваўся страх.

Пра гэта расказваюць цяпер, бывае, сабраўшыся на вуліцы, старыя мужчыны ў светлую нядзелю, калі без работы дзень здоўжыўся, калі мухі абрыдлі (а, здаецца, выганяў і вокны завешваў), а цяпер во і добра пасядзець: спала гарачыня, сонца хіліцца на вечар і ласкавае цяпло яго льецца на рукі, што ляжаць на каленях, і нават чуваць, як яны прыемна цяжэюць.

А каля рэчкі бялеюць фартухі і хусткі — бабы збіраюць шчаўе.

Спачатку ідзе гаворка, што во дажджу каторая пара нямашака, што ізноў высахне ўсё, што недзе каля Азяран людзі добра жывуць, што там старшыня памяркоўны, а гэта... які з яго гаспадар. А потым пра тое, як было раней.

— Ат, не кажы: у пазычаных касцюмах ездзілі ў сваты,— хто-небудзь перабівае.

Той маўчыць, мусіць, праўда. Ніжняя губа ў яго дробна трасецца і едзе ўніз — ён смяецца. Ён, пэўна, успамінае тое даўнейшае.

— А помніш, які ў Пэлькі конь быў?— пытае ён сам, і вочкі яго хітра косяцца на таго, хто яго падцяў.

Пэлькавага каня помняць усе — і ўсе пачынаюць ехаць ад смеху. Ды, мусіць, рагочуць не з каня, а з самога нябожчыка Пэлькі.

А было вось што.

Худы і нядужы конь, калі Пэлька ехаў араць, тут, у бродзе, у рэчцы, раптам занараvіўся. Пэлька пабіў на худых конскіх скабах ядлоўцавае пужальнё і, не ведаючы, як даць каню рады, са злосці ўкусіў яго за губу.

Даўно здох той худы і наравісты Пэлькаў конь, даўно памёр і сам гаспадар, а пра гэта будуць яшчэ доўга расказваць у нашай вёсцы. Будуць яшчэ расказваць і пра тое, як ішоў тут Напалеон. Што на тым месцы, дзе цяпер рэчка падмывае сыпкі груд, дзе расце крывая хвойка, трымаючыся голымі выветранымі карэннямі за пясчаны бераг, і вось зараз упадзе туды, дзе па дробных каменьчыках бегаюць і звонка крычаць кулікі,— стаяла некалі хата. Жыў там некалі Ратамскі — вось чаму гэты груд і балота называюцца Ратамшчынаю. Прыйшоў да таго Ратамскага француз — а гэта, мусіць, было зімою — і кажа яго жонцы, каб вады нагрэла памыцца. А сам сеў на парозе і чакае. Так і заснуў, седзячы. А гаспадыня тым часам дастала чыгун кіпятку з печы, лінула яму на галаву і, вядома, апарыла.

Французскага салдата, кажуць, пахавалі недалёка ад таго груда на пералазе, дзе стаіць высокі капец. Там была некалі бітва. У тым капцы пахавана многа французаў. І ружжы там, казалі, ляжаць. І мы некалі, малыя, бегалі раскопваць гэты капец — а над нашымі галовамі шумелі вятры гэтае далёкае гісторыі.

Тут, ля капца, пахавалі старога Мірона, што расказваў нам пра тую страшную бітву. Яго раніла насмерць асколкам ад снарада на парозе свае хаты ў пачатку гэтае вайны. Сплылі тыя воды, што помняць, як тут, ля рэчкі, спыніўся на пастой нямецкі абоз.

У цяньку ў алешніку стаялі шыраказадыя бельгійскія коні, памахваючы кароткімі хвастамі. А нямецкі кухар, тоўсты, у белым каўпаку, па балотцы ганяў курэй і метка перабіваў ім ногі. Каля рэчкі па беразе ў адных трусах хадзілі немцы, расціралі ручнікамі белыя, мяккія спіны, і рагаталі. У аднаго на ўсе грудзі быў вытатуіраваны арол.

Сцякла вада ў Ятранцы маіх малых год. Як блізка і далёка!

Мы хадзілі на рэчку есці яшчэ зеленаватыя няспелыя смуродзіны. У смуродніку буяла крапіва. Я помню, як яна апякае рукі: як агнём,

на целе потым чырванеюць пухіры, яны пякуць і свярбяць, іх потым раздзіраеш да крыві і слініш — робіцца трохі лягчэй.

Скрозь па беразе цвіла лодзьма. Яе было поўна. Яна цвіла, як кмен, толькі буйней, і пахла, як кмен, толькі з нейкай сырасцю, з ілам. З лодзьмы мы выразалі сікаўкі і абліваліся вадою: з ног да галавы. Ды мы ніколі не высыхалі. Папрыганяўшы каровы на полудзень, мы гадзінамі ляжалі ў вадзе, пакуль чыя маці не выйдзе на грудок і не гукне з вёскі: «Казё, дзе ты, Казё! У поле пагналі, каб ты не даждаў!»

Мы тады спахопліваліся, што на вечар трэба выганяць, і вылазілі з рэчкі. У вушах стаяў глухі звон. Нахіліўшы на бок галовы, мы доўга скакалі на адной назе — пакуль у вушах не забулькае і не пацячэ цёплая вада. На хаду зашпільваючыся, мы беглі дадому. Губы ў нас былі сінія, а зубы дробненька ляскалі — гэта ад вады і холаду.

Але мы ніколі не хварэлі, мы толькі набіраліся вадзяное каросты: на целе густа высыпаў чырвоны трут — дробныя, як мак, болечкі. Мы чухаліся і раздзіраліся да крыві. На другі ці на трэці дзень кароста гінула.

Мы былі здаровыя, як вада. Мы верылі, што рэчка папраўдзе тоіць у сабе нешта святое. Мы верылі ў тое, што казалі старыя: калі пярун стрэліць у рэчку — яна заменіцца крывёю.

Сплылі тыя воды, што помняць нас малымі.

Сплылі тыя воды, што ведаюць і маё першае каханне. Сплылі тыя воды...

А была ветраная ноч, крышку азыраватая, крышку брала халадамі за плечы. Шумеў перагонамі алешнік, і нешта як праз сон усплёсквалася вада пад цёмнымі карчамі. Сіняваты месяц усё плыў і плыў за рэдкімі хмаркамі, і ў напалоханай цішыні блізкіх надрэчных вербаў скрыпеў драч — раз за разам: драч-драч, драч-драч...

А я, першы студэнт з нашае вёскі, сядзеў тут з ёю, з Пиліпаваю Касяю.

Я прыходзіў з ёю сюды пасля сяла, з-пад Мікітавых, дзе на прызбе збіраліся хлопцы і дзяўчаты, дзе спявалі пра зялёны сад, пра журбу дзяўчыны, што маладзенькаю палюбілася. Спявала і Кася, ды, можа, спявала толькі яна адна, саромеючыся мяне і хаваючы свае добрыя вочы. Русая каса вілася ёй на плячо, на грудзі, на прыпол.

А тут, ля рэчкі, мы маўчалі. Не, здаецца, Кася спявала — я слухаў яе песню:

Зайшло сонца за аконца,
За зялёны сад.
А хто любіць цалавацца,
То той таму рад.
Узяла міла за ручаньку,
Дай павяла ў сад,
Пасцель белую паслала,
Дай паклала спаць.
Сама села край пасцелі —
Зажурылася:
Што я млада, маладзенька
Палюбілася.

Сплылі тыя воды, што помняць і гэтую песню.

Ятранка, я яшчэ прыйду на твой бераг, каб глянуць у тваю чыстую глыбіню.

Ты цячэш праз маё сэрца. Ты помніш — на тваім беразе радзіўся і я. Яшчэ не раз я прыйду да цябе, каб зачарпнуць у прыгаршчы тваё жывучае святое вады і напіцца.



# ШТО СКАЖА ЯНА?

Тут я пражыў тры гады — у нізенькай хатцы з сінімі аканіцамі, з гулкім дашчатым ганкам. Ля ганку шчыра цвіў бэз. Было чуваць, як па бэзе шапацеў дождж, калі я адчыняў фортку, як суботаю вечарам нехта п'яны ішоў дадому і, трымаючыся за плот, спяваў смешна, як у вёсцы. І была песня далёкая, забытая, як у вёсцы:

Расцвіталі яблыні і грушы,
Паплылі туманы над ракой.

Як у вёсцы, тут спявалі пеўні, няслісяі кудахталі ў хлевушках куры, цвілі вішні пад густымі платамі. Вясною ў гародчыках садзілі бульбу: нехта нязлосна гукаў на каня — без шапкі ў расхрыстанай кашулі, босы, адна калашына падкачана вышэй... Разораю ішлі маладзіцы, нагінаючыся, кідалі рэзаную бульбу. Пахла гноем, сырымі трэскамі, чорнаю зямлёю. Плавілася сонца — было хораша.

Горад быў недзе далёка. Толькі ноччу здаецца зусім блізка ўсё звінеў і грукаў пусты трамвай, аціхаючы і спыняючыся на прыпынках. У рэдкай цішыні шумеў цягнік, а чыстай раніцаю, днём раптам пачынаў страляць матацыкл і ляскала кузавам машына, мусіць, перавальваючыся на каўдобінах. А потым ізноў цішыня, сіні дымок над комінамі. Вечарам нечыя карова пасля пашы з тоўстымі бакамі, пускаючы сліну, ішла вуліцаю і шукала свае веснікі.

Пад восень у рэдкіх садках чырванелі яблыкі, шэры марозік прыхопліваў вяргіні, сыпалася памерзлае мокрае лісце з тапаляў, і пачыналі калоць свіней — раненька, прыцемкам, на голым бульбянішчы за хлявамі пахла свежынаю. Потым прыходзіла зіма: на платы, на стрэхі мякка валіў цэлымі лапцямі снег. Потым бялела цішыня, чыстая, сырая, недзе гаўкаў сабака, густа, як прастуджаны. Потым на бэз пад акно да мяне прыляталі снегіры.



Тут я жыў на адзіноце — у гэтым было нейкае сваё харавство, свой сум. Іншы раз да мяне прыходзіў гаспадар — пагаварыць. Рослы, роўны ў плячах, пэўна са мною адных год, але чысты, маладжавы з твару. Толькі калі ён садзіўся і нагінаў галаву, я бачыў тады, што ён увесь сівы. Бывае клікаць яго дадому прыбягала жонка — паўнявая, з высокімі грудзямі пад лёгкаю сукенкаю, але яшчэ прыгожая. Яна брала яго пад руку, прыжмурыўшы вочы, тулілася да яго, вяла з хаты, а ён чырванеў і саромеўся, як маленькі.

Мелі яны ўсяго адно дзіця — дзяўчынку год дзесяці — і не зналі, як ёй дагадзіць. Усю зіму, усю школу дзяўчынка хварэла і сядзела ўсё дома, на ложку, абкіданая падушкамі. Яна, мусіць, не паспявала ў школе: кожнае лета да яе прыходзіла настаўніца — падвучыць. І цэлае лета дзяўчынка сядзела ў гародчыку на лаўцы, чытала ўслых, засланяючыся рукою ад сонца, глядзела на вуліцу — там бегалі і крычалі дзеці, а ёй тут было сумна, і яна засынала над кніжкаю.

Гаспадар усё скардзіўся: «Бяда з дачкою. Нічагутка ў рот не бярэ. Высахла, як былінка. Каб гэта яе на мора, на сонца паслаць...»

Скардзілася і гаспадыня, калі прыходзіла браць у мяне плату за кватэру. Брала яна за месяц, а то і за два наперад і казала, што набаўляе настаўніцы. І прасіла, каб я не гаварыў мужу.

— Не думайце чаго кепскага... Ён і так у мяне...— і голас яе цішэў.— Ды ж не ведаеце: ён не родны бацька. Як вам тут расказаць?

Яна чырванела, саромелася і расказвала.

Быў у яе хлопец, быў прыгожы — шафёр з гэтае самае вёскі, але замуж яна выйшла за другога, можа знарок, на зло першаму, і не любіла яго. А ён піў, прыходзіў дадому заўсёды без памяці, доўга стаяў у парозе, трымаючыся за вушак, насуплены, з дурнымі вачыма, і соваўся біцца. І не раз біў, не шкадуючы, чым пападзе, што трапіцца пад руку. І хадзіў біцца да таго шафёра. А раз, п'яны, неразумны, выбег на вуліцу, хацеў спыніць машыну і так марна згінуў, незнарок хіснуўшыся пад кола. Шафёра, вядома, засудзілі — спытай за што — на паўгода. Вярнуўся ён з турмы — і стаў вітацца і загаворваць з ёю. А ёй было як выцерпець — брыдка перад людзьмі, перад дзіцем, перад сабою, што яна яго ўсё яшчэ любіць — гэта ж грэх, ён забіў мужа.

А раз у ляску, калі яна пайшла па дровы, высунуўся з гушчару — аж яна анямела, аж ногі падкасіліся і сталі чужыя, з месца не скранеш,— і, трохі пабойваючыся падысці бліжэй, здалёк загаварыў:

— Не вінаваты я. хіба вось толькі за тое, што прыйшоў да цябе...

Дроў яна тады, вядома, не назбірала. Не помніць нават, як бегла дадому. Дома плакала, усё думаючы, ці варта жыць на свеце. Праз месяц прадала хату і пераехала сюды, у Мінск, з малым дзіцем на руках. Але не ўцякла ад яго — ён знайшоў і тут. Вось дзесяты год пайшоў, як жывуць разам. А ён добры, што толькі сказаць дачцы, як яна вырасце? І што скажа яна, калі будзе ведаць пра гэта?





*Алена Ткач нарадзілася ў 1928 годзе ў м. Бабінавічы на Віцебшчыне. Вучылася ў Пастаўскім педагагічным вучылішчы і Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце. Працавала настаўніцай. Потым закончыла Мінскі педагагічны інстытут і аспірантуру пры ім.*

*Першыя апавяданні Алены Ткач друкаваліся ў часопісах «Работніца і сялянка», «Вясёлка». У «Маладосці» выступае ўпершыню.*

**Алена ТКАЧ**

# КАЛІ НЕ СПІЦЦА

**Апавяданне**

Мал. У. Філіпенкі.

Яшчэ бабка не засланіла печы, куды паставіла сушыць вымытыя пасля вячэры збаны і чыгункі, як у хату ўвайшоў дзед Зміцер.

— Вечар добры, Аўгіня, вось мая пляшка, а дзе твая бражка? — складна пачаў ён і паставіў перад сабой ладны бітончык, літры на тры.

— Ну і нюх у цябе, Змітрок, не горш як у нашага Тузіка...— бабка ўзяла пустую пасудзіну, паківала галавой, усміхнулася і пайшла ў бакоўку.

Люда высунула ў дзверы галаву, узрадавалася: «Збіраюцца!»

— Хіцер Зміцер, га? — па-змоўніцку падміргнуў ёй дзед.— Вып'е ўсю бражку,— і зусім нечакана цапнуў кручкаватымі пальцамі Люду за нос.— Чаму не спіш, скакуха?

На гэтай палавіне хаты сядзеў ужо дзед Міхей. Маленькі і сухенькі, у сваёй касматай шапцы-вушанцы ён здалёк быў падобен на хлопчыка. Ён ніколі не знімаў шапкі. І Віцька, яго ўнук, бажыўся, што дзед і спіць у шапцы, бо пасля ранення на фронце галава стала вельмі баяцца холаду. Яшчэ Віцька хваліўся, што ў дзеда шапка з воўчай скуры. Люда гэтаму не надта паверыла, але аднойчы ўсё ж такі яна памацала рукой шапку, дык нешта была тая поўсць мяккая, як у зайца.



І цяпер дзед Міхей сядзеў у гэтай самай шапцы, курыў і маўчаў. Ён мала гаварыў, толькі зрэдку, калі чуў нешта ўжо надта цікавае, хмыкаў і круціў галавой. Людзе гэты дзед-маўчун здаваўся зусім нецікавым.

Тонкая дашчаная перагародка не замінала слухаць, аб чым там гавораць старыя. Затое дыму, смярдзючага, едкага дыму, было тут значна менш. Люда не разумела аднаго: чаму старыя не хочуць курыць папяросы, як яе бацька, пахучыя, у прыгожых каробках з малюнкамі, а бясконца дымяць аднымі толькі цыгаркамі-самакруткамі.

Малодшая Людзіна сястра даўно ўжо спала, уткнуўшыся носам у падушку. Яе зусім не цікавіць, аб чым там будуць гаварыць старыя. Яна хоча толькі аднаго: хутчэй паехаць у горад да мамы. Сумуе і плача, як ні стараецца бабка ўцешыць яе. А Люда пра горад нават і не думае, тут столькі ўсяго цікавага і новага.

Рыпнулі дзверы, нехта затупаў, закашляўся. Потым на падлогу каля печы загрымелі дровы. Гэтым звычайна заканчваў дома свой дзень Людзін дзед.

— Машына нечая забуксавала каля мастка, дзе Змітраў Колька з трактарам праваліўся,— адкашляўся ён.— Занесла туды нялёгкая некага... І як яны выберуцца адтуль у цемнаце такой?

Старыя часта гаварылі пра нейкага Кольку, і Люда доўга думала, што Колька — гэта той самы трактарыст, вясёлы і мурзаты, які прывозіў бабцы дошкі. Яна вельмі здзівілася, калі бабка сказала ёй, што Колька, Змітраў сын, загінуў на вайне.

У пакой зайшла бабка: патупала каля ложка, памацала рукой у Люды лоб, уздыхнула.

— Не, не гарачы. І чаго так змарнела, дзяўчо? Страх глядзець: скура ды косці. І есць жа добра і спіць, а худзее, адны вочы асталіся. Маці прыедзе, сорам паказаць, што сталася з дзіцем,— шаптала бабка, падціскаючы коўдру Людзе пад бок.

Люда засапла, павярнулася на другі бок.

— ...Ляжым, гэта, мы ў акопах, падцяўшы дых... А ён як загрыміць, ды як лопне, як пасыплюцца з яго іскры,— нешта ўжо расказваў дзед Зміцер.

А бабка, як на злосць, усё яшчэ тупала ля ложка, уздыхала, замінала слухаць.

Больш за ўсё любіла Люда, як дзед Змітра расказваў пра чарцей і хітрых ашуканцаў, якія чынілі над людзьмі розныя смешныя штукі. Іншы раз Люда качалася па ложку ад смеху. Дзед гаварыў так, што яна не магла зразумець, казка гэта ці праўда. Калі ж старыя расказвалі страшныя гісторыі пра рабаўнікоў, у яе ад страху займала дух, але яна слухала, хоць потым і не спала, баялася.

Але часцей за ўсё яны гаварылі пра вайну. І пра вайну любіла слухаць Люда, асабліва пра грамадзянскую і тую, што нядаўна была.

— ...Ну, таго і страху было, што загрыміць ды рассыплецца,— пярэчыў Людзін дзед.— Тая тэхніка...— далягалі да Люды словы, а бабка ўсё яшчэ сноўдала па пакоі то ўзад, то ўперад.

— ...Учора Ступчык, ну, той самы, што з маім старшым з палону нямецкага ўцякалі... Ну, як яго... Грышка-агранам... даў кніжку адну пачытаць. Я то не ўсё там зразумеў пра атамную бомбу, напісана занадта па-вучонаму...— Людзін дзед адкашляўся.— А што і зразумеў... Адным словам — душагубка і ўсё...

— Во гэта тэхніка,— перапыніў яго дзед Зміцер.— Лясне адна такая! — ён моцна ляснуў далонямі.— І мокрага месца не застанецца...

— Цішэй ты! Дзеці спяць! — прыкрыкнула на яго бабка.— «Тэхніка!» — перадражніла яна яго.— Навыдумлялі ўсялякай халеры на людзей! Во раней Змітрок на грамадзянскую ішоў, сабе абрэз-самапал нейкі майстраваў, дык тая яго «тэхніка» ледзь вочы яму не павысмальвала.

— Ды Змітрок і з бязменам на вайну пойдзе. Адбіў жа ён ногі немцу воўчай пасткай,— сказаў Людзін дзед.

— А то вунь што прыдумалі — атамамі людзей труціць... І што гэта такое за атам — газы, ці што? — спытала бабка.

А Люда ўявіла сабе, як здзівіўся дзед Зміцер, калі замест ваўка злавіў у пастку немца, і той сядзеў з прышчэмленымі нагамі і выў павоўчы, падняўшы галаву ўверх,— пырснула ад смеху і схавалася з галавой пад падушку, каб не пачула бабка.

— ...Што газы... Бачыў я іх у тую імперыялістычную вайну. Газы супраць атамнай бомбы — нішто...— прагаварыў дзед Міхей.— У страха вочы вялікія. Можа і цяпер так будзе: не дазволяць.

Праз шчыліну ў дзвярах Людзе добра было відаць, як піў дзед Міхей, не спяшаючыся, смакуючы, круціў ад задавальнення галавой, а на яго шапцы смешна трэсліся вушы, махалі хвосцікамі-шнуркамі.

— Гэта ж чаго я прыйшоў,— нібы толькі што ўспомніў дзед Зміцер. Ён яшчэ раз глынуў са свайго кубка і спытаў:— Пойдзем вартаваць сена на Зарэчча?

— Якая там трава сёлета? — пацікавіўся Людзін дзед.— Мне неяк не выпала быць у тым баку.

— Трава — як сцяна. Касу не пацягнуць,— пахваліўся Зміцер.— Кусты толькі ад лесу паразрасталіся.

— Не, не, і не кажы, Зміцер... Такой травы, як перад вайной, там зроду не было,— запярэчыў дзед.— Ты ж сам помніш?

— А як жа, усё помню. Касіў там з сынам у тое лета. Укос быў — ого! Вы ж ведаеце: што-што, а касіць я ўмеў. А і то, брат, выдыхацца стаў: касу цяжка было пацягнуць — трава такая. А ён, сын мой, нішто

сабе, так маньяжна, спакойна — жыг-жыг. Бачу, канфуз такі. Я паднале́г, пот з мяне ўжо ніжэй пояснiцы пацёк,— а ён хоць бы хны, смяецца: «Падбяры, бацька, пяткі, а не *то падвастру*»,— і пайшоў, і пайшоў уперад усіх: здаровы ж быў... не раўнуючы, як бык... Стагоў тады там панаставілі процьму. Потым жа мы з Міхеем і спалілі іх, калі немчура гэтая панапаўзала. Помніш, як ты шкадаваў, аж рукі дрыжалі,— звярнуўся ён да дзеда Міхея.

Той згодна заківаў галавой, і зноў смешна заскакалі хвосцікі на яго шапцы.

— У тую вайну мы, старыя карчы, яшчэ нешта значылі. А цяпер усё — прыцэл не той... Такой вайны яшчэ ніколі не бачылі людзі,— казаў дзед Зміцер.— За некалькі хвілін дзяржаву можна зруйнаваць. Адным махам. Увесь свет так можа загінуць.

— Гэта ж жах такі! — успляснула рукамі бабка.— А як уратавацца ад такой напасці — яшчэ не прыдумалі?

— Ратунак табе, Аўгіня, адзін. Ты ж даўно, відаць, ужо нарыхтавала сабе на смерць. Дык калі што якое, ну, вайна там ці што, дык ты хутчэй апранайся... ды і лезь пад печ,— сур'ёзным тонам параіў дзед Зміцер.

Люда ведала, што бабка нарыхтавала сабе на смерць «справы», як казала яна. Здарылася гэта так. Аднойчы, калі ўсе паразыходзіліся з хаты, Люда пачала корпацца ў бабчыным куфрыку і на самым дне, у куточку, знайшла вузельчык з адзеннем. Чорная спадніца, кофта, белы з карункамі фартух, хустка. Люда апранула ўсё гэта і пайшла ў скокі перад маленькай сястрой. Тая рагатала. А Люда так расхадзілася, што не заўважыла, як у хату зайшла бабка. Яна глянула на ўнучак, успляснула рукамі, здзёрла з Люды адзенне, схавала і яшчэ накрычала на іх.

І цяпер Люда, уявіўшы сабе, як бабка, апранутая ў тую самую спадніцу і кофту, сядзіць каля печы, чакае смерці, засапла носам, горка расплакалася.

— Табе, Змітрок, абы языком памянціць! — раззлавалася бабка.— Бач, храбры знайшоўся. Бязменам перад бомбай махаць. А сам першы і дасі цягу, як тады, пры белапаляках, цераз раку, як заяц...

— Ціха-ціха, цяпер ужо далей свайго палаца не адбягуся — не той спрыт,— засмяяўся дзед Зміцер.— Ногі нешта здалі, а так я яшчэ нішто сабе, моц маю,— важна надзьмуўся стары.

— Ну і хвалько ты, Змітрок, а сам ад ветру падаеш... Мы сваё ўжо аджылі,— уздыхнула бабка.— А вось яны, гаротныя, дзеці... будуць спаць вось так і нічога не пачуюць. Іх то — за што?!

— Вайна — для ўсіх раўня, ні малых ні старых не абыходзіць,— пачаў быў Людзін дзед, як раптам пагасла электрычная лямпачка.— Хто гэта там сёння дурэе? Не інакш, як Цімошчык. Апошнія навіны не паслухаеш праз гэтага балабона,— незадаволена прабурчаў стары і пайшоў шукаць лямпу.

— Ціха, ціха, ты ўсіх не раўняй,— напаў на яго Зміцер.— А што ім, вунь тым, што за мяжой, ну, мільёншчыкам тым, вайна? Яны з вайны прыбытак толькі мелі. Панажываліся і цэлымі засталіся. Што з імі, чарцямі пузатымі, станецца? Панабудуюць сабе схованак, перасядзяць у іх колькі там паложана, чорт іх не возьме. Хай другія за іх паміраюць.

— Я кажу, што цяпер вайна такая, як у тых бегуноў: хто першы пачне, хто першы даляціць, таго і верх,— аўтарытэтна заявіў Людзін дзед.

— Ды ну вас! Завялі гаворку на ноч,— перапыніла яго бабка.— І так не спіцца. Нібы вам няма пра што другое пагаварыць... — І яна звярнулася да Змітра: — Знайшла Іваніха сваю цялушку?



— Знайшла. Да калгаснага статку прыбілася. Гэта я ўчора на ферме быў. Бык стаіць, ну якраз такі быў у калгасе да вайны, калі мы з тваім, Міхей, Паўлам ферму ад немцаў ратавалі. Ну і разумны жа быў твой хлопец! Карту нейкую ўзяў з сабой... Такімі дарогамі павёў статак... Можа з усяго раёна мы адны тады сваю быдлу і сумелі адагнаць. Быка прыручыў, дык той і хадзіў за ім, як сабака...

— Разумны быў хлопец,— згадзіўся і Людзін дзед. — Памятаю, з кніжкамі ўсё бегаў. Старых нашых усіх на лікбез сагнаў. Аўгіня таксама хадзіла тады ў ягоную акадэмію.

— Вучыцца хацеў. Экзамены тым летам меўся здаваць. Быў бы, скажу, з майго Паўла толк, каб не вайна,— сумна заківаў галавой дзед Міхей.

— Хай яна згарыць, тая вайна! Вас наслухаешся, дык толькі страху набярэшся. Пайду спаць, заўтра ж рана трэба ўстаць,— паднялася бабка.

Люда не спала. Ляжала ціхенька, прытаіўшыся, як мыш, слухала.

Нарэшце бабка ўлеглася. Доўга яшчэ варочалася, уздыхала, нешта шаптала.

Старыя ўсё яшчэ гаварылі. Манатонныя словы то гучалі аднекуль здалёк, то раптам грымелі зусім блізка, над самай галавой.

Вейкі сцежалелі, і Люда пачала засынаць.

І вось яна ўжо босая бяжыць па сцежцы да рэчкі, штораз пераскокваючы цераз сваю скакалку. Раптам высока ў небе падняўся вогненны слуп, нешта грымнула, пад нагамі захадзіла зямля, і адразу з-за лесу пачало выпаўзаць нешта чырвона-чорнае і засланіла ўсё неба, стала клубіцца, грымець, спускацца ўсё ніжэй і ніжэй. Люда кінулася бегчы ў хату, да бабкі, а тое чырвона-чорнае папаўзло за ёй следам, нібы дым, лезла ў вокны, сыпала іскрамі, грымела. «Вайна! Гэта вайна!» — жахнулася Люда, закрычала, падскочыла на ложку і прачнулася.

— Каб ды мая ўлада, узяў бы я тых... ну, што вайны хочуць, за чубы ды галава аб галаву, каб аж іскры... Можа б тады адумаліся, халера на іх,— дзед Зміцер пабразгаў бітончыкам, адпіў крыху, крэкнуў.— А-ах, ну і бражка ў Аўгіні. А-ах! Не горш за тое шампанскае...

— Нешта ён тваю Аўгіню занадта часта хваліць,— пажартаваў дзед Міхей.

— А ён, стрымкач гэты, з прыцэлам: каб ахвотней бражкай частавала,— сур'ёзна пацвердзіў Людзін дзед.— Бабы пахвалу любяць...

— Ну-ну-ну!..— перадражніў яго Зміцер.— А ты сунься да Міхеевай маладухі. Яна цябе пачастуе... качаргой.

— Каб жа сыны з вайны вярнуліся, дык навошта б мне здалася тая маладуха,— апраўдваўся дзед Міхей.

Люда ведала «маладуху» дзеда Міхея яшчэ з мінулага года і цяпер, пачуўшы гэтае слова, ціхенька засмяялася. Была тая «маладуха» такая ж старая і сівая, як і яе, Людзіна, бабка, толькі крыклівая ды злая. Дзед Міхей, казалі, пасля смерці сваёй першай жонкі прывёз яе аж за семдзесят кіламетраў. А вось што ў дзеда Міхея загінулі на вайне тры сыны, Люда даведалася толькі нядаўна, калі дзеда выклікалі ў горад: адзін з яго сыноў пасмяротна быў узнагароджаны. І дзед Міхей паехаў па ордэн. А вярнуўшыся, злёг і цэлы тыдзень не выходзіў з хаты. Потым неяк вечарам зноў прыйшоў да дзеда, пасядзеў ціха, моўчкі выцягнуў з-за пазухі хустачку. У ёй, акуратна загорнутыя ў газету, ляжалі нейкія паперы, відаць, дакументы, фатакартка сына і ордэн. Гэтак жа моўчкі ён загарнуў усё ў хустачку і схаваў за пазуху. За што атрымаў яго сын такую ўзнагароду, ён нічога тады не сказаў.

— Позна ўжо, трэба ехаць да сваіх харомаў,— падняўся дзед Зміцер.

Стары Зміцер таксама не дачакаўся з вайны свайго сына і жыў цяпер адзін у маленькай хатцы, якую ён называў не інакш, як палац або харомы, хаця была тая хатка не больш за тыя домікі ў гарадскім парку, што панастаўлялі дзецям для гульняў.

— Я так думаю, не дурныя ж людзі, каб пачаць такую вайну,— забразгаў ён бітончыкам, збіраючыся адыходзіць.— Ну, дык што ты рашыў: пойдзеш на луг сена вартаваць ці не?

— Падыду ўжо заўтра раніцай да старшыні,— згодай адказаў Людзін дзед.

— Ты ж касу вазьмі,— напомніў Зміцер.— Мы яшчэ пакажам, чаго варты старыя кадры. Ого!

— Ды ўжо ж.

Люда ўсміхнулася: дзед з самай раніцы пачаў збірацца на сенакос, кляпаў касу, доўга звінеў і ляпаў на двары, так, што і цяпер яшчэ ў Люды звінела ў вушшу.

Зміцер дайшоў было да парога, потым, нешта ўспомніўшы, вярнуўся.

— Ты сваю таптуху нікому не аддаваў? — спытаў ён у Міхея.

— Мм... — крутнуў той галавой.

— Сцягні ты яе, паглядзі, мо мышы даўно з'елі. Ну і завадзь там адна ёсць!— пачаў хваліцца Зміцер.— Мы з сынам да вайны лавілі, пуды тры выцягнулі — рыбіна ў рыбіну... — і, нібы нешта ўспомніўшы, змоўк.

Следам за Зміцерам падняўся і моўчкі пасунуўся дамоў і дзед Міхей.

Праспявалі другія пеўні. Стала ціха-ціха. Расплыўся і рассеяўся тытунёвы дым. Забраўшыся на падушку з нагамі, ціха пасопвала сястра. А Люда ўсё яшчэ не спала, сядзела на ложку, прыціснуўшы калені да падбародка, шырока адкрытымі вачыма ўглядалася ў цемру, прыслухоўвалася.

Раптам нешта бліснула. Люда ўздрыгнула, сціснулася ў камячок. «Ці не вайна?» — жахнулася яна. Яшчэ раз бліснула і раскаціста прагрымела. «Гром!» — супакоілася яна, нават узрадавалася, што гэта навальніца, якой яна так баялася раней.

Хутка пачне днець. Падымецца бабка даіць карову, і тады Люда можа спаць, аж пакуль не разбудзяць яе.



*Да 70-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Маякоўскага*



Фота 1925 года.

**Рыгор БЯРОЗКІН**

# МАБІЛІЗАВАНЫ БУДУЧЫНЯЙ

Уладзімір Маякоўскі — трыбун і лірык Кастрычніцкай рэвалюцыі, пясняр Леніна і партыі, паэт першай у свеце свабоднай бацькаўшчыны рабочых і сялян, якая стала бацькаўшчынай усіх працоўных зямлі, светачам і надзеяй усяго перадавога чалавецтва.

Мы пражылі без Маякоўскага трыццаць тры гады, і за гэты час, поўны сур'ёзных гістарычных выпрабаванняў, фігура паэта не толькі не страціла сваёй велічы, а, наадварот, вырасла ў сваім значэнні, у сваёй прыгажосці і сіле.

Маякоўскі — наш сучаснік, ён крочыць побач з намі, па-ранейшаму галасна, молада, звонка ўслаўляючы «весялосць найцяжэйшага марша ў камунізм». Ва ўсім, што мы робім, думаем, адчуваем сёння, прысутнічаюць гарэнне і пафас Маякоўскага. Усё, што нас непакоіць і хвалюе сёння, сярод незлічоных радасцей і трывог, нечакана, а па сутнасці вельмі

заканамерна знаходзіць глыбокі водгук у напісаных даўно, але кінутых далёка наперад акрылёных радках Маякоўскага.

... Вось мы выходзім на святочную вуліцу, на перадмайскую плошчу, азораныя агнём транспарантаў, — і на іх, на гэтых вялізных палотнішчах, палымяныя словы паэта: «Труд, Мир, Май».

... Бярэм у рукі свежы нумар газеты, чытаем пра гераічную перамогу на Енісеі — і ў памяці ўзнікаюць радкі Маякоўскага, складзеныя на самым досвітку сацыялістычнай індустрыялізацыі:

Здесь
встанут
стройки
стенами.
Гудками,
пар,
сипи.
Мы
в сотню солнц
мартенами
воспламеним
Сибирь.

...Гартаем газету. Шукаем: а дзе тут пра Кубу? Цікавімся: як там адчувае сябе маладая свабода блізкага нашаму сэрцу маленькага вострава? І зноў успамінаюцца прасякнутыя непахіснай упэўненасцю і верай радкі Маякоўскага, напісаныя тады, калі наша ўласная, здабытая ў баях свабода рабіла свае першыя крокі:

Революция идёт.
Восток в шагах восстаний.
За Европой
океанами пройдёт, как сушей...

... Усяляк адстойваючы ідэю мірнага суіснавання краін з рознымі эканамічнымі сістэмамі, мы ніколі не згодзімся на мірнае суіснаванне варожых ідэалогій — сацыялістычнай і буржуазнай. І тут Маякоўскі — таксама наш саюзнік, наш аднадумец. Іменна Маякоўскаму належаць радкі, якія сталі крылатай, афарыстычна завостранай формулай нашага ідэйнага першародства: «У советских собственная гордость». Маякоўскі імкнуўся давесці гэтую формулу, яе палітычны і маральны сэнс да свядомасці кожнага савецкага чалавека, выклікаць у прадстаўнікоў старэйшых пакаленняў пачуццё асабістай адказнасці за выхаванне моладзі:

...нам ли,
шагавшим в огне и воде
годами,
борьбой прожженными,
растить
на смену себе
бульвардье
французистыми пижонами!..

Можна бясконца прыводзіць сведчанні таго, як жыва, непасрэдна, актыўна ўдзельнічае ў сённяшнім жыцці нашай краіны і ўсяго свету паэзія Уладзіміра Маякоўскага.

Аднак было б вялікай памылкай зводзіць значэнне Маякоўскага для сучаснасці толькі да простай **сумы** шчаслівых радкоў, што перажылі свой час і захавалі сваю надзённасць у сённяшніх умовах.

Значэнне Маякоўскага, веліч зробленага ім паэтычнага подзвігу значна шырэйшыя, і правільна зразумець гэту веліч нам дапамогуць, у прыватнасці, словы Энгельса, сказаныя ў прадмове да італьянскага выдання «Камуністычнага маніфеста»:

«Заняпад феадальнага сярэдневякоўя, заранак сучаснай капіталістычнай эры адзначаны адной каласальнай фігурай. Гэта — італьянец Дантэ, апошні паэт сярэдневякоўя і разам з тым першы паэт новага часу. Зараз, як і ў 1300 годзе, надыходзіць новая гістарычная эра. Ці дасць нам Італія новага Дантэ, які ўвасобіць час нараджэння гэтай новай пралетарскай эры?»



Гэтага «новага Дантэ» «пралетарскай эры» дала не Італія — яго нарадзіла Расія. І не аднаго, а двух: Горкага ў прозе і Маякоўскага ў паэзіі. Дзякуючы Горкаму і Маякоўскаму, гэтым двум геніяльным прадстаўнікам літаратуры сацыялістычнага рэалізму, сталі новым гіганцкім крокам у мастацкім развіцці чалавецтва час узнікнення «новай пралетарскай эры», эпоха Кастрычніка і перамогі сацыялізма ў нашай краіне.

Наўрад ці памылімся, калі скажам, што Уладзімір Маякоўскі застанецца ў вяках як паэт, які ў вобразах надзвычайнай глыбіні і ўнутранай інтэнсіўнасці перадаў увесь размах, усю складанасць той гістарычнай эпохі, калі чалавецтва ў пакутлівым напружанні ўсіх сваіх сіл выбіралася са страшнага змроку капіталізму і выходзіла на радасны, хоць і нялёгкі, новы шлях.

Это
от рабства
десяти тысячелетий
к векам
коммуны
сияющий перевал, —

так вычарпальна, лаканічна, моцна ахарактарызаваў паэт свой час, сваю эпоху.

Маякоўскі як паэт пачынаў сваё жыццё ва ўмовах капіталістычнага рабства. Рамантыка рэвалюцыйнай барацьбы супраць гэтага рабства пакінула яркі след на самых ранніх жыццёвых уражаннях падлетка і юнака: рэвалюцыя 1905 года ў Кутаісі, забастоўкі і дэманстрацыі, прывезеныя сястрой бальшавіцкія лістоўкі, напісаныя вершам. «Вершы і рэвалюцыя неяк аб'ядналіся ў галаве», — успамінаў пазней Маякоўскі. Магутная метафара паэта з яго незакончанай перадсмяротнай паэмы: «Мы открывали Маркса каждый том, как в доме собственном мы открываем ставни», мела, як мне здаецца, і біяграфічную, «хатнюю» афарбоўку — яна ажыўляла ў памяці маленькі домік у Маскве, на Броннай, дзе пры зачыненых аканіцах маладыя кватаранты — сацыялісты давалі чатырнаццацігадоваму Валодзю Маякоўскаму першыя ўрокі марксізма.

Пра далейшае, пра работу Маякоўскага — прапагандыста, члена РСДРП — расказвае аўтабіяграфія: «Пайшоў да булачнікаў, потым да шаўцоў і, нарэшце, да друкароў». І ў вершах:

Юношеству занятий масса.
Грамматикам учим дурней и дур мы.
Меня ж
из 5-го вышибли класса.
Пошли швырять в московские тюрьмы.

З астрогу Маякоўскі выйшаў з цвёрдым намерам «рабіць рэвалюцыйнае мастацтва». Практычнае ажыццяўленне гэтага намеру наткнулася на шэраг самых сур'ёзных цяжкасцей, правільна разабрацца ў якіх маладому Маякоўскаму ўдавалася не заўсёды. Так, яго на некаторы час прывабіў «антыэстэтычны бунт» футурыстаў — літаратурнай групы, якая сама вырасла на глебе буржуазнага эстэтызму і з'ўлялася не больш як адной з разнавіднасцей, адным з напрамкаў антынароднага, дэкадэнцкага мастацтва пачатку стагоддзя.

Аднак, гаворачы пра Маякоўскага-футурыста, аўтара першых твораў, мы ніколі не павінны забываць, што ўжо тут паэт высока ўзнімаўся над часовымі спадарожнікамі па футурызму, што сваімі вершамі і паэмамі, сваім тэмпераментам сацыяльнага, **грамадскага** пратэстанта і змагара Маякоўскі рашуча пераадольваў эстэцкі-скажоныя догмы і ўстаноўкі школы, да якой ён належаў.

Гэта «выпаданне» Маякоўскага з футурызму, агромністая перавага яго паэзіі над лабараторнымі «эксперыментамі» Бурлюка ці Кручоных былі настолькі відавочныя, што ўжо ў 1915 годзе А. М. Горкі сцвярджаў: «Уласна кажучы, ніякага футурызму няма, а ёсць толькі Ул. Маякоўскі. Паэт. Вялікі паэт».

Вялікім (у горкаўскім разуменні) Маякоўскі быў як па свайму непараўнанаму таленту, так і па глыбокай гуманістычнай накіраванасці гэтага

таленту, па той праніклівасці і вастрыні, якія дазволілі яму, зусім маладому паэту, убачыць капіталістычны свет ва ўсёй яго агіднай антычалавечай прыродзе, ва ўсіх яго супярэчнасцях і кантрастах.

Трагедыя «Уладзімір Маякоўскі», паэмы «Воблака ў штанах» і «Чалавек», сатырычныя «гімны», шматлікія лірычныя вершы... Ва ўсёй сусветнай паэзіі знойдзецца не так ужо і многа твораў, якія маглі б стаць побач з памянёнымі творамі Маякоўскага па страснасці адмаўлення буржуазнага грамадства, яго жыццёвых, маральных і эстэтычных норм.

У цэнтры гэтых твораў — вобраз моцнага, чулага, добрага і вясёлага чалавека, але чалавека адзінокага, пастаўленага ўсім буржуазным укладам жыцця ў такія ўмовы, у якіх не могуць быць задаволены самыя простыя і натуральныя патрабаванні яго натуры.

Маякоўскі шмат пісаў пра каханне і пісаў бліскуча: з той паўнатой і праўдзівасцю, з тым самазабыццём і здзіўленнем перад сілай кахання, якія так многа гавораць нашаму сэрцу ў лепшых узорах сусветнай лірычнай паэзіі. Адданасць паэта сваёй каханай, яго пяшчотнасць не ведаюць ніякіх межаў:

Мария!
Имя твоё я боюсь забыть,
как поэт боится забыть
какое-то
в муках ночей рождённое слово,
величьем равное богу.

І вось гэтаму каханню, якое магло зрабіць чалавека шчаслівым, адкрытым для ўсіх радасцей быцця, буржуазная рэчаіснасць ставіць непераадольныя перашкоды — маёмасныя, грашовыя, рэлігійныя:

За́гнанный в земной загон,
влеку дневное иго я.
А на мозгах
верхом
«закон»,
на сердце цепь —
«религия».

Так за «прыватным» матывам асабістага гора, асабістай неўладкаванасці раскрываецца гора мільёнаў, неўладкаванасць **усіх**, усяго прыгнечанага чалавецтва. Так тэма кахання перарастае ў тэму пратэсту і барацьбы супраць «сытых», супраць гаспадароў жыцця:

Выньте, гулящие, руки из брюк —
берите камень, нож или бомбу,
а если у которого нету рук —
пришёл чтоб и бился лбом бы!

Маякоўскі гаварыў: «Я — где боль, везде...», і гэтая гатоўнасць прымаць ва ўласнае сэрца пакуты народа і чалавецтва, гэты дэмакратызм, гэтае рашучае адмаўленне абыякавага і глухога да грамадскіх праблем «аранжарэйнага» мастацтва рабілі Маякоўскага спадчыннікам бессмяротных традыцый класічнай рускай літаратуры ад Пушкіна і да Горкага.

З традыцыямі рускай літаратуры Маякоўскага звязвала яго бязмежная, поўная захаплення вера ў чалавека, у чалавечыя сэрца і розум:

Суди́те:
говорящую рыбёшку
выудим нитями невода
и поём,
поём золотую,
воспеваем рыбачью удаль.
Как же
себя мне не петь,
если весь я —
сплошная невидаль,
если каждое движение моё —
огромное,
необъяснимое чудо.



Любоўю да чалавека, верай у яго высокае прызначэнне жывіліся ваяўнічае багаборніцтва, атэізм Маякоўскага: «Я думал — ты всесильный божище, а ты недоучка, крохотный божик».

Гэтыя ж любоў і вера прымусілі Маякоўскага актыўна выступіць супраць злачыннай імперыялістычнай бойні, супраць вайны наогул: «Единственный человечий, средь воя, средь визга, голос подъемлю днесь».

І, нарэшце, гуманізм Маякоўскага, яго неадольная мара аб чалавеку радасным і свабодным абумовілі і безагаворачнае прынясце паэтам сацыялістычнай рэвалюцыі, прывялі яго, самабытнага майстра культуры, у стан рэвалюцыйнага народа: «Прымаць альбо не прымаць? Такога пытання для мяне не было. Мая рэвалюцыя. Пайшоў у Смольны...»

Тое, што Маякоўскі зрабіў у першыя гады рэвалюцыі і пазней, на працягу 20-х гадоў, уяўляла сабою небывалую дагэтуль мастацкую, паэтычную з'яву, адкрывала прынцыпова новую старонку развіцця сусветнай літаратуры.


Фота 1917 года.

Якога вялікага ці проста значнага паэта мінулага мы ні ўзялі б, усе яны, за выключэннем асобных і гістарычна абумоўленых выпадкаў, знаходзіліся ў вельмі супярэчлівых і складаных, а часцей за ўсё ў адкрыта варожых адносінах з афіцыйнай дзяржаўнасцю. Ды ці магло яно быць інакш, калі ў класава-антаганістычным грамадстве дзяржава з'яўляецца зброяй класавага панавання эксплуататарскай меншасці над прыгнечанай і зняважанай народнай масай. Не было ў гісторыі такога паэта, які б мог, не трацячы пры гэтым сумлення грамадзяніна і мастака, не ахвяруючы інтарэсамі народа, звярнуцца да сваёй дзяржавы з высока ўрачыстым альбо задуменна-ціхім словам еднасці: **мая** дзяржава, дзяржава **маёй** душы...

А вось Маякоўскі сказаў гэтае слова, і сказаў таму, што ў агні пралетарскай рэвалюцыі, ажыццёўленай пад кіраўніцтвам Леніна і Камуністычнай партыі, узнікла дзяржава блізкая, патрэбная, **свая** кожнаму, хто гібеў пад цяжарам старога грамадства, родная для ўсіх, хто працуе.

Уладзімір Маякоўскі — першы **шчаслівы** паэт у гісторыі сусветнай літаратуры. Не самазадаволены, ідылічны, па-мяшчанску абмежаваны, а іменна шчаслівы ў тым разуменні шчасця, якое ідзе ад яснага і гордага ўсведамлення прыналежнасці да «здаровай» (кажучы словамі Някрасава), справядлівай рэчаіснасці. І калі Маякоўскі назваў сваю паэму, прысвечаную дзесяцігоддзю Кастрычніка, кароткім, але выразным словам «Добра!», дык гэта была скандэнсаваная формула задаволенасці новым светам рэвалюцыі і камунізма...

Кожны раз, думаючы пра Маякоўскага першых рэвалюцыйных год, я ўяўляю яго такім, якім намаляваў паэта адзін з яго тагачасных сяброў.

Масква, лета 1918 года, чацвёртая гадзіна ночы. «Мы спускаліся па Цвярской; насустрач угару ўзнімаўся чырвонагвардзейскі патруль — маладыя і пажылыя рабочыя ў касаворотках, пінжаках, падпяразаных кулямётнымі стужкамі, з вінтоўкамі цераз плячо... Маякоўскі падышоў да краю тратуара і сказаў, звяртаючыся да чырвонагвардзейцаў: «Добрай

раніцы, таварышы!» З радоў чырвонагвардзейцаў адказалі дружна і весела: «Добрай раніцы, таварыш Маякоўскі» (Л. Нікулін).

Людзі, варожа настроеныя да савецкай улады, эстэты ўсіх масцей, а то і звычайныя кансерватары, прывучаныя знаходзіць паэзію толькі ў расчараванасці і песімізме, усяляк імкнуліся навесці цень на гэту ранішнюю, галасна пракламаваную дружбу Маякоўскага з чырвонагвардзейцамі, усяляк спрабавалі ўзяць пад сумненне яе бескарыслівую чысціню і шчырасць. «Маякоўскі прыслужваецца,— гаварылі гэтыя людзі,— ён піша не тое, што хоча, а тое, што яму загадваюць». І Маякоўскі адказваў: так, мне загадваюць, але я хачу, каб мне загадвалі, і гэты адказ, недаступны разуменню прыхільнікаў і абаронцаў старызны, выяўляў абсалютна новую жыццёвую пазіцыю рэвалюцыйнага мастака, які бачыць сваю свабоду ў добраахвотным, па наказу сэрца, натхнёным служэнні партыі, народу, дзяржаве.

Творчая дзейнасць Маякоўскага пасля рэвалюцыі здзіўляе сваёй разнастайнасцю. Тут і грозныя, баявыя вершы-заклікі, вершы-загады, накшталт славутага «Левага марша», што гулкім пошчакам пракаціўся па ўсёй планеце:

Коммуне не быть покорённой.
Левой!
Левой!
Левой!

Тут і ўзнёслая «Ода рэвалюцыі», паэтава ўслаўленне рэвалюцыі, што бязлітасна і сурова вынішчае ворагаў і адначасова шле «моряков на тонущий крейсер, туда, где забытый мяукал котёнок».

Тут і многія вершы пра «место поэта в рабочем строю», і першая савецкая п'еса «Містэрыя-Буф» — «гераічнае, эпічнае і сатырычнае адлюстраванне нашай эпохі», па вызначэнню самога Маякоўскага, і вялікая паэма «150 000 000», вытрыманая ў былінным стылі, але з шырокім выкарыстаннем прыёмаў саманавейшай «левай» паэзіі.

У гэтай паэме Маякоўскі малюе фантастычную карціну сутыкнення рэвалюцыйнай Расіі і капіталістычнай Амерыкі. У ёй сустракаюцца выдатныя па глыбіні і сіле паэтычныя мясціны. Напрыклад, вось гэта — пра Івана, што ўвасобіў у сабе непераможную волю абуджанага народа:

Красноармейца можно отступить заставить,
коммуниста сдавить в тюремный гнёт,
но такого
в какой удержишь заставе,
если
такой
шагнёт?!

Аднак паэма ў цэлым не з'яўлялася ўдачай Маякоўскага. Яе катэгарычна не прыняў і рэзка крытыкаваў Уладзімір Ільіч Ленін. Горача зацікаўлены ў тым, каб пралетарыят засвоіў усё лепшае з культурнай спадчыны мінулага, Ленін паставіўся недаверліва да нігілістычных «выбрыкаў» Маякоўскага ў дачыненні да гэтай спадчыны. Найвялікшы практык рэвалюцыі, які ніколі не выпускаў з поля свайго зроку **стваральны** характар нашай рэвалюцыі і такі яе момант, як свядомая дысцыпліна мас, Ленін не мог ухваліць таго захаплення хаосам і стыхійнасцю, што выразна гучала ў паэме Маякоўскага. І, нарэшце, будучы чалавекам, выхаваным на рэалістычных традыцыях рускай літаратуры, Ленін не мог, натуральна, успрыняць пэўную гіпертрафічнасць формы Маякоўскага, наўмыснае падкрэсліванне яе на шкоду яснасці і паўнаце зместу.

Як бачым, той класічны Маякоўскі, якога сёння ведаюць мільёны ва ўсіх краінах свету, Маякоўскі, аўтар паэм пра Леніна, «Добра!» і «На ўвесь голас», склаўся не адразу. Ён павінен быў прайсці даволі складаны шлях фарміравання, росту, ідэйнага і творчага ўзмужнення, перш чым стаць буйнейшым паэтам літаратуры сацыялістычнага рэалізму.

Вельмі важным этапам на гэтым шляху з'яўлялася работа Маякоўскага ў так званых «Вокнах РОСТА» — работа мастака-плакатыста і паэта, аўтара звонкіх, дасціпных, з'едлівых подпісаў пад плакатамі на самыя актуальныя тэмы.



Рыхтуючы ў студзені 1930 года выстаўку, прысвечаную 20-годдзю сваёй творчай дзейнасці, Маякоўскі пісаў: «Каб гэта выстаўка стала поўнай — трэба перанесці сюды трамваі і цягнікі, распісаныя баявымі радкамі. Атакі, што гарлапанілі частушкі. Парканы, сцены і флагі, якія праходзілі пад Крамлём, раскідваючы агонь лозунгаў».

Маякоўскі ганарыўся сваёй работай у «Вокнах РОСТА». Ён гаварыў: «Хай успамінаюць лірыкі вершыкі, пад якія ўлюбляліся. Мы рады ўспомніць і радкі, пад якія Дзянікін бег ад Арла».

Гэта работа мела для Маякоўскага велізарнае значэнне ў тым сэнсе, што яна набліжала яго да рэальных патрэб савецкай штодзённасці і актыўна спрыяла далейшай дэмакратызацыі яго стылю і мастацкай мовы. Змагаючыся плакатам і вершам супраць тыфусу і спекуляцыі, агітуючы за высокую якасць веснавой сяўбы і збор старых газет, Маякоўскі выконваў — дэманстратыўна, палемічна — і задачу эстэтычнага парадку: ён пашыраў уладанні паэзіі на матэрыял «непаэтычны», «нізкі»; знарок развенчваў фігуру паэта, прыцілага «ў чаканні, пакуль нябесная паэзія-дух сыдзе на лысіну ў выглядзе голуба, паўліна альбо страуса»; замацоўваў паняцце практычнай **дзейснасці** і карысці як паняцце **мастацкае.**

У пачатку 1922 года Маякоўскі піша шырока вядомы верш «Празасяданыя» — узор палітычнай сатыры, рэалізаванай сродкамі самага адточанага майстэрства. «Празасяданыя» вельмі спадабаліся Леніну. 6 сакавіка 1922 года на з'ездзе металістаў ён сказаў наступнае: «Учора я выпадкова прачытаў у «Известиях» верш Маякоўскага на палітычную тэму... Даўно я не адчуваў такога задавальнення, з пункту погляду палітычнага і адміністратыўнага. У сваім вершы ён ушчэнт высмейвае пасяджэнні і здзекуецца з камуністаў, што яны ўсё засядаюць і перазасядаюць. Не ведаю, як наконт паэзіі, а наконт палітыкі ручаюся, што гэта зусім правільна».

Поспех «Празасяданых» і высокая ацэнка Леніна садзейнічалі нараджэнню Маякоўскага-газетчыка, Маякоўскага — партыйнага, баявога сатырыка, бязлітаснага выкрывальніка ўсіх недахопаў у савецкім жыцці.

Некаторыя буржуазныя даследчыкі на Захадзе, так званыя «спецыялісты па Маякоўскаму», са скуры вылузваюцца, каб аддзяліць Маякоўскага-публіцыста ад Маякоўскага-лірыка. Дарэмныя іх намаганні: Маякоўскі не дзеліцца! Адзін і той жа чалавечы характар стаіць за вершамі пра дзяржаўную пазыку і за лірычнай, нават інтымнай паэмай пра каханне, за рэкламай для Массельпрома і сатырычнай камедыяй пра сучаснага мешчаніна.

Галоўнае ў гэтым характары — адчуванне рэвалюцыі як пераломнага моманту ў гісторыі чалавецтва, радаснае пачуццё аднаўлення і перамен, шырачэзны размах эмоцый, перажыванняў, думак, надзвычай прывабных у сваёй гранічнай шчырасці і заўсёды скіраваных у заўтра, у будучыню.

Ці размаўляў Маякоўскі з сонцам, па-сяброўску, але з належнай пачцівасцю паляскваючы яго па плячы: «Нас, товарищ, двое», ці ўгаворваў Эйфелеву вежу: «Идём в Москву! У нас в Москве простор», ці прыслухоўваўся да голасу «закаханых» параходаў на Адэскім рэйдзе,— ва ўсім адчувалася выклiканая рэвалюцыяй унутраная свабода чалавека, які доўга пакутаваў сярод людзей-ворагаў альбо ў лепшым выпадку сярод людзей-суседзяў і, нарэшце, апынуўся ў вялікім свеце людзей-таварышаў, людзей-сяброў.

**Таварыш** — адно з улюбёных слоў Маякоўскага. Ён гаварыў «таварыш птушка», «таварыш жыццё», «таварыш урад». І марыў:

Чтоб вся
на первый крик:
— Товарищ! —
оборачивалась земля.

Маякоўскі многа пісаў пра сябе, пра сваё каханне, нялёгкае, часам вельмі складанае, але такое, што выклікала рэўнасць не да «мужа Марьи

Иванны», а да самога Каперніка, бо каханне ў разуменні Маякоўскага — «не рай да кущи», не ціхая затока, аддаленая ад бур жыцця, а магутнае пачуццё, «свабоднае спаборніцтва з усім светам». І вось знаходзіліся недалёкія людзі, абмежаваныя дагматыкі, што абвінавачвалі паэта ў эгацэнтрызме, у дробнабуржуазным адыходзе «ад калектывісцкай псіхалогіі мас». І няўцям было гэтым падслепаватым «калектывістам», тэарэтыкам абязлічкі, згубнай для паэзіі наогул, а тым больш для паэзіі сацыялістычнага рэалізму, што, гаворачы ад свайго ўласнага імя, Маякоўскі гаварыў і ад імя мільёнаў савецкіх людзей, гэтак жа, як і ён, бязмежна адданых вялікай справе будаўніцтва новага свету.

Паэзія Маякоўскага не ведае штучнага падзелу на «сектары»: асабісты і грамадскі. Самыя індывідуальныя і асабістыя пачуцці паэта набывалі для яго цікавасць як **тэма** для мастацкага твора толькі ў тым выпадку, калі яны дазвалялі падняць праблему агульнаграмадскай звычнасці. А з другога боку, самыя шырокія і хвалюючыя сацыяльныя тэмы асвойваліся Маякоўскім вельмі лірычна, і верш, прысвечаны Кастрычніцкай гадавіне, ён пачаў радкамі, надзвычай знамянальнымі:

Мне б хотелось
　　про Октябрь сказать,
　　　　не в колокол названивая,
не словами,
　украшающими
　　тёпленький уют, —
дать бы
　революции
　　такие же названия,
как любимым
　　в первый день дают!

Унутраная шырыня і цэласнасць Маякоўскага (без механічнай, аднак, падгонкі індывідуальнага пад «тыповае», без павярхоўнага пераключэння «я» на «мы») мелі сваім зыходным пунктам арганічную злітнасць паэта з усім народам, з усімі, «кто вышел строить и месть в сплошной лихорадке буден»:

Под скромностью
　　ложной
　　　радость не тая,
ору
　с победителями
　　голода и тьмы:
— Это —
　　я!
— Это —
　　мы!.

Было ў жыцці Маякоўскага адно невыказнае гора, адно ўзрушэнне, якое прымусіла яго з асаблівай сілай адчуць сваю непарыўную сувязь з народам і партыяй. Гэтае ўзрушэнне — смерць Леніна. Яно ўладарна, настойліва патрабавала выйсця ў слове.

Напісаная ў 1924 годзе паэма Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін» з'яўляецца і па сённяшні дзень лепшым творам савецкай паэзіі, прысвечаным правадыру рабочага класа, стваральніку камуністычнай партыі, самаму чалавечнаму і зямному «изо всех прошедших по земле людей».

Першым і непасрэдным штуршком для работы над паэмай паслужылі ўражанні тых незабыўных студзеньскіх дзён, калі паэт разам з сотнямі тысяч людзей, з усёй Масквой, выціраючы заледзянелыя слёзы, цягнуўся ў бясконцай самотнай чарзе да Леніна ў Дом Саюзаў. Раздзелы паэмы, у якіх Маякоўскі расказвае пра тыя дні і гадзіны, належаць да лепшага, што ім было напісана, — такая ў іх шчымлівая сіла, такі боль і такая мужнасць, што вырастае з гэтага болю і смутку.

Маякоўскі гаварыў, што ён «вельмі баяўся гэтай паэмы, бо лёгка было знізіцца да простага палітычнага пераказу», і толькі «адносіны рабочай аўдыторыі ўзрадавалі і ўмацавалі ўпэўненасць, што паэма патрэбна».



Паэма аказалася надзвычай «патрэбнай», як прынцыповая, наватарская па думцы, па яе мастацкаму ўвасабленню творчая заваёва новага метаду — метаду сацыялістычнага рэалізму. Паэма Маякоўскага ўпершыню даказала, што савецкі пісьменнік, узброены марксісцка-ленінскім светапоглядам, можа, не ахвяруючы пластычнасцю, эмацыянальнасцю адлюстравання, даць цэласны, маналітны і не афармлены «знешнім» сюжэтам, лірыка-публіцыстычны **вобраз гісторыі**, вобраз часу ва ўсіх яго зменах, у яго хадзе і працягласці.

«Простага пераказу» не атрымалася, бо ў кожнай частцы, у кожным маленькім «кадры», якія і складаюць гэты абагульнены вобраз часу, чуецца напружанае душэўнае жыццё паэта, яго ўласнае ўспрыманне агульнавядомых фактаў, яго ўмельства «спалучаць» галасы гісторыі са сваім непаўторным лірычным голасам чалавека новай эпохі, пераможцы «голаду і цемры», сучасніка Леніна. Не адна толькі гістарычная храналогія яднае гэтыя факты, з'явы, падзеі ў адно цэлае — іх звязвае яшчэ агульная скразная **эмоцыя** нецярплівага чакання Леніна-палітыка, Леніна-правадыра, які глыбока ўспрыме адкрытыя Марксам законы класавай барацьбы і павядзе пралетарыят «полями битв, а не бумаг» на рашучы штурм капіталізму.

**Старонка з запіснай кніжкі У. Маякоўскага — чарнавы накід паэмы «Уладзімір Ільіч Ленін».**

Далеко давным,
　　годов за двести,
первые
　про Ленина
　　восходят вести, —

піша Маякоўскі, маючы на ўвазе, што прыход Леніна быў падрыхтаваны вякамі прыгнечання і барацьбы.

Леніна чакаў рабочы Расіі:

— Под работу,
　　под винтовку ль,
　　　на —
　　　　ладони обе!
Приходи,
　заступник
　　и расплатчик!

Леніна чакаў і змардаваны на спякотных плантацыях афрыканскі негр:

Хоть для правнуков,
　　не зря чтоб
　　　кровью литься,
выплыви,
　заступник солнцелицый...

У паэме пра Леніна здзіўляе майстэрскае ўмельства паэта даваць лаканічныя, прасякнутыя глыбокай думкай ёмістыя абагульненні-формулы вялікага сацыяльнага вопыту мільёнаў. Калі Маякоўскі піша пра станаўленне капіталізму ў Расіі:

И уже
смешались
облака и дымы,
будто
рядовые
одного полка,—

дык мы бачым у гэтым, на дзіва эканомным і сціслым вобразе-думцы не толькі цёмную, дымную хмару над фабрыкай, а і тое, што прыйдзе пазней як вынік, як непазбежны працяг капіталістычнага развіцця — затопленыя шэра-зялёнай салдацкай масай палі Манчжурыі і Галіцыі.

Сіла Леніна — у яго непарыўнай сувязі з рабочым класам, і сувязь гэтая — узаемазалежная, двухбаковая, пра што зноў жа гаворыць надзвычай выразная ў сваім лаканізме, каваная формула Маякоўскага:

Бился
об Ленина
тёмный класс,
тёк
от него
в просветленьи,
и, обданный
силой
и мыслями масс,
с классом
рос
Ленин.

Сіла Леніна — у мудрасці і дысцыпліне створанай ім бальшавіцкай партыі, стойкага баявога авангарду мас, і пра гэта адзінства Леніна з партыяй гаворыць адно з найбольш «ударных» абагульненняў Маякоўскага, якое трывала ўвайшло ў самы шырокі палітычны ўжытак народа, стала яго духоўным здабыткам:

Партия и Ленин —
близнецы-братья —
кто более
матери-истории ценен?
Мы говорим Ленин,
подразумеваем —
партия,
мы говорим
партия,
подразумеваем —
Ленин...

Пабудаваная знешне як гіганцкі лірыка-публіцыстычны агляд гісторыі, паэма Маякоўскага не рассыпаецца, не робіць уражання хронікі, бо ўся яна сцэментавана цэласным маральным пачуццём паэта, які ў кожнай сваёй думцы, у кожным учынку, вялікім і малым, трымае раўненне на Ільіча, на яго чалавечнасць і прастату: «Я себя под Лениным чищу, чтобы плыть в революцию дальше». І можа здацца, што Маякоўскі зазіраў у заўтрашні дзень, у перажытую намі цяжкую эпоху культу асобы, калі пісаў вось гэтыя радкі пра Леніна, супрацьстаўляючы яго дэмакратызм, прастату і даступнасць іншаму, непадобнаму стылю чалавечых паводзін правадыра:

Не сатрапья твёрдость,
триумфаторской коляской
мнущая
тебя,
подёргивая вожжи.
Он
к товарищу
милел
людскою лаской.
Он
к врагу
вставал
железа твёрже...



Прысвечаная Расійскай Камуністычнай партыі, упершыню прачытаная актыву Маскоўскай партыйнай арганізацыі, да апошняга свайго слова прасякнутая пафасам рэвалюцыйнага пераўтварэння свету, паэма Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін» застанецца ў савецкай літаратуры як адно з найбольш узнёслых і паэтычна дасканалых увасабленняў ленінскай камуністычнай партыйнасці, як узор мэтанакіраванага, ідэйна змястоўнага наватарства думкі, пачуцця, формы...

Закончыўшы работу над паэмай, Маякоўскі шмат раз'язджае па гарадах Саюза, чытаючы лекцыі і творы. «Працягваю перарваную традыцыю трубадураў і менестрэляў», — гаворыць паэт у аўтабіяграфіі.

Іменна ў гэты перыяд найцяснейшага кантакту з новай рэчаіснасцю Маякоўскі піша лепшыя свае творы, якія трывала ўвайшлі ў класічны фонд паэзіі сацыялістычнага рэалізму: «Таварышу Неттэ, параходу і чалавеку» — велічны, прыгожы помнік самаахвярнай мужнасці камуніста; «Юбілейнае» — сведчанне самай глыбокай любві і павагі Маякоўскага да жывога, не «хрэстаматыйнага», Пушкіна; «Сяргею Ясеніну» — пропаведзь душэўнай цэласнасці і аптымізму; «Апавяданне ліцейшчыка Івана Козырава...» — верш аб тым, што прынесла простаму чалавеку працы родная і «очень правильная эта, наша, советская власть»...

Іменна ў гэты перыяд канчаткова складваюцца тыя рысы чалавечага і паэтычнага характару Маякоўскага, якія зрабілі яго блізкім і зразумелым усім, «кто бьётся, чтоб дни труда были радостны и легки», усім, хто будуе новае грамадства.

Маякоўскі — гарачы патрыёт рэвалюцыйнай Расіі:

Вот
она,
Россия,
моя любимая страна.
Красная,
только что из революции горнила.

І разам з тым Маякоўскі — перакананы, паслядоўны інтэрнацыяналіст, вораг усякага роду шавінізму і нацыянальнай фанабэрыі. З кожнага свайго падарожжа па краіне ён прывозіць усё новыя і новыя факты росквіту нацыянальных культур і радуецца гэтым фактам. «Архаічная мова, — піша ён у адным са сваіх нарысаў 1928 года, — яшчэ схільна называць правінцыяй нават такія гарады, як Мінск, Казань, Сімферопаль, а гэтыя гарады, якія воляй рэвалюцыі сталі сталіцамі, растуць, будуюцца, а галоўнае, дыхаюць самастойнай культурай сваёй вызваленай краіны».

Прызнаны, буйнейшы майстар **рускага** паэтычнага слова, уладар незлічоных моўных скарбаў, Маякоўскі бачыць невыкарыстаную дагэтуль магчымасць далейшага ўзбагачэння сваёй мовы свежасцю і навізной слова ўкраінскага ці беларускага:

Я
немало слов придумал вам,
взвешивал их,
одно хочу лишь,—
чтобы стали
всех
моих
стихов слова
полновесными,
как слово «чуешь»...

Маякоўскі — непрымірымы вораг старога, мяшчанскага быту, вястун новых і чыстых чалавечых узаемаадносін. Не стамляючыся, з верша ў верш напамінае ён савецкай моладзі, камсамольцам: «Помни ежедневно, что ты зодчий и новых отношений и новых любовей». Маякоўскаму аднолькава ненавісныя неахайнасць і бруд пад выглядам барацьбы за «пралетарскую мараль» і буржуазнае ханжаства ў імя захавання «сямейных асноў».

Маякоўскі — бязлітасны, пякучы, аператыўны выкрывальнік зла, не-

дахопаў, усяго, што «в нас ушедшим рабьим вбито», і вопыт сатырыка Маякоўскага можа шмат чаму навучыць пісьменніка нашых дзён.

Звяртаючыся да савецкай моладзі, паэт пісаў: «Работая, мелочи соразмеряй с огромной поставленной целью». Сам ён выдатна валодаў гэтым умельствам і таму непрымірыма, рэзка адмяжоўваўся ад скептыка і малавера:

Послушайте,
 вы,
 товарищ Фома,
у вас
 повадка плохая.
Не надо
 очень
 большого ума,
чтоб всё
 отвергать
 и хаять.

Але дзеля таго, каб у абражанага «Фамы» не засталося ілюзій, быццам разыходжанні паміж ім і паэтам «прынцыповыя»: бачыце, ён, «Фама», не баіцца праўды, а паэт баіцца,— Маякоўскі вывеў яшчэ адну сатырычную фігуру і не менш тыповую за малавера. Гэта напалоханы крытыкай перастрахоўшчык, нехта «таварыш Папоў» ці «стоўп», як яго іранічна называе паэт:

Кого критикуют?—
 вопит, возомня,
аж голос
 визжит
 тенорком.—
Вчера —
 Иванова,
 сегодня —
 меня,
а завтра —
 Совнарком!

Так ваяваў Маякоўскі на «два франты», адстойваючы правы і абавязак агнём сатырычнага слова з партыйных пазіцый выпальваць усялякую дрэнь і поскудзь: бюракратызм і пампадурства, прыватнаўласніцкае свінства і эгаізм, упадніцтва і папяровую цаганіну, прыстасаванцтва і «цыркулярна»-службісцкае стаўленне да чалавека.

Сёння, калі Камуністычная партыя, рашуча паканчыўшы з культам асобы, высока ўзняла палітычную ініцыятыву працоўных мас, адрадзіла ленінскую традыцыю агульнанароднага кантролю за ўсім, што адбываецца ў нашым неабсяжна вялікім савецкім доме, асабліва актуальна гучаць напісаныя ў 1929 годзе радкі Маякоўскага:

Мы всех зовём,
 чтоб в лоб,
 а не пятясь,
критика
 дрянь косила.
И это
 лучшее из доказательств
нашей
 чистоты и силы...

Маякоўскі — нястомны прапагандыст і практык рэвалюцыйна дзейснай і зразумелай масам баявой паэзіі, якая ніколі не спрашчае і не збядняе сябе, каб знайсці дарогу да чытача.

Выступаючы перад камсамольцамі Чырвонай Прэсні 25 сакавіка 1930 года, Маякоўскі прызнаўся: «Вельмі цяжка весці тую работу, якую хачу весці я. Работу збліжэння рабочай аўдыторыі з вялікай паэзіяй, з паэзіяй, зробленай па-сапраўднаму, без халтуры і без свядомага прыніжэння яе значэння».

Паэта безупынна атакоўвалі апалагеты «чыстага» мастацтва, рознакаліберныя «птушкі божыя», накшталт той, якую ён абмаляваў у адным са сваіх вершаў:

Вы,
 над облаками рея,
птица
 в человечий рост.
Вы, мусье,
 из канареек,
чижик вы, мусье,
 и дрозд.

Усяляк назалялі паэту і розныя вульгарызатары, якія прысвоілі сабе чамусьці манапольнае права гаварыць ад імя «рабочых і сялян». Яны, гэтыя вульгарызатары, абвінавачвалі Маякоўскага ў фармалізме, у адрыве ад мас і многіх іншых грахах. Маякоўскі адбіваўся ад падобных «крытыкаў», парадзіруючы іх галасы: «То ли дело наш Стёпа — забыл, к сожалению, фамилию и отчество...»

У Стёпы
 незнание
 точек и запятых
заменяет
 инстинктивный
 массовый разум,
потому
 что
 батрачка —
 мамаша их,
а папаша —
 рабочий и крестьянин сразу...

Тым часам як схематыкі, апекуны «нашага Сцёпы» патрабавалі ад Маякоўскага голых «сутнасцей», рыфмаванага пераказу «гатовых» лозунгаў, ён, Маякоўскі, не пераставаў даказваць, што агітаваць трэба весела, г. зн. так, каб за кожным «газетным» вершам адчуваўся жывы, чалавечы вобраз паэта, яго самастойная думка, якая не хоча плесціся «у статей в хвосте», а сама пракладае шляхі новаму.

Брось дрожать
 за шкуры скряжьи!
Вперёд забегайте,
 не боясь суда!
Зовите рукой
 с грядущих кряжей:
«Пролетарий,
 сюда!» —

пісаў Маякоўскі ў вершы «Перадавыя перадавога» ў 1926 годзе.

Маякоўскі церабіў шляхі ў будучыню і штурмаваў «грядущие кряжи» таму, што ён жыў адным супольным жыццём з народам, з партыяй і ўвесь свой талент, усю «звонкую силу поэта» прысвяціў рэвалюцыі.

Маякоўскі неаднаразова перасякаў граніцы Савецкай радзімы, неаднаразова наведваў краіны капіталістычнага Захаду. У шматлікіх вершах і нарысах, прывезеных паэтам са сваіх падарожжаў па «заграніцах», вельмі поўна і ярка выявіліся найбольш характэрныя яго рысы: любоў да роднай зямлі, ваяўнічы інтэрнацыяналізм, нянавісць да мяшчанства, навізна мастацкай думкі, яе гатоўнасць засвоіць — без шораў, без загадзя складзенай схемы — усе ўражанні быцця.

Бясспрэчна, упершыню збіраючыся за мяжу, Маякоўскі дакладна і ясна ўяўляў сабе буржуазны лад, яго законы і сацыяльныя парадкі — успаміны юнацтва, пражытага ва ўмовах капіталізму, былі яшчэ даволі свежыя. І ўсё ж, чытаючы вершы Маякоўскага пра Францыю альбо Амерыку, мы ні на хвіліну не трацім адчування, што гэтыя вершы, у якіх выкрываецца самая сутнасць капіталізму, маглі быць напісаны толькі на аснове асабістых назіранняў, толькі ў выніку самастойнага «адкрыцця Амерыкі» (як называецца кніга нарысаў Маякоўскага).

Кубінскі негр, збіты «белым» цукровым каралём, за тое, што ў яго, у негра, пачала абуджацца класавая самасвядомасць; заводчык — «прыстойны» амерыканскі грамадзянін, які за грошы хоча «ўдачарыць» шаснаццацігадовую работніцу; парыжанка, «кахаць» якую лічыцца асаблівым шыкам, таму што яна аднаногая, — ва ўсім гэтым выразна выступае сацыяльная, палітычная ідэя Маякоўскага, савецкага паэта, заўзятага, даўняга праціўніка капіталізму. Ёсць ва ўсім гэтым адначасова і непасрэднасць мастакоўскага сутыкнення з рэчаіснасцю, умельства глядзець на жыццё **сваімі** вачамі.

А ўбачыў Маякоўскі на Захадзе, у прыватнасці ў Амерыцы, вельмі многае, і перш за ўсё тое, што стала найбольш устойлівым і адметным у самім характары амерыканскай «цывілізацыі».

Мы чытаем у Маякоўскага: «Можа здарыцца, што Злучаныя Штаты разам стануць апошнімі ўзброенымі абаронцамі безнадзейнай буржуазнай справы», і трывожна думаем аб нашым, аб сённяшнім часе — аб перанесеных нават у космас злачынных эксперыментах амерыканскай ваеншчыны.

Карціна дзікага, пачварнага разгулу амерыканскіх расістаў у Алабаме, аб чым нядаўна паведамлялі газеты, яшчэ раз вырастае перад нашымі вачамі, калі мы чытаем у Маякоўскага: «Пушкіна і зараз не пусцілі б ні ў адну «прыстойную» гасцініцу і гасціную Нью-Йорка. У Пушкіна ж былі кучаравыя валасы і негрыцянская сінява пад пазногцямі».

І хіба, расказваючы пра тое, што ў Амерыцы гаспадарыць «бог-долар, долар-бацька, долар-дух святы», Маякоўскі не прадбачыў лейтэнанта Джэксана, аднаго з тых, хто кінуў атамную бомбу на Хірасіму і, вышукваючы цэль, у апошнюю мінуту ўсклікнуў як «сапраўдны амерыканец»: «Божа мой! Калі б толькі людзям было вядома, што мы збіраемся рабіць, мы змаглі б прадаць на тысячу долараў білетаў на гэты матч»...

Савецкі паэт Маякоўскі меў усе падставы, звяртаючыся да сваіх сучынннікаў, людзей новага свету, сказаць пра Амерыку:

Если глаз твой
врага не видит,
пыл твой выпили
нэп и торг,
если ты
отвык ненавидеть, —
приезжай
сюда,
в Нью-Йорк.

І не толькі ў гэтай пільнасці і вастрыні сацыяльнага зроку выявіўся савецкі характар Маякоўскага, — ён быў яшчэ і ў спагадзе да прыдушанай доларавым стандартам семнаццацігадовай міс, што «сидит для рекламы и точит ножи» ды бачыць у марах, быццам «влюблённый клерк на ней жениться приходит с Волстрит»:

Как врезать ей в голову
мысли-ножи,
что русским известно другое средство,
как влезть рабочим
во все этажи
без грёз,
без свадеб,
без жданий наследства.

Ён, гэты савецкі характар Маякоўскага, выявіўся і ў той цікавасці, з якой паэт адносіўся да ўсяго, што магло напомніць пра рэвалюцыйныя традыцыі народаў: у Версалі яму больш за ўсё спадабаўся след ад санкюлоцкага штыка на століку каралевы Антуанеты...

«Палпрэдам камуны і верша» назваў сябе Маякоўскі, падарожнічаючы па краінах буржуазнага свету. Такім успрымалі яго і нашы сябры за мяжой. «У перуновым разгоне яго голасу, — пісала адна прагрэсіўная амерыканская газета, — бачылася тая вялікая краіна, якая нарадзіла аднаго вялікага і многа-многа малых Маякоўскіх, значэнне якіх расце разам з ростам велічы адзінай у свеце Пралетарскай Сацыялістычнай Рэспублікі...»



Са сваіх падарожжаў паэт вяртаўся радасна ўсхваляваны, зараджаны новай энергіяй, горды ад усведамлення сыноўняй сувязі з рэвалюцыйнай Расіяй, і магутныя, поўныя агнявога пафасу патрыятычныя строфы нечакана перабіваліся складзенымі на самай граніцы радкамі дзіцячага захаплення і чысціні:

На горизонте —
белое.
Снега
и Негорелое.
Как приятно со́ снегу
вдруг
увидеть сосенку.

Савецкі, сацыялістычны патрыятызм Маякоўскага знайшоў самае поўнае і яркае ўвасабленне ў напісанай да дзесяцігоддзя рэвалюцыі «кастрычніцкай паэме» «Добра!» Яе паэт лічыў «праграмнай рэччу», накшталт «Воблака ў штанах» — для дарэвалюцыйнай творчасці.

Аналогія з «Воблакам» зроблена Маякоўскім не выпадкова. Сваёй ранняй паэмай паэт гаварыў буржуазнаму грамадству: «дрэнна!», «кепска!» Чатыры часткі «Воблака ў штанах» паэт вызначыў як чатыры воклічы: «далоў ваша каханне», «далоў ваша мастацтва», «далоў ваш лад», «далоў вашу рэлігію»...

Што да паэмы, прысвечанай рэвалюцыі, то яна павінна была прагучаць і прагучала на ўвесь свет як безагаворачна цвёрдае і недвухсэнсоўна яснае «добра!» новаму грамадскаму ладу, новай, народжанай у класавых бітвах **разумнай** сацыяльнай рэчаіснасці.

Пра паэму «Добра!» А. В. Луначарскі пісаў, што яна — «Кастрычніцкая рэвалюцыя, адлітая ў бронзу». Паэма дае сапраўды манументальную, «недоступную для тлена и крошений» незабыўную карціну краіны, узнятай, абуджанай рэвалюцыяй.

Аднак, думаючы пра паэму Маякоўскага, міжволі звяртаешся да асацыяцый іншага — музычнага ладу, параўноўваеш яе з шматгалосай сімфоніяй, пабудаванай вельмі шматгранна, паліфанічна, з нечаканымі і глыбока апраўданымі перабіўкамі розных планаў — ад буйна-маштабных народных масавых сцэн да эпізодаў біяграфічна-інтымных, ад трубнага пафасу да самай пяшчотнай і тонкай лірыкі, ад грознай іроніі і сарказму да ўрачыста-самотнага рэквіему. І ўсё гэта разам, увесь арсенал добра выпрабаваных, але бліскуча адноўленых паэтычных сродкаў, спраўна і бездакорна служыць Маякоўскаму, яго ідэйнай задачы — паказаць дзесяцігадовы шлях радзімы, народа і яго, Маякоўскага, уласны шлях ад перавалу на перавал рэвалюцыйнай эпохі.

Это время гудит
телеграфной струной,
это
сердце
с правдой вдвоём.
Это было
с бойцами,
или страной,
или
в сердце
было
в моём, —

піша Маякоўскі ў самым пачатку паэмы, і як добра тут выказана еднасць паэта з народам, з краінай! У гэтых радках — ключ да паэмы, дзе «сэрца» і «праўда», «сэрца» і «байцы» перапляліся, зліліся так, што іх не раз'яднаеш ніякімі намаганнямі.

... Камуністы выйшлі на першы суботнік. З Марселя ў Новарасійск і з Дуўра ў Архангельск плывуць мінаносцы і крэйсеры інтэрвентаў, каб задушыць у крыві маладую рэспубліку Саветаў. Атрады добраахвотнікаў,

галодных, разутых, — «с Лениным в башке и с наганом в руке» — ідуць на фронт, каб адагнаць Дзянікіна ад Масквы... Кадры суровай гістарычнай хронікі, эпізоды народнага быцця, якое літаральна кіпіць на старонках паэмы яшчэ не застылай і грознай лавай. А следам — бытавое, «прыватнае», але такое, на чым таксама ляжыць водбліск гераічнага часу:

Не домой,
не на суп,
а к любимой в гости
две
морковинки
несу
за зелёный хвостик...

Гэта было з **краінай**, з **байцамі.** Гэта было і з **каханнем** Маякоўскага, якое стала з рэвалюцыяй поплеч, асветленае яе веліччу і пакутамі, шчасцем і выпрабаваннямі.

І як вынік **такой** любві — да рэвалюцыі і да самага блізкага чалавека — гучыць ужо на ўсю сілу прызнанне Маякоўскага-патрыёта, Маякоўскага — сына савецкай Айчыны:

Землю,
где воздух,
как сладкий морс,
бросишь
и мчишь, колеся, —
но землю,
с которою
вместе мёрз,
вовек
разлюбить нельзя...
Можно
забыть,
где и когда
пузы растил
и зобы,
но землю,
с которой
вдвоём голодал, —
нельзя
никогда
забыть!..

Прыціхлая, задуменная, схіляецца гэтая «баявая рэвалюцыя-любоў» Маякоўскага над магіламі тых, хто загінуў «от трудов, от каторг и от пуль», да апошняга свайго дыхання верачы ў перамогу камунізма: «Спите, товарищи, тише... Кто ваш покой отберёт?»

Чыстая, маладая, перапоўненая да краю «святочнай энергіяй мас» (Ленін), узвіваецца яна аж да самых зор хвалюючай, душэўнай здравіцай у гонар тых, хто адолеў інтэрвенцыю, блакаду, голад і цяпер будуе камуністычную будучыню:

Лет до ста
расти
нам
без старости.
Год от года
расти
нашей бодрости.
Славьте,
молот
и стих,
землю молодости...

Маякоўскі нёс у сабе, у сваім сэрцы паэта і чалавека характва камуністычнай будучыні, калі людзі ўсёй планеты зажывуць «единым человечьим общежитьем». Ён быў разведчыкам будучыні, яе пасланцом і валодаў выключным умельствам глядзець на сучаснасць з вяршынь заўтрашняга камуністычнага дня. Будучыня ўваходзіла ў паэзію Маякоўскага не проста як перспектыва, як гістарычная далечыня, а як «шостае пачуццё» паэта, як неабходны маштаб для ацэнкі і вымярэння рэчаў, падзей, з'яў.



Адны з'явы, азораныя святлом, што свеціць з будучыні, пашыраліся, выраслі — і гарачы шэпт рабочага ў Кузнецку: «Через четыре года здесь будет город-сад» альбо цвёрдыя крокі Дзяржынскага каля Ільічовай труны дасягалі гучання амаль патэтычнага. Тым часам другія з'явы, і без таго мізэрныя і ўбогія, яшчэ больш мізарнелі, змяншаліся да памераў амаль што карлікавых — і цудам перанесены ў заўтра «былы рабочы, цяпер жаніх» абывацель Прысыпкін (камедыя «Клоп») пачынаў лепятаць, мармытаць нешта незразумелае, смешнае для чалавека будучыні...

Паэт гаварыў пра сябе, пра сваю творчасць:

Пространств мировых одоления ради,
охвата ради веков дистанций
я сделался вроде
огромнейшей радиостанции.

Ён адчуваў сябе вельмі свабодна і ў часе, і ў прасторы. Многія з фантастычных здзяйсненняў нашых дзён ужо мроіліся яму, паэту і летуценніку.

У 1921 годзе, калі галодная, разбураная вайной краіна толькі пачынала мірнае будаўніцтва, Маякоўскі пісаў у прадмове да «Містэрыі-Буф» (другі варыянт): «Сёння да камуны рвецца воля мільёнаў, а праз паўсотні год, магчыма, у атаку далёкіх планет рынуцца паветраныя дрэдноўты камуны».

У паэме «Лятаючы пралетар» (1925) паэт гаварыў:

Чтоб в будущем
веке
жизнь человечья
ракетой
неслась в небеса —
и я,
уставая
из вечера в вечер,
вот эти
строки
писал.

І яшчэ адна знамянальная акалічнасць. Чытаючы Маякоўскага, заўважаеш, што ёсць у яго паэзіі не толькі прага нябёсаў, не толькі прадчуванне палёту, а ўжо і тое, што заўтра павінен адчуць чалавек з «паветранага дрэдноўта» — погляд **адтуль,** з вышыні, **успамін** пра зямлю і ціхаласкавы смутак па ёй: «Теперь на земле, должно быть, ново», «на Кавказе, вероятно, весна...»

«Па камуне» мераў Маякоўскі ідэйную вышыню і майстэрства сваіх вершаў і вершаў таварышаў па пяру. Творчасць Маякоўскага — лепшы доказ таго, што метад сацыялістычнага рэалізму адкрывае сапраўды партыйнаму, перадавому мастаку самыя неабмежаваныя магчымасці наватарскіх пошукаў ва ўсіх галінах зместу і формы, самага смелага выяўлення творчай індывідуальнасці.

«Рэвалюцыя, — пісаў А. В. Луначарскі, — ... любіць навізну, яна любіць яркасць... яна ахвотна прымае тыя пашырэнні рэалізму, якія па сутнасці цалкам ляжаць у яе абсягу. Яна можа прыняць фантастычную гіпербалу, карыкатуру, усемагчымыя дэфармацыі, калі гэтыя дэфармацыі не дамагаюцца якой-небудзь... ўяўнай мэты, а служаць іменна выяўленню ўнутранай рэальнай сутнасці шляхам мастацкага ператварэння».

Гэтыя словы тлумачаць вельмі многае і ў паэтычным стылі Маякоўскага, які лепш за многіх паэтаў, сваіх сучаснікаў, зразумеў і ўспрыняў «любоў» рэвалюцыі да навізны, да яркасці, да ўсемагчымых «пашырэнняў рэалізму».

Маякоўскі — майстар гіпербалы, ярка-кантрасных фарбаў. Ён не прымае паэзіі, якая прыбірае жыццё ў «мастацкія» адзенні. Ён рве паву-

цінне зляжалых, аўтаматызаваных рытмаў, памераў, сінтаксічных канструкцый, фразавых спалучэнняў, каб голас яго, аднолькава жывы, свабодны і гнуткі ва ўсіх душэўных рэгістрах, **непасрэдна,** як голас блізкага субяседніка-агітатара, палеміста, лірыка дайшоў да сэрца і розуму самай масавай аўдыторыі і **кожнага** са сваіх слухачоў.

Маякоўскі ўзбагаціў рускі верш новымі рытмамі, разлічанымі на тое, каб прыняць у сферу свайго гучання ўсе рытмы жыцця: ад маршу і да любоўнага шэпту. Ён не ведаў законаў «адвечнай паэтычнасці» і лічыў, што «паэзія — штодзённа па-новаму любімае слова», «радасць, майстрам каваная».

Узяўшы ў спадчыну ўсё лепшае, што дала народу і чалавецтву вялікая руская паэзія ад Пушкіна і да Блока, Маякоўскі не проста прадоўжыў традыцыі гэтай паэзіі, а творча, актыўна іх развіў і сам сцвердзіў **сваю** традыцыю, традыцыю неспакойнага пошуку, якая ў самых шырокіх маштабах уздзейнічае на ўсё лепшае, таленавіцейшае, прагрэсіўнае ў рэвалюцыйных літаратурах свету. Ён цяпер, як і многа год таму назад, — флагман савецкай паэзіі, важак перадавой паэзіі ўсіх краін...

У бурах стагоддзя, у сажнёвых кроках яго, у пошуме нашага сцягу і ў гуле нашых работ чуцен нерастрачана малады, сардэчна звонкі голас паэта рэвалюцыі, Леніна, партыі, камунізма:

И я,
как весну человечества,
рождённую
в трудах и в бою,
пою
моё отечество,
республику мою!

## На арбіту камунізма

*Ад ударных брыгад*
*да ударных цэхаў,*
*ад цэхаў — да ударных заводаў!*

*У. Маякоўскі. «Марш ударных брыгад».*
*Пераклад А. Бачылы.*

**Альберт САЛАЎЁЎ**

# КАМУНІСТ

**Нарыс**

Пяць год назад на Віцебскім дывановым камбінаце мянялі абсталяванне. Замест старых пруткобых станкоў ставілі бесчаўночныя аксмінстарскія паўаўтаматы. Надзвычай складанай была праца мантажнікаў: даводзілася асвойваць і манціраваць не зусім знаёмую тэхніку. Не было ні кніг, ні чарцяжоў. Збіралі станкі па фотаздымках.

Новы ўчастак пусцілі ў тэрмін, прадугледжаны заданнем. Сярод тых, хто цэлымі суткамі не пакідаў цэхі і ў складаных умовах забяспечыў выкананне задання, былі маладыя тады спецыялісты Васіль Грамузаў, Пятро Шалаеў, Іван Дзмітрук, Уладзімір Гайдукоў, Фелікс Зайкоўскі, Павел Каралёў, Пятро Клімкоў...

Цэх пачаў выпускаць аксмінстарскія дываны — яркія, шматколерныя. І каштавалі яны ў два разы танней, чым тыя, што ткаліся на пруткобых станках. Аксмінстарскі ўчастак стаў вядучым. Ён выпускае амаль палавіну ўсіх дываноў на камбінаце.

Асвоіўшы новае абсталяванне, калектыў рэзка ўзняў прадукцыйнасць працы. І як вынік — кантрольныя заданні сямігадовага плана былі выкананы яшчэ ў 1960 годзе. Тады ж калектыву віцебскіх дываноўшчыкаў першаму ў рэспубліцы было прысвоена званне прадпрыемства камуністычнай пра-



**Пятро Клімкоў за работай.**
Фота памочніка майстра **Г. Пілкоўскага.**

цы. Але калі спачатку прадукцыйнасць працы аксмінстарскіх станкоў расла метрамі, то ў апошні час гэты рост пачалі лічыць ледзь не на сантыметры. Чаму? Тэхнічныя магчымасці абсталявання амаль што вычарпаліся.

Што рабіць у такім выпадку?

— Мадэрнізаваць абсталяванне,— такі быў адказ неспакойных людзей — наватараў.

У прадзільнай вытворчасці была створана эксперыментальная група, каб вызначыць асноўныя напрамкі тэхнічнага пераўзбраення. Яе ўзначаліў начальнік аксмінстарскага ўчастка камуніст Аляксандр Рамашка. Прыкладна пятнаццаць тэхнічных праблем трэба было вырашыць, каб яшчэ вышэйшай стала прадукцыйнасць працы.

Вось хоць бы «праблема пуху ці кнопу», як гавораць ткачыхі. Кожны месяц на гарадскую звалку з аксмінстарскага ўчастка вывозілі пяць-шэсць тон пуху, які астаецца пасля абрэзкі ворсавых нітак. І гэта ўсё — воўна, лаўсан, штапель. З гэтых пяці-шасці тон пуху можна выткаць 2,5 — 3 тысячы квадратных метраў дываноў.

Калі група задумвалася над праблемамі мадэрнізацыі абсталявання, памочнікі майстра і ткачы ахвотна раілі, што і дзе трэба было б зрабіць. Але непасрэдна за мадэрнізацыю ўзяліся нямногія: Генадзь Пілкоўскі, Юры Красільнікаў, Павел Каралёў ды некалькі іншых спрактыкаваных рацыяналізатараў.

Адчувалася, што не ўсе ў калектыве зразумелі тую адказнасць, якая ўскладалася на кожнага ў сувязі з новымі, велічнымі задачамі, што паставіў перад савецкімі працаўнікамі XXII з'езд КПСС.

1962 год — гэта пошукі і спрэчкі. І хоць аксмінстарскі ўчастак, як і раней, выконваў месячныя заданні і меў высокія тэхніка-эканамічныя вынікі, у яго адрас на планёрках і нарадах ляцелі ўсё больш вострыя стрэлы.

Вось тады са сваім пачынам і выступіў дэлегат XXII з'езда КПСС Пятро Клімкоў.

## 1

У школе ФЗН ішлі экзамены. Вучні, хвалюючыся, выцягвалі білеты, расказвалі ўсё, што ведалі пра лясную справу, а выкладчыкі паводзілі сябе неяк дзіўна. Збіўшыся за сваім сталом у цесную купку, яны ціха перашэптваліся.

У калідоры штосьці загрукатала, а ў класе ўсталявалася трывожная цішыня.

— Вядро звалілася,— сказаў нехта, і ўсе з палёгкай уздыхнулі.

З захаду насоўвалася навальніца вайны... Гэта быў чэрвень 1941 года...

Адны выкладчыкі адразу ж пайшлі ў ваенкамат, другія паехалі на ўсход. Пра школу неяк забыліся. Сабраўшыся на дварэ, вучні раіліся, што рабіць. Хтосьці прапанаваў адправіцца ў тыл. Нехта гаварыў, што, пакуль на кухні ёсць крупы і бульба, трэба перачакаць.

Найбольш рашучыя, і сярод іх Пеця Клімкоў, цвёрда сказалі:

— Пойдзем на фронт!

Хлопцы — іх было семнаццаць — у той жа дзень строем накіраваліся да ваенкамата. На ганак выйшаў ваенком. Агледзеў хлапчукоў пачырванелымі ад бяссонніцы вачыма і стомлена сказаў:

— Рана вам яшчэ на фронт... Прабірайцеся на ўсход. Чуеце, і ў нас ужо грыміць...

І хоць у армію хлопцаў не ўзялі, яны дамагліся ад ваенкома паперы, дзе ўказвалася, што фэзэвнаўцы накіроўваюцца ў тылавы ваенкамат.

Па гарадку прайшлі строем. На ўскраіне зрабілі прывал. З'елі ўсё, што было ў запасе, палеглі ў густой траве і пачалі спрачацца — дзе мог быць вораг... А вораг быў побач. Хлопцы ішлі на ўсход, узрушаныя бамбёжкамі і заравамі начных пажараў. Гэты паход быў для іх першым баявым хрышчэннем.

Толькі пад Арлом, прайшоўшы амаль тысячу кіламетраў, яны трапілі ў вучэбны батальён, ды і то па шчаслівай выпадковасці: камандзір батальёна проста пашкадаваў іх, галодных, знясіленых.

Пятра Клімкова залічылі стралком. Невысокі, шчуплы, змучаны цяжкай дарогай, ён выглядаў зусім хлапчуком.

— Эх ты, стралок...— спачувальна сказаў Пятру пажылы салдат і даў яму пайку хлеба.— Папраўляйся!..

Пачаўшы позняй восенню 1941 года наступленне пад Масквой, нашы войскі акружылі ворага ў Калініне. У фашыстаў заставаўся вузкі пяцікіламетравы праход. І ў гэтым праходзе, недалёка ад Волгі, ляжала вёска Краснова, якую трэба было ўзяць, каб замкнуць кальцо акружэння.

Пяць разоў пераходзіла вёска з рук у рукі. Пяць разоў узнімаліся ў атаку байцы, і пяць разоў, не паспеўшы замацавацца, адыходзілі. На гародах, на вуліцах, на лёдзе старажытнай Волгі ляжалі забітыя ў шэрых і зялёных шынялях — нашы і чужыя.

— Вось так, Петрык...— ціха прагаварыў пажылы баец, з якім яны ляжалі, прытуліўшыся адзін да аднаго, на снезе.— Не ведаю, ці давядзецца нам застацца жывымі, але вёску гэтую мы возьмем...

У снежні 1941 года, у шпіталі, Пятру мінула васемнаццаць год. Суседзі па ложках узнялі свае «наркомаўскія» сто грамаў і пажадалі шчасця імяніпніку.

Пятро не ведаў, якое яно — гэтае шчасце. Але зразумеў, што невядомага пакуль што яму самому шчасця жадаюць усе: і суседзі па палаце, і медыцынская сястра,



**Надзя Лебедзева працуе шпулёўшчыцай на жакардавым участку. Працуе выдатна.**
Фота **А. Дзітлава.**

і нават строгі ваенны хірург. Ён сказаў яму:

— Пойдзеш туды, беражы ногі, яны табе спатрэбяцца!..

...Вясна 1943 года. Пятро ваяваў на Цэнтральным фронце. Рыхтуючыся да летняга наступлення, наша камандаванне паслала ў напрамку да Дзям'янска дзве пошукавыя групы. Перад разведчыкамі паставілі баявую задачу: любой цаной здабыць «язык».

Пятро быў сувязістам, і яго часова прызначылі ў адну з гэтых груп. Заданне было выканана: у палон захапілі дваццаць пяць нямецкіх салдат, не страціўшы ні аднаго свайго. Нават параненых не было. Абедзве групы ўдала вярнуліся з разведкі. Усіх узнагародзілі ордэнамі і медалямі. Усіх, акрамя Пятра. Відаць, з радасці, што ўсё абышлося так удала, камандзір групы забыў пра сувязіста, якога яму прыдалі часова.

Настрой у Пятра ад гэтага не сапсаваўся. Ён радаваўся разам з усімі. Байцы групы, разумеючы промах камандзіра, выказалі Пят-

ру сваё спачуванне. І гэтая людская спагада была лепшай узнагародай. Яе нельга было павесіць на гімнасцёрку, але яна даходзіла да самага сэрца.

У цяжкіх баях па ліквідацыі Прыбалтыйскага «катла» Пятра Клімкова ў другі раз параніла. І зноў у тую ж нагу. У дваццаць два гады ён стаў інвалідам, але яго не пакінулі ў бядзе. За яго самога, за яго шчасце змагаліся і прафесар палявога шпіталю Ашэнеў, і дацэнт Бяршадскі, і ўрач Тамара Канстанцінаўна з эвакашпіталю ў горадзе Кальчугіна, і яшчэ многа хто.

З невялікімі перапынкамі Пятро праляжаў у шпіталях да 1947 года. За гэты час яму зрабілі адзінаццаць аперацый. Адна цяжэйшая за другую. Урачы хацелі выратаваць нагу. І яны выратавалі яе. У гэтыя пакутлівыя, напоўненыя адчаем дні Пятро зразумеў, у чым шчасце чалавека. Яно — у жаданні і ўменні рабіць шчасце другому чалавеку.

2

У 1950 годзе Пятро Клімкоў прыйшоў на Віцебскі дывановы камбінат. Прыбіраў смецце, падвозіў у кацельную дровы, торф, адным словам, рабіў на заводскім двары ўсё, што загадаюць.

Аднойчы, праходзячы міма, сакратар партарганізацыі ткацкага цэха Барыс Шамес спыніўся і доўга глядзеў, як завіхаўся малады рабочы ў армейскай гімнасцёрцы, падмятаючы пляцоўку каля піларамы.

— Навошта ты пілавінне пакінуў пасярод двара? — запытаў ён у рабочага. — Трэба было ў канаву, і ўсё...

— У гэтым пілавінні кубаметр дроў, — сур'ёзна адказаў рабочы. — Завязу ў кацельную, карысць нейкая будзе.

— Вучыцца пойдзеш? — раптам запытаў Шамес, бо, напэўна, адразу яму спадабаўся гэты кемлівы хлопец.

— Пайду, — згадзіўся той.

Праз некалькі дзён Пятра Клімкова прынялі на курсы памочнікаў майстра ткацкага абсталявання, якія адкрыліся на камбінаце.

Для Пятра пачалася новая працоўная школа. І на курсах, і потым ужо на самастойнай рабоце многіх здзіўляла здольнасць Пятра пазнаваць таямніцы ткацкага абсталявання, уменне самастойна вырашаць складаныя тэхнічныя пытанні, заўсёды знаходзіць найбольш выгадны варыянт. Тлумачылі гэта яго прыродным талентам. І ўсё ж, як выявілася пазней, сакрэтам яго цудоўнага ўмення, яго залатых рук быў не талент. Галоўнае было ў самім характары Пятра, у яго поглядах на жыццё. Сакрэт залатых рук заўсёды тоіцца ў саміх руках.

Калі на камбінат прыбыло новае абсталяванне, Пятра Клімкова ўзялі на новы ўчастак. А туды, улічваючы складанасць станкоў, бралі самых сур'ёзных і самых вопытных.

Усе працавалі ад душы, ад шчырага сэрца. А Пятро Клімкоў і тут здолеў здзівіць таварышаў. Яго без аглядкі ставілі побач з лепшым мантажнікам Уладзімірам Гайдуковым. Разам з Уладзімірам ён часам суткамі не выходзіў з цэха, корпаючыся ў станку.

Цэх пусцілі ў тэрмін. Радасць была ўсеагульная. Самі мантажнікі часам спыняліся каля станка і доўга глядзелі на яркую бясконцую стужку дывана, якая намотвалася на валік. І ў новым светлым цэху ад фарбаў дываноў і ўсмешак ткачоў станавілася яшчэ святлей.

Як толькі стала вядома пра пачын Валянціны Гаганавай, Пятро адзін з першых на камбінаце пераняў яе прыклад. Адмовіўшыся ад высокага заработку, ён прыняў адстаючую брыгаду. І самай высокай узнагародай была для яго шчырая радасць ткачоў, якія ўбачылі надзею на сваім працоўным шляху.

Пятро не педагог. Але ў яго быў вопыт, само жыццё надзяліла ім Клімкова за час выпрабаванняў, і ён смела паклаў гэты вопыт у аснову работы з людзьмі.

— Усё залежыць ад вас саміх, — сказаў ён, сабраўшы ткачоў сваёй новай брыгады. — Калі я буду наладжваць станкі, а вы — толькі разладжваць, то ў нас нічога не атрымаецца. А вось, калі я буду памагаць вам, а кожная з вас — мне і сваёй суседцы па станку, усе разам мы даб'ёмся свайго...



Ткачыхі ахвотна згадзіліся з памочнікам майстра. Але згода гэта была фармальная. У душы кожная ткачыха амаль цалкам спадзявалася на яго, як на вопытнага спецыяліста-наладчыка. І кожная чакала ад яго цуда: бездакорнай наладкі станкоў.

Але Пятро ведаў іншае: для цуда неабходны час — месяц, два, а то і больш, — каб вывучыць новыя станкі. Магчыма, не ва ўсіх хопіць цярпення. Надзею страціць лягчэй, чым знайсці.

І Пятро рашыў пачынаць з «наладкі» калектыву. Гэта было вельмі цяжка, намнога цяжэй, чым, разабраўшы да апошняй гайкі станок, гадзінамі вывучаць яго таямніцы. Ткачыхі ў брыгадзе былі розныя, як усе людзі, — па густах, звычках і жаданнях. Скончыўшы змену, адна спяшалася да дзяцей, да мужа, другая — у тэатр ці ў клуб на танцы, адным словам — хто куды. Сабрацца, проста сабрацца пасля змены разам было амаль немагчыма.

Неяк Пятро задумаў наладзіць культпаход у кіно. У адной — дзіця, другой галава забалела, хоць толькі што яна адчувала сябе цудоўна, яшчэ дзве збеглі без усякай прычыны, і ў кіно пайшлі ўтраіх: ён і дзве ткачыхі. Настрой у Пятра быў благі. Ён упершыню задумаўся аб цяжкай, вельмі цяжкай рабоце з людзьмі, дзе спачатку амаль нічога няясна і пачынаць трэба вобмацкам, асцярожна, каб не пакрыўдзіць чалавека. Але здавацца ён не збіраўся. Наступны раз, аб'явіўшы культпаход, ён купіў білеты і ткачам, і членам іх сем'яў. Сабраліся амаль усе.

У адной ткачыхі набліжаўся дзень нараджэння, і Пятро ўпотай ад яе пачаў рыхтаваць сюрпрыз — калектыўны падарунак. Ткачыха была кранута да слёз. Паклікала ўсіх у госці.

Людзі ўбачылі шчырае імкненне Пятра зблізіцца з імі, адчувалі яго жаданне памагчы ім, таму пранікаліся да яго ўсё большым давер'ем. Да гэтага часу Пятро здолеў прывесці ў парадак два станкі. І свята ткачыхі, у якой быў дзень нараджэння, злілося з агульным святам брыгады.

Праз паўгода брыгаду Клімкова нельга было пазнаць. І па выніках сваёй працы, і асабліва па той няўлоўнай душэўнай блізкасці, якая ўгадваецца часам у непрыкметным руху вачэй, у адным слове



**Начальнік ткацкай вытворчасці Антон Саўчанка пагутарыць з ткачыхамі Марыяй Жыгуновай ды Галінай Фільчанка, і цяплей стане на душы: добра разбіраюцца людзі ў новай тэхніцы.**

перасцярогі ці заахвочвання. Гэта быў адзін з лепшых, перадавых калектываў.

У снежні ў Пятра быў дзень нараджэння. Сам ён забыўся б, каб не сябры. У абедзенны перапынак, хвалюючыся, прафгрупорг Галя Фільчанка павіншавала яго і паднесла калектыўны падарунак — блакітную шаўковую сарочку. Яна і цяпер у Пятра, як новая, — ён надзявае яе толькі на святы. Па заведзенай традыцыі ткачы сабраліся ў імяніннніка, і гэтае свята запомнілася надоўга ў брыгадзе.

А Новы год Пятро адзначыў тым, што перайшоў зноў у другую адстаючую брыгаду.

— Чым мы вам не дагадзілі, Пятро Змітравіч? — пыталі яго ткачыхі. — Толькі вы нас на ногі паставілі, а цяпер кідаеце?..

— Вы ўжо самі шмат ведаеце і самі можаце набіраць разгон, — сказаў Пятро дзяўчатам.

І, сапраўды, ткачыхі многа зразумелі за гэты параўнальна невялікі прамежак часу.

— Дзякуй, Пятро Змітравіч, — на развітанне сказала Галя Фільчанка. — Цяпер мы не здадзім!..

Паўгода напружанай працы ў адстаючай брыгадзе. Пятро пераканаўся ў сіле і магчымасцях згуртаванага калектыву. Таму ў новай брыгадзе яму было ўжо куды лягчэй. Ён вывеў яе ў перадавыя за некалькі месяцаў.

Пятру асабліва прыйшлася да душы работа з людзьмі: тая чарнавая, цяжкая, але, бадай, самая ўдзячная работа, калі чалавек з тваёй дапамогай узнімецца на новую ступень грамадскай свядомасці і, не верачы самому сабе, са здзіўленнем і радасцю аглядаецца навокал, бачыць новыя далягляды, новае поле для сваёй дзейнасці. А ты глядзіш на яго і радуешся разам з ім.

Дагэтуль Пятро лічыў, што галоўнае ў жыцці — рабіць добрасумленна хоць і важную, але сваю, рабочую справу. Не, сапраўднае шчасце — у агульнай, накіраванай да адной мэты працы.

3

...Поезд падышоў да вакзала. Трымаючы чамаданчык, дзе ляжалі падарункі для сяброў, Пятро ішоў у натоўпе пасажыраў. Ён не спяшаўся. Жонка была на працы — сустракаць няма каму. Ён ішоў і думаў аб тым, што давялося яму ўбачыць і перажыць у Маскве, у новым Крамлёўскім палацы з'ездаў.

XXII з'езд... Якая сіла ў тваіх рашэннях! Якая мудрасць! Веліч задач, што пастаўлены на з'ездзе, узрушвала ўсяго. У думках ён быў там, у Крамлі, дзе партыя намеціла новыя крокі ў будучыню. А на пероне — шум, вясёлыя галасы, мітусня. І чутна:

— Вось ён! Прыехаў! Дзяўчаты, сюды!

Не паспеў Пятро агледзецца, як яго акружылі ткачыхі. Усміхаюцца, перакідваюцца вясёлымі воклічамі, махаюць букетам жывых кветак. Кветкі ў Віцебску ў лістападзе — вось дзіва! І яму нават няёмка стала, але кветкі прыняў з задавальненнем. Потым прызнаўся, што падносілі яму жывыя кветкі ўпершыню ў жыцці. Расчыніўшы тут жа, на пероне, свой чамаданчык, ён пачаў раздаваць сябрам маскоўскія падарункі.

Пасля прыезду з Масквы ў Пятра не было вольнай хвіліны. Яго, дэлегата XXII з'езда КПСС, запрашалі на іншыя ўчасткі камбіната, на прадпрыемствы горада, у падшэфныя арганізацыі. На сустрэчах з рабочымі калектывамі спачатку размова ішла больш пра ўражанні. Потым усё часцей пачалі задаваць адно і тое ж пытанне: «Як лепш выконваць рашэнні з'езда?»

Адказаць на гэтае пытанне было не лёгка. Больш дакладна, адказаць было не так цяжка: павышайце прадукцыйнасць свайго абсталявання, эканомце ў вялікім і малым, выхоўвайце свой калектыў у духу маральных прынцыпаў камунізма. Але адказ гэты быў не зусім поўны, бо ўзнікалі другія пытанні: за кошт чаго павышаць прадукцыйнасць, якім чынам выхоўваць людзей у камуністычным духу на сваім участку, у сваім калектыве?..

І Пятро засеў чытаць рашэнні з'езда. Чытаў і думаў, думаў, думаў... «Прадукцыйнасць працы. Гэта ў канчатковым выніку самае галоўнае для перамогі новага грамадскага ладу...» Ясна. Фармулёўка ясная, але як узняць прадукцыйнасць працы, калі твае аксмінстарскія станкі выкарыстоўваюцца не на поўную магутнасць? А як, напрыклад, выхоўваць ткачыху, якая толькі што вярнулася ў цэх пасля цяжкай хваробы? Адстаяўшы сем гадзін за станком, яна, стомленая, адразу спяшаецца дадому. І паспрабуй загавары з ёй пра грамадскае даручэнне — сумленне не дазволіць. Праўда, гэта ткачыха па абавязку службы разам з астатнімі наведвае раз у тыдзень універсітэт тэхніка-эканамічных ведаў, але карысці ад гэтага не багата: у адно вуха залятае, а ў другое вылятае. На заняткі збіраецца чалавек трыста, калі не больш. Адным словам, уся першая змена камбіната. Паспрабуй перапытай кожнага па разу — месяца не хопіць.

Думаючы гэтак, Пятро ўсё пільней прыглядаўся да сваіх людзей, да сваёй справы, якую, здавалася, ведаў да драбніц. Прыглядваўся, нібы ўпершыню пазнаёміўся з людзьмі і ўпершыню ўбачыў гэтыя станкі. І не адразу, а паступова пачаў прыкмячаць такое, аб чым раней не думаў, чаго раней не заўважаў, што раней здавалася звычайным, вядомым.

Часта на станках вылятаюць шпулі. Але да гэтага прывыклі, з гэтым зміръіліся. Чаму ўсё ж яны вылятаюць? Вельмі часта на станку сцягваецца пруг дывана. Пасля змены, узброіўшыся іголкай, ткачыха гадзінамі цыруе недатканыя лапікі. Да гэтага таксама прывыклі, з гэтым зміръіліся. Часта, нават вельмі часта станок прабівае ворсавыя ніткі наскрозь дывана так, што спод становіцца размаляваны ўсімі фарбамі. Ткачыхі выпраўляюць гэты дэфект на хаду. Прысядзе каля рулона і «тыркае» пальцамі ў дыван, заганяючы выбіты ворс назад. Гэта лічылася парушэннем. За гэты ж час пакінуты без нагляду станок працягвае выпускаць няякасную прадукцыю. Прабавалі забараніць цыраванне і «тырканне», але з гэтага нічога не атрымлівалася. Забараніць лягчэй, чым наладзіць станок так, каб ён адразу выпускаў першагатунковую прадукцыю.

Ці ўзяць іншае. Кожны аксмінстарскі станок працуе пяць-шэсць дзён. Канчаецца запас ворсавых нітак на шпулях, і станок спыняюць, каб запраўіць яго пражай. Справа гэта працаёмкая, руплівая. Пража намотваецца на валікі, потым кожны валік устаўляецца ў трубчатую рамку. Атрымліваецца шпуля. Яе і ўстанаўліваюць на станку ў манерны ланцуг, які падводзіць шпулю да нажоў. Пры заправцы ворсавыя ніткі трэба папраўляць, каб яны мелі роўныя канцы. Інакш будзе перарасход сыравіны. А шпуль на манерным ланцугу — 280 штук. І кожную з іх трэба перамацаць рукамі. Сем гадзін стаіць станок на запраўцы. Сем гадзін каля яго завіхаюцца чатыры чалавекі: ткачыха, другая ткачыха, запасная, якая памагае першай, і, акрамя таго, — два вузлавязальшчыкі. Усе атрымліваюць зарплату, а па сутнасці нічога не даюць у гэты дзень.



**Валя Кудрашова нядаўна стала ткачыхай, але якія цудоўныя дываны выходзяць штодзень з-пад яе ўмелых рук.**



**Увішныя рукі ў Валі Княжышча.**

Вядома, без падрыхтоўчай работы не абыдзешся. Але ўсё-такі сем гадзін — ці не многа? Няўжо нельга нічога змяніць? Запраўленыя ворсавыя валікі падвозяць у цэх на цялежках, потым іх уручную складваюць па парадкавых нумарах, потым штабель валікаў пачынаюць разбіраць вузлавязальшчыкі, рыхтуючы іх на станок. І ўсё гэта робіцца ў вузкім праходзе, «на пятачку». Таму і расцягваецца запраўка станка на шэсцьсем гадзін. Што ж зрабіць, каб скараціць запраўку?

Пятро глядзеў на свой участак новымі вачамі. І новае, нібыта ўпершыню адкрытае ім, давала прастору для роздуму і абагульненняў. Аксмінстарскае ткацтва — найбольш прадукцыйнае ў машынным вырабе дываноў, найбольш таннае для вытворчасці і найбольш выгаднае для пакупнікоў. Ворсавая пража — жывое цела дывана — выкарыстоўваецца ў ім найбольш поўна. Калі на жакардавых станках дзве трэці ворсавай ніткі хаваецца ў аснове дывана і толькі адна трэцяя частка застаецца на паверхні, дык у аксмінстарскім дыване ў фон, у яго найбольш каштоўную частку, выходзіць амаль уся ворсавая нітка, а ў аснове застаецца прыкладна трэць пятлі-дужкі. Аксмінстарскія дываны прыгажэйшыя. Яны могуць мець ад 15 да 30 колераў на адным фоне. Жакардавыя дываны — куды менш.

Але калі любая разладка на жакардавых і тым больш на пруткавых станках ясная па сваёй прыродзе з першага позірку і патрабуе на выпраўленне не больш дваццаці мінут, то на аксмінстарскім станку нават невялікая непаладка патрабуе гадзіны, а то і цэлай змены напружаных пошукаў. І добра яшчэ, калі яны канчаюцца поспехам. Ткачыха на жакардавым станку толькі бегла праглядае рулон, аксмінстараўцы ж, як правіла, гадзінамі падпраўляюць сваю прадукцыю.

Просты прыклад. На ўчастку, бадай, няма станка, на якім не выбівала б споду. І ні адзін з дваццаці двух памочнікаў майстра ўчастка не скажа з упэўненасцю, якая прычына гэтай заганы.

— Грэбень не адрэгуляваны, — скажа адзін.

— Не, падача ворсу дрэнная, — падумаўшы, выкажа сваю думку другі.

Трэці яшчэ што-небудзь прыдумае, растлумачваючы гэтую няспраўнасць станка. Ясных жа прынцыпаў, як выправіць няспраўнасць, у памочніка майстра няма. Няма іх і ў інжынераў камбіната. Няма іх і на іншых прадпрыемствах краіны, дзе ўстаноўлена аксмінстарскае абсталяванне.

Цяжкасці наладкі тлумачацца складанасцю станкоў. Канструкцыя іх крыху незвычайная. У кожным станку прыкладна паўсотні перадач. І толькі адна перадача — галоўнага вала — шасцяроначная, а ўсе астатнія сорак дзевяць — эксцэнтрыкавыя, са шматлікімі «каленамі», падушкамі-спружынамі. «Сядзе» спружына на колькі мікронаў, няўлоўных для вачэй, і станок разладжваецца, пачынае кульгаць, а на дыване — ніткі пятляюць, выбіваюцца... Паспрабуй адгадай, на якое эксцэнтрыкавае «калена» закульгаў твой станок.

Вывады, да якіх прыйшоў Пятро, былі несуцяшальныя: на ўчастку навучыліся выпускаць метры дываноў, але абсталяванне асвоілі толькі прыблізна, «на вока», усё роўна, як малады шафёр сваю машыну. Ён, скажам, можа давесці аўтамабіль з грузам хутчэй, чым вопытны вадзіцель, але што будзе з машынай? Гэтыя ж даволі сумныя вывады памаглі яму знайсці асноўны кірунак пошукаў. Сцягвае пруг дывана — значыць трэба стварыць блакіровачнае прыстасаванне, якое спыняла б станок; рвуцца ніткі карэннай асновы — значыць трэба стварыць прыбор, які б папярэджваў аб гэтым; скідваюцца шпулі з ланцуга — значыць іх трэба замацаваць нейкім прыстасаваннем...

Гэта былі першыя крокі наватара на шляху да творчага плана. Яму яшчэ многае давялося перадумаць, узважыць і галоўным чынам сэрцам адчуць свае памылкі і памылкі таварышаў, пакуль яго думкі атрымалі дакладны кірунак.

## 4

Вясной у прахадной камбіната паявілася аб'ява: «Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР П. З. Клімкоў прымае наведвальнікаў па аўторках у памяшканні фабкома». З гэтай аб'явы адкрылася новая старонка ў біяграфіі простага рабочага чалавека.

Гэта, вядома, не азначае, што да выбрання дэпутатам Пятро стаяў у баку ад грамадскага жыцця камбіната. Ён быў членам парткома, уваходзіў у састаў пленума райкома партыі, з'яўляўся дэпутатам гарсавета. Але цяпер іншыя сталі маштабы. Ранейшай у Пятра засталася толькі ўвага — пільная ўвага да чалавека, да яго патрэб, да яго гора і радасцей.

Аднойчы яму прыйшло незвычайнае пісьмо. Нейкі дзядуля-пенсіянер, пачуўшы прозвішча Клімкова па радыё, пытаў, ці не той гэта Клімкоў, з якім ён у трыццатыя гады працаваў на будаўніцтве чыгункі і з якім быў у вялікай дружбе. Яшчэ дзядуля пісаў, што сувязь з сябрам страціў у часе вайны, а цяпер яму вельмі хацелася б аднавіць знаёмства. Дзядуля, вядома, памыляўся. У тыя гады Пятро хадзіў пешкі пад стол. Але пісьмо вельмі зацікавіла Клімкова, і ён вырашыў напісаць старому. Але адрас дзеда быў напісаны вельмі неразборліва. Можна было сяк-так прачытаць толькі назву станцыі, дзе жыў цяпер стары: не то Уса, не то Уза. Расклаўшы на стале карту рэспублікі, Пятро сантыметр за сантыметрам вывучаў на ёй назвы чыгуначных станцый. Потым пачаў наводзіць даведкі і, нарэшце, дабіўся свайго — паслаў адказ.



**Пятро Клімкоў навучыў ткачых самім наладжваць станкі. Адна з іх — Ліля Бандарэнка.**

Чытаючы скаргі, вывучаючы прапановы і заўвагі выбаршчыкаў, Пятро яшчэ больш вывучае людзей, не шкадуючы на гэта ні сіл, ні часу. І ў большасці выпадкаў выбаршчыкі, якія да яго звяртаюцца, задаволены сваім дэпутатам. Калі тая ці іншая просьба негрунтоўная, ён прама скажа: «Не турбуйцеся дарэмна». Але калі чалавек трапіў у бяду выпадкова, тады дэпутат Клімкоў выкарыстае ўсю сілу сваіх паўнамоцтваў.

Больш за ўсё звяртаюцца да Клімкова па кватэрных пытаннях. Нямногія ведаюць, што сам дэпутат займае пакой у дваццаць метраў, а сям'я — чатыры чалавекі. І цяжка бывае падзяліць стол паміж ім і дочкамі-школьніцамі.

Сябры не раз раілі яму:

— Падай у фабком. Табе дадуць кватэру ў першую чаргу.

— Не магу, — адказвае ён. — У другіх жа яшчэ горш, чым у мяне...

Таму ён вельмі ўважліва і сур'ёзна ставіцца да гэтых просьб. У дывановым цэху на пруткowых станках працуе маладая ткачыха Галя Дзяменцева. Жыццё яе склалася цяжка. Няма бацькоў. Выхоўвалася ў дзіцячым доме. Выйшла замуж, ды няўдала. Галя часта прыходзіла на работу заплаканая, а часам з сінякамі... Галіны сяброўкі звярнуліся да Пятра: трэба рассяліць старых і маладых. З дапамогай дэпутата месяцы праз два Галінай сям'і быў выдзелены асобны пакой. Галю цяпер не пазнаць. Яна вясёлая, радасная. І стала значна лепш працаваць.

Пятра, як і раней, наперабой запрашалі на іншыя прадпрыемствы горада, пасылалі дзяліцца вопытам у іншыя гарады. Масква, Гомель, Рыга, Магілёў, зноў Масква — паездкі былі адна за адной. А брыгада заставалася без гаспадара, арганізацыйныя і тэхнічныя праблемы — без свайго творцы.

Вярнуўшыся з чарговай паездкі, Пятро, бывала, спяшаўся на камбінат, не заходзячы нават дамоў — ці то дзень, ці ноч. Як там? Ці ўсё ў парадку? За адну змену, калі не дагледзіш, можа здарыцца такое, што потым за месяц не разбярэшся. А тут — пяць дзён у адлучцы... Вядома, на яго камплект далі запаснога памочніка майстра, і ён стараецца. Але ж станкі аксмінстарскія, і над імі сам гаспадар галаву часта ломіць...

І здаралася ўсякае. Часам, убачыўшы яго, ткачыхі ветліва махалі рукамі. У Пятра адыходзіла сэрца: значыць, усё ў парадку. Галя Фільчанка, якую перавялі ў камплект Пятра, усе цэхавыя навіны перакажа. Сама яго таксама распытае, дзе быў, што бачыў, што рабіў, а потым пабяжыць паміж станкамі, каб расказаць сяброўкам. Станок застаецца без нагляду — гэта парушэнне. Але Пятро даўно пераканаўся: Галя можа аж у канец цэха дабегчы, але ў патрэбную хвіліну будзе зноў на месцы. І ніколі ў яе нічога не здаралася. Проста інтуіцыя нейкая ткацкая, талент!

Тамара Шэметава, Галіна суседка, сустракаючы Пятра, пытае:

— Ну, як там у цябе? — і потым толькі слухае.

Тамара, як і Пятро, заўсёды спакойная, нават крыху павольная, але ткачыха з залатымі рукамі. У яе нават лепш, чым у Галі, выходзіць: выпрацоўка пастаянная, як і яе характар. Што ні змена — 31 — 32 метры. Менш не дае.

Валя Княжышча наогул нічога не запытае. Толькі ўсміхнецца, саромеючыся. Валя саромецца: яна выйшла замуж, хутка пойдзе ў дэкрэтны адпачынак. А вось Лёля Самсонава, маладая, але ўжо мнагадзетная жанчына, гляне на Пятра з нейкай таямнічай тужлівасцю ў вачах. Яна заўсёды такая баязлівая. Калі яе станок няспраўны, яна перажывае да болю, хоць не вінавата. Каб супакоіць Лёлю, Пятро падрабязна тлумачыць, чаму здарылася няспраўнасць:

— Бачыш, падтрымку нажа рэгулюю. Болт падкруціў на два дзяленні. Цяпер нож будзе рэзаць нармальна. Ты прыглядайся, як я гэта раблю. Можа, калі-небудзь затрымаюся, сама будзеш рэгуляваць...

— Запасны памочнік слабы, — ціха скажа Лёля. — Без цябе дрэнна ў брыгадзе. Я ўвесь час баюся...

— А ты не бойся, — супакойвае яе Пятро, а сам у гэту мінуту асабліва ясна разумее, што яго, гаспадара камплекту, ніхто не можа поўнасцю замяніць. І што адказваць за ўсё будзе не запасны, а ён, Пятро Клімкоў. Ды і патрабаваць з яго трэба больш — як з камуніста і дэпутата.

У час перапынку брыгада збіралася вакол Пятра, і ён «афіцыяльна» дакладваў аб сваёй паездцы ці сустрэчы. Але даклады гэтыя былі вельмі сціслыя, таму што Пятро спяшаўся хутчэй пагаварыць пра становішча ў камплекце.

— Я з запасным паспрачалася, — расказвае Галіна Фільчанка. — Ледзь да кулакоў не дайшло: я яму кажу, што нажы трэба тачыць. Не рэжуць, а скубуць. Ён мне: «Не твая справа». Падціснуў балты і пускае станок. Што вы думаеце? Нажы аж прасяцца, калі адзін аб адзін труцца. Я ціхенька нажы назад адкруціла. Прыбег запасны, спыніўся і лыпае вачыма. Я яму гавару: «Бачыш, усё ж тачыць нажы трэба». Пасварыўся, накрычаў і пайшоў тачыць.

— А я запаснога не клікала, — гаворыць Тамара. — Лопнула спружына ў чаўнаку, я яе сама памяняла!..

Слухаў Пятро, і трывога на сэрцы знікала. Малайчыны, дзяўчаты! Не дарэмна ён вучыў іх, тлумачыў, як выпраўляць дробныя дэфекты самім.

Калі Пятра не было, брыгада сама спраўлялася. Не так, праўда, бліскуча, як з ім. Гэта была заслуга саміх ткачоў. Не запасны памочнік майстра, а яны цягнулі камплект, калі гаспадар адсутнічаў...

Іншы раз сустрэчы былі менш радасныя.

— Шпулі ляцяць, — сумна гаварыла Тамара, сустракаючы Пятра. — Я сяджу і думаю, чаму шпулі ляцяць? Паўзмены прастаяла...

І ў той жа дзень крычала на ўвесь цэх:

— Дзе гэта наш брыгадзір раз'язджае?! Ён на пасадзе ў нас на камплекце ці толькі ў штаце? Увесь тыдзень мучуся: цягне пруг, нібы за яго чорт учапіўся!..

Не адрываючы вачэй ад пруга, Пятро то ўключаў, то выключаў станок. У душы ўсё бушавала. Хацелася плюнуць і пайсці — так не ладзілася. У гэту хвіліну да яго падбегла Лёля Самсонава:

— Пеця, у мяне спружына ў чаўнаку лопнула.

— Памяняй сама, — падумаўшы сказаў Пятро. — Мне няма калі.

— Баюся...

— Рабі, як вучыў.

Лёля адышла, спалоханая яшчэ больш, а Пятро не-не ды гляне на яе. Ткачыха стаяла на сваім месціку і глядзела на чаўночнае гняздо, глядзела з такім адчаем і надзеяй, як Пятро на гэты пруг.

— Дзесяць мінут стаіць, — гляну́ўшы на Лёлю, сказала Галя. — Я за ёй па гадзінніку назіраю. Ведаеш, Пеця, пайду я памагу ёй...

— Не трэба, — папрасіў Пятро. — Няхай сама...

Лёлін станок прастаяў яшчэ пяць мінут. Лёля страціла ўжо амаль метр дывана. Хвалюючыся, Пятро чакаў, што ж будзе рабіць ткачыха. «Яшчэ пяць мінут. Тры. Дзве...» І ў гэтае імгненне, схапіўшы гаечны ключ, Лёля ўзялася за накрыўку чаўнака...

Пятро з палёгкай уздыхнуў.

На пераменцы быў цэхавы сход. Абмяркоўваліся вынікі спаборніцтва. Калі загаварылі пра камплект Пятра Шалаева, узняўся шум. Памочнікі майстра абвінавачвалі рамонтнікаў, а тыя ў сваю чаргу валілі бяду на першых. Камплект Пятра Шалаева цяпер быў адстаючы.

— Дайце мне другія станкі! — крычаў Шалаеў. — У мяне 22-і і 28-ы станкі — магіла! Ні адной змены нармальнай. То ляцяць штонебудзь, то ламаецца!..



А гэта *Лёля Самсонава* — ткачыха з аксмінстарскага ўчастка.

Пятро Клімкоў быў і «за» і «супраць». Вядома, Шалаеў падзапусціў сваё абсталяванне, але цяпер стараецца. Нават схуднеў, сарочка на ім мяшком вісіць. А чаму капрызнічаюць 22-і і 28-ы — невядома. Нядаўна ж з капітальнага рамонту выйшлі. Такое можа ў кожнай брыгадзе быць. І хоць зменныя майстры пазіралі на Пятра, прасячы яго вачамі выступіць, супакоіць спрэчкі, але ён прамаўчаў.

Адчуваючы страшэнную стомленасць, Пятро вяртаўся дамоў. У чалавека ёсць свае граніцы. Адно радавала Пятра: Лёля ўсё ж перамагла свой страх. Хутка можна будзе паказаць ёй што-небудзь больш складанае. Няхай прывыкае. Здольнасцей у яе не менш, чым у Галіны ці Тамары.

...Дома, паклаўшы перад сабой чысты аркуш паперы, Пятро сеў за стол. Адпачываў і думаў. Гарачае вуголле з печы за цябе ніхто цягаць не будзе. Трэба брацца самому. Трэба перш за ўсё стварыць сістэму блакіроўкі пры сцягванні пруга дывана. Шпулі, праўда, таксама ляцяць, але і ў іншых памочнікаў майстра са шпулямі не ладзіцца: ляцяць не менш, чым у яго. А вось з пругам горш.

Схіліўшыся над аркушам, ён пачаў пісаць:

«Асабістае заданне памочніка майстра П. Клімкова па тэхнічнаму прагрэсу на сваім рабочым месцы: 1. Стварыць блакіровачнае прыстасаванне, каб спыняць станок пры сцягванні пруга. 2. Удасканаліць механізм заціску трубчатай рамкі шпулі і механізм ніжняй грабёнкі».

Гэта быў яшчэ адзін крок да творчага плана. Прыкінуўшы ў галаве сваю грамадскую загрузку (пленум абкома, рэспубліканская нарада тэкстыльшчыкаў, на якой ён быў адным з асноўных дакладчыкаў, і паездка ў Нарвегію) Пятро дапісаў: «Час выканання — IV квартал 1962 года — I квартал 1963 года».

Некалькі тыдняў прайшло спакойна. Пятро нікуды надоўга не адлучаўся. Нават свае дэпутацкія прыёмы скараціў, раней у яго былі чатыры прыёмныя дні ў месяц, цяпер — два. Вядома, калі ў чалавека была тэрміновая справа, ён прымаў яго ў любы час.

Усе сэканомленыя мінуты і гадзіны Пятро аддаваў сваім тэхнічным «арэшкам». Сёе-тое ўдавалася, сёе-тое адпадала пры першых выпрабаваннях. Пятро не траціў надзеі. Калі пачаў, значыць, зробіць. Заадно ён вучыў Галіну тэхніцы пераключэння станка на ланцуг — становішча, пры якім працуе толькі частка механізмаў. Звычайна гэты манеўр настае, калі канчаецца запас пражы на шпулях. Пераключэнне — работа аўтаматычная, але часу бярэ нямала. Ткачыха поўнасцю можа справіцца сама, даючы памочніку майстра эканоміць 10 — 15 мінут.

Галіна даволі хутка засвоіла ўсе пяць асноўных прыёмаў пераключэння. «Навучу Галю, потым з Тамарай займуся», — думаў Пятро.

У канцы верасня ён сабраўся ў Нарвегію.

— Зноў едзеш? — строга гаварыла Галіна. — Глядзі, сядзем мы ўсім камплектам у галошу, табе ж за нас сорамна будзе...

— Хачу Нарвегію паглядзець, — прызнаўся Пятро. — Ніколі за граніцай не быў.

— Глядзі там на ўсе вочы, — гаварыла на дарогу яму Галіна. — Потым нам раскажаш. Нам жа таксама цікава...

На развітанне Пятро зрабіў сваім ткачыхам экзамен: вырашыў праверыць, як яны засвоілі асобныя элементы наладкі станкоў. Пры гэтым думаў: «Паеду надоўга, яшчэ наблытаюць што-небудзь без мяне». Гэта быў своеасаблівы тэхмінімум. І ткачыхі паспяхова вытрымалі яго. Нават Лёля Самсонава.

А Галіна зусім малайчына. Запас пражы на яе станку канчаўся, і Пятро знарок пайшоў у слясарку, даўшы магчымасць ткачыхе пераключыць станок на ланцуг самастойна. Хваляваўся Пятро, як і тады, з Лёляй Самсонавай. Усё-такі рызыка! Але пачынаць калі-небудзь трэба. Пётр не бачыў, што рабіла Галіна, але яму потым расказвалі, што на яе глядзелі ўсе суседкі-ткачыхі. Пераключыўшы станок, Галіна ўрачыста аглянулася і ўсклікнула:

— Я сама!

Пятру яна сказала, калі ён падышоў да яе:

— На станку стопарная гайка не змазана.

Пятро ўсміхнуўся. Стопарная гайка, якой матор станка пераводзяць на малы фрыкцыён, павінна сядзець на сваім месцы цвёрда. Уголас ён сказаў:

— Не падумай змазваць гайку, інакш станок сам на малы фрыкцыён зможа пераключыцца... Ясна?

— Вось яно што... — прагаварыла Галіна.

...Нарвегія спадабалася Пятру. Блакітныя фіёрды, акіян, ахутаны бэзавай смугой, старажытныя горы з ледзянымі шапкамі на вяршынях і зялёнымі паясамі ля падножжа захаплялі сваёй прыгажосцю. Але больш за ўсё спадабаліся нарвежцы. Моцныя, заўсёды спакойныя, нават, здаецца, непаваротлівыя, і на дзіва дабрадушныя. Пачуюць нашу гаворку, запытаюць са здзіўленнем:

— Рускія? — і ўсміхаюцца так, што ўся душа перад табой насцеж. А ў вачах, такіх сініх і глыбокіх, як і іх фіёрды, такая цеплыня, што адразу сэрца саграецца.

Вось толькі парадкі тутэйшыя непрывычныя. Што хлеба мала ўжываюць, гэта, вядома, справа густу і прывычкі. У Нарвегіі ж гор куды больш, чым палёў. Таму хочаш, не хочаш, будзеш займацца тым, што лягчэй і танней даецца. Акіян пад бокам — вось і рыба на стале: раніцай, у абед, вечарам. Смажаная, параная і, як кажуць, проста так кавалкамі, пад рознымі соусамі...

Вечар, яшчэ светла, яшчэ сонца за гару не зайшло. Ціха ў нарвежскіх гарадах вечарам. На вуліцах ні душы. Кожны ў сваім доміку сядзіць. Ідзеш па вуліцы, і крокі трае, як у пустым калодзежы, грукаюць. Нібы вымер горад. Ды і ісці няма куды. Захочаш у парк — плаці. Сеў на лужок збоч дарогі — плаці. Кроку не ступіш, каб на гаспадара не натыкнуцца. Усюды яна — прыватная ўласнасць. Яна ж, старая ведзьма, і паразганяла людзей па ўсіх кутках свету.

А на фабрыках парадкі зусім дзіўныя. Сабрацца, проста сабрацца на сход, каб абмеркаваць свае рабочыя справы, проста няма дзе. Клубаў ні на адной фабрыцы няма. Хочаце, напрыклад, правесці прафсаюзную канферэнцыю, наймайце ў гаспадара прыватную залу. Няма грошай — лезь хоць на гару і адкрывай там спрэчкі. Ды і то рэгламенту прытрымлівайся, таму што і тут гаспадар знойдзецца, папрэ цябе ў шыю са сваёй гары. І не запярэчыш. Закон у іх такі. А ў нас жа — тэхкабінет стары, тэхкабінет новы, клуб свой — і таго ўжо мала. Палац культуры тэкстыльшчыкаў наважыліся будаваць.

На адной фабрыцы нашай дэлегацыі ўдалося пагутарыць з яе гаспадаром.



**Маладая ткачыха Ніна Баброва.**

— Як вы плануеце вытворчасць? — запыталі яго.

— Выгадна — новы цэх пастаўлю. Не выгадна — фабрыку зачыню. Магу прадаць. У нас свабода: што захачу, тое і зраблю — фабрыка мая.

— А рабочыя? — запыталі яго. — Куды яны дзенуцца?

— Яны павінны думаць аб сабе самі.

Потым былі гутаркі з рабочымі. Яны асабліва не скардзіліся, але ва ўсіх адна трывога: сённяшні дзень пражыў, што будзе заўтра, — невядома. Цэны растуць. Аб'явяць рабочыя забастоўку, патрабуючы павелічэння зарплаты, сёе-тое

даб'юцца. На другі дзень гандляры ў сваіх магазінах узнімуць цэны — бясконцае змаганне за жыццё працягваецца. І рабочыя зноў збіраюць сілы для забастоўкі.

Добры народ нарвежцы, прыгожая краіна Нарвегія. Але дома лепш. Дома цудоўна. І калі пад крылом самалёта раскінуліся бясконцыя палі і паказаліся гмахі фабрык і заводаў, у Пятра з плячэй нібыта ношка зваліласа.

Зноў камбінат. Зноў ён сярод сяброў, сярод сваіх ткачых. Адказвае на іх пытанні.

І на паперу кладуцца вынашаныя ў сэрцы словы творчага плана ўдзельніка камуністычнага будаўніцтва:

...навучыць усіх ткачоў камплекта да ўзроўню памочніка майстра — да канца 1963 года;

жыць і працаваць па прынцыпах маральнага кодэксу будаўнікоў камунізма.

Так нарадзіўся творчы план Пятра Клімкова. А праз некалькі дзён ён стаў творчым планам усяго камплекту. Гэта было ў абедзенны перапынак. Сабраўшы ўсіх ткачоў, Пятро расказаў ім пра свае мерапрыемствы. Ён не гаварыў: «Мой план, я склаў». Ён адразу ж сказаў:

— Гэта наш план. Як вы думаеце, што трэба ўдакладніць, што дадаць?..

Тамара Шэметава прапанавала ўзяць шэфства над адным з класаў падшэфнай школы. Галіна Фільчанка сказала, што трэба ўзняць неяк ролю прафсаюзных і камсамольскіх актывістаў у камуністычным выхаванні. З гэтым таксама згадзіліся. Былі іншыя дадаткі: камплект падмеўся памагаць рамонтнікам, каб скараціць тэрмін на рамонт станкоў. Пазней, параіўшыся з самімі рамонтнікамі, у план унеслі дакладную лічбу: знізіць прастоі ў перыяд сярэдняга рамонту на сем гадзін. Але, бадай, самай галоўнай у дадатках была прапанова — узяць шэфства над адным з адстаючых камплектаў свайго ўчастка.

## 5

У сакавіку Клімкоў захварэў. У яго адкрылася старая рана на назе, і яго паклалі ў бальніцу — у тую самую бальніцу, дзе ён ляжаў пасля вайны. Падклаўшы пад спіну падушку, Пятро глядзеў на гурбу снегу за акном, сіневатую, як цукар-рафінад, слухаў першыя кволыя званочкі капяжу і думаў. Усе гэтыя гады дзесьці ў глыбіні душы была надзея, што раны загаіліся назаўсёды, пакінуўшы толькі адмеціны. І вось — на табе! Ён зваліўся з ног у самы напружаны момант, калі кожны дзень, кожная мінута — на ўліку. Няўжо яму не расстацца з гэтай бальніцай да канца дзён сваіх!

Запытаць пра гэта ўрачоў ён не адважваўся — баяўся пачуць прысуд. Каб не думаць, успамінаў свае клопаты. Перш за ўсё — вентылятар. Гэты вентылятар стаў для яго задачай нумар адзін. Ды і не толькі для яго — для ўсяго цэха. А пачалося ўсё яшчэ ў Нарвегіі. На адной фабрыцы Пятро заўважыў, што паветра ў памяшканнях чыстае, свежае, а ўстановак для вентыляцыі нідзе не відно. Ён пацікавіўся, як нарвежцы забяспечваюць нармальную чысціню паветра. Нарвежцы паказалі яму вентылятар, прыкладна такі, якія ў нас ёсць у кожным кінатэатры. Толькі ў кінатэатры на кожнай сцяне па некалькі вентылятараў, а тут на ўвесь цэх два. Незвычайнае было толькі тое, што пашча вентылятара канчалася патрубкам з нейкага матэрыялу. Пятро прыгадаў усю грувасткую вентыляцыйную сістэму ў сваім цэху — сотні метраў бляшаных труб, выцяжныя камеры-скрыні, магутныя маторы. А тут на ўвесь цэх дзве «мышалоўкі»!..

Вярнуўшыся дамоў, Пятро расказаў аб нарвежскіх вентылятарах. Усе зацікавіліся. Канструктары памаглі Пятру зрабіць чарцяжы новай сістэмы вентыляцыі, знайшлі матэрыял для патрубкаў. І вось, калі справа дайшла да першай пробы, Пятро захварэў...

У красавіку пад акном зазвінелі ручаі. Ноччу на рацэ рыпелі крыгі пад націскам вады. Зашугала вясна, і ў палаце позна не спалі. Гаварылі пра ўсё, а больш за ўсё пра вясну. Пажылы калгаснік непакоіўся, што сёлета, відаць, яму не паспець ужо да сяўбы. Хтосьці маладзейшы ўздыхнуў:

— Эх, каб цяпер васемнаццаць год!..

Неяк да Пятра прыйшоў сябар — старшыня цэхкома Алег Карпіцкі.

— Ты тут адпачываеш, а мы за цябе парымся, — гаварыў Алег. — Залікі пачаліся. Чуеш, залікі! Хутка на камбінаце філіял акадэміі адкрыем. Прэзідэнт — Клімкоў Пятро Змітравіч, наша яму павага!..

— Якія залікі? — запытаў Пятро.

— Твае, Клімкоўскія. Усе памочнікі майстра, якія ўзялі твой творчы план, і ўсе ткачы, якіх яны навучаюць, здаюць залікі. Так вырашылі на фабкоме. Да мяне адна ткачыха прыбегла, пытае, што ёй рабіць. Яна думала, што ўсё гэта жарты, таму не старалася запамінаць. Я ёй кажу: цяпер ты сама падумай, што табе рабіць.

— Слухай, Алег, — загаварыў Пятро, — а мне трэба здаваць гэтыя самыя... залікі?

— З цябе пачнем, — бадзёра запэўніў Карпіцкі. — Ты ж у нас завадатар. І табе — першае слова.

У сярэдзіне красавіка Пятро папрасіў, каб яго выпісалі з бальніцы. Урач запратэставаў:

— Вам яшчэ ляжаць трэба.

— У мяне залікі, — адказаў Пятро.

— Вы завочнік? Тады справа сур'ёзная. Так і быць, выпішу, але пасля ляжаце зноў...

— Паглядзім, — сказаў Пятро.

У цэху адбыліся сякія-такія змены. Ткачы збіраліся на заняткі, майстар Маша Трашчоткіна тлумачыла ім тэарэтычную частку станка па праграме, разлічанай на памочніка майстра. Многія рабілі сабе запісы. Пажылыя, маладыя, зусім юнакі — сядзяць, шавеляць вуснамі, ціха паўтараючы пачутае, і запісваюць. Нагледзеўшыся і наслухаўшыся, Пятро і сам прыналёг на вучобу.

**Майстар Тацяна Камісарава правярае, ці ведаюць ткачыхі складанае абсталяванне свайго ўчастка.**





**А пасля работы ў ткачых яшчэ клопат: каб хораша выглядаў двор камбіната, трэба дагледзець кветкі.**

Праз некалькі дзён нечакана яго папрасілі зайсці ў партбюро.

— Вам трэба ехаць у Маскву.

Пятро адразу прыкінуў у галаве: залікі, вентылятар,— без яго справа так і не пайшла,— і, страціўшы звычайную стрыманасць, замахаў рукамі:

— Няма калі. Не магу. Не паеду!..

— Вам трэба ехаць,— мякка сказалі яму,— іменна вам. У Маскве адбудзецца Усесаюзная нарада ўдарнікаў камуністычнай працы.

...І вось ён зноў у Маскве. Знаёмы, але яшчэ больш велічны Крамлёўскі палац з'ездаў, незнаёмыя, але такія блізкія, родныя людзі, адным агульным дыханнем, адным агульным парывам накіраваныя ў будучыню.

У Маскве Пятро зноў захварэў. Хоць кладзіся ў бальніцу. Ён трымаўся, як толькі мог. Яму трэба ўсё пачуць і запомніць, бо ў яго такія дапытлівыя сябры. Ледзь прыехаў дамоў, як пытанні пасыпаліся з усіх бакоў:

— Што цяпер для нас самае галоўнае?

— Праца. Наша праца. Стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы.

— Хто ўручаў вам медаль «За працоўную доблесць»?

— Беларускай дэлегацыі медалі ўручаў Георгадзе.

— А многа каго ўзнагародзілі?

— Як я ведаю, узнагародзілі ўсіх удзельнікаў нарады, якія заняты непасрэдна на вытворчасці.

— Якая думка, выказаная ў дакладзе ці ў спрэчках, па-вашаму, самая галоўная?

— Ударнікі камуністычнай працы былі разведчыкамі будучыні. Цяпер — яны маладыя гвардзейцы будучыні.

А на прэс-канферэнцыі, якую арганізавала рэдакцыя абласной газеты «Віцебскі рабочы», Пятру давялося адказаць на самае цяжкае пытанне:

— Якое развіццё ў апошні час атрымаў ваш пачын?

Пятро загаварыў. Яго расказ, здавалася спачатку, быў вельмі далёкі ад тэмы.

— Нядаўна ў нас на камбінаце здарыўся такі выпадак,— гаварыў Пятро,— адна жанчына разам са сваёй маці пабілі мужа качаргой. Пасля выклікалі міліцыю, і пабітага мужа пасадзілі на шэсць сутак за дробнае хуліганства...

Усе прысутныя на канферэнцыі рассмяяліся. Пятро, не ўсміхнуўшыся, сур'ёзна гаварыў далей:

— А чаму так здарылася? За мужам старыя грахі лічацца: раней любіў без меры выпіць, любіў пашумець. І ў той дзень быў пад градусамі, але трымаў сябе дома ціха. Да мяне суседзі прыходзілі, прасілі абараніць чалавека, бо яны ўсё бачылі і чулі. Карацей кажучы, ён не вінаваты на гэты раз. А міліцыя дзейнічала па інерцыі, па прынцыпу: раней грашыў, значыць, і цяпер вінаваты. З міліцыі, як звычайна, на камбінат прыслалі паведамленне, што ваш рабочы надэбашырыў і атрымаў шэсць сутак. Што робяць на камбінаце? Пішуць загад аб звальненні. Я, вядома, не апраўдваю яго ранейшыя і цяперашнія грахі, але так выкідваць чалавека з жыцця нельга. Куды яму дзявацца? У другі горад? На другое прадпрыемства? Там яго не ведаюць, і ён зусім апусціцца. А калі за яго ўзяцца сур'ёзна, з яго можна сапраўднага чалавека зрабіць.

Калі Пятро скончыў, у зале некаторы час было ціха. Гісторыя павучальная, сур'ёзная. Але якія адносіны яна мае да яго пачыну? Гэтае пытанне было ў вачах журналістаў, якія сустрэліся з Клімковым. Нават тыя, хто добра ведаў Клімкова, на імгненне нібы разгубіліся. Але потым усё стала на месца. Гэта ж і ёсць яго, Клімкоўскае, самае галоўнае ў яго характары і ў яго пачыне — глыбокая, сапраўдная ўвага да чалавека.

Прэс-канферэнцыя закончылася. Пятро заспяшаўся.

— Пятро Змітравіч, пачакайце хвілінку. Трэба сфатаграфавацца...

— Што? — перапытаў ён, ачнуўшыся ад нейкіх сваіх думак.

— Толькі хутчэй. Мне няма часу. Я — на змену.




# АТЭСТАТ СТАЛАСЦІ

**Нарыс**

Дзіўная рэч, як толькі пад вокнамі ў гародчыках сіняватым полымем успыхне бэз, Аня ўспамінае школу, сяброўак-аднакласніц, хваляванні на першых экзаменах... Гэта было даўно, пасля таго ўжо шосты раз вясна раскашуецца пялёсткавымі завірухамі. Колькі размоў, колькі спрэчак тады было! Узбуджаныя і стомленыя, выпускнікі пасля кожнага экзамена збіраліся ў зацішку на школьным двары і спрачаліся без канца. Усіх хвалявала адно: «Што рабіць заўтра, калі на руках будзе жаданы атэстат?»

«Ехаць, прыстроіцца абы-куды, толькі не заставацца дома»,— гэтыя матчыны словы заўсёды стаялі ў Аніных вушах. «Мы ўжо будзем тут з Кацяй, яна меней вучылася, а ты, дачушка, едзь, не будзеш тут у гразі пеклавацца».

Маці гэтак гаварыла, а ў самой у вачах стаялі слёзы шкадавання: нялёгка ёй. Лічы, застаецца амаль адна. Сын, адслужыўшы вайсковую службу, застаўся ў горадзе. Дзве большыя дачкі, Надзя і Галя, таксама адляцелі з матчынага гнязда. Дзявочая доля ведама якая: знойдзецца хлопец, дык і спраўляй вяселле. Як на добры лад, няхай бы і Аня была дома, але ж цяпер пайшла такая мода: скончыў дзесяцігодку, дык як бы і няёмка заставацца пры бацьках, як бы сорамна браць у рукі вілы ці запрагаць каня.

Вярнуўшыся з выпускнога вечара, Аня доўга і ўважліва разглядала свой атэстат — цвёрды сінеаваты ліст з дзяржаўным гербам. На душы было лёгка, як бы гара з плеч звалілася. У галаве кружыліся прыемнай стомаю надарожныя словы настаўнікаў: «Спадзяёмся на вас, нашы дарагія сябры. Дзе б вы ні былі, памятайце пра школу, не растрачвайце атрыманыя веды, яны вам спатрэбяцца ў жыцці...»

Не заўважыла, як падышла да яе маці, паклала на плячо сваю лёгкую, маленькую руку.

— Ну, вось, дачушка, віншую,— і разам з Аняй пачала разглядаць атэстат. Нечага ўздыхнула і, памаўчаўшы, дадала: — Цяпер не марудзь, старайся куды-небудзь падаць дакументы. Ты ж, здаецца, у медыцынскі збіралася?..

Аня і сама гэтак думала. Яе не

столькі спакушала жыццё ў горадзе, колькі жаданне вучыцца. Ёй хацелася паступіць у інстытут. Яна бачыла сябе то ўрачом, то эканамістам, яе вабілі расказы колішніх выпускнікоў, якія сталі студэнтамі. І ў той жа час яна палохалася. З мінулага выпуску не паступіла ў інстытут нават медалістка Ліда Янчык, а што ўжо думаць Ані — звычайнай выпускніцы, у якой у атэстаце пракідаюцца і тройкі...

Аня падхапіла атэстат, згарнула яго трубачкай і паклала між кніжак, на покуце.

— А я, мама, нікуды не паеду! — выдыхнула Аня і адчула, што шчокі яе апякло чырванню, а сэрца затахкала, здавалася, вырвецца з грудзей.

— Як гэта не паедзеш, дачушка?.. — старалася быць спакойнай маці. — Нашто ж ты тады хадзіла дзесяць гадоў, гэтак сушыла сябе марна!..

— А так, не паеду, і ўсё! — крыкнула дачка і раптам расплакалася. Слёзы, буйныя і гарачыя, цяклі па яе шчоках. Яна іх не саромелася, даючы сабе волю выплакацца.

— Не паедзеш, дык тады на мяне не наракай, — суха кінула маці і пачала збіраць вячэру. Больш яна ўвесь вечар не прамовіла ні слова.

А назаўтра Аня была ўжо на брыгадным двары, дзе звычайна людзі збіраліся раніцай перад нарадам. Многія, вядома, здзівіліся, што Барысішына меншая адразу ж пасля выпускнога вечара прыйшла на работу. Здзівіліся і нават спачувалі:

— Цётка Люба, гэта праўда, што ваша дзесяцікласніца гной накідае? — праходзячы міма, загаварыла паўнатварая жанчына, што працавала побач з Анінай маці.

— А што, у яе хіба рук няма? — аж скаланулася Любоў Мікалаеўна. — Мае дзеці не ў раскошы гадаваліся, да ўсякай работы здатныя...

— Ды гэта я так, вы не крыўдзіцеся, цётка Люба, — сумелася паўнатварая. — У вас жа там, у Мінску, дзеўкі, дык няўжо яны не могуць пастарацца?..

Любоў Мікалаеўна прамаўчала. Нібы не пачула. Падхапіла вядро і заспяшалася на кармакухню.



У сябровак Паліны Ляпёшка і Ганны Дзенісевіч заўсёды знаходзіцца хвіліна, каб пагаварыць пра самае запаветнае.

Фота **С. Чырэшкіна.**

Ішло лета. Першае лета для Ані, калі яна нібы паглядзела на сябе збоку, пачала задумвацца, як ёй далей жыць, што яе чакае заўтра. Змалку звыклая да фізічнай працы, Аня з жанчынамі ахвотна акучвала бульбу, палола лён, ішла туды, куды загадваў брыгадзір. Яна нават хутка пачала забываць, што збіралася паступаць у інстытут. Між тым у той год амаль усе выпускнікі мясцовай сярэдняй школы засталіся дома.

Не раз можна было пачуць, як і ў Будзёнаўцы, — гэта брыгада азярычынскага калгаса, дзе жыве Аня, — жанчыны, сабраўшыся на полі ў зацішку па абедзе, заводзілі гаворку пра моладзь, пра тых, хто скончыў дзесяцігодку і не паступіў далей на вучобу.

— Аня ж — дзяўчына спрытная і вучылася добра, а бач, засталася і не грэбуе ніякай работай... — гаварыла адна.

— Кажуць, на свінарнік прасілася, — устаўляла другая, ухмыльнуўшыся. — На матчына месца хоча...

— Няўжо? — здзіўляліся ўсе разам.

А нехта з грамады дадаў:

— Ат, не любяць яны, каторыя вучыліся, корпацца, ды яшчэ на свінарніку...

— І то праўда... Для прыліку пабудзе на той ферме, стаж адробіць, а тады памінай як звалі...

— Кіньце вы, цёткі, языкамі мянціць! — сказаў брыгадзір, падышоўшы пад гэты час. — Каб усе ў нас былі такія, як Аня, дык мы не адставалі б ні на сяўбе, ні на ўборцы. Яна ў нас сапраўдная камсамолка!

Свінаркі сустрэлі Аню, як сваю добрую знаёмую. Яна не раз прыходзіла на свінарнік, памагала маці, а былі выпадкі, што замяняла сястру. І работа ёй была знаёмая. Усё ішло добра, пакуль Аня ведала толькі сваё: накорміць свіней, вычысціць у клетках, вышаравагь посуд. Калі ж пачала прыглядацца да парадкаў, якія былі заведзены на ферме, і выказваць свае заўвагі, на яе пасыпаліся папрокі:

— А, выслужыцца захацела, камсамолка!..

— Дальбог, бабы, яна загадчыка нашага хоча спіхнуць!

Аня слухала гэта ўсё і вушам сваім не верыла: няўжо гэтай добрай і спакойнай жанчыне няўцям, што для ўсіх, і для яе ж, стараецца Аня. Лягчэй жа ўсім будзе, калі разам узяцца і навесці парадак. Хіба для сябе адной яна дамагаецца, каб на кухні была заўсёды гарачая вада, каб своечасова падвозіліся кармы, каб зрабілі жыжазборнік і адрамантавалі станкі. Ды ці мала тых дробязей, на якія адразу звярнула ўвагу новая свінарка і з якімі быў змірыўся загадчык, чалавек раўнадушны і гультаяваты.

Крыўда аж распірала грудзі. Аня гатова была расплакацца, але стрывала, узяла сябе ў рукі.

— Добра, цётка Аўгіня, калі не хочаце, то не мыйце ў сваіх станках, — нарэшце не сцярпела Аня. — Але паглядзіце на сваіх свінак, яны ж у вас закарэлі ўсе...

— Не тваё дзела, смаркачка! — крыкнула жанчына. — У цябе яшчэ, можна сказаць, матчына малако толькі абсохла на губах, а я ўжо не адзін год тут пэцкаюся...

— Вось і дрэнна, што пэцкаецеся, — крыху супакоілася і Аня. — У нас ёсць усё, каб працаваць панавому, але ж трэба і самім крыху варушыцца. Гэта наша работа, за нас яе ніхто не зробіць!..

У тыя дні Аня позна прыходзіла дадому. Напрацаваўшыся, кідалася ў пасцель, забывалася на ўсё ў моцным сне. А прачнуўшыся, зноў думала і думала. У яе ўзнікалі і не давалі спакою ўсё новыя і новыя пытанні, на якія яна настойліва шукала адказу.

«Чаму ж усе людзі не аднолькавыя? — разважала Аня сама з сабою. — Чаму такія, як мама, заўсёды толькі і думаюць пра калгасную работу, пра тое, каб усё зрабіць шчыра, з душою, а другія, як Каця, на ўсё глядзяць спакойна, іх мала турбуе, што там нешта не зроблена, што не так, як трэба, робіць суседка?..» Аня са сваімі пытаннямі звярнулася да маці, але тая адказала загадкай.

— Здаецца, дрэвы ў лесе аднолькавыя, — як бы разважаючы сама з сабою, пачала яна. — А прыгледзься бліжэй і ўбачыш, што адна лясіна роўная, прыгожая, другая — з сукамі, з дуплянкамі, і ў сярэдзіне такое ж... Нічога, дачушка, усё сама зразумееш, толькі з людзьмі будзь добрая, шчырая!..

Аня спрабавала загаварыць з Кацяй і — толькі больш развярэдзіла душу.

— А што табе, можа, больш за іншых трэба? — узгарэлася сястра. — Меней прыглядайся, як хто робіць, ды сябе шкадуй, бо ўжо вунь высахла, як былінка.

— Не, Каця, гэтак мы доўга будзем таптацца на месцы, — Аня паглядзела сястры ў вочы. — Ты мне скажы, толькі шчыра, любіш ты сваю работу ці не?

— Ну, люблю, — усміхнулася Каця. — А што гэта цябе так непакоіць?..

— Не, ты яе не любіш, — нахмурылася Аня. — Ты працуеш, абы дзень да вечара.

— Ат, кінь ты... Праведніца мне знайшлася!

— І ўсё ж, мне здаецца, ты некалі пашкадуеш, што мяне не паслухала. — Аня зноў урупілася ў кніжку.

Зімою было шмат работы на ферме. Маразы стаялі зацятыя, доўгія. Свінаркі самі і распальвалі ў печы, і рыхтавалі кармы. Аня дадому прыходзіла зморахая, але ўсё часцей яна брала ў рукі кніжку. Чытанне зрабілася для яе неабходнасцю. У кніжках яна знаходзіла адказы на пытанні, якія паўставалі перад ёй у жыцці, сярод герояў знаходзіла яна людзей, якія былі для яе прыкладам, з імі раілася, як з блізкімі сябрамі.



«Камсамольскі пражэктар» завітаў і на свінагадоўчую ферму. І ўраз сабраліся каля яго: Ніна Мурашка, Алесь Антановіч, Кацярына Ладуцька і Тацяна Рунец.

У Будзёнаўцы было зусім мала камсамольцаў. Па пальцах пералічыш. Аня разварушыла іх. Пачалі часцей збірацца, выпусцілі ў брыгадзе «баявы лісток». Аня іншы раз выцягне іх і ў Азярычына, дзе больш моладзі, дзе ёсць свой клуб.

Неяк быў камсамольскі сход, на якім ужо ў каторы раз абмяркоўвалася адно і тое ж пытанне — аб дысцыпліне камсамольцаў. Аднаго ўжо ў каторы раз прабіраюць за тое, што не наведвае сходы, другога — за тое, што ўжо каторы месяц не плаціць камсамольскія ўзносы.

Слова папрасіла Аня. Яе выступленне было кароткае, але кранула многіх.

Неўзабаве Аню выбіраюць намеснікам сакратара камсамольскага камітэта. Ліда Янчык, тая самая Ліда, што была медалісткай і не паступіла ў інстытут, вельмі ўзрадавалася.

— Цяпер, Анечка, мне будзе лягчэй, — прыхінуўшыся да Ані, сказала Ліда. — Ты ж нейкая шчаслівая, цябе, як толькі што скажаш, усе слухаюць...

— Цяжка мне будзе, Ліда, — у роздуме прагаварыла Аня.

...Пад вясну прыбавілася работы. На свінарніку пачаліся апаросы. А гэта для свінарак — самая неспакойная пара. Не адну бясонную ноч прасядзела Аня ў дзяжурцы, прыслухоўваючыся да кожнага шораху. Было тады ў яе, здаецца, пятнаццаць свінаматак, і ўсе парасяткі ад іх выгадаваліся.

Сапраўды, цяжка было Ані адарвацца, каб выканаць тое ці іншае камсамольскае даручэнне. Але яна ўхітралася пабываць і ў брыгадзе, дзе камсамольцы ўзялі сабе ўчастак кукурузы, і на пасяджэнні камсамольскага камітэта, і на спеўках хору...

У калектыве, дзе працавала Аня, як бы павесялелі людзі, у іх як бы з'явілася нешта такое, што ўносіць у будзённую, звычайную работу натхненне. Можа гэта ад таго, што цяпер Аня была не адна. Ёй на дапамогу прыйшла яе сяброўка Паліна Ляпёшка, таксама дзяўчына з атэстатам сталасці. Пажвавела і Каця. І яе захапіў той рытм, які ўзялі дзяўчаты.

— Мне здаецца, — сказала аднойчы ў гутарцы са старшынёй калгаса Аня, — не трэба нам загадчык. Тым больш, што ён у нас рэдкі госць. А ферму можна перадаць брыгадзе, і яна будзе комплексная. Упэўнена, што ад гэтага атрымаецца толькі выйгрыш...

Яе падтрымалі.

І справы на ферме нікольні не пагоршыліся. Наадварот, больш стала парадку.

Калі ўвосень у калгасным клубе віншавалі перадавых жывёлаводаў і на сцэну ўзышла Аня Дзенісевіч, каб атрымаць прэмію-падарунак, усе доўга і заўзята ёй апладзіравалі. А яна, збянтэжаная і сціплая, згарала ад чырвані. Але ад гэтага яе круглявы, з ямачкамі твар выдаваў яшчэ прыгажэйшым. За плячамі ў яе ўздрыгвалі каштанавыя косы-пляцёнкі. Аня, узяўшы з рук старшыні падарунак, затрымалася, хацела нешта сказаць, але ўсё неяк пераблыталася ў галаве, і яна толькі выдыхнула адно слова:

— Дзякую.

І пад шчодрыя воплескі прайшла ў залу, на сваё месца. Сястра, якая сядзела побач, паціснула ёй руку і, нагнуўшыся, сказала:

— Дальбог, Анця, шчаслівая ты нейкая. А гэта, мусіць, таму, што атэстат маеш...

Аня, хоць і намагалася, але не магла ўлавіць, чаго больш у сястрыных словах: дакору ці зайздрасці. Ды і не хацелася думаць пра гэта. Ёй было хораша, яе душа адкрывалася насцеж людзям, свяцілася радасцю.



Камсамольскі сакратар Аня Дзенісевіч. А з ёю заўсёды кнігі.

— Я веру, Каця, — ціха прамовіла Аня, — што і ў цябе будзе такая радасць. Ты ж можаш, толькі вазьміся за сябе...

— Дзе ўжо мне, — дакорліва кінула Каця, але ў яе вачах заблішчалі цікаўныя агенькі.

Хораша вясною ў дарозе. Асабліва раніцою, калі пасля цёплага начнога дожджыку зямля мілуецца з ранішнім сонейкам, і ўсё вакол блішчыць, пераліваецца жывым срэбрам. Ты бачыш, як набіраецца сілы, на вачах мяняецца ўся прырода. Яшчэ ўчора поле шарэла цёмнымі буртамі-пірамідамі ўгнаенняў, а сёння ўжо выстрачыліся ніткі ўсходаў. Па азіміне пабеглі мяккія пералівістыя хвалі — добрая прыкмета!

Дарога з Будзёнаўкі бяжыць то ўзгоркамі, то лужкамі, пятляе між палеткаў. Звычайна на ўзгорку, ля кучаравай грушы-дзічкі, заўсёды любіць спыніцца Аня. Адсюль добра відно і ўсё Азярычына, і скамечаная стужка Пцічы, і ўсё надрэчча. Аня толькі адзін дзень не была дома, яе выклікалі ў партком вытворчага ўпраўлення на гутарку. І сёння раніцою яна на сваім веласіпедзе кіруецца ў Азярычына на працу. Ужо хутка будзе год, як яна ездзіць з Будзёнаўкі кожны дзень. Каб усё злічыць, колькі яна наездзіла ўжо, дык, напэўна, доўгая б дарога была, аж да Масквы, напэўна... Хутка год будзе, а ніяк не прывыкне Аня да сваёй новай пасады. Як гэта яна стала загадчыкам клуба?

Калі камсамольцы выбралі Аню сваім важаком, старшыня калгаса Уладзімір Пятровіч Ачапоўскі ўбачыў, што непакоіцца дзяўчына, часта адрываючыся ад работы на свінарніку. Вось і прапанаваў ёй гэтую пасаду. Вядома, Аня не хацела пакідаць ферму. Яна там прывыкла: не дзіва — пяць год! У яе там лепшая сяброўка Паліна Ляпёшка, з якой амаль разам пачыналі і шмат зрабілі; у яе там сястра, якая таксама стала добрай жывёлаводкай. Аню заўсёды хвалілі, ставілі ў прыклад. «Дзяўчына — залатыя рукі, — пайшла па вёсцы пагалоска. — Багатая нявеста, па тысячы і больш працадзён у год зарабляе».

І давялося ўсё ж ісці ў клуб. Бо цяпер яна была бліжэй да моладзі, да тых спраў, якія чакалі калгасных камсамольцаў. Нялёгка было Ані на першым часе, хоць яна ўмела і выступіць, і пагаварыць з людзьмі па душах.

Моладзі ў Азярычыне не многа. Некаторыя хлопцы, прайшоўшы вайсковую службу, стараюцца як бы не вярнуцца дадому. Многія асядаюць у Мінску, бо ён недалёка, ці ў іншых гарадах. Дзяўчаты пасля заканчэння сярэдняй школы таксама стараюцца дзе-небудзь прыстроіцца. Тыя ж, што застаюцца дома, не надта лёгкія на пад'ём. Шмат папрацавалі Аня і яе сябрыактывісты, пакуль разварушылі такіх, зацікавілі іх камсамольскімі справамі. І цяпер завірыла камсамольскае жыццё, нібы тая рэчка ў паводку.

У Азярычына прыязджаюць прадстаўнікі з Мар'інай-Горкі, з Мінска, пытаюцца ў Ані: «Раскажыце, як усё гэта ў вас робіцца? Падзяліцеся вопытам...»

Аня доўга разглядае свае вялікія, моцныя рукі, чырванее. Пацепвае плечуком. Усміхаецца збянтэжана.

— Ну, які тут вопыт, — нарэшце пачынае яна. — Збіраемся. Тут, вось у гэтым клубе... Хлопцы. Дзяўчаты. Танцуем. Гуляем. Сходы ў нас цяпер часцей праводзяцца. Камсамольцы выступаюць, уносяць прапановы. Іншы раз і спрачаемся. Ёсць у нас такія, што прыйдзе на сход і маўчыць, нібы яму цялё язык адкусіла. Смешна? Сапраўды, нібы і смешна. На рэпетыцыю збяруцца, а калі даручыш якую-небудзь ролю, аднекваюцца: «Не ўмею». Вось мы ўсім актывам і бяромся за такога. Глядзіш, хлопец ці дзяўчына пасмялее, горнецца бліжэй да калектыву...

Аня перадыхнула, памаўчала. Адчуваецца, што дзяўчына хвалюецца. Проста не прыходзіць ёй у галаву, што ўсе яе хваляванні і клопаты, яе камсамольскія будні — гэта і ёсць той вопыт, тая іскрынка, якая гарыць і запальвае сэрцы іншых.

— Як працуюць камсамольцы, кажаце? Добра. Гультаёў у нашай камсамольскай сям'і няма. Вось пра каго б напісаць — пра нашага Пецю. Пра Пятра Саладуху. Гэта хлопец! З дня ў дзень ідзе, куды яму загадаюць, за плугам ці з касою... А цяпер у будаўнічай брыгадзе цяслярыць. Між іншым гэта мой баявы намеснік, актыўны дружыннік. І ў драмгуртку ўдзельнічае, і спец можа добра. Ці яшчэ — трактарыст Міхаіл Прымака. Таксама баец нашага пярэдняга краю. Механізаванае звяно па кукурузе ўзначальвае. Во цяпер за два дні пасеяў са сваім напарнікам Георгіем Прымакам дваццаць гектараў. Гэта такія, якіх мы называем сёння героямі дня. Ці яшчэ — Валодзя Шэлег, калгасны брыгадзір, адзін з актыўных пражэктарыстаў...



Надвячоркам калгасную моладзь чакаюць берагі роднай Пцічы. Тут і гарманіст. Яшчэ хвіліна — і панясецца песня пра чырвоную каліну.

Аня называе адно прозвішча за другім. Расказвае пра абавязацельствы, што ўзяла камсамольская арганізацыя калгаса, пералічвае камсамольцаў, якія ўдзельнічаюць у рэйдах, памагаюць групе садзеяння партыйна-дзяржаўнаму кантролю пры партыйнай арганізацыі.

— У нас у кожнай брыгадзе, — гаворыць далей Аня, — ёсць пасты «камсамольскага пражэктара». Яны ўзялі пад кантроль арцельнае дабро, пільна сочаць за якасцю палявых работ. Па іх сігналах адразу прымаюцца меры. Мы выпускаем насценную газету «Пражэктар».

Жыццё не стаіць на месцы. Хутка мяняецца яно і ў вёсцы. Не тое гэта ўжо Азярычына, якое засталося пасля вайны. Людзі адбудаваліся. У хаты прыйшоў дастатак. Электрычнасць, радыё — у кожным доме. У калгаснікаў больш за 60 тэлевізараў. Цяпер у кожнай пятай хаце або студэнт, або дзесяцікласнік ці васьмікласнік.

— Людзі выраслі, культурны ўзровень нашай вясковай моладзі павышаецца, — разважліва гаворыць Аня-камуністка, — а мы ў сваёй рабоце іншы раз не ўлічваем гэтага. Час ужо настаў, каб у калгасным клубе быў мастацкі кіраўнік, музычныя інструменты. Настала пара, калі праўленне, партыйная арганізацыя калгаса павінны сур'ёзна ўзяцца за выхаванне людзей...

...Аня спяшаецца. З вуліцы бруіцца водар бэзу, змешаны з дымком бензіну. Даносіцца вуркатанне трактара.

Поле кліча. Поле абяцае. Аня «сядлае» свой усюдыход-веласіпед і бярэ кірунак на аселіцу, дзе за рэчкай блішчаць стрэхі вёскі Шэлегі — восьмай брыгады. Шэлягоўцы сёння адстаюць. «Прыедзь, Анця, прыедзь, — учора на праўленні пакеплівай з яе шэлегаўскі брыгадзір, — можа хоць з кошык бульбы з жанчынамі ўкінеш у баразну»...

«А што, і паеду, папрацую», — разважае сама з сабой Аня, прывязваючы на багажнік кніжкі. Хлопцы-трактарысты прасілі. Ды каб не толькі брашуры нейкія, а

кніжкі пра герояў-касманаўтаў, пра Фідэля Кастра...

Бяжыць-бяжыць вясновая дарога. Курыцца пылок. Плешчуцца думкі, бы хвалі блізкай рэчкі. Учора Аня трымала ў руках свой атэстат, у трэці раз за шэсць гадоў пасля школы. Першы — калі пасылала дакументы на завочныя курсы эканамістаў, якія паспяхова скончыла, у другі — калі спрабавала паступіць у інстытут народнай гаспадаркі, і ўчора, пасля размовы з сакратаром парткома, які сказаў: «Пашлем цябе, таварыш Дзенісевіч, на вучобу, у партыйную школу...»

Прыпякае сонца. Белымі гурбачкамі плывуць над галавой высокія аблокі. Сцелецца палявая дарога. І, здаецца, няма ёй канцакраю.

**Сцяпан КУХАРАЎ.**

**Калгас «Перамога» Пухавіцкага раёна.**

# РАЗМОВУ ВАРТА ПРАДОЎЖЫЦЬ

Размова аб гонары савецкага студэнта, якую пачаў на старонках часопіса «Маладосць» Уладзімір Вяткін, здаецца нам вельмі важнай і своечасовай.

Наш час прад'яўляе да кожнага з нас, савецкіх людзей, вялікія патрабаванні і наводзіць на глыбокі роздум аб тым, як мы выконваем свой абавязак перад Радзімай, які ўклад уносім у агульную справу будаўніцтва камунізма. І вельмі радасна, што наша моладзь, студэнты вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі ахвотна адгукнуліся на заклік Уладзіміра Вяткіна пагаварыць і падумаць пра высокі гонар савецкага студэнта, заўтрашняга спецыяліста.

Натуральна, што студэнцкія гады звязаны ў нашых успамінах з маладосцю, з сябрамі. Але ж адначасова студэнцкія гады — гэта пара вялікай і напружанай працы, без якой немагчыма глыбока авалодаць сваёй будучай прафесіяй і стаць высокакваліфікаваным спецыялістам.

Наша навука і тэхніка развіваюцца незвычайна хутка, штодзённа і штогадзінна адкрываючы перад савецкім чалавекам новыя магчымасці і перспектывы. Для таго каб стаяць на ўзроўні сучаснага іх развіцця, трэба шмат ведаць і ўмець. І можна толькі пашкадаваць тых студэнтаў, якія задавальняюцца тройкамі і без асаблівых клопатаў перабіраюцца з курса на курс. Хіба з іх атрымаюцца сапраўды кваліфікаваныя спецыялісты? Справа гонару студэнта — вучыцца так, каб дасканала авалодаць сваёй прафесіяй і тым самым прынесці як мага больш карысці ў той галіне дзейнасці, да якой яго рыхтуе вышэйшая навучальная ўстанова.

Студэнт павінен не толькі атрымаць глыбокую тэарэтычную падрыхтоўку, але і стаць, як піша аб гэтым У. Вяткін, умелым арганізатарам. І гэта поўнасцю адпавядае Закону аб сувязі школы з жыццём і аб далейшым развіцці сістэмы народнай асветы ў краіне.

Іменна ў адпаведнасці з патрабаваннямі Закону значна павялічана працягласць вытворчай і іншых відаў практык у нашых вышэйшых навучальных установах. За адзін год і чатыры месяцы, якія адводзяцца на вытворчую работу і практыку ў тэхнічных вышэйшых навучальных установах, студэнты не толькі авалодваюць рабочымі прафесіямі непасрэдна на вытворчасці, але і прабуюць папрацаваць на пасадах тэхніка ці інжынера. Студэнты педагагічных інстытутаў, будучыя настаўнікі, праходзяць практыку па ўсіх раздзелах школьнай работы, пачынаючы ад піянерскай і канчаючы выкладчыцкай і нават — класнага кіраўніка. На гэта адводзіцца адзін год.

Такую ж практыку маюць і студэнты універсітэта. Калі раней студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта праходзілі педпрактыку на працягу пяці-шасці тыдняў, то цяпер на яе адводзіцца ў сярэднім 20 тыдняў. Гэта сур'ёзна палепшыць практычную і метадычную падрыхтоўку выпускнікоў універсітэта. Такім чынам, усе магчымасці для авалодання практычнымі навыкамі сваёй будучай работы студэнты нашых вну ўжо маюць.

Уся справа ў тым, каб самі студэнты глыбока зразумелі важнасць і неабходнасць гэтай работы і адносіліся да яе сумленна. Дарэчы, міністэрства цяпер аддае вялікую ўвагу арганізацыі вытворчай практыкі ў вышэйшых навучальных установах.

Нельга не адзначыць імкнення нашых студэнтаў да пашырэння свайго агульнанавуковага і агульнакультурнага кругагляду. Нам здаецца, што гэтае імкненне знойдзе падтрымку з боку рэктаратаў і грамадскіх арганізацый вну, што будуць уведзены самыя розныя факультатыўныя курсы, арганізаваны экскурсіі, сустрэчы з людзьмі розных прафесій. Вялікую ролю тут маглі б адыграць факультэты грамадскіх прафесій, якія працуюць далёка не на поўную сілу. Трэба прызнаць, што і міністэрства іх работай цікавіцца пакуль што мала.

Справядлівыя заўвагі і аб перагружанасці вучэбных планаў. Асабліва гэта прыкметна ў педагагічных і тэхнічных вышэйшых навучальных установах. Гэтае пытанне пастаянна знаходзіцца ў цэнтры ўвагі міністэрства, і з будучага навучальнага года мы мяркуем правесці некаторыя мерапрыемствы па ліквідацыі перагрузкі. Аднак і цяпер інстытуты маюць магчымасць хоць бы часткова зменшыць гэтую перагрузку за кошт перагляду вучэбных праграм, скарачэння ў лекцыйных курсах тэм, якія паўтараюцца або носяць апісальны характар.

Ёсць у гэтага пытання і другі бок — уменне студэнтаў арганізаваць свой час. Далёка не кожны ўмее гэта зрабіць. Задача выкладчыкаў — навучыць студэнтаў рацыянальным метадам самастойнай работы, памагчы правільна арганізаваць свой час. Асабліва гэта важна для першакурснікаў, якія толькі-толькі прыйшлі са школы. Памагчы ім набыць навыкі самастойнай работы павінны студэнты старэйшых курсаў. Гэта іх абавязак — перадаць эстафету ўмення і навыкаў сваім малодшым таварышам. А грамадскім арганізацыям трэба больш раўнамерна размяркоўваць розныя даручэнні сярод студэнтаў.

За апошнія гады значна змяніўся склад нашых студэнтаў. На першыя курсы ўсё больш і больш прыходзяць людзі з вытворчым стажам, дэмабілізаваныя з радоў Савецкай Арміі. Усе яны маюць пэўны жыццёвы вопыт, свядома выбралі сваю будучую прафесію. І не вельмі зразумела, чаму ў навуковых таварыствах так мала студэнтаў малодшых курсаў. Няхай яны яшчэ мала ведаюць, але ж некаторую самастойную работу выконваць, безумоўна, могуць. А спалучэнне вучобы хоць бы з элементамі даследчай або канструктарскай работы дае вельмі адчувальныя вынікі. Вырашыць жа пытанне аб залічэнні работы, выкананай удзельнікам студэнцкага навуковага таварыства, у якасці курсавой не так ужо цяжка. Важна толькі, каб гэта работа задавальняла патрабаванням, якія прад'яўляюцца да курсавой работы.

Некалькі слоў аб адносінах выкладчыкаў да студэнтаў. Вельмі своечасова ўспомніў студэнт Белдзяржуніверсітэта Р. Семашкевіч словы аб тым, што студэнт — не сасуд, які трэба запоўніць ведамі, а факел, які трэба запаліць. А для гэтага трэба, каб выкладчыкі адчувалі ў сабе гэтае гарэнне і ўмелі перадаць яго студэнтам. Гэта датычыць не толькі іх вузкай спецыяльнасці, але і выхавання грамадзянскіх якасцей будучага спецыяліста. У выкладчыку студэнт, вядома, бачыць прыклад для сябе. І калі мы сутыкаемся з фактамі няўважлівых, а іншы раз і пагардлівых адносін да студэнтаў з боку выкладчыкаў, гэта не можа пакінуць нас абыякавымі. Партыйныя арганізацыі павінны даваць гэтым фактам сваю ацэнку.

У пісьме У. Вяткіна і водгуках на яго ёсць прыватныя заўвагі і пытанні, якія без асаблівай цяжкасці могуць быць вырашаны ў практыцы работы вышэйшых навучальных устаноў.

У заключэнне хочацца выказаць надзею, што размова аб гонары савецкага студэнта пяройдзе са старонак часопіса непасрэдна ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, якія шмат робяць і яшчэ больш павінны зрабіць для падрыхтоўкі высокакваліфікаваных і ўсебакова развітых спецыялістаў. Матэрыялы, змешчаныя ў часопісе, даюць рэктарам і грамадскім арганізацыям вышэйшых навучальных устаноў добрую падставу для расшырэння і паглыблення пачатай размовы аб гонары савецкага студэнта.

**В. ПЕТРЫКАЎ,**
**намеснік міністра**
**вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай**
**і прафесіянальнай адукацыі Беларускай ССР.**



Мікола Маляўка чытае вершы.

# ВЕЧАР У КАФЭ «РАМАНТЫКА»

**Фотарэпартаж**

У маі пазванілі са Смаргоні: «Прыязджайце, адкрываем маладзёжнае кафэ». І вось мы спяшаемся трапіць на першы вечар. Намеснік сакратара камітэта камсамола тэрытарыяльнага вытворчага ўпраўлення Іван Базевіч пазнаёміў нас з тым, як вялася падрыхтоўка.

Цудоўны суботні вечар. Настала ўрачыстая хвіліна. Старшыня савета кафэ звяртаецца да моладзі:

— Дарагія сябры! Агульнымі намаганнямі мы стварылі кафэ, у якім будзе мацнець наша дружба, а настрой зробіцца яшчэ лепшы. Ад імя савета кафэ я вітаю вас і прашу дазволу закончыць на гэтым афіцыйную частку. Прыступім да вячэры, да гутарак і забаў...

Свой, смаргонскі, музычны ансамбль зайграў вальс. Закружыліся першыя пары.

А потым былі і вясёлыя размовы, і дыскусія аб назве кафэ, і сеанс адначасовай гульні ў шахматы.

...І зоркі свае да апошняй
Падарую сэрцу кожнаму,
Каб загарэлася яно,
узрушанае,
Каб на зямлі перавяліся
раўнадушныя.
А каханы няхай не
злуецца дарма:
Для яго я зоркай буду
сама —

так закончыла сваё выступленне Вольга Іпатава, студэнтка універсітэта, маладая паэтэса, якую запрасілі смаргонцы да сябе ў госці разам з іншымі пісьменнікамі.

Удзельнік Усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў Мікалай Маляўка расказаў аб маскоўскіх сустрэчах і таксама прачытаў некалькі вершаў.

Чэмпіён рэспублікі па шахматах сярод таварыства «Ураджай» пісьменнік Уладзімір Шыцік, «забыўшыся» на пачцівасць, якую павінен праяўляць госць, выйграў усе партыі.

І, вядома, гучалі песні. Асабліва добра спяваў удзельнік мастацкай самадзейнасці Уладзімір Рагачоў.

Па просьбе моладзі выкладчык Смаргонскай музычнай школы Мікалай Ходаш на некалькі хвілін пакінуў сваё месца за столікам і ўзяў у рукі акардэон. Ігра прынесла ўсім шмат задавальнення.

Аднак не ўсё на вечары прайшло гладка... Доўга спрачаліся наконт назвы кафэ. Дыскусія гэтая была па сутнасці дыскусіяй пра задачы кафэ. Прыйшлі да агульнага рашэння: даць маладзёжнаму кафэ назву «Рамантыка».



Прыз «За дружбу і добры настрой» у руках Мікалая Ходаша і Вольгі Іпатавай.

Набліжалася поўнач, калі савет кафэ прысудзіў прыз «За дружбу і добры настрой». Рубінавую вазу з букетам цюльпанаў атрымалі Вольга Іпатава і Мікалай Ходаш.

Яшчэ адзін вальс, і госці пачалі разыходзіцца...

**А. ДЗІТЛАЎ.**

***Год да ста***
***расці***
***Нам***
***без старасці.***
***З году ў год***
***расці***
***Усё ў бадзёрасці.***
***Верш***
***і молат, —***
***квяці***
***Зямлю моладасці.***

*У. Маякоўскі. З паэмы «Добра!»*
*Пераклад В. Віткі і Р. Лынькова.*

# НЕЗАБЫЎНАЕ

**Рэліквіі рэвалюцыйнага мінулага**

Масква. Вечар. На небе загарэліся зоркі, і, як быццам пераймаючы іх, заіскрыліся рубінавыя зоры на вежах Крамля. Праз раку павіс ажурнай вясёлкаю гіганцкі мост... Кацельніцкая ўзбярэжная... Недзе тут жыве Сцяпан Іванавіч Зенчанка, стары камуніст, які некалі, яшчэ ў дваццатыя гады, працаваў у Гомельскай губерні.

Знаходжу дом. Падымаюся на трэці паверх. Званю. Сустракае мяне мужчына год шасцідзесяці, рухавы, з рашучым выглядам твару. Расказваю, хто я і чаго прыйшоў.

— Вельмі патрэбную справу робіце,— згаджаецца Сцяпан Іванавіч. — Такі музей даўно трэба было стварыць. А што датычыць мяне, калі ласка, чым багаты, тым і рады...

З гэтымі словамі Сцяпан Іванавіч запрашае мяне да стала, дастае некалькі папак. Праглядаем іх разам.


69

УДОСТОВЕРЕНИЕ

Всероссийский Центральный Исполнительный Комитет Советов Рабочих, Крестьянских и Красноармейских Депутатов удостоверяет, что, согласно постановления Президиума В. Ц. И. К. от 31-го октября 1921 года, тов. Зенченко Стефан начальник Новозыбковской уездной милиции награждается комплектом теплого обмундирования за отличие по борьбе с бандитизмом на Западном фронте.

Председатель Полномочной Комиссии В. Ц. И. К. по борьбе с бандитизмом на Западном фронте

Стары камуніст расказвае, што ў Беларусі яму прыйшлося працаваць каля пяці год. Гэта быў цяжкі час барацьбы супраць кулацкіх банд, белагвардзейцаў.

— Я ў той час быў начальнікам міліцыі ў Клінцах, Горках і Навазыбкаве. Ваяваў і з бандай Булак-Балаховіча, — гаворыць Сцяпан Іванавіч. — Вось, калі ласка, паглядзіце...

Бяру злёгку пажаўцелы аркуш.

«Пасведчанне. Усерасійскі Выканаўчы Камітэт Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў сведчыць, што, згодна пастановы Прэзідыума УЦВК ад 31-га кастрычніка 1921 г. тав. Зенчанка Стафан — начальнік Навазыбкаўскай павятовай міліцыі — узнагароджваецца камплектам цёплага абмундзіравання за выдатную барацьбу з бандытызмам на Заходнім фронце». Ніжэй подпіс старшыні Паўнамоцнай камісіі УЦВК па барацьбе з бандытызмам на Заходнім фронце, засведчаны гербавай пячаткаю, і дата: 18 ліпеня 1922 года.

А вось «Загад № 1 Ліквідацыйнай камісіі па расфарміраванню Быхаўскага павета Гомельскай губерні» ад 22 лютага 1923 года, «Гасцявы білет № 461 на права ўваходу на пасяджэнні XIV з'езда РКП(б)» — 1925 год, «Білет № 164 на права наведвання пасяджэння V Пленума ЦКК ВКП(б) склікання XV з'езда» — 1929 год і шэраг групавых фотаздымкаў членаў пленумаў Гомельскага павятовага выканкома 1924 года і дэлегатаў Гомельскага павятовага і Гомельскага губернскага з'ездаў Саветаў, якія адбываліся ў 1923 годзе.

Пасля ліквідацыі бандытызму на Гомельшчыне С. І. Зенчанка некаторы час працаваў кіраўніком спраў губкома РКП(б), а потым, у канцы 1923 года, быў пераведзены ў Гомель на пасаду намесніка старшыні павятовага выканкома, дзе і быў да канца 1924 года. Потым — вучоба ў Маскве.



Сцяпан Іванавіч падрабязна расказвае пра вучобу і работу ў наступныя гады і паказвае розныя дакументы і здымкі. Так, доўгі і цяжкі шлях пройдзены гэтым чалавекам! Восем урадавых узнагарод як бы пацвярджаюць гэта.

На развітанне Сцяпан Іванавіч параіў мне сустрэцца з Іванам Якаўлевічам Афанасьевым, які таксама працаваў у Гомельскай губерні, праўда, некалькі пазней.

Вуліца Чайкоўскага, 25. Светлы, высокі пакой. Сярэдняга росту, паўнаваты мужчына ветліва сустракае мяне. Пачынаецца жывая гутарка пра Беларусь, яе мінулае і сённяшняе. Потым я папрасіў Івана Якаўлевіча расказаць пра сваю работу ў Беларусі.

— Яшчэ ў гады станаўлення Савецкай улады, — сказаў Іван Якаўлевіч, — у былым Клінцоўскім павеце на Гомельшчыне я быў камандзірам і палітработнікам атрадаў па барацьбе з бандытызмам і дэзерцірствам, старшынёй камісіі па арганізацыі валасных выканаўчых камітэтаў... А ў 1921 годзе, калі ўзмацніўся бандытызм у Чавускім павеце, рашэннем Гомельскага губкома партыі быў рэкамендаваны старшынёю Чавускага павятовага выканкома. Пазней мяне прызначылі старшынёю Рагачоўскага павятовага выканкома. З 1923 года працаваў у Гомелі ў губвыканкоме — загадчыкам камунгаса, старшынёй камісіі па правядзенню грашовай рэформы, загадчыкам фінаддзела і на іншых работах...

Іван Якаўлевіч перадаў мне і фотаздымкі, якія адносяцца да тых незабыўных год.

Вось перада мною — рагачоўскі Палац працы: каменны прыгожы двухпавярховы будынак з дзвюма калонамі каля ўваходу. Побач — дрэвы і арка, упрыгожаная сцяжкамі. На здымку клубнай залы відаць акуратна расстаўленыя сталы, уздоўж сцен — кветкі, бюсты Гогаля, Гамера. На сцяне — партрэт У. І. Леніна, ля яго чырвоныя сцягі. За сталамі — хто чытае газету, кніжку, хто гуляе ў шахматы, а некаторыя проста адпачываюць у крэслах...

Яшчэ здымак — у лекцыйна-тэатральнай зале Іван Якаўлевіч чытае лекцыю.




**Так выглядаў рагачоўскі Палац працы, дзе Іван Якаўлевіч Афанасьеў выступаў з лекцыяй.**

А вось група людзей з кнігамі і газетамі ў руках. Гэта супрацоўнікі Палаца працы, сярод іх старшыня Рагачоўскага павятовага выканкома І. Я. Афанасьеў і камандзір 23-га Слуцкага стралковага палка, які стаяў у той час у Рагачове. Больш дзесяці фотаздымкаў расказваюць пра парад гэтага палка ў гонар пятай гадавіны Кастрычніка.

На адным са здымкаў — група ваенных, перад імі некалькі кулямётаў, а на прыклееным да карткі тоўстым аркушы паперы надпіс: «Ганароваму чырвонаармейцу 1-й кулямётнай каманды 23-га Слуцкага стралковага палка, старшыні Рагачоўскага павятовага выканкома тав. Афанасьеву І. Я. ад камсаставу, палітсаставу і чырвонаармейцаў 1-й кулямётнай каманды 23-га Слуцкага палка 8-й Мінскай стралковай дывізіі». Ніжэй ідуць подпісы і дата: 2 сакавіка 1923 года.

Потым Іван Якаўлевіч падае мне невялікую кніжачку ў ярка-чырвонай вокладцы. Гэта «Службовая кніжка ганаровага чырвонаармейца 23-га Слуцкага палка 8-й Мінскай дывізіі». У 1922 годзе Іван Якаўлевіч быў выбраны ганаровым чырвонаармейцам (першым нумарам) 1-га аддзялення 1-га ўзвода 1-й кулямётнай каманды гэтага палка.

Некалькі здымкаў расказваюць пра тое, што 28 мая 1920 года быў арганізаваны 66-ы Рагачоўскі кавалерыйскі полк. А калі полк святкаваў сваё двухгоддзе, камандаванне і партыйная арганізацыя часці падаравалі на памяць старшыні Рагачоўскага павятовага выканкома тав. Афанасьеву свой групавы фотаздымак.

Перабіраю фотаздымкі, але стос іх не меншае. На адной з фатаграфій — каля доўгага свірна дзесяткі сялянскіх вазоў, даверху нагружаных мяхамі.

— Гэта сяляне Рагачоўскага павета ў адказ на адмену прадразвёрсткі здаюць дзяржаве продпадатак, — тлумачыць Іван Якаўлевіч. — Згодна просьбы сялян адзін такі здымак мы паслалі Уладзіміру Ільічу Леніну.



Сяляне Рагачоўшчыны дружна здавалі продпадатак — маладой Савецкай рэспубліцы патрэбен быў хлеб.

А вось яшчэ некалькі фотаздымкаў. Яны расказваюць пра 7-ы Рагачоўскі паветовы з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, які адбыўся ў снежні 1922 года. Дэлегаты з'езда паслалі ліст У. І. Леніну. Копія гэтага ліста знаходзіцца ў Гомельскім абласным архіве. Вось яго поўны тэкст.

«Масква, Крэмль. 5 снежня 1922 г.

Дарагі Уладзімір Ільіч!

VII Рагачоўскі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў Гомельскай губерні, сабраўшыся для абмеркавання пытання будаўніцтва павета і вызначэння плана на будучы перыяд, вельмі рады Вас бачыць ужо некалькі месяцаў пасля выздараўлення зноў у сваіх радах на пасту правадыра-кіраўніка Расійскай рэспублікі і міжнароднай рэвалюцыі.

Галоўная задача нашага павета, як сялянскага, складаецца з уздыму, умацавання сельскай гаспадаркі. У гэтай галіне, хоць не надта вялікія, але дасягнуты некаторыя поспехі. Засеў зямлі ў 1922 і 1923 гг. роўны 100 працэнтам даваеннага часу. Продпадатак гэтага года здадзены на 100 працэнтаў.

З'езд горача вітае Вас, дарагі Уладзімір Ільіч, і цвёрда перакананы, што мы пад Вашым кіраўніцтвам напружаннем сваіх намаганняў, паколькі няма дапамогі са зне, зможам выйсці самі з разрухі і цяжкага яшчэ пакуль становішча.

Віншуючы Вас, з'езд выбірае Вас ганаровым старшынёй з'езда.

Няхай жыве барацьба за эканамічнае ўмацаванне на працоўным фронце!

Няхай жыве правадыр таварыш Ленін!

Прэзідыум з'езда».

Шэраг здымкаў расказвае пра жыццё дзяцей у дзіцячых дамах Рагачова. Характэрна, што ў цяжкія гады разрухі, калі ў краіне не хапала нават хлеба, дзеці былі забяспечаны ўсім неабходным.

Здымкаў шмат. Яны вельмі цікавыя. Члены прэзідыума Гомельскага губвыканкома 1924—1926 гадоў, а сярод іх—камандзір XI кавалерыйскай дывізіі Ака Гарадавікоў і камісар гэтай дывізіі.

І апошняе фота: у цэнтры ў першым радзе ўжо знаёмы нам І. Я. Афанасьеў у саставе гомельскай дэлегацыі на XII Усерасійскім з'ездзе Саветаў.

— Іван Якаўлевіч, ці не згодны Вы перадаць усе гэтыя фатаграфіі ў Беларускі дзяржаўны гісторыка-краязнаўчы музей?

Іван Якаўлевіч загадкава ўсміхаецца:

— Усе?!

— Усе.

— Ну, што ж, калі так трэба, бярыце, калі ласка...

Яшчэ і яшчэ раз праглядаю кожную фатаграфію. Думкі зноў вяртаюцца да знаходкі і зноў паўстаюць карціны мінулага: разруха, аднаўленне народнай гаспадаркі, станаўленне Савецкай улады... Нашы дзяды і бацькі — першае пакаленне камуністаў і камсамольцаў—шмат зрабілі для шчаслівага сёння, для нашай камуністычнай будучыні.

**Уладзімір ПРЫЛІШЧ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Беларускага гісторыка-краязнаўчага музея.**



# ТВОРЧАСЦЬ—НАРОДУ!

**З Чацвёртай Усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў**

Пяць дзён, на самым пачатку мая, у Маскве праходзіла IV Усесаюзная нарада маладых пісьменнікаў нашай краіны. Яна была склікана Цэнтральным Камітэтам ВЛКСМ і Праўленнем Саюза пісьменнікаў СССР. Прамежак паміж гэтай і папярэдняй, трэцяй, нарадай склаў сем гадоў. Для літаратуры гэта час немалы, асабліва калі ўлічыць незвычайны ўздым і прыліў творчых сіл, выкліканы XX і XXII з'ездамі нашай партыі.

Савецкі народ з вялікай увагай і прыхільнасцю сачыў за новым папаўненнем літаратуры. Літаральна не было белай плямы на геаграфічнай карце ў сэнсе выяўлення маладых паэтаў, празаікаў, драматургаў, сатырыкаў.

...Мы жывём у светлай, як і сама маладосць, гасцініцы «Юнацтва». Праз расчыненыя вокны чуваць вясёлыя, радасныя галасы нашых пабрацімаў, нашых равеснікаў. Асабліва мнагалюдна ў вестыбюлі каля рэгістратуры і кіёска «Саюздруку». Тут у шматгалосны хор уплятаецца і наша беларуская мова. А гаворка

**Дружнай сям'ёй віталі савецкія літаратары Юрыя Гагарына, які быў запрошан на адкрыццё IV Усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў. Справа налева: К. Федзін, Ю. Гагарын, С. Васільеў, Юсуф Акабіраў (Таджыкістан), Мікалай Федунец (Украіна), Л. Собалеў, Уладзімір Сангі (Сахалін), Рыгор Барадулін (Беларусь), Гунар Селга (Латвія).**
Фота **Ц. Мельніка.**



сапраўды шматгалосая. На трыццаці трох мовах пішуць дэлегаты нарады свае творы.

Недзе тут, сярод нас, ходзіць цудоўны паэт, казах Олджас Сулейменаў, аўтар «Палавецкіх песень» і іншых крыштальных і ўдумлівых вершаў. Бетоншчык з Геленджыка П. Пракопаў абдумвае, мабыць, новы твор пасля сваёй першай аповесці «За жар-птушкай», якая надрукавана ў «Молодой гвардии». Тут, у толькі што адчыненай кнігарні нашага камсамольскага выдавецтва, прадаецца першы зборнік «Сыр-бор» паэтэсы з Архангельшчыны Вольгі Фокінай. Яна таксама — удзельніца нарады. А вось украінскія хлопцы — кіяўляне Мікола Сынгаеўскі, Барыс Алейнік, харкаўчанін Роберт Трацякоў. З Поўначы прыехаў на нараду Аляксей Пічкоў, з Брацка — Генадзь Міхасенка, з Ліпецка — Мая Румянцава.

А вось за сталом прэзідыума, побач з К. Федзіным, А. Твардоўскім і Ю. Гагарыным, сядзіць Уладзімір Сангі. Гэты малады літаратар пабываў нядаўна ў нас на Беларусі ў складзе дэлегацыі далёкаўсходніх пісьменнікаў. Але першым з нас пра Сангі даведаўся Рыгор Барадулін. Напярэдадні адкрыцця нарады Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін і аўтар гэтых радкоў разам са сваімі калегамі з іншых рэспублік выступалі на літаратурных вечарах перад моладдзю Масквы.

Вечарам у пакой, дзе жылі Генадзь Бураўкін і я, зайшоў Рыгор Барадулін і з парога кінуў:

— А я выступаў з зачынальнікам літаратуры, — і расказаў пра Сангі.

Уладзімір Сангі — ніўх па нацыянальнасці. Жывуць ніўхі ў нізоўях Амура і на Сахаліне. Іх усяго некалькі тысяч. Цікава, што толькі яшчэ праз два гады будзе першы ўрач-ніўх. А вось літаратар ужо ёсць сёння! Уладзіміру дваццаць восем гадоў, працуе ён этнографам у пасёлку Ноглікі на Сахаліне. Ён склаў азбуку ніўхаў і пачаў пісаць на сваёй і на рускай мовах. 12 мая ў «Правде» было надрукавана яго апавяданне «Тры сустрэчы».

Хіба гэта не прыклад клопату Камуністычнай партыі аб роўнасці народаў, аб развіцці многанацыянальнай літаратуры! Хіба гэта не здзяйсненне ленінскай палітыкі аб разняволенні народаў — вялікіх і малых! Сёння ў нас не ідзе гаворка аб стварэнні пісьменнасці, скажам, чувашоў, ненцаў, калмыкаў. Сёння на парадку дня — здабыткі, далейшы рост іх літаратур. Такая наша савецкая рэчаіснасць.

Ад маладых беларускіх пісьменнікаў роўныя паміж роўных прысутнічалі празаікі Міхась Стральцоў і Іван Шальманаў, паэты Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Грачанікаў, Мікола Маляўка, Раман Тармола і аўтар гэтых нататак. Ужо ў Маскве да нашай дэлегацыі далучыўся і прымаў удзел у семінары Васіль Сідарэнка, магіляўчанін, які жыве і вучыцца ў Кіеве і піша вершы на роднай мове.

Цяжка было б назваць усіх 170 дэлегатаў нарады. Цяжка было б, а можа нават немагчыма, і пазнаёміцца з імі ўсімі толькі за два дні, калі ішлі пленарныя пасяджэнні. Цяжка яшчэ і таму, што аб пераважнай большасці з іх мы нічога не ведалі, гэтак сама, мабыць, як і яны аб нас, членах беларускай дэлегацыі. Вельмі трапна сказаў пра гэта на сустрэчы ў рэдакцыі «Дружбы народаў» Яраслаў Смелякоў: «Мы трохі паадсталі ад маладой паэзіі, і цяпер трэба даганяць».

Маладыя паэты, якія сабраліся ў «Дружбе народаў», прыхільна сустрэлі такія самакрытычныя словы загадчыка аддзела паэзіі паважанага намі часопіса. І сапраўды, «маладая паэзія» на яго старонках была прадстаўлена ў лепшым выпадку творчасцю паэтаў не самых маладых. І тут, у рэдакцыях і на пасяджэннях нарады, яшчэ раз гаварылася пра спробы асобных крытыкаў збіваць «абоймы», захвальваць адных і не паважаць іншых. Але ў Маскве мы не маглі крыўдзіцца на «няўвагу». На семінары да нас заходзілі работнікі выдавецтваў, газет, радыё, тэлебачання, тэлеграфных агенцтваў. Кожны атрымаў асабістае запрашэнне супрацоўнічаць ці хоць выступіць у маладзёжным кафэ з повады стагоддзя часопіса «Вокруг света».

Даклады і прамовы, якія праслухалі мы на нарадзе ў першы дзень, друкаваліся. Паўтарацца не варта. У рэчышчы, якое намецілі ў іх К. Федзін, М. Рыленкаў, В. Друзін, А. Сафронаў, А. Суркоў, працавала наша нарада. Адзначаліся і першыя поспехі і тым больш недахопы. Усе мы былі заклапочаны адным, каб наша творчасць, нашы здабыткі, — увойдуць яны ў «залаты фонд» ці не, — служылі народу, памагалі яму ў будаўніцтве камуністычнага грамадства, каб былі прасякнуты высакароднымі ідэямі, адным словам, каб яны адпавядалі прынцыпам адзінага кірунку савецкай літаратуры — прынцыпам сацыялістычнага рэалізму. Бо каго можа выхаваць паэт ці пісьменнік сваімі творамі, калі яны не будуць пад нашымі чырвонымі штандарамі, калі гэтыя творы — адно калупанне ў недахопах?

Хто ідзе першы, можа памыліцца, але не збіцца з дарогі. На гэта не мае ён права! І нам, маладым літаратарам, чый шлях толькі-толькі пачынаецца, трэба заўсёды памятаць пра гэта. Літаратар, сапраўдны літаратар, — гэта першаадкрывальнік. І вельмі слушна Юры Гагарын паўтарыў словы Уладзіміра Маякоўскага, што мастацтва — «язда ў незнаёмае». «Самае цудоўнае ў свеце — гэта чалавек, заняты працай, — гаварыў першы касманаўт. — Ён — наш герой. Я, як чытач, хачу бачыць яго дзеянні ў раманах, вершах, хачу бачыць такім, які ён ёсць, — моцным і гордым, разумным і ўпэўненым у сваёй справядлівасці — у справядлівасці нашага народа, нашай партыі. Я звяртаюся да вас — пакажыце ў сваіх творах чалавека новага часу!»

Засталося ў памяці выступленне і другога героя нашага часу, старшыні калгаса імя Макарава Звенігародскага раёна Маскоўскай вобласці Б. Жалязнога. Гэта якраз адзін з тых шматлікіх жывых персанажаў, пра якія сказаў у сваёй прамове Першы сакратар ЦК ВЛКСМ Сяргей Паўлаў. Думку ўсіх дэлегатаў і гасцей нарады ён выказаў у той частцы прамовы, калі гаварыў пра адшчапенцаў ад літаратуры: «Выдаючы сябе за выкрывальнікаў культу асобы, гэтыя маладыя літаратары без усякага сораму прапаноўвалі ў якасці культу свае асобы». У іх жа адрас былі і словы паэта Мікалая Забалоцкага, якія прыгадаў Мікалай Рыленкаў:

Я не люблю церквей,
где зодчий
Слышнее бога говорит.

**На кватэры Міхаіла Ісакоўскага адбылася шчырая гутарка пра беларускую літаратуру. Злева направа: Міхась Стральцоў, Генадзь Бураўкін, Міхаіл Ісакоўскі, Анатоль Грачанікаў, Раман Тармола, Іван Шальманаў, Васіль Сідарэнка, Мікола Маляўка, Рыгор Барадулін.**

Фота **Я. Халдзея.**

А Яўтушэнка і яго паплечнікі, прынамсі, і будавалі такія «цэрквы», пісалі шматлікія творы, каб заглушыць у іх усё, каб толькі выставіць напаказ сябе, сарваць пабольш воплескаў, быць «над натоўпам».

У творчых семінарах было занята больш як дзвесце вядомых савецкіх літаратараў. У канцы другога дня работы семінара беларускія літаратары былі ў гасцях у Міхаіла Ісакоўскага.

Хочацца адзначыць некаторыя недахопы ў арганізацыі семінараў. Па-першае, незразумела, чаму мы ўсе былі ў адным семінары? Каб паслухаць, што скажуць пра нашу творчасць? Дык мы — няхай прабачаць мне кіраўнікі — гаварылі і ведаем пра творчасць сваіх таварышаў у іншых выпадках больш. Як-ніяк, жывём і працуем мы разам. Па-другое, такая разбіўка на семінары перашкодзіла нам больш і лепш пазнаёміцца са сваімі равеснікамі на пяру і іх творчасцю.

На нашым семінары ішла гаворка аб творчасці і тых беларускіх літаратараў, якія не прысутнічалі на нарадзе. Адзначаліся творчыя ўдачы Івана Пташні-

кава, Вечаслава Адамчыка, Барыса Сачанкі. Слушныя заўвагі былі выказаны пра некаторыя недахопы ў выбары герояў Барысам Сачанкам і Алесем Наўроцкім.

IV Усесаюзная нарада маладых пісьменнікаў, бясспрэчна, стане новай прыступкай у развіцці нашай літаратуры. Дэлегаты нарады больш пазнаёміліся паміж сабой. Трэба спадзявацца, што ў хуткім часе ў цэнтральных і рэспубліканскіх выданнях з'явяцца новыя імёны, імёны маладых паэтаў, празаікаў, драматургаў з братніх савецкіх рэспублік. Трэба спадзявацца, што ў хуткім часе з'явяцца новыя творы аб камсамоле, бо восемдзесят яго членаў былі непасрэднымі ўдзельнікамі нарады.

Усе маладыя літаратары — кроў ад крыві і плоць ад плоці нашага народа, усе яны непасрэдна з'яўляюцца пераўтваральнікамі жыцця. Знаходзіцца на яго пярэднім краі — такі наш пачэсны абавязак.

«Усе свае сілы мы аддадзім стварэнню яркіх твораў аб нашай сучаснасці, аб нашым цудоўным пакаленні, якое ідзе рэвалюцыйнай дарогай сваіх бацькоў. Наша творчае натхненне належыць народу, вялікай справе будаўніцтва камунізма!» — вось заключныя словы таго пісьма, якое паслалі мы, удзельнікі нарады, Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Першаму сакратару ЦК КПСС Мікіту Сяргеевічу Хрушчову.

Настаў час пацвердзіць гэтыя словы новымі творамі.

Такі наш абавязак, такое наша жаданне.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ.**

# ЖЫВЫ З ЖЫВЫМІ

### Роздум удзельніка нарады

Літаратура. Мы часта паўтараем гэтае прывычнае і такое дарагое для нас слова, паўтараем — і прыгадваем тысячы любімых радкоў, сотні кніг, дзесяткі імён. І ёсць радкі, ёсць кнігі, імёны, без якіх проста немагчыма ўявіць сабе нават слова «літаратура». Гэта і Пушкін, і Лермантаў, і Талстой, Байран і Міцкевіч, Купала і Колас, Горкі і Маякоўскі...

Крытыкі любяць даследаваць уплыў творчасці аднаго пісьменніка на другога, уздзеянне аднаго таленту на другі. У адных яны знаходзяць пушкінскую лёгкасць ці чэхаўскую прастату, у другіх — купалаўскі лірызм ці коласаўскі роздум, у трэціх — аналітычныя прыёмы Чорнага ці філасафічнасць Багдановіча... Усё гэта, вядома, так, але я не веру ў існаванне літаратара, на якога ўздзейнічала б творчасць толькі аднаго-двух пісьменнікаў. Я ўпэўнены, што кожны, хто вырашыў ступіць на нялёгкі шлях мастацкай творчасці, прайшоў незабыўнымі дарогамі Пушкіна і Купалы, Міцкевіча і Коласа, Талстога і Чорнага. Я ўпэўнены, што ў кожным сучасным паэце гучыць водгулле парывістага голасу Лермантава і грамавое рэха правафлангавага савецкай паэзіі — Уладзіміра Маякоўскага, вялікага грамадзяніна, смелага наватара, вернага салдата рэвалюцыі.

Я люблю Маякоўскага, люблю даўно і пяшчотна, як любяць вельмі дарагога і блізкага чалавека... Помню, як ён вучыў мяне здзіўляцца навакольнаму:

Послушайте!
Ведь, если звёзды
зажигают —
значит — это кому-нибудь нужно?
Значит — это необходимо,
чтобы каждый вечер
над крышами
загоралась хоть одна звезда?

Першы раз прачытаўшы гэта, я быў ашаломлены: а сапраўды, навошта вечарам над хатамі высыпаюць зыркія далёкія зоркі? Сапраўды, яны ж вельмі патрэбны ўсім, і мне таксама, без іх было б вельмі сумна і будзённа... У галаве абудзіўся цэлы рой думак, вочы неяк інакш глянулі на знаёмы, такі цудоўны свет...

А потым я прачытаў, як «в сто сорок солнц закат пылал», як «били копыта. Пели грубо: — Граб. Грабь. Гроб. Груб», як жандар «берёт, как бомбу, берет, как ежа, как





Як бацька з сынамі, гутарыць Міхаіл Ісакоўскі з пасланцамі Беларусі — Генадзем Бураўкіным, Рыгорам Барадуліным.

Фота Я. Халдзея.

бритву обоюдоострую» паэтаву «краснокожую паспортину», як са славутага Бруклінскага моста «безработные в Гудзон кидались вниз головой...» Я прачытаў і «Добра!», і «Уладзімір Ільіч Ленін, і «На ўвесь голас». Маякоўскі стаў маім субяседнікам, дарадчыкам і сябрам. І гады не старылі яго, не аддалялі — з гадамі толькі паглыблялася разуменне яго высокага паэтычнага майстэрства, яго вялізнага таленту, яго чалавечай мужнасці і партыйнай прынцыповасці. Плячыстая, гордая фігура паэта рабілася ўсё больш дарагой і роднай...

Я помню нядаўнія вечары ў маскоўскай гасцініцы «Юнацтва», якая на некалькі майскіх дзён стала родным домам для дэлегатаў IV Усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў,— гэта былі вечары сяброўскіх размоў і цікавых знаёмстваў... Я помню пасяджэнні нарады, калі на трыбуну адзін за другім, усхваляваныя і парывістыя, выходзілі мае равеснікі і гаварылі пра месца паэта ў рабочым страі... І я бачыў Маякоўскага на гэтай нарадзе.

Так, ён быў з намі, ён сядзеў з намі вечарамі і строга жмурыў вочы, слухаючы нашы вершы, ён сядзеў у прэзідыуме і штосьці запісваў, слухаючы нашы прамовы... Ён быў з намі кожнае імгненне, прамы, чэсны, шчыры Уладзімір Уладзіміравіч. Яго цяжкая, працавітая рука яшчэ раз па-бацькоўску лягла нам на плечы, яго палымяныя вершы яшчэ раз ажылі ў нашай памяці... Так, на нарадзе быў Маякоўскі, бо дэлегаты з Сахаліна і Абхазіі, Літвы і Урала, Казахстана і Беларусі прыехалі ў Маскву не дзяліць «курыцу славы» і лаўровыя вянкі, а рабіць справаздачу перад народам і партыяй.

На нарадзе быў Маякоўскі, бо словы аб Радзіме, словы аб шчасці быць грамадзянінам Савецкага Саюза гучалі з трыбуны на ўвесь голас. На нарадзе быў Маякоўскі, бо ў зале ўспаміналі не прэтэнцыёзныя інтэрв'ю некаторых маладых балабонаў замежным журналістам, а словы «у советских собственная гордость — на буржуев смотрим свысока».

Цэласнасць чалавечага і паэтычнага характару — вось чаму вучыць жыццё і творчасць Уладзіміра Маякоўскага. Ворагі ў жыцці былі для яго ворагамі і ў паэзіі. Ён з Амерыкі прывёз не адчуванне, што ездзіў туды «открывать себя», а цвёрдае перакананне: «Я б Америку закрыл, слегка прочистил, а потом уже открыл — вторично». Я не ўяўляю Маякоўскага ў таксі з замежнай актрысачкай, якая пяшчотна гладзіць яму руку. Я не ўяўляю Маякоўскага побач з фашысцкім генералам, які галантна філасофствуе аб гісторыі развіцця культуры... І дарэмна той-сёй спрабуе неяк прымазацца да Маякоўскага — «Мы яго вучні»... Вучням час было б зразумець, што Маякоўскі не любіў «мандолинить из-под стен», ён пісаў: «Наша пастаянная і галоўная нянавісць абрушваецца на рамансава-крытычную абывацельшчыну».

Як можна называць сябе вучнем Маякоўскага і не памятаць яго простых і ясных слоў: «Для лепшага выканання сацыяльнага заказу трэба быць перадавым свайго класа, трэба разам з класам весці барацьбу на ўсіх франтах». Гэта словы вялікага паэта, вялікага настаўніка, які добра ведаў, што такое ідэйная барацьба, які ўмеў змагацца і які ніколі не пакідаў перадавых пазіцый у барацьбе народа за камунізм.

У нас у апошні час некаторыя маладыя паэты сталі абыходзіць так званыя «гучныя» тэмы. Яны сталі маўчаць аб любві да роднага краю, аб вернасці ідэалам бацькоў, аб удзячнасці бацькам... Усё гэта ідзе, па-мойму, нават не ад моды, а ад бяссілля перад вялікай тэмай. Так, для вялікай тэмы патрэбна шукаць і вялікія словы — не тыя, заез-

джаныя, што валяюцца пад нагамі, а словы жывыя, шчырыя і велічныя. Для гэтага трэба, каб у душы тваёй гарэлі вялікія, шчырыя пачуцці... І ці не адсутнасць пачуццяў вядзе да адсутнасці высокіх слоў?..

Маякоўскі — паэт, які бачыў не толькі радасць і пафас барацьбы працоўных за новы свет, за новае жыццё. Пільным вокам бачыў ён і цяжкасці гэтай барацьбы. І не маўчаў пра іх, а змагаўся з імі.

У апошні час, асабліва ў некаторых маладых празаікаў, стала на ўсе лады смакавацца «складанасць» інтэлігенцкай душы. Выводзіцца нейкі недавучаны скептык, які ўмее даволі ўдала аплёўваць усё і ўсіх вакол сябе, які, безумоўна, ходзіць у рэстараны амаль кожны вечар і ў якога сяброўка абавязкова дэманічная. І вось аўтар на ўсю сілу сваіх здольнасцей спачувае гэтаму герою, апісвае «цяжкасці» яго жыцця: герой, маўляў, разумее ўсю нікчэмнасць свайго існавання, яму хочацца нечага вялікага, але, ой, як цяжка кінуць і рэстаран, і дэманічную «чувіху», і магнітафон... Я ў гэтыя цяжкасці не веру. Гэта цяжкасці перакормленых абібокаў. Я ведаю цяжкасці Карчагіна і Марэсьева. Гэта былі цяжкасці сапраўдныя, намнога больш суровыя, чым у «зорных хлопчыкаў». І пераадольваліся яны ў імя вялікай справы камунізма, у імя народа, а не ў імя «ачышчэння душы» нейкага франдзёра і бамбізы...

Не выдаваць за цяжкасці хлапечыя выбрыкі і піжонства — пра гэта трэба яшчэ часам напамінаць, на жаль, і чытачам і пісьменнікам. А ўсё гэта ідзе ад таго, што некаторыя аўтары не крочаць шырокай дарогай народных клопатаў і перамог, а топчуцца на сцежках мяшчан і абознікаў. Маякоўскі адмятаў такіх ад сябе магутным жэстам цвёрдай рукі. Ён усе свае задумы і знаходкі, поспехі і няўдачы звязваў з народам, ён сказаў цвёрда і рашуча:

Я
всю свою
звонкую силу поэта
тебе отдаю,
атакующий класс.

Мерацы усе свае справы па справах атакуючага класа — закон Маякоўскага. І наш закон.

Я люблю Маякоўскага за яго прамату. Я ведаю, хто ў яго сябры, хто ворагі, я ведаю, дзе ён «волком бы выгрыз» розную брыду, а дзе ад шчасця «разулыбил» бы твар. Я ўсюды бачу ясную грамадзянскую пазіцыю паэта. Я знаю, які ён на трыбуне і які дома, я знаю, калі ён не можа прамаўчаць і калі проста ціха ўсміхнецца. Гэта, безумоўна, зусім не значыць, што ўсё ў Маякоўскага загадзя вядома. Не, у кожным сваім вершы ён новы нейкай сваёй гранню, нейкай сваёй думкай. Але ўсюды ён непрымірымы вораг усялякай коснасці і руціны, мярцвячыны і «мраморной слизи» і адданы пясняр «всяческой жизни», пясняр рэвалюцыі, пясняр краіны Саветаў.

Сёння ўсе пакаленні разам ідуць пад чырвоным сцягам, поплеч будуюць светлы і сонечны будынак заўтрашняга дня. І ніколі не дзяліліся яны на нейкіх бацькоў і дзяцей. Маякоўскі з намі, яго локаць адчуваюць і героі даваенных пяцігодак, і першыя цаліннікі, і савецкія касманаўты. Ён — наш, агульны. Ён — савецкі.

Кандрат Крапіва некалі пісаў: «Некаторым перш за ўсё кідаецца ў вочы арыгінальная манера Маякоўскага. Наіўныя перайманьнікі Маякоўскага думаюць, што даволі стаць у яго позу, каб іх паэзія таксама загрымела на ўвесь свет. Пры лёгкаважкасці зместу іх твораў такія паэты часта становяцца падобнымі да «асілкаў», якія падымаюць папяровыя гіры. Гэтым яны даводзяць як не трэба лепш, што не манера Маякоўскага з'яўляецца першапрычынай яго велічы».

Гэта вельмі дакладная характарыстыка і тых фармалістаў, што спрабавалі раздуць «тэорыю» супярэчнасцей паміж нашымі пакаленнямі. Гэта вельмі трапныя словы аб «навацыях», якія не маюць нічога агульнага са светлым імем Маякоўскага. Між іншым, сам паэт так ацэньваў вершы: «Сацыяльны заказ ёсць? Ёсць. 2 адзінкі. Мэтавая ўстаноўка. 2 адзінкі. Зарыфмавана? Яшчэ адзінка. Алітэрацыі? Яшчэ паўадзінкі. Ды за рытм адзінка...» «Модныя» ж паэты чамусьці чыталі ўсё гэта (калі чыталі!) з канца і на рыфмах спыняліся. У іх былі алітэрацыі, быў гнуткі рытм і нечаканыя рыфмы, але адсутнічалі і «сацыяльны заказ» і «мэтавая ўстаноўка». Чаму ж маўчалі гэтыя «паслядоўнікі» Маякоўскага аб тым, як ацэньваў іх творы вялікі паэт? Арыфметыка ж тут вельмі простая...

Вось як здорава, аказваецца, можа ўдзельнічаць Маякоўскі ў самых надзённых літаратурных спрэчках, «как живой с живыми говоря».

Калі ў Маскве на сустрэчах кіраўнікоў партыі і ўрада з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі ішла гаворка пра нашу літаратуру, пра наша мастацтва, калі пасля мы ўсе горача абмяркоўвалі вынікі гэтых сустрэч, як часта ўспаміналі імя Маякоўскага! Як часта ён браў слова, як часта яго слова было такое сучаснае і неабходнае! Ды яно і не магло быць інакшым, бо гэта словы паэта, які заўсёды гаварыў: «Я себя под Лениным чищу, чтобы плыть в революцию дальше...»

Лірык і трыбун, пяшчотны і з'едлівы, задумны і гнеўны, ён стаіць сёння поплеч з намі, наш Уладзімір Маякоўскі.

**Генадзь БУРАЎКІН.**



Уладзімір ЮРЭВІЧ

# ЖЫЦЦЁВАЯ АСНОВА

Сярэдзіну XX стагоддзя гісторыкі назавуць эпохай вялікага змагання за камунізм. Людзі, якімі рухае рэвалюцыйная энергія пераўтваральнікаў свету, спыняюць імклівы бег асілка Енісея, каб яшчэ ярчэй свяціла над краінай электрычнае сонца Ільіча, узнімаюць спрадвечныя аблогі, каб каласіліся яны залацістай пшаніцай, пасылаюць у нязведаныя прасторы сусвету касмічныя караблі, каб разгадаць таямніцы іншых планет... Мы радуемся плёну небывалага яшчэ працоўнага подзвігу мільёнаў свабодных будаўнікоў свайго шчасця.

У вялікую эпоху нараджаецца вялікае мастацтва, мастацтва народа, які будуе камунізм. Яно з'яўляецца не толькі сродкам задавальнення эстэтычных патрэб чалавека, але перш за ўсё сродкам сцверджання ў жыцці перадавых ідэй часу, ідэй марксізма-ленінізма, сродкам камуністычнага выхавання мас. З кожным днём усё шырэй, усё далей, усё глыбей пранікае ў народ сацыялістычная рэвалюцыя, пачатая залпамі «Аўроры» ў 1917 годзе.

Літаратура, якая сцвярджае ўласцівымі ёй мастацкімі спосабамі і сродкамі тое новае, што ўзнікае ў грамадстве і расце, тое камуністычнае, што складае змест нашага жыцця і яго развіцці, у яго руху наперад, мае сваю жыццёвую аснову — метад сацыялістычнага рэалізму.

Не сёння ўзнікла гэтая аснова і не сёння афармілася яна ў творчы метад нашай літаратуры. З таго часу, як на парадак дня ў Расіі было пастаўлена пытанне пра барацьбу за сацыялістычную рэвалюцыю, узнікла і імкненне дэмакратычна настроеных мастакоў слова яшчэ бліжэй стаць да народа, што пачынаў бунтаваць супраць улады капіталу, вызначылася тэндэнцыя насычэння рэалістычнай літаратуры пралетарскай, камуністычнай ідэйнасцю. І калі сёння заходзіць гаворка пра сацыялістычны рэалізм як творчы метад літаратуры, народжаны вялікім Кастрычнікам, мы прыгадваем тыя вехі, што вызначылі шлях яе да мільённых мас чытачоў. Гэтыя вехі — «Маці» М. Горкага, «Ціхі Дон» і «Узнятая цаліна» М. Шолахава, «Блуканне па пакутах» А. Талстога, «Жалезны паток» А. Серафімовіча, «Як гартавалася сталь» М. Астроўскага, «Разгром» А. Фадзеева,

баявая паэзія У. Маякоўскага і Янкі Купалы, палеская трылогія Якуба Коласа ды шмат іншых твораў многанацыянальнай савецкай літаратуры.

Чым адметны гэтыя творы? Праўдзівым, гістарычна-канкрэтным адлюстраваннем рэчаіснасці ў яе рэвалюцыйным развіцці, паказам жыцця праз прызму камуністычнай ідэйнасці, з пазіцый шчырага служэння свайму народу.

* * *

Народнасць — катэгорыя канкрэтна-гістарычная, бо яна нясе адбітак часу, пэўнай эпохі. Сацыяльныя фактары ўплываюць на народныя ідэалы, адлюстраваныя ў літаратуры. І народным мы называем той твор, у якім грамадскі і эстэтычны ідэал адпавядае самым прагрэсіўным імкненням часу. Той мастак, які жыве клопатамі, трывогамі, спадзяваннямі свайго народа, заўсёды будзе аставацца на пазіцыях народнасці. Яшчэ В. Бялінскі лічыў народным такое мастацтва, якое садзейнічае прагрэсу грамадства, яго паступальнаму руху наперад.

«Новая зямля» Якуба Коласа — народны твор, бо ў ім адлюстравана імкненне селяніна-працаўніка да зямлі і волі, якое рэалізавалася Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Гэтае імкненне паказана паэтам апасродкавана праз пошукі зямлі. Якуб Колас здолеў у гэтым творы апаэтызаваць працоўнае сялянства напярэдадні здзяйснення яго запаветнай мары, здолеў стварыць сацыяльны тып селяніна-працаўніка. У «Новай зямлі» матэрыялізавана памяць беларускага народа пра сваю працу, барацьбу, мары і імкненні, матэрыялізавана сродкамі, зразумелымі і даступнымі народу. Якуб Колас правільна разумеў глыбінныя працэсы народнага жыцця і таму здолеў з высокай мастацкай дасканаласцю адлюстраваць вялікае і малое, усталяваўшы тым самым за сабой права называцца пісьменнікам-рэалістам.

Ідэйнасць мастацкага твора выяўляецца не ў дэкларацыях, а ў самім спосабе раскрыцця жыцця і вытлумачэння яго, чаго, на вялікі жаль, доўгі час не заўважала вульгарызатарская крытыка, што нападала на «Новую зямлю» за нібыта ідэалізацыю ўлады зямлі і «сытага» жыцця на ёй. Якуб Колас у гэтым творы паказаў абуджэнне класавай свядомасці працаўніка зямлі і ўвачавідкі даказаў, што савецкай літаратуры не чужыя рэалістычныя традыцыі класічнай паэзіі. Колас не пераймаў старажытны эпічны стыль, а звярнуўся да невычэрпных скарбаў сучаснай мовы і ў ёй самой адшукаў тыя вобразныя сродкі, якія памаглі стварыць шырокую карціну народнага жыцця. Спакойная апавядальная плынь, адсутнасць мудрагелістых рыфмаў, угрунтаваныя на маляўнічасці народнай мовы метафары, эпітэты, параўнанні як нельга лепш спрыялі задуме пісьменніка стварыць мастацкую энцыклапедыю жыцця беларускага сялянства ў дарэвалюцыйны час.

Высокае майстэрства Якуба Коласа, якое ў выключнай гармоніі зместу і формы, ва ўмельстве пераплавіць прозу жыцця ў паэтычныя малюнкі, было пераканаўчым адказам тым штукарам, што ў 20-я гады ганяліся навыперадкі ў пошуках аголенай формы. У «Новай зямлі», якая была завершана на пачатку 20-х гадоў, калі савецкая грамадскасць вяла жорсткую барацьбу з фармалістычнымі тэндэнцыямі ў літаратуры, Якуб Колас, акрылёны ідэямі сацыялістычнага пераўтварэння жыцця, даў рэалістычнае мастацкае ўзнаўленне рэчаіснасці, заклаўшы тым самым трывалую цагліну ў падмурак метаду сацыялістычнага рэалізму.

Выхаду Якуба Коласа, Янкі Купалы, Цішкі Гартнага на шлях сацыялістычнага рэалізму садзейнічаў сапраўды дэмакратычны, народны характар іх творчасці ў дарэвалюцыйныя гады. А сацыялістычная рэвалюцыя, наблізіўшы мастацтва да народа і народ да мастацтва, адкрыўшы найшырэйшы прастор для росквіту народных талентаў, памагла найбольш поўнаму вырашэнню праблемы народнасці мастацтва. «Мастацтва належыць народу, — пісаў У. І. Ленін. — Яно павінна ўваходзіць сваімі найглыбейшымі карэннямі ў самую тоўшчу шырокіх працоўных мас. Яно павінна быць зразумела гэтым масам і любіма імі. Яно павінна аб'ядноўваць пачуцці, думкі і волю гэтых мас, узнімаць іх. Яно павінна абуджаць у іх мастакоў і развіваць іх».



Янка Купала і Якуб Колас, чый жыццёвы лёс, чые думы і спадзяванні найшчыльней перакрыжоўваліся з лёсам, думамі і спадзяваннямі народа, сваёй творчай практыкай паказвалі, што іх мастацтва слова зразумела працоўным масам. З першых дзён рэвалюцыі гэтыя два волаты беларускай літаратуры ўмацоўвалі яе жыццёвыя асновы — народнасць і партыйнасць.

Варта прыгадаць такія творы, як верш «Арлянятам» і паэму «Безназоўнае» Я. Купалы ці аповесць «На прасторах жыцця» і палескую трылогію Я. Коласа, каб прыйсці да высновы, што беларуская літаратура ўжо ў першыя паслярэвалюцыйныя гады ўпэўнена станавілася на шлях сапраўды наватарскіх пошукаў зместу і формы. Не ў фармалістычных выкрутасах было наватарства для Я. Коласа, а ў «тым, што пісьменнік гаворыць аб новым, перадавым, якое ён убачыў і асэнсаваў у падзеях свайго часу, і гаворыць у адзіна магчымых формах, так, як вымагае гэтае новае».

Паэма «Безназоўнае» была наватарская перш за ўсё сваім зместам, а імкненне паэтызаваць народны характар здзейсненай сацыялістычнай рэвалюцыі выклікала стыхію нацыянальных сродкаў выяўлення рэалістычнага зместу. Узнік як бы новы мастацкі сплаў — рэалізм, які ўключаў у сябе рэвалюцыйную рамантыку. Арганічнае спалучэнне дасканалай, угрунтаванай на народнай аснове, паэтыкі з рэвалюцыйнай ідэйнасцю, якога дасягнуў Я. Купала ў паэме «Безназоўнае», пацвярджала тую неаспрэчную ісціну, што паэт прадаўжаў заставацца на пазіцыях сапраўднай народнасці. І больш таго, ён узнімаўся на новую ступень разумення яе.

Колькі б ні распіналіся праціўнікі сацыялістычнага рэалізму аб тым, што партыйнасць нібы скоўвае творчую індывідуальнасць мастака, жывая практыка таго ж Я. Купалы сведчыць пра адваротнае. Партыйнасць памагла нашаму народнаму песняру выразна ўбачыць важнейшыя з'явы жыцця сацыялістычнай Беларусі, адчуць асноўныя тэндэнцыі яе развіцця ў дружнай сям'і савецкіх народаў. І вынік — напоўненая высокім грамадскім гучаннем паэзія, створаная ў савецкія гады.

Кнігу паэзіі «Безназоўнае» Я. Колас разглядаў «як мост, па якім Купала пераходзіць ад старой эпохі да новай». Гэткім жа мостам ад дэмакратычнай літаратуры дарэвалюцыйнага часу ў новую літаратуру, народжаную Кастрычнікам, варта лічыць «Новую зямлю» Я. Коласа і «Сокі цаліны» Ц. Гартнага. У гэтых творах яскрава відаць пераемнасць і жывучасць лепшых традыцый мінулага, на якіх заснуваўся новы творчы метад — метад сацыялістычнага рэалізму.

Народу, які будаваў новы лад, азораны ідэямі сацыялістычнай рэвалюцыі, патрэбна было рэалістычнае мастацтва вялікага рэвалюцыйнага пафасу, што нараджала б высокія грамадзянскія пачуцці і гатоўнасць змагацца за шчасце людзей. Такое мастацтва стваралі ў першыя гады савецкай улады М. Горкі і А. Серафімовіч, Д. Бедны і У. Маякоўскі, М. Шолахаў і А. Талстой, М. Астроўскі і А. Фадзееў, Я. Купала і Я. Колас, Ц. Гартны і М. Чарот, К. Крапіва і З. Бядуля, К. Чорны і М. Лынькоў... Станавіліся явай словы У. І. Леніна, сказаныя яшчэ ў гады першай рускай рэвалюцыі, нараджалася сапраўды «свабодная літаратура, якая аплодніла апошняе слова рэвалюцыйнай думкі чалавецтва вопытам і жывой работай сацыялістычнага пралетарыяту». Партыйным станавіўся кожны мастак, які ўсім сэрцам служыў агульнанароднай справе, духоўна ўзбройваў савецкіх людзей у іх стваральнай працы.

* * *

Калі мы гаворым пра партыйнасць літаратуры, то павінны мець на ўвазе арганічную сувязь літаратуры з важнейшымі падзеямі жыцця, з барацьбой народа за свае ідэалы.

Прыгадаем светлы, поўны рэвалюцыйнага пафасу верш Я. Купалы «Арлянятам». Ён узнік як неадхільная патрэба паэта ўславіць «здабытую свабоду», нараджэнне новага чалавека, якому наканавана раскрываць для

новых вякоў «нечувалыя ясноты». Усім сэрцам прымае Я. Купала гераічную сучаснасць, народжаную энергіяй працоўных мас, абуджаных рэвалюцыяй да вялікіх здзяйсненняў. У адной з прамоў народны пясняр гаварыў: «Жыццё наша такое бадзёрае, вясёлае, што песні самі на вусны просяцца. Далі такія ў нас ясныя і прыгожыя, людзі такія ў нас, што сапраўды кожны з іх можа стаць героем у любы час, у любы міг, справы такія ў нас пайшлі, што ў кожным куточку Саюза Саветаў, у любым калгасе, на любым заводзе можна заваяваць сабе сусветную славу. Ну, як пры такіх справах, пры такіх людзях, пры такіх перспектывах не захапіцца паэту новай бадзёрай песняй, не запець яе разам з усім родным працоўным калектывам».

Толькі пісьменнікі, якія лічаць працоўны калектыў родным, і могуць ствараць песні, поўныя рэвалюцыйнага пафасу, нараджаць герояў актыўнага дзеяння. Рэвалюцыя абудзіла ў моладзі імкненне ісці новымі сцежкамі і светаадчуванне гэтай моладзі не магла не адлюстраваць літаратура. Такім люстэркам з'явілася аповесць Я. Коласа «На прасторах жыцця», дзе ў вобразе Сцёпкі Баруты, гатовага стаяць за вялікую праўду рэвалюцыі, паказана крылатае савецкае юнацтва, няўрымслівае ў сваіх смелых парывах насустрач сонечнай будучыні.

Марксісцка-ленінскі светапогляд, які выпрацоўваў малады Колас пад уплывам падзей, звязаных з умацаваннем сацыялістычнай рэвалюцыі, рабіў пісьменніка ідэйна чулым. Я. Колас здолеў сярод мноства вялікіх фактаў вылучыць галоўныя заканамернасці і тэндэнцыі грамадскага развіцця, глыбока зазірнуць у псіхалогію маладога пакалення будаўнікоў новага ладу, каб па-майстэрску ўвасобіць усё гэта ў аповесці «На прасторах жыцця».

Да якога б перыяду ў гісторыі беларускай савецкай літаратуры мы ні звярнуліся, адразу адчуем подых напружанай барацьбы народа за перамогу справы рэвалюцыі. Нават у гады культу асобы Сталіна развіццё рэалістычнага мастацтва не спынялася ні на адзін дзень, хоць пэўным чынам прытарможвалася. Можна было б зрабіць доўгі пералік узнікшых у тыя гады кніг не толькі адкрыта пафасных, але і суровых, каштоўнасць якіх не зменшылася і сёння.

Як добрыя спадарожнікі цяжкага ўзыходжання нашага народа да вяршынь сацыялізма жывуць сёння ляўкоўскі цыкл вершаў Я. Купалы і «Дрыгва» Я. Коласа, «Вязьмо» М. Зарэцкага і «Спалох на загонах» П. Галавача, «Беларусь лапцюжная» М. Чарота і «Дзесяты падмурак» П. Труса, «Андрэй Лятун» М. Лынькова і «Трэцяе пакаленне» К. Чорнага, лірыка У. Дубоўкі і А. Александровіча, «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка і «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, «Праз горы і стэп» П. Броўкі і «Над Бярозай-ракой» П. Глебкі...

Калі перачытваеш гэтыя і многія неўспамінаныя тут творы, яскрава бачна ўвасобленыя ў іх вялікая праўда жыцця, праўда перамогі сіл сацыялізма над тымі, хто спрабаваў спыніць будаўніцтва новых узаемаадносін між людзьмі. Пафасам вялікай стваральнай дзейнасці савецкага народа поўняцца старонкі лепшых кніг даваеннага часу, бо яны пісаліся мастакамі, якія цвёрда стаялі на пазіцыях ленінскай партыйнасці і не маглі не бачыць, як у імя вялікай мэты самааддана працавалі людзі. У сацыялістычным грамадстве сфарміраваўся новы тып пісьменніка — непахіснага, актыўнага барацьбіта за справу рэвалюцыі і яе камуністычныя ідэалы. Гэта — творца з марксісцка-ленінскім светапоглядам, тым унутраным сонцам, якое асвятляе кожны твор.

Светапогляд і творчасць непарыўныя, бо светапогляд ахоплівае ўсе пытанні жыцця і вымагае ад пісьменніка ўмення разумець і адчуваць рэчаіснасць, каб найбольш поўна яе пазнаць і праўдзівей узнавіць у творы. Светапоглядам вызначаецца ёмістасць таленту, яго рухомасць, перспектыўнасць. Талент мастака — гэта ўменне бачыць шырока і верна, а яно залежыць самым непасрэдным чынам ад светапогляду. Без такога ўмення не можа быць праўдзівага адлюстравання жыцця ў мастацкім творы.

Цяжкую часіну перажывала наша краіна ўвесну 1942 года — здратаваныя ботам фашысцкіх акупантаў ляжалі некранутыя плугам аратага землі Беларусі, Украіны, Прыбалтыкі... Вораг пасля разгрому пад Масквой рыхтаваў новае наступленне на поўдзень краіны. З раніцы да вечара ішлі праз Беларусь на фронт цяжканагружаныя варожыя эшалоны. Народныя мсціўцы збіраліся ў лясах, наладжвалі засады супраць фашысцкіх прыблуд, якія рабілі свае бясчынствы ў беларускіх гарадах і вёсках. Спакутаванае ў жудасных умовах акупацыі насельніцтва вывозілі гітлераўцы ў палон, на здзек і смерць... Сумна было на душы ў тых, хто заставаўся на акупіраванай зямлі і глядзеў, як дзірванее яна горкім палынам і дзядоўнікам. Прасцей за ўсё было пайсці за фактамі жыцця і падмацаваць гэты сум элегічнымі настроямі ў паэзіі.

Але сэрца камуніста П. Броўкі настройваецца на іншы лад, падказаны прадчуваннем немінучай перамогі савецкага народа над цёмнымі сіламі фашызму. І паэт звяртаецца да сваіх братоў з аптымістычным заклікамвершам:

Хутка вызваляцца гоні
З-пад уціску, ад прымусу,
Будзем сеяць, беларусы,
На ўсход сонца чыстым зернем!

Радыёстанцыя «Савецкая Беларусь» з ранку да вечара пасылала ў эфір гэты поўны веры ў прыход народнага шчасця заклік паэта-патрыёта. Вынашаную, выпакутаваную народам мару паэт узняў да ўзроўню вялікай праўды мастацтва.

Перамога ленінскіх прынцыпаў народнасці і партыйнасці літаратуры пацвярджаецца лепшымі яе здабыткамі пасляваенных год, творчай і грамадскай практыкай пісьменнікаў усіх пакаленняў.

Вайна і мір — вось, бадай, галоўная тэма, над увасабленнем якой працавалі, кожны па сіле свайго таленту, паэты, празаікі, драматургі. Настроі, справы людзей, якія пасля здабытай перамогі над ворагам ладзілі мірнае жыццё, адбудоўвалі разбуранае і будавалі новае, — вось што вызначала змест вершаў не толькі тых, хто ўступіў у вайну сталым мастаком, але і тых, для каго вайна была толькі пачаткам сталасці — А. Вялюгіна і К. Кірэенкі, В. Віткі і А. Русецкага, М. Аўрамчыка і М. Калачынскага... Біяграфію свайго сучасніка прадаўжаюць пісаць К. Крапіва і М. Лынькоў, П. Броўка і П. Глебка, М. Танк і П. Панчанка, М. Лужанін і А. Астрэйка...

Вершы М. Танка — гэта мастацкае адкрыццё чагосьці новага ў жыцці, піша ён пра родную яму Нарачаншчыну ці пра тыя краіны, дзе яму давялося пабываць упершыню. І адкрыццё гэтае заўсёды робіцца з пазіцый народнасці, вокам і сэрцам паэта-камуніста, для якога партыйная акрэсленасць аўтарскай пазіцыі — непахісны прынцып творчасці. «Каб ведалі», «След бліскавіцы», «Мой хлеб надзённы» — кнігі паэзіі, у якіх яскрава відаць, як савецкая рэчаіснасць узняла мастацкую творчасць паэта на новую ступень майстэрства. Вачыма савецкага патрыёта глядзіць М. Танк на непрымірымую спрэчку працы і капітала ў краінах імперыялістычнага Захаду. Ён не можа быць спакойны і ўзнімае голас пратэсту супраць здзеку над годнасцю чалавека.

Адзін з лепшых вершаў — «Ave Maria» — гэта не інфармацыя-замалёўка пра тое, як сходзяцца манашкі на звон кафедральны, а крык душы паэта-гуманіста, звернуты да самай маладой, самай прыгожай дзяўчыны, што стала ахвярай рэлігійнага фанатызму:

Цябе атрутай апаілі,
Ружанцам рукі табе скруцілі —
Смялей парві ты яго, не бойся!
У полі недзе шуміць калоссе...
О, як бы жалі рукі такія —
Ave Maria!

Не, так не скажа раўнадушны сузіральнік. Гэта магло вырвацца толькі з грудзей змагара за вялікае права чалавека быць вольным працаўніком на зямлі.

Сваё паэтычнае крэда М. Танк выказваў не аднойчы. З новай сілай гучыць яно і ў «Трактаце аб паэзіі»:

Для мяне камунізм —
Не ікона,

А праўда жыцця, без якой
Я не даражыў бы сягоння
Зямлёй.

І калі, чытаючы вершы М. Танка, мы бачым стваральную працу свайго народа, адчуваем дапытлівую думку савецкага працаўніка, яго трывогу за лёс усяго чалавецтва, сама сабой прыходзіць выснова: паэт на галоўнай дарозе развіцця савецкай літаратуры — ён заўсёды з народам і піша для народа.

Поўнае шчырага пафасу, праўдзівае ўслаўленне сацыялістычнай явы нашых дзён, партыйная непрымірымасць да ўсяго, што яшчэ замінае савецкаму чалавеку на яго торным шляху ў камуністычную будучыню, — вось што складае галоўны змест творчасці Пімена Панчанкі, паэта выразна публіцыстычнага таленту. У сваёй «Патрыятычнай песні» — паэме высокага паэтычнага напалу — П. Панчанка здолеў выказаць свае партыйныя адносіны да шырокага кола жыццёва важных праблем, якія хвалююць нашага сучасніка. Гэта паэма — палымяны гімн савецкаму патрыятызму, інтэрнацыянальнаму братэрству працоўных усяго свету, сацыялістычнаму гуманізму.

Беларуская паэзія ў няспынным росце пад уплывам метаду сацыялістычнага рэалізму, які дазваляе выяўляць індывідуальныя творчыя манеры, прызнае пераемнасць лепшых традыцый мінулага і пошукі новага зместу, новых форм. Прысуджэнне ў 1962 годзе кнізе П. Броўкі «А дні ідуць...» Ленінскай прэміі з'яўляецца сведчаннем сталасці і новага ўздыму беларускай паэзіі, якой

Не знаць прыпынку анідзе
Ні днём, ні ноччу цёмнай,
Быць, як асілку між людзей,
Магутнай і нястомнай.

Імкнуцца праўду расказаць
Заўсёды сэрцам чыстым,
Каб, як дзіцячая сляза,
Быць шчырай і празрыстай.

Актыўным зваротам да надзённага жыццёвага матэрыялу, да вострых праблем сучаснасці адзначана і развіццё прозы ў пасляваенныя гады. Варта прыгадаць аповесці Я. Брыля «У Забалоцці днее» і «На Быстранцы», «Вяснянку» Т. Хадкевіча і «Святло над Ліпскам» М. Паслядовіча, «У добры час» і «Крыніцы» І. Шамякіна, «Нявестку» і «Я тут жыву» А. Кулакоўскага, «Калі зліваюцца рэкі» П. Броўкі і «За годам год» У. Карпава, «Серадзібор» П. Пестрака і «Паплавы» А. Асіпенкі ды многія іншыя творы, каб сцвердзіць, што і проза беларуская цвёрда стаіць на пазіцыях служэння народу. Сюды варта было б дадаць не адзін дзесятак добрых апавяданняў і баявых нарысаў. Ды не ў пераліку справа, а ў тым, што з кожным годам, асабліва пасля XX з'езда КПСС, расце майстэрства празаікаў, іх уменне эстэтычна ўзнімаць і асвойваць новыя пласты жыцця.

Возьмем для прыкладу новыя апавяданні Янкі Брыля, аб'яднаныя ў цыкле «Пад гоман вогнішча». Светлынёй нашых дзён поўняцца яны. Радасцю адкрыцця новых мясцін, новых людзей, гордасцю за справы сціплых савецкіх працаўнікоў, за іх бяскрайнія песні ахоплена сэрца апавядальніка, і гэтая радасць, гэтая гордасць неяк непрыкметна, сама сабой перадаецца чытачу.

Паэтычная прыўзнятасць кожнага апавядання не замінае Я. Брылю, калі трэба, успомніць і суровыя дні ваеннага ліхалецця, і паспачуваць цяжкай працы дзяўчат-даярак, і кінуць папрок тым, хто не надта яшчэ чулы да радавога працаўніка. Тут складанае перапляценне непасрэдных назіранняў і разважанняў пра ўбачанае, уласнага, выпакутаванага вопыту і вопыту ранейшых пакаленняў, тут і светлы роздум пра будучыню чалавека.

З пазіцый сённяшняга дня даследуюць пісьменнікі духоўныя вытокі рэвалюцыйнага запалу і гераізму працоўнага чалавека, які змагаўся за



сваё цудоўнае сёння і яшчэ больш прыгожае заўтра. Як мастацкі помнік слаўным змагарам за ўз'яднанне Беларусі ў адзінай савецкай дзяржаве ўзвышаецца на ніве беларускай літаратуры раман «Сустрэнемся на барыкадах», напісаны ўсхваляванай душой пісьменніка-рэвалюцыянера П. Пестрака. Велічным манументам паўстае і раман І. Мележа «Людзі на балоце» пра незабыўныя гады станаўлення ўлады Саветаў на Палессі. А побач — мастацкія летапісы пра неўміручасць подзвігаў савецкага чалавека, што з небывалай у гісторыі мужнасцю і адвагай адстойваў на фронце, у партызанскім атрадзе ці проста ў варожым тыле вялікія заваёвы Кастрычніка: тэтралогія І. Шамякіна «Трывожнае шчасце», аповесці В. Быкава «Жураўліны крык» і «Трэцяя ракета», дылогія А. Кулакоўскага «Расстаёмся ненадоўга» і «Сустрэчы на ростанях», раманы А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі» і І. Навуменкі «Сасна пры дарозе»...

У гэтых творах заўважаецца перш за ўсё глыбейшая зацікаўленасць да маральнага аблічча чалавека-змагара, да рэальнай праўды яго перажыванняў на вайне. Гэтымі творамі пацвярджаецца жыццёвасць аднаго з першых патрабаванняў сацыялістычнага рэалізму — гістарычнай канкрэтнасці. Яна прысутнічала і ў ранейшых творах аб вайне, але зводзілася часта да дакладнага ўзнаўлення падзей, да захаплення шырокімі панарамамі бітваў.

Ніхто не мае на мэце адмаўляць тыя лепшыя здабыткі беларускай прозы аб Вялікай Айчыннай вайне, дзе галоўным клопатам пісьменніка была шырыня ахопу падзей і іх удзельнікаў, паказ вынікаў перамогі («Сцяг брыгады» А. Куляшова, «Глыбокая плынь» І. Шамякіна, «Мінскі напрамак» І. Мележа, «Векапомныя дні» М. Лынькова). Але ж ці варта іранізаваць над тымі плённымі захадамі, што ўжываюцца ў апошнія гады, каб паказаць вайну і ў акопе, каб раскрыць і шляхі, якімі заваёўвалася перамога, каб заглыбіцца ў характары тых, хто здабываў яе. Веліч перамогі не меншае ад таго, што ў творах апошняга часу аб вайне больш поўна раскрываецца цана перамогі.

Метад сацыялістычнага рэалізму дае шырокі прастор пісьменніку для выбару сваёй тэмы, сваіх герояў, свайго пункту гледжання на рэчаіснасць. Не варта ідэалізаваць толькі шматпланавы паказ людзей і падзей вайны, як не трэба кананізаваць і паказ звычайнага, будзённага жыцця радавога працаўніка вайны. Самая суровая рэчаіснасць ваенных год пацвердзіла тую бясспрэчную ісціну, што існуе шмат розных становішчаў, бакоў, граней быцця чалавека і адпаведна ім могуць быць ужыты розныя словы — простыя, звычайныя, або высокія, палымяныя.

У выдатнага ўкраінскага пісьменніка і рэжысёра А. Даўжэнкі, напрыклад, гераічны пафас спалучаецца з тонкім лірызмам, шырокая маштабнасць — з самымі дэталёвымі падрабязнасцямі. Прыгадаем яго «Аповесць палымяных год». Яна дае падставу сцвярджаць: А. Даўжэнка не горш за іншых ведаў, што ў жыцці побач з перадавым, станоўчым ёсць і адсталае, адмоўнае. Але ён сваім пранікнёным позіркам мастака бачыў і тое, што само разуменне «простага чалавека», «звычайнасці» мяняецца з часам. Ён верыў у добрыя, моцныя асновы народнай душы, у харастао народнага сэрца, у шырокія перспектывы духоўнага развіцця чалавека сацыялістычнага грамадства.

А ці не той жа верай у бязмежныя магчымасці чалавека, які спазнаў харастао сацыялістычнага ладу, быў ахоплен і наш К. Чорны, які пісаў свае творы ў імя светлай будучыні чалавека. Ён узнімаўся да шырокага гістарызму ў паказе жыцця і без яго не ўяўляў сабе савецкай літаратуры.

«Аўтар лічыць за правільны метад даваць вытокі творчаму вобразу з гістарычнай рэальнасці і толькі на гэтай рэальнасці развіваць рэальную філасофію. Тады і сацыялістычныя ідэі будуць па-мастацку рэалізавацца ў нацыянальных формах натуральна, а не штучна. Гэта ёсць адзнака сацыялістычнага рэалізму».

Яшчэ М. Горкі гаварыў пра мастацкае сцверджанне простага чалавека, як пра адну з асноўных традыцый савецкай літаратуры. Было б няправільна разумець гэтую традыцыю як ўвасабленне жыццёвай праўды

толькі аднабаковым падкрэсліваннем звычайнасці героя. Трэба ўлічваць, што сённяшняя «звычайнасць» — гэта духоўнае багацце, змястоўнасць і значнасць асобы будаўніка новага грамадства. І нашай літаратуры чужая псеўдагуманістычная канцэпцыя пра нікчэмнасць і асуджанасць людзей. Сёння наш, савецкі звычайны чалавек робіць гераічныя ўчынкі. Для паказу такога чалавека патрэбна багатая палітра мастацкіх, інтэлектуальных і эмацыянальных фарбаў.

Беларуская проза, як і ўся літаратура ў цэлым, за апошні час зрабіла пэўныя крокі наперад у мастацкім асваенні вобраза нашага сучасніка. Асобным спробам звесці маральна-этычную праблематыку толькі да сферы сям'і і быту супрацьстаіць галоўны кірунак: шматбаковы і цэльны паказ сучасніка ў асноўным для яго занятку — працы, у адносінах да калектыву, грамадства. Усхваляваны пісьменніцкі роздум пра жыццё, увасоблены ў жывых чалавечых вобразах, у хвалюючых сюжэтах, у цікава пастаўленых праблемах, узмацненне даследчага характару асваення жыццёвага матэрыялу ў працівагу нуднай ілюстрацыйнасці — усё гэта якасці, якія пакуль яшчэ ўласцівы не ўсім кнігам, але становяцца вызначальнымі для літаратуры нашых дзён.

* * *

Многанацыянальная савецкая літаратура, у тым ліку і адзін з яе перадавых атрадаў — літаратура беларуская, сёння дасягнулі такой ступені развіцця, калі пералік нават імён, не тое што здабыткаў, становіцца проста немагчымы. Асноўную масу сярод гэтых здабыткаў складаюць творы жыццесцвярджальныя, аптымістычныя. Новы творчы ўздым, які перажывае савецкая літаратура пасля XX з'езда КПСС, прынёс бы куды большы плён, калі б не забыццё некаторымі пісьменнікамі, асабліва маладымі, таго, што «яны — апора партыі, яе верныя салдаты» (М. С. Хрушчоў).

Захапленне аднымі інтымнымі бакамі жыцця герояў, няўвага да грамадзянскага пафасу нашай рэчаіснасці прывялі да паказу ўзбуйненым планам з'яў малазначных, прыватных, да захаплення формай, арыгінальнічання, што пацягнула за сабой убоства зместу, аднастайнасць тыпізацыі, падмену мастацкай праўды праўдай асобнага факта. У беларускай літаратуры гэтыя непажаданыя з'явы найбольш далі сябе адчуць у жанры апавядання, верша, аповесці.

Вобразнасць не можа быць нейтральнай. Параўнанне, метафара толькі тады будуць выконваць сваю функцыю найбольш яркага выражэння зместу, калі за імі адчуваецца глыбіня думкі і вялікі эмацыянальны зарад. Аўтарская суб'ектыўная ацэнка якой-небудзь з'явы параўнаннем ці метафарычным вобразам заўсёды павінна нібы «перакрывацца» рэальнасцю жыццёвых сувязей, праўдай выражэння ўнутранага зместу вобраза ў яго знешніх рысах. Але ж, на вялікі жаль, не заўсёды так бывае у некаторых, асабліва ў маладых, паэтаў, якія за прывабнасцю формы не заўважаюць, як пачынае драбніцца змест, а рэальнасць жыцця адсоўваецца на задні план. Тады — «у вачах ураз зарабацініць ад рабой рабіны» (у Р. Барадуліна), «можа сёння твая рука выдаіць смяротную кроплю малака» (у А. Наўроцкага), «...я тут і там, за нейкай тоўшчай нібы раздвоены хаджу» (у В. Макарэвіча). Так няясныя думкі нараджаюць невыразныя вобразы.

Вакол ідзе вялікая праца па стварэнню прыгожага, нараджаецца зусім новы чалавек з камуністычнымі адносінамі да працы, з камуністычнымі паводзінамі ў сям'і, у грамадстве. Як хораша перадае подых сённяшняга часу маладая паэтэса Святлана Марчанка ў вершы «Крокі». Сваім грамадзянскім слыхам яна сярод усёй мнагастайнасці чалавечай паходкі ўлоўлівае

Крокі смелыя,
Крокі мужныя,
Крокі дбайныя,
Крокі дружныя,
Крокі наперад!



Раскрыць ярка і пераканаўча вялікую праўду камунізма, якая ствараецца сёння, — хіба гэта не пачэсны абавязак мастака! А між тым, кіруючыся толькі чыста інтуітыўным пазнаннем рэчаіснасці, не клапоцячыся пра адточванне свайго светапогляду, пра чысціню сваёй зброі, некаторыя пісьменнікі пачалі аддаваць перавагу паказу людзей без волі, асуджаных на пакуты, няўдачнікаў, скептыкаў, ныцікаў, разбэшчаных маральна і не здольных знайсці правільную дарогу ў жыцці. У выніку з твора ў твор пайшлі вандраваць сацыяльна інфантыльныя тыпы, надрыўна-сямейныя канфлікты, анекдатычныя, а то і парадаксальныя выпадкі, што здараюцца на ўзбочынах жыцця. Аўтары такіх твораў, як відаць, забыліся на тое, што праўда шматбаковая і бясконцая, і праўдай аднаго дня не заменіш праўду эпохі, праўдай аднаго чалавека — праўду цэлага пакалення, грамадства. Некаторыя схоплівалі толькі шэрае адценне жыцця, іншыя абмяжоўваліся тым, што рабілі мёртвы злепак з рэальнага свету, не адухоўлены глыбокім разуменнем жыццёвых сітуацый, не асветлены выразнай перспектывай развіцця грамадства.

Мастак валодае сваім уяўленнем пра жыццё, але ўяўленне гэтае павінна апірацца на ўменне бачыць дыялектычную сувязь прыватнага з агульным, заканамерным, уменне паказваць жыццё ў рэвалюцыйным развіцці. У сапраўды мастацкім творы заўсёды выразна адчуваецца аўтарская пазіцыя (у тэксце ці ў падтэксце). Пэўны кут гледжання, ясныя адносіны да той сферы жыцця, якую ён адлюстроўвае, — галоўнае ў творчасці мастака.

Апавяданне Б. Сачанкі «Новая хата» поўна матчынай радасці, а разам з ёй і радасці аўтара (а яна ж і чытачова радасць) за тое, што сын «увесь пайшоў па бацьку і крошачкі пабраў... За што ні возьмецца — зробіць...», радасці за тое, што пасля вайны адна справа ў людзей — будаваць і што ёсць каму будаваць, для каго і для чаго будавацца.

У апавяданні «Дзік-бадзяга» Б. Сачанка паказаў чалавека, які адцураўся людзей. Мы бачым, адчуваем лесніка Анісіма, які груба абышоўся з Верай і сілком прымусіў яе быць за жонку, нехаця «перавёз Веру ў леснічоўку», перавёз на здзек і пакуты. І паплаціўся за гэтыя пакуты — «яна ўцякла ў горад, уцякла не адна, а са студэнтам-практыкантам лесатэхнічнага інстытута Толікам».

Праўда, часам той пэўнасці, якую выказаў аўтар у дачыненні да Анісіма, не стае ў адносінах іншых персанажаў, скажам, студэнта Толіка. Мімаходзь абронены сказ «усё лета жыў у іх з ласкі самога ж лесніка» дае падставу думаць пра Толікаў учынак, як пра нахабны. А ён мусіў быць высакародным, бо надта ж светла, як вястун новага жыцця, з'явіўся Толік у леснічоўцы. І варта было глыбей паказаць чытачу гэтага рухавага і гаваркога чалавека, якога шчыра пакахала Вера, як раскрыўся б шырэй той вабны, поўны вірлівага жыцця свет, што існуе зусім недалёка, побач. Тады яшчэ мацней загучаў бы ўнутраны пратэст аўтара супраць Анісіма, які, асляплены прагаю нажывы, знялюдзеў.

Свае адносіны пісьменнік тут выказвае ўскосна, самой мастацкай тканінай твора. Аўтарскае ўспрыняцце свету нібы свеціцца ў гэтай тканіне, так разнастайна арганізаванай з інтанацыйнага боку. І як шкада, што ў таго ж Б. Сачанкі трапляюцца творы, ў якіх пафас барацьбы за новае прыглушаны корпаннем у дробязях жыцця, пафас высокага грамадзянскага і маральнага абавязку перад грамадствам падмяняецца сямейна-бытавой штодзённшчынай.

Напамінаючы бясконца пра неабходнасць павышэння ідэйнага кругагляду пісьменніка, мы, аднак, не маем на ўвазе рэкамендаваць нейкую суму рэцэптаў на ўсе выпадкі жыцця. Пісьменнік з такім разуменнем светапогляду нічога большага не здолее зрабіць, як толькі пасіўна зарэгістраваць убачанае, пачутае, адчутае. А. Фадзееў слушна гаварыў, што «светапогляд пісьменніка, як і кожнага чалавека, не вызначаецца толькі філасофскімі вучэннямі, да якіх ён схільны, і наогул не толькі кнігамі, якія ён прачытаў, а і ўсім вопытам яго жыцця і дзейнасці». Мала абаперціся на сваю біяграфію як чалавека. Характар дзейнасці пісьменніка вымагае ад

яго куды большага: умець зліць сваю біяграфію ў адно з жыццём і творчасцю народа.

А бывае ж, што пісьменнік абмяжоўваецца толькі кніжнай меркай жыцця, і тады ў творчай практыцы з'яўляецца гвалтоўнае перанясенне кніжных вобразаў і сітуацый у сацыяльныя ўмовы, якім яны не адпавядаюць. Такімі, неадпаведнымі часу, які падмеўся паказаць пісьменнік, выглядаюць выпісаныя да драбнюткіх дэталей, біялагічна аголеныя пакуты хворага старога ў апавяданні І. Пташнікава «Танцы». Цяжка ўявіць, як магло гэта недасканалае апавяданне з выразным налётам літаратуршчыны з'явіцца ўслед за такім, жыццём падказаным і жыццём вывераным творам таго ж пісьменніка, як «Сцяпан Жыхар са Сцешыц».

Абапіранне на адны эмоцыі, не пракантраляваныя свядомасцю, ніколі ў творчай практыцы не прыводзіць да багатага плёну. Яскравым прыкладам таго, як «псіхалагізм» пераважае над глыбокім аналізам, з'яўляецца апавяданне І. Чыгрынава «Маці».

Нейкія ледзь улоўныя акцэнты аўтарскай нянавісці да здрадніка прысутнічаюць у апавяданні (цяжкое, бы перагружанае чым, сонца; чорны сабака, што круціцца каля ног маці; паточаны чарвямі дзірван на магіле). Але як гэта ўсё невыразна, калі супастаўляеш з тымі яркімі дэталямі, з той агульнай настраёвасцю, якімі спрабуе аўтар выклікаць спагаду да маці злачынца (парэпаныя, з пакручанымі пальцамі рукі Рэйдзіхі, што «быццам намагаліся награбсці» курганок на магіле сына; хлеб з малаком, якім частуе Рэйдзіху Ганна — дачка таго самага Тарасіка, якога павесіў Рэйдзішын сын; бясконцыя слёзы Рэйдзіхі; белае воблачка ў сінім вячэрнім змроку як адпаведнасць унутранаму супакаенню Ганны).

Нясталасць погляду маладога пісьменніка на гісторыю і сучаснасць прывяла да непажаданага ідэйнага перакосу ў бок уяўнага псіхалагізму, з-за якога выглядае дробненькая філасофія ўседаравання.

Слова «гуманізм» — старое слова, але ў новых гістарычных умовах яно атрымала новы змест, абноўлены рэвалюцыяй. «У жыцці няма абсалютна добрага, пакуль на зямлі існуюць класы» (М. С. Хрушчоў). Нейкага адзінага для ўсіх літаратур «абстрактнага гуманізму» не можа існаваць, бо ў літаратуры сацыялістычнага рэалізму спагада, спачуванне чалавеку заўсёды афарбавана сацыяльна, выяўляе рэальную прыналежнасць асобы да пэўнага асяроддзя.

Прыгадаем адзін з класічных твораў савецкай літаратуры — раман А. Фадзеева «Разгром». Адметныя рысы гуманізму чалавека новай фармацыі, новага свету рэалізуюцца тут праз паказ сувязей асобы і грамадства. Выпрабаванні цяжкай барацьбы ўзмацняюць у Левінсоне пачуцці адзінства з байцамі атрада, і ён, гледзячы на рэшткі свайго атрада, востра адчувае, што гэтыя спакутаваныя людзі яму «бліжэй за ўсё астатняе, бліжэй нават за самога сябе».

Адметнай асаблівасцю сацыялістычнага гуманізму, такім чынам, з'яўляецца сцвярджанне агульнасці лёсу чалавека і лёсу народа. Трэба быць вельмі пільным, каб заглыбленне ў лёс чалавека, у яго ўнутраны свет, якое пашырылася ў нашай літаратуры пасля пераадолення вынікаў культу асобы, не абярнулася раз'яднаннем чалавека і чалавецтва, не выклікала паказу людзей «прыземленых», духоўна абмежаваных колам сваіх асабістых абавязкаў і клопатаў.

Хваравітая ўвага да вырванага з грамады чалавека прывяла ўжо да таго, што некаторыя пісьменнікі пачалі проста адварочвацца ад сапраўднага героя нашых дзён, унікаць паказу цэласных характараў. Прыгадаем хоць бы аповесці В. Аксёнава «Зорны білет» і «Апельсіны з Марока».

«Тэорыі антыгероя», якую спрабуюць сканструяваць прыхільнікі мадэрнізму, мы павінны супроцьпаставіць асветленую марксісцка-ленінскай эстэтыкай тэорыю станоўчага героя сучаснасці. Чалавек нашых дзён знаходзіцца ў працэсе інтэнсіўнага духоўнага ўзыходжання, становіцца ўнутрана больш разнастайным — багацейшым, гатовым сваёй агульнай барацьбой і працай рабіць цуды. Гуманізм савецкай літаратуры павінен і сёння аставацца наступальным, поўным непрымірымай нянавісці да ворагаў працоўнага чалавека.



Даводзіцца прызнаць, што нашу крытыку не ўстрывожыла па-сапраўднаму тое, што ідэя давер'я і спачування да чалавека ў некаторых творах выглядае вельмі абстрагаванай, адарванай ад ідэйнага зместу нашага жыцця. І калі партыя папраўляе тых з пісьменнікаў, што аступіліся на бакавыя сцежкі ў літаратуры ці нават паступіліся выразнасцю сваіх ідэйных пазіцый, дык гэта шчыры клопат пра тое, каб савецкая літаратура трывала замацавалася на баявых рубяжах ідэалагічнай бітвы за розум і сэрцы людзей. У абставінах такой бітвы аднолькава важна не толькі тое, што паказвае пісьменнік у сваім творы, але і тое, як ён гэта робіць. Пытанне аб мастацкасці твора не аўтаномнае пытанне, яно ўзаемазвязана і ўзаемаабумоўлена ідэйнасцю яго. Пісьменніцкае майстэрства можна разглядаць толькі ў арганічным адзінстве прынцыпаў і функцый мастацтва сацыялістычнага рэалізму.

* * *

Прадпрынятыя Цэнтральным Камітэтам КПСС новыя крокі па далейшаму ўмацаванню партыйнага кіраўніцтва мастацкім працэсам зусім не азначаюць якой-небудзь «змены вех». Гэта — працяг адной сталай і непарыўнай лініі нашай партыі на ўсебаковую дапамогу далейшаму развіццю літаратуры і мастацтва. Гэта — новае сцверджанне і здзяйсненне на практыцы тых непахісных прынцыпаў народнасці і камуністычнай партыйнасці ў мастацкай творчасці, якія запісаны ў прынятай XXII з'ездам КПСС Праграме партыі.

Як вядома, Праграма партыі выразна і пэўна сфармулявала задачы ў галіне літаратуры і мастацтва ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма ў нашай краіне. «У мастацтве сацыялістычнага рэалізму, заснаваным на прынцыпах народнасці і партыйнасці, — гаворыцца ў Праграме, — смелае наватарства ў мастацкім адлюстраванні жыцця спалучаецца з выкарыстаннем і развіццём усіх прагрэсіўных традыцый сусветнай культуры».

Сусветная рэалістычная літаратура вельмі багата на мастацкія пошукі. Рэалізм спыніўся б у сваім развіцці, калі б яго прадстаўнікі не клапаціліся аб заўсёдным папаўненні арсенала выяўленчых сродкаў, не ўдасканальвалі іх і не развівалі. Але пошукі могуць ісці толькі ў кірунку найбольшай адпаведнасці формы зместу, найбольш поўнага і глыбокага выяўлення прагрэсіўных ідэалаў.

У рэалістычным мастацтве праўда жыцця з'яўляецца галоўным крытэрыем ацэнкі твора. Але ж нельга забываць, што разуменне праўды жыцця мяняецца, як мяняецца само жыццё. Няспынны і імклівы рост эканомікі савецкіх людзей абумоўлівае іх духоўнае ўзбагачэнне і маральнае ўдасканаленне. Савецкі працаўнік у сваім штодзённым жыцці паглыбляе і ўдакладняе такія адвечныя разуменні, як прастата і мужнасць, праўда і мана, дабро і зло. Не заўважаць гэтых перамен, цвярдзіць пра нейкія «агульначалавечыя пачаткі», пра нейкі надкласавы гуманізм — значыць не бачыць ні капіталізму, ні антаганістычных класаў, ні той жорсткай барацьбы двух ідэалогій — камуністычнай і буржуазнай, — якая не спыняецца ў свеце ні на адну хвіліну.

Каб змагацца, трэба дакладна ўстанавіць, дзе наш ідэйны праціўнік. Партыя і памагае нам у гэтым, падтрымліваючы лепшыя традыцыі савецкай літаратуры, шчыра і прынцыпова агаляючы нашы недахопы, памылкі і недапрацоўкі. М. С. Хрушчоў у сваёй прамове 8 сакавіка 1963 года выразна заявіў: «Мы стаім на класавых пазіцыях у мастацтве і рашуча выступаем супраць мірнага суіснавання сацыялістычнай і буржуазнай ідэалогій. Мастацтва адносіцца да сферы ідэалогіі. І тыя, хто думае, што ў савецкім мастацтве могуць мірна суіснаваць і сацыялістычны рэалізм, і фармалістычныя абстракцыяніскія плыні, тыя немінуча спаўзаюць на чужыя нам пазіцыі мірнага суіснавання ў галіне ідэалогіі».

На вялікі жаль, знайшліся сярод маладых пісьменнікаў, мастакоў,

кампазітараў людзі, гатовыя супрацьпаставіць свае падчас вельмі кволыя яшчэ творчыя пошукі лепшым традыцыям рэалістычнай літаратуры, а сваё пакаленне тым, хто пакінуў у савецкай літаратуры вельмі прыкметны след сапраўднага, рэвалюцыйнага наватарства.

Спробы вызначыць нейкі адзіны для ўсіх мастакоў стыль малаплённыя і нават безнадзейныя. Бо нельга абмежаваць рух літаратурнага працэсу нейкімі рамкамі формы. Як усё жывое, стыль нараджаецца, расце, расцвітае і памірае. Разам з нованароджаным жыве і старое, узаемаўплывае, узбагачаецца.

«Праз стагоддзі адшліфоўваюцца ў літаратуры спосабы мастацкага асваення свету, перадаюцца прынцыпы ацэнкі грамадскага асяроддзя і прыроды, накопліваецца багацце выяўленчых сродкаў, — зазначае Мухтар Ауэзаў. — Гэта нагадвае эстафету, але эстафету зусім асаблівую — у ёй кожны новы этап мастацтва прыходзіць не са старым і нязменным багажом, а ў накапленні новага, у заўсёдным узбагачэнні. Як нельга ў рацэ двойчы ступіць у адну ваду, так не можа быць традыцыі без наватарства». Але наша наватарства далёкае, як неба і зямля, ад фармалістычных эксперыментаў прадстаўнікоў сучаснага буржуазнага мастацтва. Яны кладуць у аснову сваёй «творчасці» падсвядомае, інтуітыўнае, наўмысна агрубляюць рэчаіснасць. Мы ж за тое, што абуджае думку і пачуцці, прымушае перажыць і глыбокае хваляванне, і вялікую радасць — за выразную, высокую ідэю.

У літаратуры сацыялістычнага рэалізму пануюць рэалістычныя прынцыпы адлюстравання рэчаіснасці ў яе рэвалюцыйным развіцці. Нараджаюцца новыя жанры, узнаўляюцца і абнаўляюцца старыя, ідуць няспынныя пошукі новага зместу і адпаведнай яму формы. Усе гэтыя жыватворчыя працэсы ў арганізме нашай літаратуры «стымулююцца работай яе вялікага сэрца — камуністычнай партыйнасцю, ідэйнасцю, народнасцю» (М. Ауэзаў).

Нам чужыя ў мастацтве вытанчаныя здзекі абстракцыяністаў і фармалістаў усіх напрамкаў над прыгажосцю і здаровым сэнсам. Шарлатанам, якія імкнуцца падмяніць сапраўдныя пошукі крыкам моды, мы павінны сказаць рашуча — не. Але мы таксама супраць натуралізму — мастацтва, пасіўна сузіральнага, далёкага ад імкнення ўмешвацца ў жыццёвы працэс. А мы ж падчас шукалі прыгожае ў знешнім, у тым, што ляжыць на паверхні, і рэдка зазіралі ўнутр літаратурнай з'явы. Мы падтрымлівалі тых пісьменнікаў, якія запаміналі і ўзнаўлялі часам толькі само дзеянне, не спрабуючы раскрыць бясконцую дабрату і шчырасць сэрца працаўніка, не абцяжарваючы сябе глыбокім роздумам пра подзвіг як сацыяльную з'яву. І тады подзвіг ператвараўся толькі ў эпізод твора, а не складаў яго аснову.

М. С. Хрушчоў у сваіх адказах дырэктару італьянскай газеты «Джорно» І. П'етра яшчэ раз напомніў: «Партыя падтрымлівае сапраўды творчыя пошукі савецкіх мастакоў, клапоцячыся пра шматбаковасць мастацтва, пра багацце тэм, стыляў, жанраў, індывідуальных творчых выражэнняў. Мы — супраць абстракцыянізму і супраць натуралізму, супраць шэрых, прымітыўных саладжавых твораў».

Наш творчы метад — метад сацыялістычнага рэалізму, як тая наддарожная зорка асвятляе шлях сапраўдных пошукаў. Асновай наватарства ў савецкай літаратуры з'уляецца перш за ўсё сама сацыялістычная рэчаіснасць, бо яна новая, перспектыўная. Толькі ідучы ад рэчаіснасці, можна ўбачыць усю маштабнасць адной з галоўных праблем нашага творчага метаду — праблемы станоўчага героя. Літаратуры патрэбен герой нашага часу, вобраз вялікай абагульняючай сілы з рэальна ўласцівымі савецкім людзям высокімі маральнымі якасцямі. Тыя, хто адмаўляецца паказваць станоўчага героя нашага часу, або адкладвае гэта на пасля, па-сутнасці адыходзіць ад вялікай праўды эпохі. А жыццё не чакае, і народ не хоча чакаць. Час брацца за вялікае і час думаць пра тое, якім будзе мастацтва камуністычнай будучыні.



# НА КАЛГАСНЫМ СТАДЫЁНЕ

У Пінску мне параілі заглянуць у калгас імя Калініна. Сказалі, што калінінцы ў вялікай дружбе са спортам.

Праз гадзіну язды вадзіцель аўтобуса аб'явіў:

— Сашно.

Гэта цэнтр калгаса імя Калініна. Звычайная палеская вёска. Акуратныя, чыстыя дамы, сады, жураўлі калодзежаў...

На вуліцы было ажыўлена. Людзі ішлі спяшаючыся. «Куды гэта яны?» — мільгнула думка.

Усё растлумачыў чарнявы хлапчук, які стрэўся па дарозе:

— На стадыёне ў нас футбол. Суседзі прыехалі...

Сапраўды, «футбольная бітва» была ў разгары. Госці, загарэлыя і бадзёрыя хлопцы з суседняга калгаса «Дружба народаў», наступалі на калінінцаў. У гаспадароў ніяк не ладзілася абарона. Варатар бегаў у квадраце варот, нерваваўся.

— Трымай «сямёрку», «сямёрку» трымай! — крычаў ён свайму абаронцу. Але той, змакрэлы, нічога ўжо не мог зрабіць: нападаючы гасцей зноў быў ля варот. Яшчэ праз секунду суддзя паказаў на цэнтр поля. Лік матча стаў 2:0 у карысць каманды калгаса «Дружба народаў».

Пачуліся крыкі, шум з усіх бакоў. Пажылы хударлявы мужчына падбег да самай бакавой лініі і закрычаў:

— Ты, хлопча, пільнуй гэтага цыбатага, бо зноў атрымаеш!..

Людзей сабралася шмат. Балельшчыкі падзяліліся на дзве групы. Адна, меншая, абступіла вароты футбалістаў калгаса «Дружба народаў», другая размясцілася каля сваіх. І калі б можна было, усе, хто знаходзіўся тут, сцяной сталі б на іх абарону. Але ж правілы гульні — нічога не зробіш!

У другой палавіне калінінцы пачалі гуляць крыху лепш. Двойчы прарываліся і забілі ў вароты гасцей два галы. Настрой у гаспадароў падняўся. Але радасць была кароткай. Футбалісты калгаса «Дружба народаў» узмацнілі тэмп, усёй камандай «населі» на вароты калінінцаў. І ў выніку гэтага штурму з'явіліся яшчэ два мячы. А тут прагучаў і фінальны свісток. Госці выйгралі — 4:2.

Перагаворваючыся, калгаснікі разыходзіліся са стадыёна. Канечне, усіх уразіла, што іх каманда прайграла.

Дарогай мы разгаварыліся. Мой субяседнік, старшыня фізкультурнага калектыву Міхаіл Прымак, спачатку ўсё расказаў пра поспехі калгаса і толькі тады, калі я ўжо быў у курсе многіх калгасных спраў, сам завёў гутарку пра няўдалае выступленне сваіх футбалістаў. Дарэчы, гэта ён гуляў за варатара на гэтым матчы і вельмі хваляваўся за няўдачы.

— З футболам у нас пакуль што нядобра, — у голасе Міхаіла адчувалася шчырая заклапочанасць.— Як бачыце, пакуль што нас абыгрываюць, але нічога, хутка і тут нашы сябе пакажуць!..

У калгасе імя Калініна стадыён зрабілі толькі пад восень мінулага года. Моладзь добра папрацавала. Тут жа былі ямы ды купіны, а хлопцы пусцілі буль-



**Настойліва трэніруецца калгасная веласіпедыстка Оля Алейнік.**

дозер, усё выраўнялі, а потым прайшліся граблямі. Пасеялі траву, размецілі будучы зялёны квадрат, паставілі вароты.

Асвоіць поле, як належыць, не паспелі — зіма застала. З прыходам цёплых веснавых дзён зноў дружна выйшлі на свой стадыён. Ды каманда была ўжо не тая, увосень некаторыя ігракі выбылі. Вось таму і няўдачы.

Сёння ў калінінцаў ужо дзве футбольныя каманды — каманда дарослых і падлеткаў. Паміж імі наладжваюцца сустрэчы. Бывае, што і хлапчукі абгуляюць старэйшых. Пройдзе год, магчыма, два, і з юных футбалістаў вырастуць добрыя спартсмены — надзея калгаса.

Тады чырванець перад суседзямі не давядзецца!

* * *

Ва ўсіх брыгадах калгаса імя Калініна больш як 350 чалавек з'яўляюцца членамі добраахвотнага спартыўнага таварыства «Ураджай». З іх ужо выраслі і першаразраднік, і тры спартсмены другога разраду, і дванаццаць — трэцяга; а значкістаў ГПА яшчэ больш.

Усёй спартыўна-масавай работай кіруе савет — дзевяць актывістаў. У савеце ёсць прадстаўнікі ад кожнай з пяці паляводчых брыгад. Яны ж і з'яўляюцца фізоргамі, арганізатарамі ўсіх спартыўных спраў.

Умовы для работы ў калгасе не лёгкія, бо брыгады знаходзяцца далёка адна ад другой. І на трэніроўкі даводзіцца ісці за пяць-восем кіламетраў.

Члены савета рашылі стварыць секцыі па асобных відах спорту ў брыгадах. Так, у вёсках Парахонск і Дубнавічы з'явіліся валейбалісты і лёгкаатлеты, а ў вёсцы Сашно — трапныя стралкі.

У калгасных фізкультурнікаў ёсць неабходны спартыўны інвентар, трэніровачныя касцюмы. Кожная брыгада мае сваю спартыўную пляцоўку, а ў Парахонску, Дубнавічах і Сашне — стадыёны.

Хочацца больш расказаць пра стралковы спорт, прыхільнікаў якога шмат сярод калінінцаў. Секцыя па стральбе — самая масавая. Збіраецца на стрэльбішча больш за сто чалавек. Ужо ва ўсіх вёсках ёсць свае рэкардсмены і нават чэмпіёны.

Аматары трапнага агню ў вёсцы Сашно пабудавалі цір, набылі добрую спартыўную зброю. Секцыю ўзначальвае старшыня калгаса, першаразраднік Аляксей Сцяпанавіч Старыкаў — гарачы прыхільнік спорту.

Амаль кожны вечар у ціры людна. Ляскаюць стрэлы. Сельскія стралкі настойліва вучацца, шліфуюць сваё майстэрства, рыхтуючыся ўдзельнічаць у летніх спаборніцтвах да III Спартакіяды



народаў СССР. Трапна, кулю за куляй, пасылае ў «дзесятку» старшыня калгаса Аляксей Старыкаў. За ім на агнявым рубяжы займаюць месцы шафёры. Валянцін Касяк і Іван Грышко. У іх толькі асобныя кулі папалі ў «шасцёрку» або «пяцёрку». Але ўсё роўна — выдатна! Цвёрдая рука і ў калгасніцы з вёскі Дубнавічы Раісы Шпакоўскай. Раіса атрымала трэці разрад.

Набіраюць тэмпы і валейбалісты. Хоць тут у валейбол пачалі па-сапраўднаму гуляць толькі год ці два назад, але зрухі ўжо ёсць. Ды такія, што і пахваліцца імі не сорамна. Перад тым матчам футбалістаў, пра які расказвалася, адбылася сустрэча валейбалістаў двух калгасаў. Толькі ў адной партыі спартсменам з калгаса «Дружба народаў» удалося ўзяць верх, у астатніх трох перамога даволі лёгка дасталася калінінцам.

Сустракаліся валейбалісты калгаса імя Калініна і з камандай калгаса імя Кірава. Дзве сустрэчы — дзве перамогі! Зусім нядрэнна.

Івана Ганчара ведаюць у калгасе як стараннага трактарыста. Але ён і выдатны спартсмен. Некалькі разоў Іван Ганчар быў пераможцам раённых спаборніцтваў па велагонках. Удзельнічаў у паядынку мацнейшых веласіпедыстаў вобласці і — вярнуўся дадому чэмпіёнам. Падахвоціўся стварыць сваю каманду.

Пачаліся трэніроўкі. На старт выйшлі і дзяўчаты. Лепшыя вынікі паказалі Вольга Ляўша, Ніна Чэчун і Вольга Алейнік. І не раз яшчэ ў летнія вечары веласіпедысты парадуюць землякоў сваім майстэрствам.

Секцыя лёгкаатлетаў пакуль што невялікая. Шэфствуе над ёй выкладчыца мясцовай школы Ліда Старажылава. Яна сама нядрэнна іграе ў валейбол, скача ў вышыню. З яе бяруць прыклад спартсмены. Найбольш моцныя яны ў кіданні дыску і штурханні ядра. Не кожнаму ўдаецца так далёка паслаць ядро, як гэта робіць трактарыст Васіль Малашчыцкі. Паслухмяны ў яго руках і дыск, з якім часта Васіль выходзіць на трэніроўкі.



**Старшыня калгаса Аляксей Старыкаў — выдатны стралок. Першы разрад мае.**

Фота аўтара.

Сярод лёгкаатлетаў вылучаецца выпускніца мясцовай школы Рая Шпакоўская. У школе набыла яна сабе спецыяльнасць механізатара. Сёлетняй вясной самастойна працавала на трактары, а цяпер удзельнічае ў доглядзе пасеваў. У вольны час Рая разам з сяброўкамі — на стадыёне. Трэніруецца ў бегу, штурхае ядро... На раённай спартакіядзе яна заняла другое месца па лёгкай атлетыцы.

У спорце сельскія працаўнікі бачаць крыніцу бадзёрасці, сілы, натхнення.

Калі я ўжо збіраўся ў дарогу, Міхаіл Прымак паказаў мне план спартыўна-масавай работы на лета. У гонар III Спартакіяды народаў СССР тут арганізавана свая алімпіяда. Спачатку спаборніцтвы ў брыгадах, на фермах, сярод механізатараў. Фіналам будзе вялікае спартыўнае свята калгаснай моладзі.

Цікавае спартыўнае лета ў калінінцаў.

**Мікола ЧАХОЎСКІ.**

**Калгас імя Калініна Пінскага раёна.**

ШАХМАТЫ

Пад рэдакцыяй
міжнароднага майстра А. СУЭЦІНА

# ДЗЕВЯТЫ ЧЭМПІЁН СВЕТУ



Звыш двух месяцаў ішоў паядынак мацнейшых гросмайстраў — чэмпіёна свету Міхаіла Батвінніка і прэтэндэнта на гэтае званне Цігрäна Петрасяна. Матч выклікаў велізарную цікавасць сусветнай шахматнай грамадскасці. Такія паядынкі заўсёды залатымі літарамі запісваюцца ў гісторыю шахмат.

З таго часу, як каля ста гадоў таму назад пачало афіцыйна разыгрывацца званне чэмпіёна свету, было ўсяго восем шчаслівых уладальнікаў гэтага тытулу: В. Стэйніц, Э. Ласкер, Х. Р. Капабланка, А. Алёхін, М. Эйве, М. Батвіннік, В. Смыслоў, М. Таль. Тры з іх, праўда, былі «каліфамі на год»... У матч-рэваншах неўзабаве пасля заваявання пачэснага звання страцілі яго М. Эйве, В. Смыслоў і М. Таль.

Паядынак паміж М. Батвіннікам і Ц. Петрасянам асабліва цікавы. Пасля перамогі над Талем многім здавалася, што адабраць гэтае званне ў Батвінніка наогул немагчыма. Трынаццаць гадоў насіў ён гэта званне. Але многія ведалі і тое, што Петрасян самы «непрабівальны» шахматыст сучаснасці: ва ўсім надзвычай цяжкім цыкле барацьбы, якая папярэднічала матчу за шахматную карону з Батвіннікам, Ц. Петрасян у трох самых складаных спаборніцтвах прайграў толькі адну партыю!

Як Петрасян здолее выйграць у «непераможнага» Батвінніка і як Батвіннік пераможа «непрабівальнага» Петрасяна? — вакол гэтага пытання і ішлі спрэчкі.

Мне разам з гросмайстрам І. Балеслаўскім пашчаслівіла прыняць актыўны ўдзел у папярэдняй падрыхтоўцы Ц. Петрасяна да барацьбы за сусветную шахматную карону. Трэніроўка шахматыста менш за ўсё (асабліва ў першай частцы) уключае ў сябе спартыўныя фактары. Гэта галоўным чынам творчае вывучэнне тэорыі, даследаванне псіхалогіі праціўніка. Цяпер, калі барацьба ззаду, можна расказаць пра некаторыя таямніцы канкрэтнай падрыхтоўкі да матча з Батвіннікам.

Перш за ўсё гэта была ўпартая двухмесячная праца. Займаліся, не лічачы гадзін: столькі, колькі трэба было. А дэвізам былі словы Уладзіміра Маякоўскага: «В грамм добыча, в год труды...» Трэба сказаць, што наогул Ц. Петрасян прытрымліваецца ў сваіх творчых пошуках прынцыпу — «лепш менш, але добра». І гэта вельмі прывабная рыса яго характару.

Падрыхтоўка ўключала тры асноўныя моманты: па-першае, «здзівіць» Батвінніка новым у дэбюце; па-другое, прагледзець партыі Батвінніка, пачынаючы з 1948 года (калі ён заваяваў званне чэмпіёна свету). Такіх партый было 300! І, нарэшце, разабраць як мага больш самакрытычна партыі самога Петрасяна за апошнія два гады.

Ну, і вядома, з усяго гэтага трэба было зрабіць правільныя вывады.

Гульня ў матчы пацвердзіла, што ў асноўным падрыхтоўка была правільная і адпаведным чынам аблегчыла перамогу Петрасяна, асабліва ў дэбюце.

Часам метадысты спрачаюцца: ці трэба для ўдасканалення гульні «ламаць» свае схільнасці, як бы дапаўняць іх іншымі бакамі шахматнай творчасці. Напрыклад, пазіцыйны шахматыст, магчыма, павінен галоўную ўвагу звяртаць на камбінацыйныя моманты і, наадварот, камбінацыйны шахматыст павінен як мага больш настойліва займацца пазіцыйнымі элементамі. Адказ можа быць толькі адзіны: галоўнае — характар чалавека!

Чаму Ц. Петрасян развіваўся вельмі мэтанакіравана ў адным стылі? Уся справа ў яго вельмі роўным, на дзіва ўраўнаважаным характары. Петрасян не любіць залішняй паспешлівасці, хваляванняў, хоць чалавек ён жывы і рухавы. Галоўнай рысай яго мыслення з'яўляецца амаль што асаблівая крытычнасць розуму, цвярозасць у ацэнцы магчымасцей сваіх і сваіх партнёраў. Трэба адзначыць, што нейкі час у яго гульні заўважалася некаторая нясмеласць, якая, дарэчы, была звязана ўсё з тымі ж крытычнымі адносінамі да сябе.

Як прызнае і сам Петрасян, сваю поўную сілу, свой «патэнцыял» ён адчуў толькі тады, калі ў 1959 годзе ўпершыню зрабіўся чэмпіёнам краіны (а чэмпіянаты Савецкага Саюза — гэта выпрабавальны камень для будучых чэмпіёнаў свету).

Перамога Ц. Петрасяна ў матчы з М. Батвіннікам зусім заканамерная. Пасля выпадковага для яго гульні паражэння ў першай партыі з сёмай партыі прэтэндэнт моцна трымае лідэрства. Праўда, у чатырнаццатай партыі Батвінніку ўдаецца ўраўняць лік ачкоў. Але ўжо ў наступнай партыі Петрасян зноў робіцца лідэрам. Рашаючай, бясспрэчна, была ва-



Перад гульнёй. Хто з іх больш хвалюецца — Петрасян ці жонка? Па ўсім відаць, што жонка.



Перад чарговым ходам. Петрасян цярпліва чакае.

Фота А. Кляймёнавай.

семнаццатая партыя, дзе доўгі час ініцыятывай валодаў Батвіннік. Але ў адкладзеным становішчы Батвіннік пераацаніў свае магчымасці і ў выніку не здолеў закончыць партыю нават нічыёй. Эфектна праведзеным фіналам Петрасян павялічыў перавагу да двух ачкоў. Гэта рашуча збянтэжыла Батвінніка. Яшчэ адно паражэнне, і ў трох наступных партыях Батвіннік адмовіўся ад рэваншу.

Усё гэта, канечне, сухая справаздача. А колькі ж было хвалявання, перажыванняў! Колькі «балельшчыкаў» з'явілася ў родным Цігрэну Ерэване! Расказваюць, што кожны дзень на плошчах сталіцы Арменіі, дзе сталі дэманстрацыйныя дошкі, збіралася звыш 100 000 гледачоў! За фіналам васемнаццатай партыі, якая, увогуле, вырашыла перамогу Петрасяна, гледачы сачылі пад праліўным дажджом, а калі Петрасян яе выйграў, пачалася сапраўдная народная ўрачыстасць. Пяціхвілінны «салют» гудкоў далі ўсе вадзіцелі транспарту Ерэвана, калі Батвіннік у Маскве спыніў шахматны гадзіннік.

Кожны дзень Петрасян атрымліваў каля тысячы пісьмаў і тэлеграм.

Вядома, не менш паклоннікаў было і ў Батвінніка. Чэмпіён свету ў гэтым матчы зноў пацвердзіў свае лепшыя якасці байца, цудоўна вёў дэбютную стратэгію, надзвычай добра аналізаваў адкладзеныя партыі. Але ў гульні, асабліва ў эндшпілі, ён быў слабейшы за Петрасяна. Відаць, дала сябе адчуць недастатковая практыка гульні ў турнірах за апошні час. Адыграў сваю ролю і ўзрост: Батвіннік жа на васемнаццаць год старэйшы за Петрасяна, і яму ўсё цяжэй спаборнічаць з моладдзю. Але шматгадовы чэмпіён свету, прызнаны лідэр савецкай шахматнай школы яшчэ не сказаў свайго апошняга слова. Наогул Батвіннік назаўсёды застанецца ў гісторыі шахмат як незвычайны шахматыст.

Новаму чэмпіёну свету 33 гады. Летась ён закончыў Ерэванскі педагагічны інстытут і паступіў завочна ў аспірантуру па філасофіі пры Ерэванскім універсітэце. Петрасян вельмі любіць музыку, асабліва Чайкоўскага, любіць спорт, заўзяты балельшчык маскоўскай футбольнай каманды «Спартак». Сам ён гадзінамі з энтузіязмам аматара можа змагацца ў настольны тэніс або на більярдзе. Сёлета Петрасян палюбіў лыжы, і цяпер яго ўменне катацца на іх не горш, чым у многіх жыхароў поўначы.

У гутарцы з аўтарам гэтага раздзела Цігран Петрасян прасіў перадаць сардэчнае прывітанне шахматнай моладзі Беларусі і чытачам нашага часопіса.

Думаю, што і чытачы «Маладосці» далучацца да нашага пажадання далейшага шахматнага росту гэтаму вельмі простаму, цудоўнаму чалавеку на карысць і славу савецкіх шахмат.

## У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:

**Паэма Анатоля Грачанікава «СОНЕЧНЫ ЗВОН».**

**Апавяданні Алеся АСІПЕНКІ, Леаніда ГЛАВАЦКАГА, Міколы КАПЫЛОВІЧА.**

**Заканчэнне аповесці Уладзіслава НЯДЗВЕДСКАГА «ХЛОПЦЫ З ДРУГОГА КОРПУСА».**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар С. Ліпец.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8080. Цана 40 кап.
АТ 02113. Здадзена ў набор 1.VI.63 г. Падпісана да друку 28.VI.63 г. Зак. 324.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.







**Віталь Іваноў** (Віцебск). **Мір — дружба!** З Рэспубліканскай выстаўкі мастацкай фатаграфіі.

**П. Белавусаў. Маякоўскі.** З Рэспубліканскай мастацкай выстаўкі.



**І. Рэй. Паляводы.** З Рэспубліканскай мастацкай выстаўкі.



**А. Таўкач** (Віцебск). **Горад жыве.** З Рэспубліканскай мастацкай выстаўкі.

**У выхадны дзень. Пятро Клімкоў і яго сябры памочнікі майстроў Генадзь Пілкоўскі, Павел Каралёў і Фелікс Зайкоўскі.**

Фота **А. Дзітлава.**